

На практыцы. Студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытута Жана Націеўская і Леанід Грамыка за праэктыроўкай новага санаторыя.
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



9 (67)

Верасень.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108/[1]16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 03173. Здадзена ў набор 1.VIII 58 г. Падпісана да друку 3.IX.58 г. Заказ 453.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# ЗА ВЫСОКАІДЭЙНУЮ І ВЫСОКАМАСТАЦКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Увесь савецкі народ з вялікім натхненнем і самаадданасцю гераічна працуе ў імя Камунізма. Мудрыя пастановы Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі аб перабудове кіравання прамысловасцю, крутым уздыме сельскай гаспадаркі, аб развіцці хімічнай прамысловасці, жыллёвага будаўніцтва і іншыя далі магутны штуршок творчай энергіі народа. Нястомная барацьба за мір, якую вядуць Камуністычная партыя і савецкі народ, знайшла гарачую падтрымку ўсяго чалавецтва.

Горда лётае вакол зямлі трэці савецкі спадарожнік. Уступіла ў строй найвялікшая ў свеце Волжская гідраэлектрастанцыя імя Уладзіміра Ільіча Леніна. На шырокіх палетках калгасаў і саўгасаў збіраецца небывалы ўраджай. Нашы сэрцы перапоўнены радасцю і гордасцю за Партыю, за сацыялістычную Радзіму.

Сустракаючы сваё слаўнае саракагоддзе, вялікіх поспехаў дасягнула і наша Савецкая Беларусь. Аб гэтым сведчаць, у прыватнасці, высокія ўзнагароды, якімі адзначаны працаўнікі сельскай гаспадаркі і будаўнікі нашай рэспублікі.

Савецкія пісьменнікі, бязмежна адданыя справе камунізма, цесна звязаныя з народам, ствараюць усё больш і больш высокаідэйных і высокамастацкіх твораў, якія праўдзіва і ярка паказваюць усё багацце нашага жыцця, нашай сацыялістычнай рэчаіснасці — веліч, гераізм і высакароднасць савецкага чалавека. Нямала добрых, таленавітых твораў напісалі за апошні час і беларускія пісьменнікі, якія хутка збяруцца на свой чацвёрты з'езд.

У святле нашых поспехаў грубым дысанансам прагучала аповесць Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», надрукаваная ў пятым нумары часопіса «Маладосць», якая ўжо атрымала рэзкую адмоўную ацэнку ў друку.

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» прызнае, што яна дапусціла грубую памылку, апублікаваўшы на сваіх старонках заганную ў ідэйных адносінах і слабую з мастацкага боку аповесць А. Кулакоўскага «Дабрасельцы».

А. Кулакоўскі, будучы галоўным рэдактарам «Маладосці», надрукаваў сваю аповесць, не абмеркаваўшы яе ні на рэдкалегіі часопіса, ні ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Тав. Кулакоўскі вызвалены ад абавязкаў галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».

Аповесць «Дабрасельцы» Аляксея Кулакоўскага — твор, у якім у скажоным выглядзе паказваецца жыццё калгаснай вёскі і праца партыйных і савецкіх органаў да верасннёўскага Пленума ЦК КПСС. Паводле сцверджанняў аўтара, у тыя гады былі адны толькі памылкі ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай, у падборы і выхаванні кадраў, быў суцэльны заняпад, і калгаснікі нібыта мірыліся з гэтым, бо не бачылі ніякага выйсця. Пісьменнік не паказаў нічога станоўчага ў жыцці пасляваеннай калгаснай вёскі. Але ж кожнаму вядома, што сённяшні ўздым сельскай гаспадаркі сам па сабе не прышоў. Разбураная ўшчэнт гітлераўцамі, Беларусь даўно ўзнялася з руін, адбудавалася, пашырыла пасяўныя плошчы, павысіла ўраджайнасць, дасягнула поспехаў у жывёлагадоўлі і г. д. Беларускі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў пасляваенныя гады нястомна працаваў на карысць Айчыны і меў вялікія поспехі.

Між тым, А. Кулакоўскі ўсю ўвагу ў аповесці «Дабрасельцы» скіраваў на паказ ценевых бакоў жыцця, заняўся вышукваннем толькі дрэннага. Тым самым ён адышоў ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізма. У цэнтры ўвагі пісьменніка — носьбіты зла. Старшыня калгаса Шулаў толькі і думае, ці добра накормлены яго вяпрук. Старшыня сельсавета Мокрут — хабарнік, п'яніца, бяздушны чыноўнік. Ён на ўсіх наганяе страх сваімі злоснымі вокрыкамі, паклёпамі, даносамі. Міліцыянер Ціхоня — тупы выканаўца волі Мокрута. І іншыя вобразы аповесці (сакратар сельсавета Печка, фінагент, Заткла) таксама людзі адмоўныя і нават агідныя.

Такім чынам, А. Кулакоўскі тэндэцыйна падышоў да адбору для аповесці жыццёвага матэрыялу. На аснове асобных адмоўных фактаў, якія мелі месца ў мінулым, і выдуманых сітуацый пісьменнік робіць няправільныя абагульненні, ачарняе нашу сапраўднасць, праяўляе непавагу да чалавека, прыніжае вартасць гераічных савецкіх людзей.

Станоўчыя героі аповесці паказаны цьмяна, схематычна, адціснуты аўтарам на задні план. Яны выглядаюць шэрымі, забітымі людзьмі. Старая Андрэіха, якой удзелена нямала месца, — гэта надломленая нягодамі жанчына. Яе правіла: «Не чапай ліха, абы было ціха». Непаўнацэннымі, хібнымі людзьмі выглядаюць і стары калгаснік Мітрафан, і загадчык сельсавецкага ваенна-ўчотнага стала Іван Дабрасельскі, і Павел Паўлавіч. Усе яны не здольны весці барацьбу супраць парушэнняў савецкай законнасці, зміраюцца з недахопамі, праяўляюць пасіўнасць у працы. Такія «героі» аповесці не выклікаюць у чытача сімпатый і спачування.

Нават Даша, самы станоўчы з усіх вобразаў, і тая ваюе супраць недахопаў і злачынстваў нясмела, у адзіночку, без падтрымкі калгаснай масы.

Безумоўна, што такія «героі» не могуць служыць для савецкіх людзей натхняючым прыкладам. Нават параўнаўча светлы канец аповесці не ратуе гэтага заганнага твора.

Прызнаючы сваю памылку, рэдакцыя ў далейшай працы зверне асаблівую ўвагу на якасць твораў, якія рыхтуюцца да друку. Мы будзем друкаваць высокаідэйныя і высокамастацкія творы, якія дапамогуць партыі выхоўваць савецкую моладзь бадзёрай, смелай, гатовай перадольваць любыя цяжкасці ў барацьбе за камунізм. Для ўдзелу ў часопісе будуць запрошаны лепшыя майстры мастацкага слова. Яшчэ больш увагі часопіс аддасць выхаванню таленавітай літаратурнай моладзі.

На старонках часопіса знойдуць месца творы, якія праўдзіва і ярка паказваюць гераічную стваральную працу савецкіх людзей, высакароднасць іх імкненняў і мэт, высокія маральныя якасці савецкага чалавека, кіруючую ролю Камуністычнай партыі па перадоленню перажыткаў мінулага, па мабілізацыі працоўных на актыўную барацьбу за ажыццяўленне планаў камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Невычэрпная крыніца натхнення для савецкіх пісьменнікаў — наша сацыялістычная рэчаіснасць, штодзённыя гераічныя подзвігі савецкіх людзей. А компасам у працы для нас з'яўляюцца мудрыя ўказанні Камуністычнай партыі аб літаратуры. Асабліва важнае значэнне мае партыйны дакумент «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа».

Савецкая літаратура была, ёсць і будзе высокаідэйнай і высокамастацкай.



Ніна Тарас нарадзілася ў 1916 годзе ў вёсцы Заполле Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

Першы зборнік вершаў «На ўсход ідучы» быў выдадзены ў Мінску ў 1940 годзе. Пазней з друку выйшлі зборнікі «Суніцы» (1940), «Вершы» (1952), «Казкі пра абавязкі» (1955).

Цяпер паэтэса падрыхтавала да друку зборнік вершаў «Кветка шчасця».

**Ніна ТАРАС**

# ПОМНІК КУЛЬТУРЫ



Гляджу на тварэнне архітэктуры,
Ад готыкі строгай душа занямее...
Мне кажуць, што гэта помнік культуры,
Ды дзе тут культура, не разумею.

Манашкі ў малітвах свой век пракарпелі,
Забыўшы палеткаў радзімыя далі...
У гэтай халоднай, заплеснеўшай келлі,
О не, нізавошта мяне не ўтрымалі б.

Мне цесна было б без птушынага звону,
Без летніх наднёманскіх подыхаў свежых,
Без тых незабыўных і ліпаў і клёнаў,
Што ў нашу сталіцу вязлі з Белавежы.

Без песні ў калгаснае звонкае жніва,
Што дзесьці сяброўкі пяюць за ракою,
Якую, як толькі пачуеш над нівай,
Ты дома без працы не знойдзеш спакою...

Быць можа, што чорная тая сутана
Пакутніцам сумным была і да твару,
Ды я не змяню на яе сарафана,
Хусцінкі чырвонай, бы полымя жару.

Гарыць яна макам у жытнім прасторы,
Якога не ўбачыць канца ані краю...
Мяне вось па гэтым няхітрым уборы
Мой мілы за мілю ў брыгадзе пазнае...

Дзьме холадам ад старажытнага муру,
Жыццё тут знямела, ахутана ў морак...
Зусім не зайздрошчу я гэткай культуры,
Мне горка ад даўніх пакут і ад гора.

Мы міласці дарма з нябёс не чакаем,
А працай уласнай,
свaімі рукамі
Такую культуру патомкам ствараем,
Каб шчасце і радасць звінелі вякамі.

## ЗНОЎ ПАКІДАЮ РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ



Зноў пакідаю родныя мясціны
З лугамі, стрэхамі, вянком зялёных ліп,
І па даўно знаёмых каляінах —
Пясок дарогі ды калёсаў скрып.

Хістае вецер спелае калоссе,
І хваля хвалю гоніць — не кране...
Чаго шкада — святла, што разлілося,
Ці песень, што ў жніве адзвоняць без мяне?

Я ведаю — яшчэ не раз мне будні
Тут працай незабыўнай зазвіняць...
Яшчэ не раз мне прыдзецца ля студні
Скрыпець на золку жураўлём да дня...

У летнім, у птушыным пераэвоне
Жаўранкамі заслухацца ў цішы
І пад сярпом сталёвым на загоне
Знаходзіць між калоссяў спарышы.

І ўсхвалявана ўдалеч заглядацца,
І паўтараць сабе мо' соты раз,
Што ты не ў сілах болей расставацца
З прасторам гэтым светлым, што у нас...

Дзе ціхі май з рамонкамі і мятай
Не раз наводзіў залатыя сны,
І дзе язмін, расцвіўшы каля хаты,
Быў спадарожнікам твае вясны...



Бывай, прасцяг мой незабыўны, родны,
Бяжыш ты ад мяне за крокам крок...
І ўжо з-за лесу, на краю усходнім,
Бялеюць вежы станцыі здалёк.

## РУЖЫ



У вазе крыштальнай —
Адкуль узняліся зімою? —
Цудоўныя ружы, —
Цвітуць і цвітуць прада мною.
Пяшчотныя ружы!
Здаецца, сарвалі цяпер іх.
Здаецца, запахнуць...
Ды што гэта?
Ружы з паперы...

Хвалю тыя пальцы,
Што ўмела пялёсткі складалі,
Хвалю тыя вочы,
Што тонка тану падабралі,
Хвалю тыя рукі,
Што ў вазу сумелі ўлажыць іх,
Ды толькі прашу я —
Букет ад мяне забярыце.

Настане хвіліна —
І хопіць дабра мне зямнога.
Ад родных і блізкіх
Вазьму ў падарунак нямнога.
І стану я добрай —
Суседзі хваліць мяне будуць,
Калі гэта ўлетку —
Жывых прынясуць незабудак...

Але пакуль душу маю
Перапоўнілі мары,
А пульс у мінуту
Налічыць да сотні удараў,
Пакуль мае рукі да працы
Не страцілі сілы,
Пакуль мае вочы іскрацца
Для тога, хто мілы,
Пакуль нада мною
Зоркі гарaць агнявыя, —
Хачу, каб кветкі цвілі мне
Толькі жывыя.

## ЧЫТАЧУ



Мой любы, дарагі чытач,
За тое, што пішу, прабач:
Калі мо' рыфмай непакою,
Калі ты нездаволен мною...
Дык над табой не хочу глуму,
Каб ты дзесь паміраў ад суму,
Пісанне — не такая справа:
Ступіў улевы крок, управа,
*І глянь, адразу твор які —*
Паднось лаўровыя вянкі!
Яшчэ мой верш сыры і свежы —
Ты глебу трактарам дзесь рэжаш.
Мне рыфмы не ўлавіць амаль —
Ты ў домне ўжо расплавіў сталь,
А там запрудзіў вадаём,
А тут паставіў новы дом...
І так, па шчырасці прызнацца,
Мне *за* табою не угнацца.
Ды што сумею, напішу.
Цябе ж *па шчырасці прашу:*
Як верш твайго не варты звання —
Не траць ты часу на чытанне
І, судзячы мяне па праву,
Чыні над вершамі расправу.



Я нарадзіўся ў Полацку ў 1925 годзе ў рабочай сям'і.
У гады Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанах, а пасля пайшоў у дзеючую армію. Дзень Перамогі спаткаў у Берліне. Быў некалькі разоў паранены, маю пяць узнагарод.
З 1945 года, пасля дэмабілізацыі, працаваў у рэдакцыі полацкай газеты «Сцяг камунізма».
Сёлета закончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага пры СП СССР у Маскве.
Нарысы і апавяданні друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь». Аповесць «Пасля паводкі» мой першы буйны твор.

**Алесь САВІЦКІ**

# ПАСЛЯ ПАВОДКІ

**Аповесць**

Мал. Г. Паплаўскага.

### 1

Вецер дзьмуў з нізоўя.

Парывісты, моцны, ён упіраўся ў шырокія грудзі Дзвіны, каламуціў ваду і сціскаў яе ў пругкія хвалі, быццам хацеў скарыць упартасць імклівай плыні. Рака крыўдавала, са злосцю кідала на берагі пеністыя хвалі, дыбілася і няспынна імкнулася наперад, насустрач ветру. Ён вар'яцеў яшчэ больш, а потым, бачачы, што не адолець яму ўпартай дзвінскай плыні, на момант сцішаўся і клаўся адпачыць на белыя пеністыя грабяні; у шархоткіх прырэчных вербалозах абуджалася ягоная спрадвечная жальба.

Гэты няясны спеў ветру чамусьці здаўся Сцепанідзе дужа падобны на нечы голас. Яна якраз думала пра сына, таропка выпрасталася, кінула мокрую кашулю ў кошык, дзе ляжала выпаласканая бялізна, і азірнулася. На беразе нікога не было. «Памылілася. Здаецца ўсё».

З-за прырэчных вербалозаў вылецела чайка, убачыла на вадзе рыбіну, апусцілася ніжэй. Стрэчны вецер ударыў птушцы ў грудзі, прыціснуў да хваль: яна быццам застыла ў паветры, а потым цяжка, з натугай махаючы крыллямі, зноў набрала вышыню.

Правёўшы позіркам чайку, Сцепаніда яшчэ доўга стаяла нерухома, быццам пакрыўджаная, забыўшыся на сваю працу, дзеля якой прышла на раку. На грабяні хвалі з'явілася невялікая картка, падобная на паштоўку. Сцепаніда памкнулася наперад, ледзь не ступіўшы ў ваду, і расчаравана спынілася. «Кляновы лісток гэта».

А лісток гойдала хваля. Часам ён знікаў у цёмнай вадзе і зноў з'яўляўся на карункавай белі грэбеня, адплываючы ўсё далей і далей. Скрозь

хмары прабілася сонца, лісток засвяціўся яркай барвовасцю, і гэты водсвет уразіў Сцепаніду, балюча адгукнуўся ў яе сэрцы.

— Сцепаніда Рыгораўна-а-а!

Цяпер Сцепаніда не памылілася: яе сапраўды клікалі. Яна азірнулася. На высокім беразе стаяла дзяўчына з чорнай скураной сумкай цераз плячо. «Марылька! Паштарка наша».

Сцепанідзе вельмі падабалася гэтая зграбная, спакойная і не па гадах сур'ёзная дзяўчына. Амаль аднолькавы клопат у іх. Марылін бацька ваяваў у Германіі. Калі Марыля жыла ў вёсцы, лісты ад яго прыходзілі часта. Але за ўвесь час, што яна жыве ў Прыдзвінску,— Марыля прыехала сюды разам з маткай улетку, — ніякіх звестак ад бацькі не было. Яна пісала туды, дзе жылі раней, ніхто не адказваў, пісала да бацькі, паведамляючы новы адрас,— усё дарэмна, адказу не было. Гора, заўсёды не падобнае адно на адно, шмат у каго ў той час было аднолькавым.

З вясны Сцепаніда таксама не атрымлівала ніякіх вестак ад свайго сына Петруся. Летась скончылася вайна. Пятрусь пісаў, што вораг разбіты і што ён хутка прыедзе дадому. Але прайшла восень, зіма, а ён усё не ехаў і толькі слаў лісты, што абяцалі хуткую сустрэчу. Потым і гэтых лістоў не стала. Сцепаніду апанавала трывога. Муж яе загінуў пад Выбаргам. Цяпер невядома, што здарылася з Петрусём...

Марыля бегла, прытрымліваючы рукой паштарскую сумку, і яшчэ здалёк гукнула:

— Пісьмо, Сцепаніда Рыгораўна! Пісьмо прышло!..

Сцепаніда не магла сысці з месца: ногі быццам хто прыкаваў да зямлі. Не ступіўшы ніводнага кроку, яна толькі працягнула наперад рукі, каб хутчэй прыняць невядомую яшчэ вестку. Марыля падбегла, аддала ёй у рукі канверт.

У Марылі вялікія сінія вочы і валасы, нібы спелае жыта. Старэнькая, шмат дзе зацыраваная суконка старанна адпрасавана.

— Ад бацькі мы таксама атрымалі, — прызналася Марыля. — Маці плача... А чаго? Бацька едзе дахаты, а яна ўплач... Радавацца трэба, праўда, цётачка?..

Марыля зірнула на Сцепаніду і змоўкла. Сцепаніда чытала пісьмо, і твар яе бялеў. Яна неяк сагнулася, быццам паніжэла, прысела на корч, што выкінула на прыбераг вясновая паводка. Ліст, наскора прачытаны, яна трымала ў руцэ, прыціскаючы да грудзей.

Марыля спалохана сачыла за тым, як дрыготка торгаюцца бровы Сцепаніды, як дрыжаць пальцы, маршчакаватыя і дужа белыя ад вады, нават сінявятыя трохі. «Мабыць з Петрусём што... А я рагачу...» Марыля села побач і асцярожна прытулілася да Сцепаніды. З рудога канверта, што Сцепаніда трымала ў руцэ, нядобрым, злым вокам глядзела на Марылю чорная пячатка.

— Гэта ж гора такое, дачушка. Без рукі ён... На міне падарваўся... А мне не пісаў. Матцы праўду баяўся сказаць... Сыночак мой, сыночак!..

Голас у Сцепаніды быў глухі, нейкі незнаёмы; цёплая яе слязіна апякла шчаку Марылі.

Над таполямі, што чародкай стаялі за ракой, выглянула нияркае ў тумане сонца.

Сцепаніда паднялася, схавала канверт у кішэню жакеціка.

— Трэба ж цягнуцца...



— Я дапамагу, Сцепаніда Рыгораўна.

Яны панеслі кошык з выпаласканай бялізнай удваіх. Дужка, зробленая з вузлаватай вяроўкі, балюча муляла далонь. Марыля трымала з усяе моцы і ўсё ж на вуліцы, куды яны ўзняліся ад ракі пакручастай сцежкай, не ўтрымалася і, трохі саромячыся сваёй слабасці, папрасіла:

— Адпачнем трошкі...

Вуліца, што цягнулася па-над самым прыберагам, мала чым была падобна на гарадскую. Рудая ад пылу трава схавала неглыбокія каляіны, і вуліца нагадвала стаптаную восеньскую пожню. Худая, з бруднай жаўтаватай поўсцю каза пасвілася на ланцужку. Калі жывёліна матляла галавою, ланцужок звінеў, і маладыя кураняты, што грабліся на пясчанай выспачцы, спалохана квохкалі.

З-за цаглянай сцяны выйшла маленькая дзяўчынка. Яна спынілася, трохі пастаяла і зноў пайшла, але неяк няроўна, хістаючыся, закрыўшы твар рукамі. Ёй было можа гадоў дзесяць. Вялікія хлапчукоўскія чаравікі, насунутыя на босыя ногі, не пасавалі да новага шэрага плацейка.

— Ты чаго плачаш, дачушка? — запыталася Сцепаніда.— Пакрыўдзіў хто?..

Дзяўчынка апусціла рукі. Брудныя пісягі на шчоках скрывіліся, змоклыя павекі задрыжалі, і дзяўчынка зноў зайшлася ў плачы.

— Хто цябе пакрыўдзіў? — спагадліва запыталася і Марыля.

— Ка-арткі згубі-іла-ааа...

— Якія карткі?

— Хле-еебныя... на хлеб... Што ж цяпер будзе?!

— Не плач ты. Не плач! Неяк будзе, — Сцепаніда пагладзіла дзяўчынку па галоўцы, пакорпалася ў кішэні свайго жакеціка і выцягнула карткі.— Можа гэтыя? Пагляздзі...

Дзяўчынка перастала церці вочы, паглядзела на карткі і засмяялася скрозь слёзы.

— Ага, гэтыя... Ой, дзе вы іх знайшлі?..

Яна схапіла карткі і кінулася бегчы, потым азірнулася, памахала рукой і нешта казала, але што — не чуваць было.

Марыля разгубілася. Яна бачыла, што Сцепаніда аддала дзяўчынцы свае карткі. Месяц толькі што пачаўся, як жа яна жыць будзе? Ды яшчэ Пятрусь прыедзе са шпіталю...

Яны зноў пайшлі па вуліцы. Марыля ўвесь час адчувала сябе ў нечым вінаватай перад Сцепанідай, быццам гэтая жанчына зрабіла нешта такое, што магла і абавязана была зрабіць яна, Марыля. У Марылі не было пры сабе картак, і аддаць іх той дзяўчынцы яна не магла, але яна лаяла і папракала сябе за тое, чаму яна была толькі маўклівым сведкам, калі ратавалі чалавека ў бядзе. Чаму толькі сведкам?..

Дапамагаючы Сцепанідзе развешваць бялізну ля зямлянкі, Марыля ўвесь час думала пра гэта. Зямлянка стаяла крыху воддаль ад вуліцы. Сцепаніда пабудавала яе ў апошні год вайны. За два гады дах зямлянкі асеў, цагляны задымлены комін асыпаўся. З-пад зямлі павытыркаліся дошкі. Марыля пакратала вугал дошкі, запыталася, каб не маўчаць:

— Аполкамі, здаецца, абшывалі?

— Аполкамі.

— І мы таксама аполкамі. Але цяпло не трымаецца... Дрэннае гэта жыллё — зямлянка...

— Якое гэта жыллё, — махнула рукою Сцепаніда.
— Можа пазыку вам узяць ды будаваць хату?
— Не ўжо, дачушка. Калі з Петрусём што здарыцца, то няхай мяне ў гэтым сутарэнні і пахаваюць...
— Нашто ж гэтак! — шчыра загаварыла Марыля. — Пятрусь прыедзе, дык вы ў адзін год адбудуецеся...
— Каб жа словы твае спраўдзіліся. Усе мае думкі пра тое.
Яны ўсталі з прызбы. Марыля ўскінула сумку на плячо. Сцепаніда паспрабавала дапамагчы ёй і войкнула:
— А божухна!.. Цяжар які!..
— Не, што вы! Зусім няцяжка, падпісчыкаў пакуль малавата.— І спахапілася: — Ай-яй! Чуць не забыла: вам жа выклік яшчэ!
— Які выклік?
— Каб у выканком заўтра прышлі. — Марыля поркалася ў сумцы.— Дзе ж ён? А-а, вось, знайшла.
— Навошта я там спатрэбілася? — Сцепаніда нерашуча разгортвала акуратна складзеную паперку. — Можа пра Петруся што благое... Я дык гэтай паперы цяпер баюся...
— Што вы, цётачка! Кажуць, дзяржава дапамогу пацярпеўшым ад вайны аказвае. Можа што-небудзь і вам прызначаць?
Сцепаніда пакруціла галавой.
— Наўрад. Дзяцей малых у мяне няма... Вунь з дзецьмі колькі пагарэльцаў засталося...
— Многа, ой, як многа, — згадзілася Марыля, а сама думала пра іншае: як дапамагчы Сцепанідзе? Яна ведала, што Сцепаніда працуе ў краме вартаўніком. Які там заробак? А цяпер карткі аддала чужому







дзіцяці... Можа свае ёй аддаць? Ды не возьме яна. Можа самой схадзіць у гарадскі аддзел гандлю і расказаць, як было ўсё? Няхай дадуць новыя карткі...
Сцепаніда, нібы адгадала Марыліны думкі, папрасіла:
— Ты не бяры толькі нічога да галавы, дачушка. Заўтра да сваякоў на вёску паеду, харчоў прывязу... Ну, ідзі здарова.
Яна выцягнула з-пад дошкі невялічкі замочак, павесіла яго на клямку, не замыкаючы на ключ. Рабілася гэта дзеля таго, каб кожны, хто падыйдзе да зямлянкі па якой патрэбе, ведаў: гаспадыні ў хаце няма.
Сцепаніда пайшла на вуліцу не адразу, яна пастаяла яшчэ трохі ля кляновай прысады. «Як жа гэта не пашанцавала Петрусю... На міне падарваўся. У партызанах быў — абмінула куля. Усю вайну прайшоў... І такое выпала... Неасцярожны! І ў маленстве быў такі...»
Думкі яе перакінуліся да напамінку, што прынесла паштарка. «Можа што важнае? Калі пра Петруся, дык павінен быў ваенкамат клікаць... Гэта праўду Марыля казала. Але ж...»
Дрэвы быццам прыслухоўваліся да яе думак — стаялі маўклівыя, панура працягвалі абабітыя, абламаныя галіны. Але было ў іх выглядзе нешта ўпартае і настойлівае. Сцепаніда пяшчотна пакратала шурпатую кару і сказала, нібы перад ёй быў жывы чалавек, якому можна даверыць сваё гора:
— Жывыя клёнікі. І гаспадыня жывая... А хаты мы свае не ўпільнавалі? Што ж мы Петрусю скажам, калі прыдзе?..
Быццам саромячыся папрокаў, што гучалі ў стомленым голасе Сцепаніды, паціху зашамацела шырокае ўзорыстае лісце. Яно дзе-ні-дзе набрыняла ўжо слабай барвовасцю.
Клёны ў Прыдзвінску рана ўбіраюцца ў чырвань.

## 2

Леапольд Фурс ішоў па вуліцы і прагна курыў. Гаркаваты дым папяросы не супакойваў, і думкі па-ранейшаму круціліся ў галаве, выклікаючы пачуццё незадаволенасці. Яго рыхтуюцца ашукаць! І хто? Марфа Мурзавецкая! Чалавек, якому ён гэтулькі зрабіў добрага, якому давяраў...
Праўда, пакуль што былі толькі здагадкі і падазронасць. Але для Фурса яны заўсёды мелі вялікую вагу. Намер Марфы ашукаць яго ён

заўважыў даўно, нешта яшчэ зімой. Іх знаёмства пачалося, калі ён стаў працаваць у зеленгасе інжынерам. Да яго прышоў Сцяпан Мурзавецкі — муж Марфы — з просьбай дапамагчы прыдбаць лесу на хату. Сцяпан працаваў у зеленгасе шафёрам. Яны неяк хутка пасябравалі. У далейшым гэтае сяброўства замацавалася, і Фурс зрабіўся частым госцем у Мурзавецкіх.

У той час зеленгас атрымаў дазвол спілаваць трыста кубаметраў лесу на будаўніцтва гаспадарчых пабудоў. Замест аднаго будынка канторы пачалі будавацца два, і адзін з іх быў афармлены на Марфу. Рабілася гэта з тым разлікам, каб нікому не кідалася ў вочы, што інжынер будуе сабе ўласную хату. Фурс, згодна ўмовы, якую ён склаў з гаспадыняй употай, павінен быў атрымаць палавіну катэджа альбо кошт яе грашыма.

Але, абсталяваўшы палавіну хаты, Марфа спыніла ўсю далейшую працу. Даведаўшыся пра гэта, Фурс адчуў трывогу. Ён разлічваў, што к восені будаўніцтва будзе закончана, ён атрымае ад Марфы грошы і зможа паехаць з Прыдзвінска. Куды? На гэта ў яго меліся планы, якія ён нікому не выказваў.

Цяпер жа гэтыя планы парушаліся. Ён здагадваўся, што Марфа нечага хітруе. Сёння ранкам ён сустрэў чалавека, які працаваў на будаўніцтве хаты, і даведаўся, што яна правяла з рабочымі поўны разлік. «Нашто? Хоча адкласці разлік са мной? Але ж куды яна дзенецца, каб нават і захацела?..»

Збочыўшы ў завулачак, што вёў да Марфінай хаты, Фурс прыпыніўся. Адгаліноўваўшыся ад вуліцы, сцежка ішла да маленькай нізіны, што хавалася сваім краем за пясчаным пагоркам. З-за пагорка тырчэлі верхавіны старых вязаў. Некалі ў тым месцы было азярко, але з цягам часу яно зарасло і цяпер ад яго засталося маленькае вочка вады: улетку там цэлы дзень купаліся качкі і гусі.

Пад іх нястройныя пераклікі Фурс дайшоў да высокага, шчыльнага паркану, што абгароджваў сялібу з усіх бакоў. За парканам узвышаўся катэдж — на два ганкі з роўных сасновых бярвенняў, пад жалезным дахам. Брама была зачынена. Фурс доўга тупаў ля паркану, спрабаваў зазірнуць на панадворак, але не знайшоў ніводнай шчыліны.

Гэта яго раззлавала. Ён падышоў да брамы і разы са тры ўлупіў кулаком у гладкія жаўтаватыя дошкі. За плотам спачатку завішчэў, а потым забрахаў сабака. Потым пачуліся галасы. Брама адчынілася.

— Во-ооо!— Фурс сагнаў з твару незадаволенасць, і толькі вочы засталіся злоснымі і пакрыўджанымі.— Галавой б'юся аб гэты паркан, а гаспадыня і не чуе!..

Марфа прыкмеціла злосны бляск яго вачэй, шырэй адчыніла брамку, замітусілася:

— Адразу пачула: стукаюць, — і замахнулася на сабаку: — Пайшоў вон адсюль! Не пазнаеш? Свае прышлі. — І зноў з ліслівасцю і робленай цеплынёй у голасе: — Гэта ж даўно вас і не відаць. Думаю, можа здарылася што ці змены якія...

— Ніякіх. У вас вось тут навіны: дошкамі вокны пазашывалі...

Па злоснай усмешцы, з якой гэта было сказана, Марфа зразумела настрой Фурса і цяпер думала, як супакоіць яго. Калі будаўніцтва толькі пачыналася, яна ахвотна падпісала ўмову з Фурсам. Яна і тады магла выплаціць Фурсу яго долю: грошы ў яе былі, але пабаялася.



А цяпер, калі справа набліжалася да заканчэння, ёй стала яшчэ і шкада аддаваць грошы і яна пачала выкручвацца, спрабуючы знайсці нейкі выхад, каб ашукаць свайго супольніка. Да гэтага далучыўся і страх: суседзі пачалі са здзіўленнем паглядаць на скораснае і такое буйнае будаўніцтва.

— Свет цяпер такі, — сказала Марфа і ўздыхнула. — Зайздросцяць людзі, абгаворваюць: адкуль, маўляў, сродкі такія ўзяліся. Некаторыя кажуць: з крамы цягне. Каб жа ім дух заняло, калі я што бяру. Да вясны трэба пачакаць. Грошай у мяне цяпер няма... Нават у Тэклі пазычыла... — І гукнула ў бок хаты: — Сцяпа-аан!

У хаце ніхто не азваўся.

— Сцяпа-ааан! Аглух там, ці што?

— Бягу, бягу! — прагучала ў сенцах, і на ганак, як салдат па трывозе, выляцеў Сцяпан.

Фурс, як і заўсёды, калі бачыў рабскую пакорлівасць і баязлівасць Сцяпана перад жонкай, крыва ўсміхнуўся. Сцяпан жа заўсміхаўся шчыра, усім сваім круглым тварам выказваючы радасць: прыход Фурса азначаў, што жонка паставіць на стол пляшку гарэлкі.

— Сцяпан! — трохі мякчэй сказала Марфа. — Трэсак ускінь на прыпечак. Бачыш, госць да нас завітаў. З работы чалавек, стаміўся...

Марфа частавала Фурса шчодра, але насцярожанасць у яго не знікала. Ён піў мала, спрабуючы знайсці ў салодкай Марфінай гаворцы адказ на пытанне, што свідравала яму галаву. «Што яна задумала?» Схітраваў:

— Гэта правільна, што абсталёўваеш пакой. Грошы ў наш час драбяза...

— Во! А як жа! Маёмасць — у любы час каштуе, пры любой уладзе. — І хутка папраўілася: — Пры любым выпадку. А што грошы?... Кажуць, іх памяняюць...

— Могуць. Могуць,— ён падсунуў бліжэй талерку з тонка нарэзанай вяндлінай і ўзяўся закусваць. — Могуць!

Фурс паспакайнеў. Няхітрыя Марфіны захады раптам адкрыліся яму, і ён адчуў, што Марфа проста баіцца яго. «Гэта добра, калі баіцца. Ашукаць не зможа»... Яму зрабілася смешна.

Падпіўшы, Сцяпан таксама пасмялеў, адабраў у Фурса пляшку і ўзяўся наліваць гарэлку. Марфа строга паглядзела на яго, але змаўчала.

## 3

Суботняй раніцай Сцепаніду апанаваў гаспадарчы клопат. Яна прыбрала ў зямлянцы, замачыла ў начоўках бялізну, ускінула на плечы каромысла і пайшла да ракі.

Ноччу быў першы прымаразак. Белая намаразь густа ляжала на прырэчнай лугавіне, быццам выпаў сухі і цвёрды снег. Пад нагамі рыпела, як у добры зімовы дзень. Вядро неяк гучней, чым звычайна, цмокнула, калі Сцепаніда выцягвала яго з вады, і здалося дужа цяжкім у гэтае ранне.

За сялібай Сцепаніды бульдозеры раўнавалі пустыр. Бразгат і гул асабліва выразна чуліся тут, ля ракі, і Сцепанідзе здалося, што сінявая

паверхня вады, па якой разыходзіліся кругі, паціху дрыжыць і рэзкі сталёвы гул ідзе аднекуль з глыбіні, з цёмных рачных нетраў.

Ля зямлянкі яе чакаў Тарас Красантовіч, з якім сябраваў да вайны яе муж. Высокі, шырокі ў плячах, з буйнымі рысамі дабрадушнага і лагоднага твару, ён кінуўся ёй насустрач, узяў вёдры і панёс іх без каромысла. Ішоў ён наперадзе Сцепаніды шырокім, грузным крокам: вада плёскалася ў вёдрах, патроху вылівалася і, падаючы на зямлю, пакідала на белай намаразі няроўныя цёмныя плямкі.

— Зазірнуў у хаціну — няма гаспадыні. — Тарас прастуджана закашляўся і неяк вінавата растлумачыў: — Табака благая, дзярэ глотку. На новае жыллё перабяруся — кіну, каб і дыму нават не было чуваць.

— Гаворыш толькі, — са смехам сказала Сцепаніда. — Летась тое ж самае казаў...

— Бач ты, запомніла... Ды я ж не спрачацца прышоў. Машына хутка падыдзе. Ці сабрана ў цябе?..

— Ай-яй! А я бялізну мыю. Як жа цяпер?

— Бяда вялікая... Начоўкі на машыну і — няхай едуць.

Упэўненасць, з якой гаварыў Тарас, крыху падбадзёрыла Сцепаніду. На мінулым тыдні ў выканкоме, куды яна пайшла па выкліку, што прынесла Марыля, ёй далі ордэр на кватэру. Па плану рэканструкцыі горада на беразе ракі ў гэтую восень павінны былі закласці парк. Зямлянка Сцепаніды была якраз у яго межах. Ёй далі кватэру ў новым двухпавярховым будынку. Пакой добры. Ён быў размешчаны ў левым крыле будынка, і вокны яго выходзілі не на цэнтральную плошчу, а ў бок дадаеннага парку, што цягнуўся па ўзвышшы да самай ракі. У той жа дзень, калі Сцепаніда аглядала пакой, яе сустрэў Тарас і паабяцаў дапамагчы перавезці рэчы.

Складаючы рэчы ў скрыню, якую Тарас прынёс сёння, Сцепаніда з удзячнасцю думала аб ім: «Добры чалавек Тарас! Ніколі благога слова ад яго не пачуеш». Прыгадала выпадак, аб якім гаварыла Марыля. Красантовіч дапамагаў па вечарах будаваць іх зямлянку летась. Марыліна маці памкнулася заплаціць за работу, але Тарас пакрыўдзіўся:

— Я ж па-суседску. Спатрэбіцца — мне дапаможаце.

І не ўзяў грошай.

Сцепаніда зняла з вузкага акенца фіранкі, паклала іх у скрыню. Неяк пасвятлела ад гэтага ў зямлянцы, але затое адразу стала бачна няўтульнасць маленькага сутарэння: адусюль неяк быццам больш пацягнула вільгаццю, пахам цвілі. Сцепаніда падышла да акенца, узяла ў рукі вазончык, асцярожна пакратала пукатыя з іголкамі лісцікі альвасу.

— Хутка ачуняеце ў цяпле ды на сонейку...

— Нашто гэты дзядоўнік табе? Выкінь,— сказаў Тарас і, убачыўшы, што Сцепанідзе не спадабаліся яго словы, паспешліва перавёў гаворку: — А кватэра твая выгодная будзе. Праца пад бокам, калі замерзнеш — дамоў бяжы, грэйся.

— А няўжо ж. Тут і без таго на тваіх вачах усё цягнуць...

— А хто гэта такі лоўкі?

Сцепаніда паглядзела на Тараса, быццам узважваючы, ці можна яму казаць.

— Ты ведаеш, дзіўна трохі... Я вартую краму, бо на дзвярах замок. А з другога боку, праз дзверы, што выходзяць на двор,— гандаль поўны. Нейкія людзі прыходзяць. Учора ажно з цёмным машына прыехала. Тры скрыні пагрузілі і павезлі.



— А што загадчыца? Скажы ёй...

— Дык яна ж гэта і робіць. Гаворыць, удзень не ўпраўляецца. Можа і праўда. Народу поўна ўдзень бывае...

— А загадчыца хто?

— Мурзавецкая. Марфа Адамаўна. Кажуць, раней на базе была. Зволілі ці скарацілі. Не ведаю. Мая справа што? Вартуй!

— Во, во! Можаш так давартавацца, што самой адказваць прыдзецца...

— Ты нагаворыш... — Сцепаніда махнула рукой.

Потым зняла са сцяны вітрынку, у якой за шклом вісела шмат фотакартак, пажаўцелых ад часу. Была сярод іх адна, на якую глядзела яна кожны дзень. Сцепаніда пацерла шкло, змахваючы насеўшы пыл.

— Які ты цяпер, сынок? Схуднеў, ці ўсё такі ж? Га, Петрусёк?..

З карткі глядзелі на Сцепаніду ўдумлівыя, крыху здзіўленыя вочы. Светлыя валасы, што крыху кучаравіліся, былі зачасаны назад, робячы твар хлопца незвычайна вясёлым. Бадзёры выгляд сына не супакоіў Сцепаніду: яна спахмурнела, і ад гэтага глыбейшымі сталі маршчыны на яе твары.

— Чаго бедаваць, Рыгораўна...— пачаў супакойваць яе Тарас.— Пятрусь жывы, хутка дадому прыедзе. Тут радавацца трэба, а ты...

На панадворку засігналіла машына. Тарас спахапіўся:

— Прыехалі! Клічуць, а мы тут раздабарваем!

Апроч шафёра, грузіць рэчы на машыну дапамагаў Віталь Какора— малады хлопец з хуткімі зеленаватымі вачыма: яны з Тарасам працавалі на адной будоўлі.

— А гэта што?— запытаўся ён у Сцепаніды, беручы з яе рук белы гаршчочак. — Вазоны нейкія?..

— Альвасік, сынок, альвасік. На лекі добра ідзе.

— Запаслівая гаспадыня, — пахваліў шафёр. — А тое, трынькі-брынькі, — ён пастукаў сагнутым у крук пальцам па горле. — Прыдбалі да наваселля?...

— Во, гэта лекі, — уставіў сваё слова Віталь. — Кветкі што? Паглядзеў, панюхаў і забыў. А возьмеш колькі разоў па «сто», ды зверху півам — і душа зацвіце, бы тая хрызантэма!

— Папружкай табе зверху, папружкай, — без злосці сказала Сцепаніда. — Хрызантэму гэткую...

Тарас стрымана зарагатаў.

З-за клёнаў прыпоўз да зямлянкі бульдозер. З кабіны выскачыў чарнавусы бульдазерыст. Запытаўся:

— Што тут у вас? Мне казалі яшчэ ўчора раўнаваць гэты куток.

— Можаш, можаш,— весела адказаў Тарас. Ён дастаў папяросу, прыкурыў, прастуджана закашляўся.—Ад такога жылля толькі хваробу людзі маюць. Раўняй! Толькі не зваліся, глыбокая зямлянка...

— Знайшлі чым палохаць, — бульдазерыст стаў на калені, зазірнуў праз дзверы ў зямлянку і засмяяўся: — Драбяза для нас гэта!

Ён падышоў да сваёй машыны, аглядзеў гусеніцы, потым узабраўся ў кабіну. Матор зароў. Бульдозер крануўся з месца. Цьмяна заблішчаў таўсты сталёвы нож, зарыўся ў зямлю, і перад ім адразу ж вырас вялізны земляны пагорак. Бульдозер поўз, і гэты чорны земляны пагорак рухаўся наперадзе яго.

Грозна роў і поўз далей па лехах бульдозер. Ад гулу яго матора з клёнаў злятала барвовае лісце і бязгучна апускалася на сівую ад намаразі зямлю.

4

У гарадскім клубе, што размясціўся ў старым, напалавіну спаленым будынку, танцавала моладзь. Гарманіст з абыякавым выразам на твары выціскаў з свайго гармоніка аднастайныя вальсы і факстроты.

Нэля прышла ў клуб са сваёй сяброўкай Вольгай. Патанцаваўшы, яны выйшлі ў калідор, каб не замінаць хлопцам і дзяўчатам, што спрытна лёталі па кругу. Выціраючы хусцінкай спацелы лоб, Вольга прызналася:

— З хлопцамі ў мяне не выходзіць вальс. А вось з табой — лёгка... Быццам плывеш...

Нэлі спадабалася гэта. Высокая, у квяцістай шаўковай сукенцы, з пышнымі пасмамі каштанавых валасоў, яна выгадна адрознівалася ад Вольгі — дзяўчыны тоўсценькай, з кірпатым носікам і бялявымі, закручанымі на патыліцы косамі. Нэля адчувала сваю перавагу і таму сказала голасам апякунскім:

— Навучышся!

І ў шэрых яе вачах запаліліся жартаўлівыя агеньчыкі:

— Мне таксама не ўчора далася гэтая навука!

Гэта была праўда. Танцы прышліся ёй да спадобы даўно. Асаблівы густ да іх яна адчула ў студэнцкія гады, калі вучылася ў настаўніцкім інстытуце. Нават ноччу, вярнуўшыся ў інтэрнат, Нэля доўга не магла заснуць: перад вачыма круцілася танцавальная пляцоўка, у вушах гучала музыка. Калі часам сяброўкі пыталіся ў яе адносна намераў на вечар, яна адказвала ні то сур'ёзна, ні то жартуючы, каб не назалялі: «Мой вольны час — танцам. Там — жыццё».

Прышоўшы ў танцавальную залу, Нэля перш-на-перш звяртала ўвагу на тое, як хто апрануты, на кім лепшае адзенне. Сама ж яна на гэтую справу траціла ледзь не ўсе грошы — і стыпендыю, і тое, што прысылала маці. Калі хто-небудзь хваліў яе прычоску ці фасон сукенкі, яна непазнавальна мянялася, позірк набываў ганарлівую незалежнасць: «Вось я якая!»

На яе глядзелі. Адны зайздросцячы, другія — з адкрытым жаданнем спадабацца. Вальсуючы з кім-небудзь, яна амаль чула за сваёй спіной шэпт хлопцаў. Гэта рабіла яе вясёлай, клала на шчокі чырвань і яшчэ больш узнімала ва ўласных вачах.

Сёння ж, апрача Вольгі, ніхто не захапляўся яе спрытам і прыгажосцю. Ад гэтага рабілася прыкра. Лётчыкаў, з якімі яны танцавалі ў нядзелю, не відаць было. Нэля паскардзілася сяброўцы:

— Сумна. І тыя не прышлі. Вось ужо не разумею: калі не хочацца— навошта ж абяцаць?

— Можа ў іх палёты?

— Палё-ёты! Ведаем іхнія палёты. Яны ўсе...

Нэля не дагаварыла. Хлопец у вышыванай кашулі, што праходзіў па калідоры, штурхнуў яе. Нэля паглядзела на яго пагардліва. Жывыя агеньчыкі ў вачах зніклі, яны засвяціліся насцярожана, злосна.

— Нахабнік! Вам што, цесна ў калідоры?

— Цесна, прыгожая, цесна. Мая душа любіць прастору...

Хлопец узмахнуў рукамі, жадаючы паказаць, якая прастора да спадобы ягонаму сэрцу. Але прастора гэтая, відаць, была такая вялізная, што ён не мог абхапіць яе, захістаўся і ўпёрся далонямі ў сцяну.



— Былы чалавек, — з дакорам сказала Вольга, цягнучы сяброўку ў другі бок калідора.— Усё магу дараваць, а гарэлку — ніколі. Ты ведаеш яго? Гэта Віталь Какора, з будтрэста.— І, каб перавесці гаворку на іншае, запыталася:

— А што чуваць пра Петруся? Так больш і не піша?

— Нічога.

— Можа маці што ведае? Ты запытайся.

— Няёмка. Я ў іх ніколі не была.

— Давай я гэта зраблю.

— Не трэба...

Нэля пашкадавала ўжо, што адкрыла Вользе свае сардэчныя тайны. Пасля доўгага маўчання Пятрусь прыслаў ёй ліст. Гэта так усхвалявала Нэлю, што яна расказала сяброўцы пра сваё даваеннае каханне. Яно было пахавана ўжо, гэтае пачуццё, і цяпер, калі прышоў ліст, ёй было прыкра, што ў думках здрадзіла свайму абяцанню, якое давала хлопцу некалькі год назад: кахаць толькі яго, на ўсё жыццё. Цяпер, калі Вольга пачала распытваць пра Петруся, Нэлі зрабілася не па сабе, быццам Вольга папракала яе за тое, што, чакаючы лістоў ад Петруся, яна ходзіць на танцы, знаёміцца з лётчыкамі і шкадуе, чаго яны не прышлі. У калідоры пачуліся гукі вальса, але жадання танцаваць ужо не было. Настрой канчаткова сапсаваўся.

— Я пайду. Звані мне заўтра, — сказала Нэля, развітваючыся з Вольгай. — Пазвоніш? Ну, добра, бывай...

На сцішаных гарадскіх вуліцах, ахутаных змрокам, тужлівыя думкі трохі развеяліся. Нэля адчула сябе ніякавата за спрэчку з тым хлопцам у клубе, за тое, што так рэзка, не па-сяброўску гаварыла з Вольгай.

Да гэтых думак цяпер прымешвалася яшчэ трывога: Нэлі здалося, што нехта ўпотай крочыць за ёю. Яна заўважыла гэта яшчэ ля клуба і неяк адразу ж забылася. Цяпер таропкія крокі воддаль устрывожылі яе: яна паскорыла хаду, перайшла на другі бок вуліцы, прыслухалася.

Змрочнымі аграмадамі чарнелі сцены спаленых будынкаў. Справа за сцяной нудна рыпеў адарваны кавалак бляхі, нябачная ў цемры драціна звінела пад ветрам, як струна. Нэля пайшла шпарчэй. «Здалося. Нешта я баязліўкай стала». І зноў пачула ззаду таропкае тупанне. Яна пакрочыла амаль подбегам, але пагоня не спынялася. Нехта бег за ёю і цяжка, з прыдыхам, соп. Чорная постаць узнікла, як прывід, наперадзе, у вочы ўдарыў асляпляльны прамень ліхтарыка. Постаць хрыпатым голасам загадала:

— Паліто здымай! Грошы маеш?

Ліхтарык згас. Востры бляск яго ўсё яшчэ калоў вочы, і Нэля нічога не бачыла. Яна адчувала толькі, што нечыя рукі расшпілілі паліто абмацваюць кішэні. Брудныя, шурпатыя пальцы кранулі шыю. Нэля, заплюшчыўшы вочы, закрычала, спрабуючы вырвацца:

— Рату-уйце! Лю-юдзі!

І адразу ж нехта зводдаль строга загадаў:

— Трымай іх! Забягай наперад!

Усё гэта адбылося так раптоўна, што Нэля нават не заўважыла, калі кінуўся ўцякаць жулік. Да яе падышоў незнаёмы мужчына. У ягоным голасе была добразычлівасць, і Нэля, зашпільваючы паліто, паспрабавала гаварыць разважліва:

— Нічога такога і не было. Ён спытаўся, ці ёсць у мяне грошы. Я адказала, што няма...

— Вось як! То, можа, дарэмна вы крычалі «ратуйце»?!

— Не, не! Я вам так удзячна, — Нэля адчула, што яе калоцяць дрыжыкі. — Гэта жулік. Ён хацеў зняць з мяне паліто... Я баюся...

— Я правяду вас трохі. Не бойцеся.

— Калі ласка, я буду вельмі рада, — спахапілася Нэля, баючыся, што зноў можа апынуцца адна на вуліцы. — Я настаўніца. З першай школы..

Прозвішча, якое праз некаторы час назваў ёй нечаканы збавіцель, здалося знаёмым — Красантовіч Тарас Несцеравіч... Недзе чула, але дзе? Яна намагалася ўспомніць гэта і не магла. Паспешліва запыталася:

— А вы дзе працуеце? Будаўнік? Калі мы былі ў Ташкенце, мы таксама жылі з будаўнікамі,— гаварыла Нэля абы што, але падкрэслена ласкава.

— Ташкент гэта ваша радзіма?

— Не-ее! Мы там былі ў эвакуацыі. Там, ведаеце, прыгожы горад. Надта шмат яблык! А нарадзілася я тут. Там — інстытут закончыла. Выкладала біялогію. Вы знаёмы з такой навукай?

— Трохі чуў. Праўда, даўно, вас, мабыць, тады яшчэ на свеце не было.

Нэля толькі цяпер адчула, што недаравальна гулліва размаўляла са сваім спадарожнікам, і сумелася. Каб неяк згладзіць сваю віну, прапанавала:

— Можа вы зойдзеце да нас? Мама будзе вельмі рада. Я вам так удзячна, паверце. Вунь і хата наша...

— Дзякую. Можа другім разам...

— Ну, я вас прашу, зойдзем! — настойліва пацягнула яна Тараса Несцеравіча за рукаў. — Я хачу запомніць назаўсёды. А то ўдзень сустрэнемся — не пазнаем адзін аднаго...

Крыху воддаль, за парканам, свяціліся шырокія вокны. Гэта быў высачэзны, з круглым дахам будынак. Красантовіч ужо даўно заўважыў гэты катэдж, і яму захацелася ўбачыць яго гаспадароў. Ад паркану да дома вяла сцежка, каменьчыкі шуршэлі пад нагамі. У промнях святла, што падала з вокан, скакаў кудлаты сабака і злосна бурчаў.

— Ціха! — загадала яму Нэля і прытрымала сабаку за ланцужок.— Вы не бойцеся. Ён так бурчыць...

Нэля адчыніла дзверы. Пакоі ўразілі Красантовіча сваімі памерамі. Ад зялёнага абажура вялізнай лямпы на тоўстае бярвенне клаўся няроўны цень. Дзверы, што вялі ў суседні пакой, адчыніліся і адтуль выйшла гаспадыня. На ёй быў стракаты даўгі халат, падпяразаны вышываным поясам.

— Мама, мама! — кінулася да яе Нэля. — Ой, каб вы бачылі! На мяне напалі жулікі. Мяне выратаваў вось Тарас Несцеравіч. — І з вясёлай усмешкай: — Пазнаёмцеся: гэта мая мама, Марфа Адамаўна...

Смеючыся, Нэля выбегла з пакоя. Гаспадыня аглядала нечаканага госця. Быццам недзе бачыла яго. Боты ў гразі і брызентавая куртка — падраная, выпэцканая вапнай — не спадабаліся ёй. Акінуўшы строгім позіркам яго постаць, яна сказала:

— Чым жа вас аддзякаваць?..



Тарас здзіўлена глядзеў на яе галаву, якая, здаецца, вырастала проста з тулава. «Гэта ж загадчыца крамы, дзе працуе Сцепаніда. А Нэля — яе дачка... Ну, як у казцы!..»

Марфа падышла да шафы, адчыніла, зашастала паперай, і перш чым Тарас Несцеравіч паспеў што-небудзь сказаць, у яго ных руках апынуўся маленькі скрутак.

— Дзякую! Вось, калі каска!.. Бывайце здаровы!..

Было ўсё гэта так недарэчна і непрыемна, што Красантовіч хутчэй падаўся да выхаду. Сышоўшы з ганка, ён спыніўся. Кудлаты сабака, бразгаючы ланцужком, падбег да яго, пацёрся аб халявы ботаў. Тарас разгарнуў газету. «Ха-ха! Колца кілбасы ахвяравала. На, сабака, табе на вячэру...»

Сабака схапіў кілбасу і кінуўся да будкі. Тарас Несцеравіч убачыў, як убегла Нэля і нібы запыталася штосьці ў маці, а Марфа стаяла бліжэй да акна, і ён пачуў, як яна лаяла дачку:

— Можа сам і рабаваў... А ты яго ў хату прыцягнула...

У галінах вішняку шастаў вецер. Кудлаты сабака еў кілбасу, на яго шыі нудна звінеў ланцужок.

## 5

Цесляры тарасавай брыгады накрылі страху хлява за два дні. Гэта быў доўгі і нізкаваты будынак у канцы двара, увесь падзелены на маленькія каморкі. Сцепанідзе дасталася каморка самая крайняя, бліжэй да хаты. Гаспадыня адразу ўзялася наводзіць у каморцы парадак. Тарас заўважыў:

— А што. Тут табе і дровы і свінчо можна трымаць...

Сцепаніда не паспела адказаць. З-за паркану, што адгароджваў двор ад вуліцы, выйшаў Фурс. Ён быў у доўгім скураным паліто, хромавых ботах, наваксаваных да бляску. Прадаўгаваты твар яго, здавалася, блішчэў, і толькі вочы глядзелі змрочна, нібы скрозь бруднае шкло. Асцярожна пераступаючы цаглінкі, Фурс падышоў да будаўнікоў.

— Што, перакур? Гэта каб у цяньку, а то ж яго няма... Го-го-го!

— Будзе! — за ўсіх адказаў Тарас, які недалюбліваў Фурса. — Вы, мусіць, зноў наконт дрэў?

— Але ж. Загадана саджаць, каб разам з домам зеляніна расла...

Ён паглядзеў на цагляны гмах, што вырас насупраць адбудаванага летась дома, і сказаў:

— А вокны парабілі якія шырокія! Гэта ж няправільна. Га, Красантовіч?

— Правільна, запярэчыў Тарас. — Акно ў хаце — найгалоўнейшая рэч. Гэта — як вока ў чалавека. Праз яго сонца, святло...

Сцепанідзе спадабаліся словы Тараса. Яна паглядзела на вокны свайго пакоя, і яны здаліся ёй самымі лепшымі і прыгожымі сярод іншых.

Учора яна атрымала другі ліст ад сына. Пятрусь пісаў, што праз некалькі дзён яго выпісваюць са шпіталю і ён прыедзе дахаты. Ліст быў бадзёры, вясёлы, і яго настрой перадаўся Сцепанідзе. Вярнуўшыся ранкам з работы, яна не магла спаць — карцела нешта рабіць.

Яна думала, калі можа прыехаць Пятрусь? Па яе падліках выходзіла, што сын прыедзе на гэтым тыдні. У лісце пра гэта не пісалася, але Сцепаніда брала цяпер на веру толькі голас свайго сэрца.

Пагодны восенькі дзень па-гаспадарску лёг на горад. Было цёпла і хораша ў паветры: сінела неба, далёкае і чыстае, быццам сатканае з іскрыстага сонечнага бляску і празрыстых нітак. Праз брамку, што пакінуў Фурс не зачыненай, на двор увайшла Марфа. Сцепаніда не любіла сваю загадчыцу. Тая адчувала гэта і ўсё ж трымала сябе ветліва, з падкрэсленай далікатнасцю. Марфа і цяпер глядзела на клопат Сцепаніды з усмешкай, а гаварыла соладка і лісліва:

— У вас такі цудоўны дворык, Рыгораўна. Таполя гэтая. І паветачку пабудавалі. Можна што скласці... — і тут жа папракнула: — А сябе не беражэш. Толькі з работы і зноў за работу. Гэтак і памерці можна. На той свет анічагусенькі не возьмеш. Так што, усёроўна...

Марфіны словы не закранулі Сцепанідзінага сэрца, яна ведала, што яны не шчырыя. Ёсць жа такія людзі: у вочы табе глядзяць і хлусяць.

— Праўда, туды нічога не возьмеш. Затое тут пакінуць можна. Няхай добрым людзям застаецца...

— Добрым лю-юдзям! — працягнула Марфа і прыплюшчыла вочы:— У людзей на мяне заўсёды сэрца хопіць. А вось у цябе на ўсіх? Дзе ж ты набярэшся?

З рыштаванняў даносілася гамонка. Марфа ўважліва глядзела ў той бок. Лянівымі рухамі рукі яна кідала ў рот зерні сланечніку, смешна адтапырваючы нафарбаваныя губы, і выплёўвала лузгу сабе пад ногі.

Зноў беручыся падграбаць трэскі, Сцепаніда сказала разважліва:

— Часам жыве чалавек, потым паміраe і пасля яго нічога не застаецца. Значыць, дрэнна жыў чалавек...

— Канешне, канешне,— адразу згадзілася Марфа і, яшчэ раз акінуўшы позіркам рыштаванні, па якіх сыходзіў Фурс, паспешліва дадала:— Я яшчэ забягу. Пагаворым з вамі...

Сцепаніда паглядзела ёй услед. Можа яна пакрыўдзіла Марфу? Што Марфа ёй благога зрабіла? Нічога. Марфа заўсёды была такой ветлівай, лісліва падхвальвала ўсё, што робіць Сцепаніда. А мо' гэта проста такі характар у чалавека? Розныя людзі бываюць. Сцепаніда дачулася, быццам Пятрусь шле лісты Марфінай дачцы. Але асаблівай веры гэтаму не давала. Мала пра што гавораць людзі? Ён нічога пра тое не піша. І навошта яму пісаць, калі і ёсць такое? Гэта ягоная справа. Яна выгадавала Петруся, цяпер ён дарослы. У маладых свой погляд на жыццё. Каб толькі хутчэй прыехаў...

Апоўдні, калі Сцепаніда прыбірала пасля абеду посуд, Марфа прыбегла зноў. Яна ўвайшла ў пакой і адразу ж папярэдзіла:

— На хвіліначку забегла. Толькі на хвіліначку. Ага... — паклала невялічкі скрутачак на палічку і, быццам між іншым, дадала: — Падаруначак вам тут, па-суседству проста...

Пляснула далонямі і загаварыла, не гледзячы ў вочы Сцепанідзе:

— Пакойчык які ў вас! Цудоўны! Як ёсьцека цудоўны... Ага... З крамы толькі што, цукар даваць пачалі. Што робіцца, што робіцца! Жах! Лезуць і лезуць... Некультурнасць такая пайшла... Вы ж ці атаварылі свае? Можна і без таго. І нашто вы не хочаце, каб у нашай краме атаварвацца? Не разумею. Сякі-такі запасец у нас ёсць. Інакш нельга, самі ведаеце — гандаль. Бегаеш, круцішся. Здароўе маё зусім слабае...

— Дзіва што, — Сцепаніда падсунула Марфе крэсла. — Прысядзьце вось...

— Учора з дачкой пасварылася. Прышла гэта я дадому — канверт на стале... Я гэтак во і пачала чытаць, а мая як ірване з рук: «Не чапайце!» Але ж ці я дурная? Цішком прачытала. Нейкі вайсковец піша. І такое каханне там! Такое каханне! Вайсковыя гэта могуць! Дужа мне хочацца, каб яна за вайсковага пайшла. Сцепаніда Рыгораўна, калі ў вас пра што запытаюцца, дык вы і нічога не бачылі. Ну, праўда, адпускалі там калі-ні-калі і вечарам, але ж гэта дзеля народу. Людцаў мне шкада, бо гаруе народ. О-ооох, гаруе!



Сцепаніда цяпер зусім пераканалася, што Марфа спалохалася рэвізіі і прышла задобрыць яе. Яна прыгадала, як і раней Марфа спрабавала даваць ёй без картак масла, і пахваліла сябе за тое, што нічога тады не ўзяла. «Гэта яна і цяпер паддобрыцца хоча, у сведкі ўзяць. Вось на што ты цэліш, даражэнькая...»

А ўслых сказала, каб хутчэй скончыць непрыемную размову:

— Не было, дык і не было. Сумленнаму чалавеку няма чаго баяцца, так мне здаецца.

— Божачка, Сцепаніда Рыгораўна! — Марфа зноў пляснула далонямі:— А ці ж несумленная была Мурзавецкая? Самая сумленная!— Марфа гаварыла па-ранейшаму лісліва, але вочы гарэлі злым агнём.— Памру, дальбог, памру. Сэрца. Во, зноў... зноў сэрца...

Марфа, не развітваючыся, пайшла з пакоя, трымаючы руку на грудзях. Ля дзвярэй прыпынілася і хуценька ўхапіла з палічкі свой скрутак. Сцепаніда ўбачыла гэта і знарок адвярнулася.

## 6

Поезд набліжаўся да Лясноўкі. Гэта была апошняя станцыя перад горадам. Прыцісну́ўшыся тварам да аконнага шкла, Пятрусь Крыніца прагна ўглядаўся ў рэдкія агеньчыкі, што выплывалі насустрач поезду з начной цемры. Агеньчыкі гэтыя нагадвалі бясхмарнае неба позняй восені: адны блішчэлі ярка, іншыя блекла мігцелі, і іх святло то з'яўлялася, то знікала.

Ад хуткага бегу поезда вагон дрыжаў і гойдаўся, пралятаючы стрэлкі раз'ездаў. Каб нечым заняць час і зменшыць трывогу чакання, Пятрусь прыслухоўваўся да перастуку колаў і спрабаваў лічыць агеньчыкі ў змрочнай далечы. Вось гэтак жа, як цяпер, мігцелі агні стэпавага гарадка, які ён нядаўна пакінуў. Далёка застаўся шпіталь, дзе працуе галоўным урачом Леанід Андрэевіч Собаль, дзе ёсць сардэчны і пяшчотны чалавек — сястра Вера Лазука і шмат іншых сяброў, што паставілі яго на ногі. Шпіталь усё далей і далей, затое ўсё бліжэй і бліжэй родны горад, дзе яго чакае Нэля. «Ах, Нэля, Нэля! Каб ты толькі ведала, колькі было думак пра цябе, пра тое, ці змагу я прынесці табе радасць, ці будзеш ты са мной шчаслівай! І ты паклала гэтым сумненням канец. Твой ліст узнёс мяне на вышыню, з якой мне бачна далёка наперадзе. Да-алёка!»

Усё астатняе не палохала хлопца. Так, ён інвалід. Пятрусь прымірыўся ўжо з гэтай думкай і рыхтаваў сябе да розных нягод і цяжкасцей.

Пакідаць шпіталь было нялёгка. Раніцой Крыніца развітаўся. Перад тым, як пайсці на вакзал, ён зайшоў у сваю палату. Чамусьці стала асабліва шкада гэтага маленькага ўтульнага пакойчыка, дзе на кожным кроку ён адчуваў клопаты харошых, сардэчных людзей, дзе штодня была Вера... Але чаго яе не відно ад самай раніцы? Яна ж дапамагала яму складаць чамадан, а цяпер знікла некуды.

Ён адправіўся на пошукі і знайшоў яе ў калідоры. Вера была ў сіняй просценькай сукенцы. Хлопец заўважыў, што вочы ў дзяўчыны засмучаныя, яны глыбока запалі і страцілі свой ранейшы вясёлы бляск. Можа яна пойдзе разам з ім на вакзал? Яму хацелася, каб яна пайшла. І ў той жа час было няёмка прасіць яе. Таму ён сказаў проста, каб не маўчаць:

— Сабраўся ўжо. Так што цяпер на Беларусь...

— Цягне, праўда? — Вера жартавала, спрабуючы трымацца бесклапотна і весела. — А я з вамі. Не, не! Не на Беларусь, на вакзал толькі. Собаль загадаў праводзіць вас...

Ад шпіталю да вакзала было недалёка. Яны пайшлі пешкі. Па тратуарах грукацелі на самакатах хлапчукі.

Глуха шасцела цвёрдае лісце грабаў, і ў гэтым шасценні было нешта трывожнае. Гарачы вецер кідаў у твар пыл. На вакзале, калі Пятрусь наважыўся купіць перонны білет, Вера спыніла яго:

— Не трэба. У мяне — службовы.

Потым яны стаялі на пероне. Вакол гаманілі, беглі людзі, штурхаліся і ніхто не прасіў прабачэння. Пятрусь шукаў ласкавых слоў, каб сказаць іх на развітанне Веры, і не знаходзіў такіх слоў. Ад гэтага думкі яшчэ больш блыталіся. Зазвінеў станцыйны звон.

— Вам пара ўжо ў вагон...

— Не, не! Паспею яшчэ. Я развітваюся сёння з вельмі добрым сябрам. З вамі, Вера...

— Ідзіце, ідзіце, я пастаю яшчэ на пероне, — сказала яна ціха і задуменна. — Прыедзеце дахаты... Клопаты... Справы... Хоць напішыце...

— Ды што вы, Вера! Абавязкова напішу... Харошыя тут людзі. Зрабілі для мяне столькі... І потым... вы...

— Не трэба гэтага гаварыць, Пятро, не трэба. — Яна першы раз назвала яго так. — Калі прыдзецца цяжка, — напішы. Як сябру. Напішаш? Можа спатрэбіцца мая... увогуле наша дапамога. Вось табе адрас, асабісты, каб не забыўся...

Яна падала яму канверт і падштурхнула.

— Ідзіце, ідзіце. Апошні званок.

Поезд крануўся з месца. Пятрусь ускочыў на прыступкі.

Прыціснуўшыся да акна, ён яшчэ намагаўся адшукаць вачамі сінюю сукенку Веры. Знайшоў яе не адразу. Поезд набіраў хуткасць, станцыйны будынак праплыў за акном, і толькі тады ён убачыў Веру. Яна нешта гукала яму, ён доўга бачыў яе хустку сярод стракатага натоўпу...

Пад'язджаючы цяпер да роднага горада, Пятрусь прыгадваў падзеі тых дзён да самых нязначных дробязяў. І чым больш было іх, тым больш яны хвалявалі. Яму здалося, што ён нават бачыць Веру: яна стаіць на пероне ў сіняй сукенцы з белай хусцінкай у руках і нешта яму гаворыць.

У калідорчыку перад тамбурам было душна. Крыніца доўга поркаўся, намагаючыся апусціць акно. Нарэшце яму ўдалося гэта зрабіць: цяжкая рама слізганула ўніз, і ў калідорчык уварваўся свежы, вільготны вецер.

Пярэстыя ў водсветах святла, што падала з вокан вагонаў, мільгалі тэлефонныя слупы, вырасталі няясныя абрысы хмызнякоў, далеч хавалася ў цемры. Недзе там, за гэтай цемрай, пачынаўся лес, які падступаў да берагоў Дзвіны. То былі знаёмыя, блізкія сэрцу мясціны. І ўпершыню за доўгія месяцы Петрусю захацелася спяваць, паляцець хутчэй наперад, абганяючы цягнік...



Духмяны вецер біў пругкімі хвалямі ў твар, і хлопцу здалося, што гэта не цягнік, а ён сам, раскрыўшы крыллі, ляціць у чорную далеч, дзе мігцяць і загадкава мрояцца рэдкія, кволыя агеньчыкі.

## 7

Восенню Марфу адолелі сны. Неверагодныя, страшныя. Параілася з Тэкляй. Тая з сур'ёзнасцю, якая заўжды супакойвала Марфу, заявіла, што гэта ідзе ад слабой веры ў бога.

Цішком ад дачкі Марфа пачала хадзіць у царкву, павесіла ў куток маленькую ікону. Малілася. Але сны не праходзілі. Сніліся па-ранейшаму нейкія загадкавыя людзі, якія капалі ля хаты яму.

У суботу зноў запрасіла на вячэру Фурса. Пасля той гаворкі пра разлік Марфа супакоілася — ёй здалося, што ён ёй паверыў.

І яшчэ адну хітрасць прыдумала Марфа. Заўважыўшы, што Фурс робіцца лагоднейшым у прысутнасці Нэлі, яна па-свойму рашыла: няхай увіхаецца, крыўды ад гэтага не будзе. У душы яна сур'ёзным жаніхом Фурса не лічыла: выконвае толькі абавязкі інжынера, прытым — беспартыйны. Другі чалавек быў на прыкмеце ў Марфы — Ласуха! О, то зяць! Дырэктар маслазавода! Чалавек з вышэйшай адукацыяй. Кажуць, яго хутка возьмуць у Мінск! Гэта зяць!

Нэля пакуль што нічога не ведала пра матчын намер. Яшчэ здалёк, падыходзячы да хаты, яна ўбачыла ва ўсіх вокнах святло і з непрыемнасцю падумала: «Зноў святкуюць. Сцяпан усё».

Свайго вотчыма Нэля не любіла. Ён адчуваў гэта. Цвярозы, Сцяпан амаль не размаўляў з ёю, а выпіўшы, падміргваў і казаў:

— Злуешся, дачушка. Пачакай, вось жаніха табе знайду. Век дзякаваць будзеш...

Нэлі гэта не падабалася. Неяк яна сказала пра ўсё маці. Тая супакоіла:

— Сцяпанка чалавек не благі. І не чужы. Хай не родны, але ж бацька. А што пасядзіць з таварышамі — бяды вялікай: мужчынская справа...

Увайшоўшы цяпер у хату, Нэля пачула, як у вялікім пакоі Сцяпан выводзіць: нястройна, сіплавата:

«Цячэ вада халодная
З-пад кора-ааня ду-ууба-ааа!..»

Вешаючы плашч, прыслухалася. Песня сціхла. Узнікла гаворка. Чуліся незнаёмыя галасы.

— Дзве часткі трэба прызначыць Сцяпану. Яму за пагрузку. Гэта ж нешта каштуе...

— Каштуе. Ніхто не пярэчыць.

— Годзе! Давайце лепш песню. Люблю!

— Спачатку вып'ем. За поспех!

Прайсці незаўважна ў свой пакойчык было цяжка. На кухню выйшла маці. Спытала:

— Нешта ж прыпазнілася сёння?

— Зноў пачалося? Калі гэта кончыцца...

— Цішэй, цішэй,— Марфа строга паглядзела на дачку.— Людзі ж там...

У пакоі загрукалі крэсламі.
— Хто прышоў? — Сцяпан адчыніў дзверы і, убачыўшы Нэлю, узрадаваўся:— Го-ооо! Жанчыны змову вядуць...
Сцяпан быў п'яны. Ускудлачаныя валасы звісалі няроўнай грывай. Нахіліўся да Нэлі, зашаптаў:
— Хадзем, пазнаёмлю. Чалаве-ек! Адны ўзнагароды...
Нэля ўвайшла ў пакой. З краю стала сядзеў мужчына дробненькі з твару, з рэдкай чупрынай, старанна ўкладзенай вакол прыкметнай лысіны. Нэля ведала яго — гэта рахункавод вінзавода Глушэня. Ля яго — Фурс з прыгожай і нестарой яшчэ жанчынай. Па другі бок стала сядзеў невядомы мужчына.
Фурс ускочыў першы, тэатральным жэстам пачысціў насоўкай крэсла:
— Дазвольце запрасіць вас да нашай... ік!..
Яго раптам апанавала ікаўка, і ён сказаў апошняе слова з цяжкасцю, за некалькі разоў.
— ...вя-яч-чэры.
Гэта развесяліла ўсіх. Чалавек, што сядзеў на другі бок стала, таксама засмяяўся і павярнуўся да Нэлі. Яна ўбачыла яго, і ў яе міжвольна задрыжалі рукі. «Фама! Фама Ласуха! Адкуль ён тут?»
Нэля пазнаёмілася з ім у Ташкенце. Яна заканчвала тады інстытут. Ласуха прыехаў у горад па камандзіроўцы. Яны пазнаёміліся на вечары ў яе сяброўкі. Хадзілі ў кіно. Тыднем пазней, у рэстаране, дзе яны трохі выпілі, ён прызнаўся ёй у каханні. Пасля праводзіў з гулянкі. У яе дужа балела галава. Ён пачаў цалаваць яе. Баронячыся, Нэля закрычала і ўцякла. Ласуха пасля таго выпадку знік. Потым яны бачыліся яшчэ адзін раз, і ён сказаў, што развітваецца, але не назаўсёды.
Ён глядзеў цяпер на Нэлю, і ўсмешка расплылася на яго твары. «Бачыш, я казаў. Вось і праўда—сустрэліся. Але давай захоўваць нашу тайну. Мы — незнаёмыя. Я бачу, табе так хочацца».
Нэля сапраўды не хацела, каб маці бачыла, што яны сустракаліся раней. Яна намагалася схаваць сваю збянтэжанасць. Старалася і бачыла, што нічога не застаецца па-за ўвагай нечаканага госця. Ён мала змяніўся за прайшоўшы час. Карычневы касцюм. Тры рады медалевых планачак. Рукі жаночыя, мяккія, з тонкімі пальцамі. Нэля паціснула іх і адышлася, села на крэсла, што прапанаваў Фурс.
— Маю тост, — сказаў ён яшчэ і разліў віно па кілішках.
— Мы абавязаны проста і сціпла выпіць за жанчын. Яны прыносяць нам радасць у жыцці...
Фурс паклаў папяросу на край талеркі. Кладучы відэлец, ён закрануў папяросу рукой, і яна звалілася ў агурковы рассол. Фурс, грэбліва адтапырваючы губу, выцягнуў недакурак відэльцам і падсеў бліжэй да Нэлі. Запытаўся:
— Кажуць, выходзіце замуж? Калі не сакрэт, то хто гэты шчаслівчык?
Марфа завяла патэфон. Слухаючы бадзёрыя гукі полькі, Нэля апаліла Фурса гуллівым позіркам:
— Замуж? Не, да гэтага яшчэ далёка...
— Чаму, калі не сакрэт?
— Хочацца павесяліцца. Вучылася ж столькі. Замужжа — канец волі!
— Разумна. Аказваецца, вы — перадавая жанчына.



— Вы позна заўважылі гэта.
— Лепш позна, чым ніколі, як сказаў адзін дзівак, што паклаў галаву на рэйкі, калі цягнік прайшоў. Ён хацеў скончыць жыццё самагубствам.
Нэля пырснула ад смеху. У яе вачах зноў паявіўся гуллівы бляск.
— Хадземце танцаваць, — прапанаваў Фурс. — Полька канчаецца...
Нэля пайшла з Фурсам танцаваць і ўвесь час намагалася ў напускной весялосці схаваць непрыемнае пачуццё, выклікане сустрэчай з Ласухай. Калі яна, адпачываючы, сядзела на канапе, да яе падышоў ён і запрасіў на вальс.
Танцавалі яны нядоўга. Ласуха зашаптаў: «Кахаю. З таго разу пакахаў. На ўсё жыццё». І пацалаваў. Яна гадліва адхіснулася. Ласуха пацалаваў яе яшчэ раз, і гэта бачылі ўсе. Яна штурхнула яго, і Ласуха, не ўтрымаўшыся на нагах, пахіснуўся і ўдарыўся аб шафу.
— Дачушка! — войкнула Марфа.— Ці ж у розуме ты?..
Фурс прагнымі вачыма наглядаў за ўсім гэтым. Ён зарагатаў, узнімаючы кілішак:
— Хлеба і відовішч,— як патрабавалі ў старажытным Рыме! За харошых рымлянак! Ваша здароўе, Нэля!
Яна кінулася за дзверы. Марфа пабегла ўслед, дагнала ў бакоўцы, схапіла за плечы.
— Ведаеш, што ты нарабіла? Гэта ж ганьба на ўвесь горад...
Нэля маўчала, камечачы ў руках хусцінку. Злосць падкатвала да сэрца.
— Адчапіцеся ад мяне!
— Адчапіце-еся? Ты гэта з кім гаворыш? Га? Чалавек, калі ты хочаш ведаць, у сваты прышоў. А яна?! Ты не ў лесе гадавалася?..
Нэля нервова тузнулася.
— Жаніхі, жаніхі! Абрыдла! Толькі і чуеш адно... Дурніца я, ці што?



— І разумная не вельмі. У чалавека адукацыя. Пасада якая! Каго ты чакаеш? Крыніцу свайго?

Упершыню пачула Нэля прозвішча Петруся ад маці. Дзяўчыне захацелася даведацца, што думае маці пра яе адносіны з Петрусём.

— А чаго не пачакаць? Можа ён не з такой яшчэ пасадай вернецца!— Нэля абыякава дадала:— Ты ж сама хацела, каб я за вайсковага замуж ішла. А чым ён не вайсковы? Увесь фронт прайшоў. Узнагароджаны.

Марфу раззлавала гэта. Яна ўедліва кінула:

— Ты нічога не ведаеш, дык у людзей спытайся. Ён даўно на нейкай доктарцы са шпіталю ажаніўся.

— Няпраўда гэта!— Нэля нервова ўскочыла з канапкі. Яна не чула, як выйшла з бакоўкі маці. Свет зрабіўся для яе абыякавы. У галаве мітусіліся бязладныя думкі. «Ажаніўся Пятрусь... Не, плёткі! Няўжо праўда? Што гэта яны там спяваюць за сцяной? «Цячэ вада халодная»... Чаму халодная? А Сцяпан зусім сіпіць. Не, тут спакою не можа быць. Трэба пайсці адсюль. Можа не будзе балець галава? Пайду...»

Ноч патроху канала. Бралася на світанне. Нэля ішла, не зважаючы, куды вядуць вуліцы. Старалася не думаць пра матчыны словы, а яны звінелі ў вушах, гнялі сваім цяжарам. «Пятрусь ажаніўся? Хлусня! Ён жа нядаўна прыслаў ліст, і кожнае слова поўна шчырасці. Колькі зорак на небе... Як гэта пра іх казаў Фурс? Нейкае дзіўнае ў яго імя: Леапольд. Нават нейкае загадкавае, вымаўляеш яго, быццам новы вальс бярэшся танцаваць. А Пятрусь не любіў танцаў. Чаму?»

Яна спынілася на скрыжаванні вуліц. Прыгадалася казка, што чула ў дзяцінстве. «Направа пойдзеш — бяду знойдзеш. Налева звернеш — шчасце напаткаеш...» Перасмыкнулася: «Якое там шчасце? Пайду проста».

Уперадзе замільгалі агеньчыкі станцыі. Будынак вакзала — даваеннае багажнае аддзяленне — быў скупа асветлены. Нэля ўзышла на перонную пляцоўку і адразу ж адчула, што ўсе клопаты адляцелі, як адлятае на вятры дым у цягніку.

Нэля любіла ездзіць на паяздах. Бомкне станцыйны звон, завядуць сваю песню цяжкія колы, і новыя, не знаёмыя дагэтуль мясціны, паплывуць за акном — дарогі, па якіх ніколі не хадзіў, вёскі, у якіх ніколі не быў, невядомыя лясы і рэчкі.

І яшчэ ёй падабаліся вакзалы, мітуслівая заклапочанасць пасажыраў, што носяцца па перону, крычаць, спрачаюцца. Часам яна спрабавала ўявіць сабе гісторыю тых людзей, чые твары бачыла на пероне, і кожны раз зайздросціла ім, бо трымала ў сваім сэрцы мару: пападарожнічаць па ўсёй краіне, нічога не рабіць і ўсё глядзець з акна вагона, усміхацца новым людзям, распытваць іх пра жыццё і ехаць усё далей і далей.

На пероне пахла мазутам і вугальным гарам. Бліскучыя рэйкі выпаўзалі з цемры, і на іх тлустай паверхні, быццам на хвалях ракі ўночы, скакалі водбліскі ліхтароў. «Як тады на рацэ, калі ехалі з Петрусём. Першы раз...» Яна прыгадала тую сустрэчу, трохі дзіўную і незвычайную...

Тады была нядзеля. Яны пайшлі з сяброўкамі на Дзвіну па чаромху. Ля Чорнага ручая — кіламетры са два ад горада — яе было шмат. Сяброўкі хутка вярнуліся ў горад, а яна засталася ля рэчкі. Сядзела на ўзгорку, марыла. Потым непадалёк пачулася песня, спяваў нехта. Нэлі вельмі спадабалася гэтая песня: яна нечым вабіла і хвалявала.

Нэля пайшла на голас. Крыху прайшоўшы, яна спусцілася па касагору, расхінула вецце вербалозу і ўбачыла хлопца. Ён сядзеў на чаўне, боўтаў нагамі ў вадзе і спяваў. Адчуўшы, што на яго глядзяць, ён азірнуўся і сустрэў яе позірк сарамлівай усмешкай. Разгубленасць у яго хутка знікла, ён выбраўся на бераг, убачыў у яе руках букет чаромхі і пажартаваў:



— Такія цудоўныя кветкі. Можа рыбаку за стараннасць адну падаравалі б?

Твар Нэлі зрабіўся строгім, а вочы пагардліва ўспыхнулі. Яна хацела сказаць нешта злоснае, колкае, але замест гэтага міжволі крыкнула:

— Ой, паглядзіце!..

Па вадзе рухава мітусіліся паплаўкі. Ён кінуўся да чаўна, схапіў вудзільны. Паплаўкі мільганулі ў паветры і заблыталіся ў вербалозах...

Яны пазнаёміліся. Удваіх нажывулялі вуды і сядзелі моўчкі. Рыба не бралася, і Пятрусь прапанаваў пакатацца на чаўне.

Па рацэ плылі белыя пялёсткі чаромхі. Нэля глядзела на іх і думала... Хто ведае, з якога дрэва зляцелі гэтыя пялёсткі? Куды плывуць? Хто сарваў іх? Можа вецер, што паляцеў удалячынь і цяпер, надвячоркам, заснуў, можа закаханыя марылі пра нешта і пускалі на ваду лёгкую чаромхавую бель?..

Нэлі здалося, што гэтага хлопца яна ведае даўно, што сустракалася з ім ужо шмат разоў. Пятрусь узмахнуў вёсламі, човен ірвануўся наперад і зноў вольна аддаўся плыні. Заходзіла сонца. Над вадой узнялася лёгкая шэрань. Заспяваў салавей. Ёй хацелася паслухаць яго зблізку. Пятрусь паслухмяна павярнуў човен, кіруючыся ў вузкую пратоку, што глыбока ўразалася ў бераг — і човен зашкроб дном прыбярэжны жвір. Нэля лёгка саскочыла з чаўна, узбегла на высокі бераг і спынілася ля чаромхі.

— Хадзіце сюды!

— Цішэй, цішэй! Паразганяеце!

Ён падышоў да яе, моўчкі стаў побач. Уся пратока ў гэтым месцы густа зарасла чаромхай. Дрэвы цвілі, разносячы ў паветры пахі густы, п'янкі пах мёду. З пратокі, праз чаромхавы гушчар прабіваўся рэдкі туман, і ад гэтага зараснік, нібы белы дыван, злёгку гойдаўся...

Як далёка цяпер усё гэта!

Вось запаліліся дзве нерухомыя светлыя плямкі. Яны ярчэлі, набліжаліся. Загадкава загулі рэйкі. Абдаўшы асфальт яркім святлом, выскачыў з цемры чорны, разгарачаны паравоз. Нэля адчула на твары подых машыны, і ёй здалося, быццам на пероне крыху пацяплела. Рыпелі тармазы, бразгалі і заціхалі вагоны, паравоз чмыхаў параю, уздыхаў, нібы скардзіўся людзям, якіх прывёз: «Злазьце хутчэй, мне цяжка».

Густы натоўп запоўніў перон. Людзі смяяліся, гаманілі, нечага шукалі. Нэля адчула ўстрывожанасць, нібыта яна прыйшла некага сустракаць. Яе штурхалі з усіх бакоў, але яна ўпарта ішла наперад, не звяртаючы ўвагі ні на што і прагна ўглядалася ў твар кожнаму стрэчнаму. Сэрца, растрывожанае ўспамінамі і прадчуваннем чагосьці незвычайнага, білася гулка і таропка; тонка звінела ў вушах, і думкі беглі навыперадкі—мітуслівыя і трывожныя. «Вось так калі-небудзь прыедзе Пятрусь... Ой што гэта? Мроіцца?..»

З апошняга вагона сышоў на перон Крыніца. Ён быў у шынялі і здаваўся вельмі даўгім ад святла ліхтароў. Ён ступіў на асфальт і моўчкі ўглядаўся ў твар Нэлі, якая падбегла ўжо да прыступак.

— Можа памыляюся? Можа...



Нэля глядзела на яго, адчуваючы, што нейкі вялікі і шурпаты камяк перасеў у горле. Басавіта гукнуў паравоз. Ён нібыта падштурхнуў Нэлю, яна кінулася да Петруся і прыціснулася тварам да шыняля.

8

Вайсковая звычка — спаць некалькі гадзін у суткі і ўставаць у вызначаны тэрмін. Кладучыся на світанні, Пятрусь загадаў сабе: устаць а сёмай гадзіне. І цяпер, прачнуўшыся і зірнуўшы на гадзіннік, што стаяў на маленькім століку пры ложку, ён задаволена заўважыў: «Не адвык».

Сон яшчэ трымаў яго. Хацелася заплюшчыць вочы, паляжаць крыху. «Нельга. Паляжыш — і заснеш зноў. Уставай, браце!»



Ён хутка, па-вайсковаму, падняўся. Пацягнуўся па боты. На тым месцы, дзе паставіў іх, кладучыся адпачываць, стаялі тапкі. Узяў у рукі і адразу пазнаў: «Даваенныя, мае!» Разглядаў утульныя цёплыя пантоплі, дзівячыся таму, што яны захаваліся. Ён не ведаў, што маці ўсю вайну берагла гэтыя старэнькія, пашытыя з крыса старога бацькавага шыняля пантоплі.

Яго апанавала любасць да маці. «Дзе ж гэта яна?» Матчын ложак, што стаяў у кутку, завешаны даматканай посцілкай, быў пусты. Пятрусь ускінуў ручнік на плячо і пайшоў на кухню. Дзверы былі няшчыльна прычынены, і з кухні далятала гаворка жанчын. Адзін голас быў трохі сіпаты, быццам прастуджаны.

— Во, цяпер ажыве старая!

— Якая помач? Сам бязрукі.

— Затое, мабыць, пры грашах...

— Дзе там. Адзін чамадан прывёз, ды мяшочак салдацкі.

— Ну, не так што і салдат. Сержант жа!

Яму зрабілася смешна, але на вясёлы і добры настрой, з якім Пятрусь прачнуўся, лёг нейкі цень.

Маці была на падворку. Выцягнуўшы вядро са студні, яна ішла, ціхая, задуменная, не зважаючы, што вада льецца на зямлю.

— З поўным сустракаеце! Добрай раніцы, мама!

— Ты ўжо ўстаў,— сказала яна з папрокам. — Няхай бы яшчэ паляжаў...

— Досыць! Наляжаўся.

Пятрусь узяў у яе вядро. Тонкая дужка рэзала далонь. «Трэба будзе асаду на ручку набіць драўляную»,— падумаў ён, стаўляючы вядро на бярозавы кругляк.

— Можа кварта якая ёсць? Тут памыюся...

Ён пачаў прысядаць, схіляцца то ў адзін бок, то ў другі. Сцепаніда выйшла на двор з конаўкай і сумнавата, насцярожана сачыла за ім. Пятрусь прыкмеціў гэта.

— Урач наш у шпіталі казаў: раніцай — гімнастыка. Штодзень. Сто год пражывеш.

— Калі доктар казаў — рабі. Толькі глядзі, не прастудзіся. Холадна неяк...

— Нічога! Загартаваліся!

У апошнія дні лячэння ў шпіталю Пятрусь займаўся гімнастыкай з асаблівым імпэтам. Некаторыя паглядалі на яго з дрэнна схаваным жалем і цікавасцю. Нешта падобнае прамільгнула ў вачах маці. У шпіталю ён злаваўся на тых. Цяпер жа ў ягоным сэрцы варухнулася пяшчотная замілаванасць да маці: «Эх, мама, мама! Цяжка табе!»

— Во добра!— ён узяў з матчыных рук конаўку — медзяную і вялікую, як жбанок. — З такой я хутка ўпраўлюся...

Крыніца з вялікай асалодай абліваў плечы вадой. Знікала санлівасць, вярнуўся бадзёры настрой. Прышоў ён у пакой узрушаны і вясёлы.

— Ну, мама! Давай снедаць!

Ён зазірнуў у матчыны вочы і не ўбачыў у іх радаснага бляску. Яму раптам зрабілася крыху няёмка за сваю бесклапотнасць і весялосць. Колькі нагаравалася яна за гэтую вайну! А колькі клопатаў я ёй даў! Яна вунь якая зрабілася.

Да радаснага настрою далучылася нейкая туга, што зноў выпаўзла з патаемнай схованкі, балюча кранаючы сэрца. Ён разумеў, што маці пакутуе, але маўчыць, хавае свой жаль і смутак. «І ты хавай! Навошта на-

заляць сваімі думкамі. Гора ёй хапіла, і ты павінен берагчы яе». Ён раптам убачыў, што ў маці выцвілі вочы і адбітак стомленасці асеў у іх, што твар змізарнеў, завастрыўся, але быў нейкі светлы. «Гэта ад таго, мусіць, што валасы пасівелі».

Цяпер ён глядзеў на маці і бачыў, як згорбілася яна і была яму толькі па грудзі; старое плацце — усё у латках, пакладзеных спадысподу, каб не так кідалася ў вочы. Пятрусь прыгарнуў схуднелыя матчыны плечы, пацалаваў пасівелыя валасы і сказаў, стараючыся прыдаць больш бадзёрасці сваім словам:

— Вось што, мама! Ты сваю працу кідай. Напішы заяву і ўсё. Пакуль я жывы, працаваць са сваім здароўем ты не будзеш! Хопіць.

— Мая праца не цяжкая. Што нам, грошы пашкодзяць?

— Хопіць нам грошай. Заробім. Пакуль галава ёсць...

У дзверы пастукалі. Сцепаніда адразу здагадалася, што ідзе Тарас: ён заўсёды стукае так моцна. Ранкам, калі Пятрусь спаў, Сцепаніда праз Марылю наказала Тарасу прысці. Цяпер ён — шырокі і высокі — уваліўся ў хату, гукнуў радасна, на ўвесь голас:

— Рыгораўна! Чаго хаваеш чалавека ад людзей? Дзе ён, армеец твой?

Святло з вокан біла ў вочы Тарасу, і ён не адразу заўважыў Петруся, які сядзеў на лаве ў прасценку. Пятрусь устаў і пайшоў яму насустрач, хацеў пажартаваць, але не ўтрымаўся і кінуўся да Красантовіча ў абдымкі.

— Дзядзька Тарас!

Той схапіў яго, закруціў.

— Калі прыехаў?

— Раніцай...

І яны зноў абняліся.

Пасля снедання Сцепаніда заспяшалася ў краму. Пятрусь напомніў:

— Напішы ім заяву. Чуеш, мама!

— Добра, добра. Потым...

Да паўдня Пятрусь праседзеў з Тарасам, пасля пайшлі аглядаць горад. Тарас паказваў, дзе што адбудавана, запрашаў да сябе ў госці. Крыніца запярэчыў, пачаў адмаўляцца, абяцаў прысці ў нядзелю, але Тарас насядаў:

— Пойдзем, пасядзім, пагаворым. Чаго там дома аднаму тырчэць?

Ён раптам засмяяўся, падміргваючы:

— Праўда ж, табе няма калі. Што табе Тарас? Дзяўчына чакае...

Крыніца сапраўды меў намер пайсці да Нэлі. Да той радасці, што апанўвала яго з ранку, дадавалася яшчэ адна: радасць чакання. Тое, што сказаў Тарас, не спадабалася яму.

— Гэта ўжо мая справа...

— Ото-то-то! — міралюбна перабіў яго Тарас.— Вольны казак, рабі, што хочаш. Толькі май на ўвазе: чалавеку, якога мала ведаеш,— вялікай веры не давай. Ты лепш адкажы: пойдзеш да мяне ці не?..

— Ну, хадзем!

На Задзвінне, дзе жыў Тарас, яны дабраліся хутка. На пераправе пашчасліваіла: паром адплыў, ледзьве яны ступілі на хісткі дашчаны насціл. На рацэ ляжалі ў вадзе разарваныя выбухам фермы чыгуначнага маста і побач з імі свяціліся пралёты новага: па мосце марудна поўз эшалон.

— Дык вось, браток. Усё трэба будаваць, уздымаць. Колькі гадоў спатрэбіцца!..



Крыніца, аглядаючы горад, маўчаў. Каменныя груды спаленых будынкаў глядзелі на раку чорнымі пустымі вачамі вокан. Паром паволына плыў па вадзе. Невялікія хвалі пеніліся, расступаючыся перад ім.

— Ты разумееш, думка такая прышла,— сказаў Пятрусь, паглядаючы на горад.— Вось дом... Спалены дом. Яго можна адбудаваць за месяц. А колькі ж часу патрэбна, каб выгадаваць чалавека, навучыць яго будаваць гэты дом? Праўда... Вунь колькі дамоў спаленых. А дзе гаспадары іх?.. Ішлі праз горад, і я нідзе не сустрэў знаёмых...

— Знойдзеш знаёмых, пачакай! Цяпер не тое, што да вайны: на вуліцах не шпацыруюць...

Тарас памаўчаў і дадаў, па-ранейшаму гледзячы на хвалі, што цяпер узбуйнелі і выгіналіся за паромам белымі грабянямі:

— А пра чалавека ты правільна. Колькі сродкаў трэба патраціць, каб ён стаў дарослым? Нашы маткі лепш гэта ведаюць.

У Тарасавай зямлянцы, куды яны прышлі праз паўгадзіны, было крыху цеснавата, але ўтульна. Супраць печкі стаяў ложак, засланы вайсковай коўдрай. Ля вузкага акенца размясціўся зграбны столік, на якім ляжаў разгорнуты часопіс, побач — папера і чырвоны аловак. На сцяне вісеў даваенны фотаздымак жонкі і дачкі. Крыніца адразу ж апусціў вочы — не хацеў, каб Тарас убачыў ягоную цікавасць, і абыякава спытаўся:

— Хваліся, як жывеш, гаспадар! Што маеш?

— Так вось і жыву,— паказаў Тарас вакол сябе. Ты ж ведаеш, адзін я...

Ён спахмурнеў, закурыў. Сінявы дымок папоўз да акна, нібы хацеў хутчэй пабачыць сонца.

— У працы ратунак толькі,— дадаў ён яшчэ і спыніўся ля століка, прыкідваючы, чаго на ім нехапае. — Колькі дамоў пабудаваў! Глядзіш — людзі наваселле спраўляюць... А прыгадаеш, што і твае маглі б вось так... Усё нутро сціскаецца. Цяжка...

Крыніца моўчкі сачыў за тым, як Тарас збірае на стол скупы мужчынскі абед, расстаўляе пляшкі. Чым мог паспачуваць яму Крыніца? Ён сам яшчэ нядаўна блукаў у змрочным карагодзе супярэчлівых думак, вагаўся, шукаў упірышча ў жыцці, каб не зваліцца, каб жыць. Сябры дапамаглі яму. Ён ведаў гэта. І яшчэ ведаў ён, што час гоіць самыя глыбокія і страшныя раны.

9

Марфа чакала гасцей.

Яна сядзела на мяккай канапе, глядзела ў акно, за якім церушыў дождж. Кроплі паўзлі па шыбах і звілістым ручаём сцякалі ўніз.

Думкі былі няясныя, трывожныя. Фурс настойліва патрабуе, каб дабудоўвалася другая палавіна хаты. А як? Краму трасуць рэвізоры, і на мінулым тыдні прышлося паўтары тысячы выкласці з уласнай кішэні. Усім казала: апошнія грошы. Цяпер, калі возьмешся дабудоўваць, людзі што падумаюць? А Фурсу што? Яму грошы. Грошы ёсць, але ж шкада іх аддаваць. Во, каб у Фурса не было той паперкі! Адразу памякчэў бы і ўвогуле можна нічога не плаціць. Паспрабуй, давядзі, што я табе вінна! Няхай сто суддзяў сядзіць — чысты! І ўсё!

Канешне, не дужа хочацца, каб гэтыя суддзі ўмешваліся. Але ж жыццё вялікае — усё можа быць! Яго пражыць — не лыжку мёду з'есці.

Цяпер новы клопат — дачка. Нешта яна з Крыніцамі павялася. Ці ж не дурная! А той, вядома, на хату цэліць. Бач ты, выжла бязрукая...

За акном прайшоў чалавек. Марфа кінулася да фіранкі. «Хто ж гэта? А-аа, Сцяпан цягнецца».

Сцяпан з'явіўся на парозе змоклы і сярдзіты, з грукатам зачыніў дзверы і сказаў:

— Да раніцы задажджыла, ліха на яго. Фурс з Ласухай, мабыць, спозняцца.

Няроўнымі крокамі змерыў усю кухню, стаў ля прыпечка, атрос пінжак, павесіў яго на ўмывальніку. Потым прысеў да стала, спытаўся:

— Чаго ты маўчыш?

Сцяпан быў настроены ваяўніча. Спакойны і паслухмяны, ён рабіўся рашучым і гаваркім, калі вып'е. У такія гадзіны Марфа яго нават пабойвалася і не чапала, але пасля гэтага цвярозым камандавала з яшчэ большай жорсткасцю. Цяпер Сцяпан быў пад добрай чаркай. Увесь твар яго аж свяціўся: пачырванелыя вочы блішчэлі, а нос — тоўсты, падобны на добрую дулю ўвосень — набрыняў такой густой чырванню, што кропелькі дажджу, якія затрымаліся на ім, паружавелі. Дастаючы папяросы з кішэні, засоп:

— Я пытаюся, а яна — маўчыць... Не інакш аб зяцьку клопат! Петрусёк на ўвазе!

Марфа глядзела ў вочы мужу, быццам выпрабоўвала яго. «Вось ты гаворыш мне, а я маўчу, бо разумнейшая за цябе. Ну што ты скажаш на гэта... Пачакай жа, працверазішся!..»

На ёй быў стракаты і даўгі халат. Пашыты з фасоністымі пакручастымі складкамі, але дужа замусолены, ён нечым нагадваў гаспадыню — тоўстую, з падбрытымі брывамі і ярка чырвонай фарбай на губах. Апошнія словы Сцяпана вывелі яе з раўнавагі.

— Вочы мае лепш не бачылі б яго. Ці ж такога зяця я хацела?

— А што? Абрабаваў ён каго ці забіў?

— Во дурань п'яны, — Марфа спалохалася, што залішне абразіла мужа і паспешліва загаварыла: — Не ў тым справа, Сцяпанка. Навошта ж Нэлька вучылася столькі? Каб з невучоным жыць? Даўней казала і цяпер кажу, пакуль за розум не возьмецца...

Сцяпан прысвіснуў.

— Вунь куды панесла... Людзі гавораць, што чалавек ён не благі. Галаву на плячах мае...

— Людзі? Што мне людзі! Мне ж не лягчэй ад гэтага. А ён... Ну, скажы, Сцяпанка, хто ён? Ні пасады добрай, ні выгляду мужчынскага. А мая дачка вышэйшую адукацыю мае. Што яна, раўня яму?

— Мабыць, кахае. Кажуць: не бяда, што чорна, абы была праворна...

— Каханне-е-е,— працягнула Марфа, і голас яе змяніўся на шэпт: у суседнім пакоі адпачывала Нэля, якая нядаўна прыйшла з працы: — Я гэтаму каханню рады дам. На што хочаш пайду, але на сваім пастаўлю: дыму ад яго не застанецца!

І раптам зразумеўшы, што сказала лішняе, лагодна папрасіла:

— Ты ж глядзі, Сцяпанка, гэта між намі. Я пажартаваць люблю. Ведаеш...

— Мая справа старана...

За акном пачуўся гоман. Сцяпан устаў неахвотна, паціраючы шыю.

— Цягнуцца... Збірай вячэру...



У пакой увайшоў Ласуха. За ім, быццам крадучыся, укаціўся Фурс. І адразу да Марфы:

— Гаспадыньцы — наша прывітанне.

Марфа сустрэла гасцей ласкавымі воклічамі: «Ах, пазмакалі зусім». Яна ветліва ўсміхнулася Ласуху, і на твары ў яе разлілася замілаваная пяшчотнасць. О! Гэта зяць! Можна ганарыцца. Не сорамна і на людзі выйсці. Дырэктар. А Фурс?.. Ну, што Фурс... Згуляецца вяселле дачкі, уладкуецца справа з хатай і калі ласка, ад варот — паварот. Пакуль жа трэба выкручвацца.

— Праходзьце, даражэнькія!

І яшчэ раз запрасіла:

— Калі ласка! Гасцям у нас заўсёды рады. Сцяпанка, правадзь у залу!..

Марфа пайшла ў пакой дачкі.

— Вось і разумніца. Апранулася. Госці да нас прышлі. Дырэктар таксама. Глядзі, уважней будзь...

Нэля паглядзела на гадзіннік і цвёрда прамовіла:

— Не хачу туды ісці.

— Ат, сама ты не ведаеш, чаго хочаш,— прагаварыла маці. — Нічога з табой не здарыцца, калі і пасядзіш гадзінку. Чуеш, што кажу? Такі мужчына!

І заспяшалася да гасцей. Пайшла ўсміхаючыся, не зачыніўшы за сабой дзвярэй.

## 10

У сераду Пятрусь зноў сядзеў ля Тарасавай зямлянкі. Размаўлялі аб справах. Ён слухаў парады і меркаванні Тараса, а сам думаў пра іншае. «Адпачну. Потым ажанюся. Потым на працу. Можа разам і за вучобу. А мо' спачатку за вучобу, а потым на працу?»

Крыніцу браў одум. Тарас, відаць па ўсім, неадабральна ставіцца да яго сяброўства з Нэляй. Чаму? Спытаць? Няёмка. А можа гэта здаецца?.. А калі і не, што з таго? Я кахаю яе, і яна кахае... Яму не хацелася распытваць у другога, няхай сабе і блізкага чалавека, пра Нэлю. Мужчына павінен аб усім даведвацца сам — розумам і сэрцам.

Ён прыгадаў першую сустрэчу з Нэляй пасля прыезду ў горад: насцярожаную, недаверлівую, і развітанне — гарачы шэпт і пацалунак. «Ну, што мне яшчэ трэба? Усё ясна і так. Нэля, Нэля! Дзе ты цяпер, што робіш? Можа, гаворыш з вучнямі, ці ходзіш па калідоры і таксама думаеш. Пра мяне, можа, думаеш?..»

Хутка ён развітаўся з Тарасам. Яны дамовіліся, што заўтра Тарас прыдзе да Петруся. Крыніца пайшоў ад яго, несучы ў сваім сэрцы цвёрдую пераконанасць, што робіць правільна, звязваючы свой лёс з Нэляй.

Пераехаўшы паромам раку, ён пачаў узбірацца крутой сцежкай на замчышча. Падняўся і стаяў, аддыхваючыся. Расшпіліў каўнер кашулі. «Слабы яшчэ пасля шпіталю». І тут жа супакоіў сябе: «Але ж і гара, паспрабуй узлезці! Ад гэтага і сэрца зайшлося...»

Унізе блішчэла рака. Замчышча амаль навісала над ёй крутымі, зарасшымі палыном схіламі. Вежы высокія царкоўных муроў, абшарпаныя, абабітыя за гады вайны кулямі і снарадамі, нагадвалі маўклівых і строгіх вартавых, што ахоўваюць спакой гэтай ракі.

З пачуццём няяснай трывогі Крыніца аглядаў замчышча: тут дамовіліся яны з Нэляй сустрэцца. «Нешта ж позніцца. Час ёсць, пачакаю. Прыдзе!»

Ён прысеў на нізкі пяньчук, што застаўся ад дрэва, якое некалі расло тут. Глядзеў на Дзвіну. Ноч падплывала з захаду нячутна. Рака, здавалася, адпачывала пасля дзённай стомы і бруілася на перакатах лёгкімі хвалямі. З горада даносіўся вячэрні гоман.

Азірнуўшыся, Крыніца ўбачыў яе. Яна крочыла сцежкай праз замчышча. Ён ускочыў і пайшоў насустрач.

— Нэля.

— Я. Ты не заждаўся тут часам?

Ад яе ішоў ледзь улоўны пах нейкага віна і яблык.

— Нэля, Нэля! Нядобра пазніцца.

— Да нас Ласуха з Фурсам прыпёрліся. Ледзь уцякла я адтуль...

— Уцякла?

— Не магу з імі. П'юць і Ласуху нахвальваюць. Быццам бы я не ведаю яго!..

— А хто ён?

— Ласуха?.. Ну, як табе сказаць... Знаёмы наш. І толькі. Ды кінь ты аб ім...

Яны падышлі да месца, дзе толькі што сядзеў Крыніца. Сцяжынка бегла ўніз, бялеючы ў змроку. Сашчапіўшы рукі, Нэля паклала іх на плечы Крыніцы, шапнула:

— А ты харошы ў мяне. Чакаеш. На цэлую гадзіну прыпазнілася.

Ён прыгарнуў яе да сябе, адчуваючы, як пад тонкім плаццем б'ецца яе сэрца.

— Добра як, Нэля!

Хмары сплылі за вежы муроў, нясмела выглянуў з-за іх месячык, асвяціў наваколле і зноў схаваўся, быццам засаромеўшыся. Агеньчыкі за ракой гарэлі ярчэй.

— Ты памятаеш, як мы марылі пра наша шчасце да вайны?

— Памятаю, — Нэля яшчэ шчыльней прыціснулася да яго. — Ціха было, як цяпер. І месячык...

— І чаромха...

— На касагоры ля ручая. І салаўі спявалі. Паедзем, пабачым. У паромшчыка ёсць лодка, я сюды часта прыходзіла.

— Ты хочаш паехаць цяпер? Туды?

— Ага. І яшчэ хачу, каб у нас усё было, як і раней.

— Як і раней? Не, я хачу па-новаму каб... Мы ж разам!

Пятрусь павёў яе ўніз па сцяжынцы. Ён ні аб чым не думаў і толькі адчуваў, як па ўсім целе разліваецца бадзёрасць. Яны збеглі ўніз і спыніліся ля самай вады.

Паромшчык — порсткі маленькі дзядок — доўга бурчэў, спасылаючыся на позні час, але, атрымаўшы ад Петруся дзесятку, загаварыў ахватней. Ён пабег за будан і прынёс вёслы і бляшанку, каб выліваць ваду.

— Во, хаваю ад жэўжыкаў гэтых. Бо сцягнуць удзень...

Адплыўшы ад берага, яны пусцілі човен на волю хваль. Недзе ўперадзе плёснулася рыбіна, і гэты гук доўга вісеў над вадой. Аднекуль данеслася гаворка, прыглушаная адлегласцю. Начная птушка пранеслася над чаўном.

І ніхто не бачыў, куды паплыў човен. Ніхто не ведаў, дзе ён прыпыніўся...



11

Пра свой намер выйсці замуж за Петруся Нэля сказала маці ў суботу. Сказала і адразу ж пашкадавала. Не трэба было прызнавацца. Настрой жа ў яе дрэнны. Усё з-за гэтай крамы...

Марфа праглядала раскладзеныя на стале грашовыя рахункі і таму адмахнулася ад дачкі, як гэта заўжды рабіла, калі тая назаляла.

— Не дуры галавы. Потым пагаворым, потым! Бачыш, які непарадак у мяне.

Нэля пакрыўджана скрывіла губы і настойліва прытупнула нагой:

— Якая ты няўважлівая, мама. Рашаецца мой лёс...

— Які лёс? — Маці злосна пазірала на Нэлю.

— Мы дамовіліся з Петрусём пажаніцца. Я дала яму слова.

— Ужо?!

— Не разумею. Чаго злавацца?

— Не разу-умею! — залемантавала Марфа, падскочыўшы, затупала, забегала па пакою. — Чуеце, людзі! Яна не разумее! А хто павінен разумець? Што табе маці? Родная маці што табе, я пытаюся? Без мяне рашылі — без мяне і жаніцеся! Чаго ж ты ад мяне хочаш?..

А ў сэрцы бушавала лютае полымя. «Праглядзела! Цяпер як перарobіш? І стаіць жа, як слуп. Ні слязінкі няма. Зломіцца, а не здасца. Мая натура выпірае. Мая!..»

Нэля не плакала. Загадзя, у душы падрыхтаваная да такой гаворкі і зразумеўшы, што не памылілася, яна цяпер слухала маці са спакойнай упэўненасцю чалавека, які цвёрда верыць у сваю праўату. Сказала цвёрда, як гавораць аб справах, беспаваротна вырашаных і прадуманых.

— Навошта крычаць? Я выходжу замуж, мама.

— Ну добра, добра. Не будзе маці ні крычаць, ні плакаць, — Марфу спалохала ўпартасць дачкі. — Давай пагаворым. Ты ж адна дачка ў мяне. І мне не ўсёроўна, як выдаць цябе замуж і за каго.

Яна шукала на твары дачкі выразу душэўнай трывогі, хвалявання, а бачыла спакойныя вочы. Ведала б яна, колькі каштавала Нэлі ўсё гэта!

— Ты даруй мне, але я буду гаварыць проста. Хто такі Пятрусь? Давай разбярэмся. Франтавік? Добра. За гэта яму пашана. А далей? Адукацыі ў яго няма. Начальнікам ён не стане. Тады застаецца што? Чорнарабочым ісці, а за гэта найлепш трыста рублёў. А дзеці пойдуць, як пражывеце на гэты заробак?..

Нэля хацела нешта сказаць, але Марфа паклала ёй на галаву руку і пагладзіла па валасах.

— Выслухай спачатку. Мне ўсёроўна, за каго хочаш, за таго і выходзь, але матку паслухай спачатку. Паслухай. Цяпер мы возьмем цябе. Ты настаўніца. Адукаваная. Табе і муж патрэбен адукаваны. А то ж як? Вось прыходзіць свята. Сабраліся вы свае там, у школе. Трэба табе прысці з мужам. Вось пачаліся ў вас там размовы, ну, я не ведаю, якія там, ну... адукаваныя людзі знойдуць пра што пагаварыць. А пра што пачне гаварыць твой? Пра цэглу? Табе ж сорамна будзе. У вас жа з ім усё рознае...

— Я кахаю яго.

— Кахаеш! — Марфа дакорліва заківала галавой. — Дзіўная ты ў мяне, дачка. Каханне... А ведаеш ты, што ніякага кахання на свеце няма. Праўда, вось маці дачку кахае — гэта ёсць. А каб дарослы ды дарослага? Муж і жонка? Гэта ў кніжках толькі і то не ва ўсіх. Кожны ладкуе

сабе жыццё і гняздо. Калі мужчына ладны сабой, пры грашах, дык ён і жонку сабе шукае прыгожую. Прыгажосць — гэта таксама грошы. А бяднейшы хто — той багацей шукае. Ёсць у сям'і грошы — ціха, мірна жывуць. Няма — звяры. І грызуць адзін аднаго ўсё жыццё. Цікавасць, інтарэс — гэта ёсць. А кахання паміж жонкай і мужам, павер мне, не бывае...

— Мама, а жонкі дзекабрыстаў?

— Якіх гэта?

— Ну, яны супраць цара ішлі, а іх арыштавалі і ў Сібір выслалі. А жонкі кінулі ўсё і ў Сібір, за імі...

— Значыць, не было чаго кідаць. — Марфа пацёрла пальцам пад носам. — Ці можа ўсім паказаць хацелі: «бачыце, якія мы».

— Ха-ха-ха! Ну, мамачка, насмяшыла...

Нэля смяялася над матчынымі разважаннямі. Яна не ведала, што сумненні — маленькія нават, калі запалі ў сэрца і ты не вырваў іх парасткі, могуць жыць і расці.

Не ведала і смяялася, як смяецца бесклапотнасць маладосці над асцярожнай развагаю старасці.

Працяг будзе.

**Міхась КАРПЕНКА**

## ЗА РЭПАРТАЖАМ



На Нарачы вада наўкол шумела,
Шпурляла злосна трэскі, паплаўкі...
На сіверы маё дранцвела цела,
Міжволі пальцы гнуліся ў кручкі.
З прычыны той зацягваўся махоркай
Я — рэпарцёр газеты абласной,
Калі з рыбгаса па мяне маторка
Прымчалася пахмурнай раніцой.
Сядаю ў лодку з дзіўным хваляваннем,
І зуб на зуб не пападае аж...
Я маю
Неадкладнае заданне —
Прывезці для газеты рэпартаж.
На возеры сустрэўся з рыбакамі,
Нясмела неяк гутарку вяду.
Яны жартуюць... Голымі рукамі,
Здаецца, грэюць гэтую ваду.
Суровыя, раз'юшаныя хвалі
Затрымліваюць вёсламі яны...
На ветры
З рук маіх паперкі ўпалі,
Нібы пялёсткі ранняе вясны.
Аловак — прэч!
На нейкае імгненне
Успомніў я дзяцінства і сяло...
І ўжо адразу выпраміў калені,
І перасеў да хлопцаў, за вясло.
І нават сам здзівіўся ўласнай сіле,
Цягнуў аберуч з рыбакамі ўлоў,

Нібы яны мне рукі падмянілі,
Пералілі сваю мне ў жылы кроў.
Пісаў вяслом па хвалях са стараннем,
Так, як касец касою па расе...
Я быў упэўнены цяпер, што стане
Мой рэпартаж на першай паласе.



Алесь АСІПЕНКА

# СЛАВА

## Апавяданне

Мал. У. Лося.

### I

Нарэшце Лёшку выдалі пропуск. Ён беражліва склаў яго напалам, быццам гэта быў найвялікшай важнасці дакумент. Неяк адразу пасталеўшы, юнак выпрастаў худыя плечы, смела пайшоў да прахадной. Ён ледзь прыкметна накульгваў. У дзяцінстве, гуляючы ў футбол, Лёша моцна выцяў левую нагу, захварэў і нават майстэрства славутага хірурга не выратавала яго ад кульгавасці.

Рабочы дзень пачаўся даўно. Ля прахадной было пуста. Толькі ў самой будыніне вусач-вартавы, перагнуўшыся праз бар'ерчык, расказваў нешта вясёлае рыжавалосай жанчыне. Яна, закінуўшы галаву, ціхенька смяялася. Лёшка ў нерашучасці спыніўся, не адважваючыся перапыніць іх.

— Што табе? — незадаволена запытаўся вартавы, смешна варухнуўшы вусамі.

Лёшка падаў пропуск. Вусаты ледзь зазірнуў у яго, надарваў і ўздзеў паперку на металічны прут. Усё гэта ён зрабіў адным рухам, прыгожым і дасканалым. Потым вартавы кіўнуў галавой, што азначала: праходзь, не затрымлівайся. Але хлопец не мог скранушца з месца: і гэта ўсё?

Вартавы непрыязна зірнуў на Лёшку.

— Праходзь, праходзь...

Хлопец хуценька схаваў пашпарт у кішэню, выбег на заводскі двор.

Лёшку асляпіла сонца. Ён нават здзівіўся, чаму яго тут так многа, куды больш, чым на вуліцы. Агледзеўшыся, ён зразумеў: сонца тут болей таму, што ўвесь двор быў усыпаны кветкамі. Яны раслі на дзвюх вялізных клумбах ля самай прахадной і далей па ўскрайку тратуара. Чырвоныя, ружовыя, сінія, блакітныя, яны нібы стварылі дзве ярка пярэстыя дывановыя дарожкі, між якімі паблісквау асфальт вуліцы.

Лёшка стаяў, як быццам хацеў назаўсёды запомніць гэтую першую хвіліну свайго ўступлення ў новае жыццё. З карпусоў, што ўзвышаліся абапал вуліцы, далятаў да яго прыглушаны гул і нейкае аднастайнае уханне: вух-х-х, вух-х-х, вух-х-х. Хлопец доўга слухаў, як дыхае завод, ужо нічога не заўважаючы, апрача шырокіх дзвярэй з жалезнай брамкай, з-за якіх і далятаў гэты таямнічы гул.

Ад маўклівай задуменнасці яго адарваў дробны перастук абцасаў. Гэта была тая рыжая жанчына, што стаяла ў прахадной.

— Вам куды трэба? — запыталася яна, параўняўшыся з Лёшкам.

— У механічны цэх, — адказаў хлопец.

— Вунь ён, направа трэці. Бачыце, дзе дошка паказчыкаў перад уваходам.

Лёшка падзякаваў. Жанчына, гулка стукаючы высокімі, вытачанымі абцасамі, пайшла наперадзе. Хутка яна звярнула за вугал, і Лёшка зноў спыніўся. Над ім парашутным купалам уздымалася сіняе неба, высокае, чыстае. У бакавой вулачцы на тратуары расла медналствольная сасна. На ёй амаль не было сукоў, і яна хутчэй нагадвала недарэчны тэлеграфны слуп, чым дрэва. З-за дома, прысадзістага, як гараж, выкацілася на асфальт палівальная аўтамашына, пырснула буйным вясёлкавым дажджом.

Лёшка адышоўся да сцяны, перачакаў.

Цяпер асфальт блішчэў, сонца драбілася ў ім, як у разбітым люстэрку. Мясцамі над ім падымаўся блакітнаваты дымок. Ззялі кропелькі вады на кветках. Усё было не так, як уяўляў сабе Лёшка раней. Ён думаў, што прыдзе на загрувашчаны рознай непатрэбшчынай двор, а ўбачыў цудоўную алею, ледзь не батанічны сад. Як добра, што ён, Лёшка, вытрымаў усе нягоды, не забраў заявы, а цярпліва чакаў. Каб бегаў, як другія, па гораду, то не ішоў бы цяпер па гэтай найпрыгажэйшай ва ўсім свеце вуліцы.

Спыніўся Лёшка толькі ля самых дзвярэй цэха. Яго ўвагу прыцягнула дошка паказчыкаў, не ўся, а яе правы зашклёны бок. Адтуль на Лёшку пільна глядзеў, вырачыўшы вочы, даўгатвары, шыракалобы чалавек. Было ў яго паглядзе нешта свавольнае і ў той жа час напышліва-пагардлівае. Здавалася, ён пытаўся ў хлопца: «Ну, і куды ты, блазнюк, лезеш?»

Лёшку адвялі да начальніка цэха. Ён быў якраз такі, якім уяўляў яго хлопец: нізенькі, лысы, у акулярах. Майстар таксама быў падобны да таго, што стварыў у сваім уяўленні Лёшка: хударлявы, у сінім пінжаку, з нагруднай кішэні якога тырчэлі нейкія прылады. Лёшка на абодвух пазіраў з затоеным страхам і нямым захапленнем.

— Вось, Хвёдар Савіч, вучня нам прыслалі, — паказаў начальнік цэха на Лёшку.

Майстар развёў рукамі.

— Не ведаю, што і казаць, Цімафей Пятровіч.

— Нічога і казаць не трэба. Будзем вучыць людзей. Хлопец дзесяцігодку скончыў. Такія кемлівыя.



— Ды яно так. Але тлуму зашмат, а план патрабуеш. Надоечы зноў Сяньчук два дні засядаў.

— Ты гэта пакінь. Станок жа не стаяў.

— Ат, Зубкова замяняла. Сем разцоў зламала.

— Любіш паплакаць, Хвёдар Савіч. А толькі хлопца бяры. Праз паўгода токар будзе, Сеньчука перагоніць — паглядзіш...

Выйшаўшы з канторкі, Лёшка запытаўся, хто такі Сяньчук. Майстар доўга ішоў моўчкі, Лёшка нават падумаў, што ён не пачуў яго пытання. Але майстар раптам прыцішыў крок.

— Фатаграфію на дошцы ля ўваходу бачыў? От, гэта і ёсць Сяньчук.

Яны ішлі па шырокаму цэментаванаму праходу. Злева і справа гулі, грукацелі, натужна раўлі станкі; ляцелі з-пад разцоў распаленыя пырскі, паўзла, змяілася стружка; між машын каціліся нізкія цялежкі, гружаныя бліскучымі дэталямі. Следам за майстрам Лёшка звярнуў у вузейшы пралёт. Проста пад ногі яму звалілася доўгая спіраль стружкі. Лёшка ад разгубленасці спыніўся. Гэта было толькі адно імгненне: спачатку ён убачыў, што спіраль на вачах набывае фіялетавы колер, і здагадаўся, што яна астывае, потым, узняўшы галаву, ён сустрэўся з насмешлівым позіркам чорных, падмаляваных вачэй і зразумеў, што дзяўчына насміхаецца з яго. Твар у яе быў круглы, нос кароткі, як абсечаны, вусны пунсовыя, ніжняя губа трохі таўставатая, ад чаго здавалася, што рот яе вось-вось раскрыецца. На шчоках ад усмешкі ўтварыліся дзве ямачкі. Але псавала дзяўчыну нейкая недарэчная павязка на галаве — нібы ў манашкі.

Лёшка ўсё гэта ўбачыў адразу і злосна падумаў: чаго яна смяецца? Яму нават захацелася перадражніць яе, але ён неяк спахапіўся і хутчэй пайшоў да майстра, які ўжо чакаў яго. Побач з Хвёдарам Савічам, абапершыся на станок, стаяў высокі, у кепцы на бакір, рабочы. Лёшка адразу ж пазнаў у ім Сеньчука, пра якога яму расказваў майстар. У грудзях страпянулася, замёрла сэрца, потым пачало біцца часта і гулка. Лёшка бачыў, што Сяньчук уважліва глядзіць на яго, і таму яшчэ больш бянтэжыўся.

— Вось ён, — сказаў майстар.

Сяньчук моўчкі працягнуў руку. Лёшка падаў сваю і раптам стаў прысядаць, хіліцца на бок. Твар яго перасмыкнуўся ад болю. А Сяньчук стаяў, быццам нічога не здарылася, і ўсміхаўся. Нарэшце, ён адпусціў Лёшкаву руку. Яна зрабілася белай, быццам Сяньчук выціснуў з яе ўсю кроў, здрантвелыя пальцы прыліплі адзін да другога, імі нельга было нават паварушыць.

— Цярплівы,—'усміхнуўся Сяньчук.

Лёшка зразумеў, што гэта быў экзамен на цярплівасць і ён вытрымаў яго. Адразу перастала балець рука.

— Ну, прыглядайся пакуль, — сказаў майстар і пайшоў. Сяньчук дастаў з падлогі даўгаваты кавалак жалеза.

— Гэта называецца загатоўка, — сказаў ён, нібы і не звяртаючыся да Лёшкі. — І з яе патрэбна вось гэтую штуковіну змайстраваць. Кеміш? Вось я яе зацісну зараз у гэтыя лапы, што патронамі называюцца, і пачну тачыць. Ясна?

— Лёшка кіўнуў галавой. Яму было цікава паназіраць, як гэта з круглага абрубка жалеза робіць прыгожую, бліскучую, з мноствам ступеняў і выемак дэталь, якая ў гатовым выглядзе стаяла на станку.

Крутнуўшы ў апошні раз гайку, Сяньчук кінуў ключ у шуфлядку

тумбачкі. Ключ, бразнуўшы аб фанерную абшыўку, лёг на прызначанае яму месца сярод іншых інструментаў.

— Гэтую штуковіну па норме належыць зрабіць за пяцьдзесят дзве хвіліны, як адна секунда. Ясна? Ну, а я паспрабую за трыццаць хвілін... Засякай час.

Лёшка паглядзеў на гадзіннік, што вісеў на дроце проста над пралётам.

— Засек? — запытаўся Сяньчук і тут жа націснуў чорны гузік, падобны на кнопку электрычнага званка. Станок загуў, загатоўка ледзь заварцелася. Востры рог разца неяк незаўважна для Лёшкі пад'ехаў да загатоўкі, упіўся ў яе, і адразу ж з-пад яго папаўзла тоўстая крохкая стружка, агаляючы бліскучую белую паверхню.

Станок натужна, быццам праз сілу, гуў, і Лёшку здавалася, што ён вось-вось спыніцца. Але загатоўка ўсё гэтак жа раўнамерна вярцелася, гэтак жа плаўна пасоўваўся разец, і толькі стружка то паўзла паволі, то раптам, зведаючыся, адскоквала пад ногі.

Лёшка назіраў за працай Сеньчука з дапытлівасцю чалавека, які задаўся мэтай выкрыць фокусніка-ілюзіяніста. Але ён так і не ўсачыў, калі разец пакінуў роўную, нібы адпаліраваную, ступеньку, потым гэткую другую і трэцюю, а нарэшце — нешырокі абадок.

Спачатку, калі Сяньчук толькі ўключыў станок, Лёшку здалося, што такарная справа вельмі простая. Можа так думалася таму, што працаваў Сяньчук лёгка і спрытна, нібы не працаваў, а проста забаўляўся. Але чым далей, тым больш закрадалася ў душу сумненне: ці здолее ён хоць калі-небудзь вось так дакладна і хутка працаваць.

Раптам станок перастаў раўсці. Сяньчук выняў загатоўку, змерыў яе, замяніў разец і яшчэ нейкі інструмент, падобны на ножык-зорачку з мясарубкі, зноў умацаваў загатоўку і ўключыў станок. Неўзабаве на дэталі паявіліся два раўчакі, а калі Сяньчук зняў яе, дык Лёшка ўбачыў, што дэталь чамусьці стала з дзіркай і нарэзанай унутры разьбой.

— Вось і ўсё. Колькі там? — запытаўся Сяньчук, не пазіраючы на гадзіннік, хоць мог гэта зрабіць сам.

Лёшка разгубіўся. Ён зусім забыўся, колькі было тады хвілін, калі Сяньчук скамандаваў яму прыкмеціць час. Ён стаяў, чырвоны ад разгубленасці, і лыпаў вачыма.

— Роўна дваццаць дзевяць хвілін і дваццаць пяць секунд. Толькі лавіць варон не трэба. Зразумеў?

Вядома, ён, Лёшка, быў вінаваты. Але можа і кожны на яго месцы, убачыўшы такія цуды, забыўся б на тое, колькі было мінут перад пачаткам работы.

— Даруйце, — папрасіўся ён, — загледзеўся. Вельмі хутка ў вас і лоўка.

Сеньчуку спадабалася, відаць, шчырае прызнанне. Ляпнуўшы Лёшку па плячы, сказаў:

— То-та ж. Мог бы і за дваццаць хвілін зрабіць.

— За дваццаць? — здзівіўся Лёшка.

— Можа нават і за меншы час. Але не хачу. А чаму, зразумееш пасля, — і, відаць, не вытрымаўшы, Сяньчук дадаў: — Чуў, што азначаюць рэзервы? Вось і кумекай.

Ён падхапіў з падлогі новую загатоўку і пачаў яе замацоўваць у патрон.



II



Настаў дзень, якога даўно чакаў Лёшка. Увечары Сяньчук сказаў:

— Заўтра паспрабуем на справе. Тэорыю вызубрыў здорава. Я сам яе так не ведаю.

Лёшка ўстаў рана: не спалася. Хацеў падчытаць канспекты, якія склаў сам, але нічога не лезла ў галаву. А да пяці гадзін было яшчэ далёка. Ледзь накульгваючы, Лёшка паволі клыпаў па вуліцы. Было яшчэ не надта горача, хоць дзень абяцаў быць душным. У небе нібы застылі рэдкія воблакі. Недзе над галавой, у празрыстай сіні, па-чмялінаму гуў самалёт. Вуліца была ціхая і амаль пустая: зрэдку толькі паяўляліся жанчыны, якія спяшаліся з рынка. Яны абміналі Лёшку, не заўважаючы яго радасці. А Лёшку хацелася, каб кожны ведаў, што ён сёння пачне самастойна працаваць на станку.

Да самага завода Лёшку ніхто са знаёмых не сустрэўся, хоць яму вельмі хацелася такой сустрэчы. Затое, калі ён праходзіў каля стадыёна, яго нехта паклікаў. Хлопец спыніўся, праз сетку, якой быў абгароджаны стадыён, стараўся разглядзець, хто яго паклікаў.

— Лёшка, заходзь!

Сярод дзяўчат нехта памахаў рукой. Хутчэй здагадваючыся, чым пазнаючы, хто яго кліча, Лёшка павярнуў на стадыён.

Гэта і сапраўды была Каця, тая самая дзяўчына, якая ў першы дзень на заводзе смяялася з хлапечай пужлівасці.

— Куды ты так рана? — запыталася яна і тут жа спахапілася. — А-а-а, гэта ж у цябе сёння экзамен... Хвалюешся, праўда? Я таксама хвалявалася. А цяпер смешна.

— Усё, здаецца, ведаю, а неяк страшна.

— Ты пачакай тут на лавачцы. У нас забег.

— А гэта нядоўга?

— Не. Толькі не глядзі на мяне, калі буду прабягаць...

Чатыры дзяўчыны выйшлі на старт. Трэнер махнуў сцяжком, і яны пабеглі па гаравай дарожцы. Каця далёка пакінула за сабой дзяўчат і з кожнай секундай прыбліжалася да Лёшкі. Хлопец, не тоячыся, любаваўся ёю. Прабягаючы ля яго, яна ўсміхнулася, і ён зноў прыкмеціў,

тыя дзве мілыя ямачкі на шчоках, якія так уразілі яго ў першы дзень іх маўклівага знаёмства.

Закончыўшы бег, яна прайшлася па зялёным полі, потым падышла да Лёшкі, села поруч, кранаючыся сваім загарэлым плячом яго пляча. Яна яшчэ як след не адпачыла, грудзі высока і часта ўздымаліся.

— Я ж цябе прасіла не глядзець... Чаго глядзеў? — Каця пагразіла пальчыкам. Лёшка ўгледзеў, што на ім белы шрамок даўняга парэзу і вельмі каротка падстрыжаны пазногаць. Лёшка адчуваў сябе вельмі няёмка ад таго, што дзяўчына па-спартсменску, амаль раздзетая, сядзіць побач, і ён стараўся не глядзець у яе бок. Але вочы міжволі прыкмецілі радзімую плямінку на Кацінай шыі, потым, калі ён апусціў позірк, убачыў маленькую, зграбную ступню.

— Ты чаму на танцы не ходзіш? — запыталася Каця.

— Не люблю танцаваць.

— Я таксама не вельмі. Але сумна.

— Я больш чытаю.

— І я люблю чытаць.

Чым далей гаварылі яны, расказваючы адзін другому пра сябе, тым ясней было Лёшку, што Каця якраз той чалавек, які можа зразумець яго. Знікла нават няёмкасць і тая хлапечая сарамлівасць, якая нядаўна скоўвала Лёшку. Каця пацягнула яго да дзяўчат, і ён вымушан быў пазнаёміцца з імі. Потым яна павяла яго да хлопцаў. Лёшка нават згуляў у валейбол.

Са стадыёна яны ішлі разам. На Каці было сіняе ў маленькія кветачкі плацце, вузкае ў таліі і шырокае ўнізе. Ад гэтага дзяўчына здавалася яшчэ больш стройнай. Поруч з ёй ісці было вельмі хараша. Многія аглядаліся на іх, і Лёшку здавалася, што яму зайздросцяць.

Ён правёў яе да самага інтэрната, а сам пабег абедаць. «Якія шчаслівыя бываюць дні», — думаў ён і з гэтай думкай прышоў на завод. Каця зноў была ў сваім заводскім убранні: нізка павязаная хустка, паверх другая, чорны халат-спяцоўка.

— Ну, як, дрыжыш, ці не?—такім пытаннем сустрэў яго Сяньчук.

Лёшка сумеўся: нахлынуўшае пачуццё адсунула некуды ўбок яго трывожныя думкі пра сённяшні экзамен на сталасць.

— Крыху, — схлусіў Лёшка.

— Не бойся, — супакоіў Сяньчук. — Ну, бяры загатоўку, вось гэтую, прасцейшую.

Гудка яшчэ не было, і таму ўся брыгада сышлася каля Сеньчуковага станка. Лёшка ўзяў загатоўку, замацаваў яе, азірнуўся. Усе стаялі сур'ёзныя, засяроджаныя, адна Каця спачувальна ўсміхалася.

«Хоць бы ўсё добра было», — думаў Лёшка, як і на экзаменах у школе. Ён уключыў станок. З-за яго спіны паявіліся здаровыя, жылістыя рукі Сеньчука. Ён паклаў іх на Лёшкавы, і хлопец адчуў, як настойліва яны падказваюць, што трэба рабіць. Разец мякка ўгрызся ў жалеза, папоўз, выганяючы стружку. Потым Лёшка чуў, як усё слабей і слабей кіруюць ім Сеньчуковы рукі. Нарэшце, яны толькі засталіся ляжаць зверху. Лёшка рэзаў сам, але пра гэта яшчэ ніхто не ведаў, бо ўсім здавалася, што Сяньчук водзіць яго рухамі.

— Будзеш токарам,— Сяньчук узяў толькі што вытачаную дэталь.— Станок цябе слухаецца. Ясна? І рукі метал адчуваюць.

У Лёшкі заказытала ў горле. Сам не спадзяваўся, што гэтак падзейнічае на яго скупая пахвала. Падумаў: «Ніколі не забуду гэтага. Заўсёды буду дзякаваць Сеньчуку».



## III

Здаецца, нядаўна Лёшка пераступіў парог прахадной станкабудаўнічага завода, а ўжо шмат чаго дамогся, шмат чаму навучыўся. На пачатак прысвоілі яму чацвёрты разрад, далі хоць і не новы, але добры станок. Стаяў ён побач са станком Каці Штылікавай, і калі Лёшка хацеў яе бачыць, дык не трэба было нават паварочваць галавы, варта толькі ледзь скасіць вочы.

У цэху Каця была не такой спрытнай, як на стадыёне. У яе нешта заўсёды не ладзілася, і яна часта спыняла станок, прасіла каго-небудзь з брыгады дапамагчы ёй. Можа таму, што Каця была адзінай у брыгадзе дзяўчынай, усе дапамагалі ёй ахвотна. Перад канцом змены да Каці звычайна падыходзіў Сяньчук, пра нешта пытаўся. Каця апускала вочы, адказвала, ледзь прыкметна варушачы вуснамі. Сяньчук моўчкі станавіўся на яе месца і працаваў, пакуль яго не спыняў гудок. Лёшку гэта было крыху незразумела, але аднаго разу Сяньчук растлумачыў:

— У маёй брыгадзе не можа быць адстаючых. Ясна? У Сеньчука ўсе спраўляюцца з заданнямі і... выручаюць адзін другога.

Здаралася і так, што Сяньчук не прыходзіў на работу дзень, а то і два: ён удзельнічаў у нейкіх важных камісіях, якія чамусьці мелі звычку засядаць у рабочы час. Тады ў брыгаду пераводзілі Антаніну Зубкову, рыжую, з высокімі грудзямі жанчыну, тую самую, якую сустрэў некалі Лёшка ў прахадной. Антаніна прыходзіла з няшчырай усмешкай на белым твары, пыталася:

— Ну, як, любоўнічкі, націснем, дакажам, на што здольна брыгада славутага караля токараў Сеньчука?— закінуўшы галаву, яна бязгучна смяялася. Усе маўчалі, а Лёшку здавалася, што Антаніна выстаўляе напаказ сваю прыгожую шыю. З ёй ніхто не спрачаўся, бо яна была пад высокай апекай самога Сеньчука. Антаніна ламала разцы, дапускала брак, але заданне перавыконвала. Гэта было галоўнае.

Так беглі дні. Лёшка навучыўся абточваць самыя складаныя дэталі і працэнтаў на дваццаць — трыццаць перавыконваць план. Неяк ён зрабіў дэталей разы ў два болей, чым патрабавалася па плану. Перад канцом змены да яго падышоў Сяньчук і запытаўся:

— Куды пнешся? Славы мала, ці што? Вось так, як раней, працуй і хопіць. Ясна? Я таксама мог бы больш тых працэнтаў выгнаць...

— Дык чаму ж вы?..

— Многа ведаць хочаш... Сеньчука слухайся, з ім не прападзеш,— і Сяньчук, згробшы ахапку дэталей, пераставіў іх на Кацін стол. Лёшка з Кацяй якраз рабілі адну і тую ж дэталь. Хлопец змоўчаў, бо ўсё ж гэта была Каця, якой ён хоць і не па сваёй ахвоце, але дапамог перавыканаць сённяшняе заданне.

Пасля работы, беручы Лёшку пад руку, Каця здзівіла хлопца сваім пытаннем.

— Навошта ты, Лёша, пакрыўдзіў Сеньчука? Думаеш, ніхто не здольны, апрача цябе, гэтак заданне перавыканаць? Але ж не лезуць наперад.

— Дык гэта ж несправядліва,— абурыўся Лёшка. — Выходзіць, аднаму Сеньчуку можна на дошцы гонару красавацца?

Нейкі час яны ішлі моўчкі. Потым Каця, пільна зірнуўшы на Лёшку, сказала:

— Я даўно хацела з табой пагаварыць, Лёша. Добра, што ты трапіў да Сеньчука. У нас заробак не благі, прэміі кожны месяц атрымліваем. Але затое трэба ва ўсім слухацца брыгадзіра. Ён вельмі разумны. З ім

нідзе не прападзеш. А слава, дык навошта яна табе? Нашу брыгаду ўсе ведаюць і добра.

Лёшку зрабілася сорамна: пра славу ён ніколі не думаў. Ён папрасіў Кацю:

— Не гавары пра нашу размову нікому. Я не падумаўшы сказаў... Усюды патрабуюць павышаць выпрацоўку, а мы хаваем свае магчымасці...

— Нічога ты не разумееш. Кажуць, хутка нормы перагледзяць. Ты яшчэ не ведаеш, як іх цяжка асвойваць. А мы адразу ўсёй брыгадай асвоім. Зноў нам будзе прэмія. А хіба табе не хочацца больш зарабіць? Ого? Сяньчук усё далёка наперад бачыць.

Лёшка хацеў сказаць, што так рабіць несумленна, але прыкусіў язык: зноў Каця не так яго зразумее.

Пад вечар таго ж дня яны паехалі з Кацяй катацца на лыжах. Лёшку было не вельмі зручна, бо замінала хадзе не надта гнуткая левая нага. Але што ні зробіш дзеля каханай дзяўчыны!

За горадам у лесе было ціха. З дрэў церушыўся сухі, іскрысты снег. Лёшка пракладаў след на цаліку, пакідаючы за сабой глыбокую лыжню. Час-ад-часу ён паварочваўся і тады бачыў мілы, ружовы ад марозу твар Каці, яе чорныя,ззяючыя шчасцем вочы.

— Пачакай, Лёша, мацаванне аслабла, — папрасіла яна.

— Давай памагу, — прапанаваў Лёшка.

Ён стаў на правае калена, тужэй зацягнуў скураныя папружкі на зграбнай, маленькай Кацінай назе.

Цяпер наперадзе ішла Каця. Чырвоны з чорнымі палосамі джэмпер прыгожа аблягаў яе плечы, стан, з-пад невялічкага бярэціка выбіваліся пышныя валасы, зацярушаныя снегам.

«Якая яна прыгожая і як я люблю яе»,— думаў Лёшка, крочачы следам за Кацяю. І раптам яна прыгнулася і паляцела, як у бездань. Лёшка спыніўся над самай кручай вялізнага рову. Каця імчала наўкос, нізка прыгнуўшыся да зямлі, за ёй трапяталі па ветру канцы зялёнага шаліка, нібы клікалі ўслед за сабой Лёшку. Доўга не раздумваючы, ён ірвануўся па яе следу. Спачатку ён толькі чуў, як свішча ля вушэй вецер, ды бачыў далёка ўнізе на фоне белага снегу чырвоны джэмпер Каці. Далей і неяк адразу ён зразумеў, што не ўтрымаецца на нагах: вецер біў яго ў грудзі, валіў з ног, ад яго парываў набягалі слёзы. Раптам ён убачыў, што імчыць проста на Кацю, якая спынілася і чакае яго. Ён хацеў звярнуць з лыжні, але ногі не слухаліся. Лёшка знарок упаў крокаў за тры ад яе, каб не збіць з ног Кацю. Лыжы працягнулі яго яшчэ крыху, зачапіліся за Кацины, і дзяўчына паляцела ў снег побач з Лёшкам. Хлопец заплюшчыў вочы, а калі раскрыў іх, то ўбачыў, што Каця аж захліпаецца ад смеху. Тады, не ведаючы чаму, засмяяўся і ён. Каця зачэрпнула рукою пульхнага снегу, сыпанула хлопцу ў твар. Лёшка злавіў яе руку, а яна сыпанула на яго снегам з другой рукі. Ён хацеў злавіць яе другую руку, але, седзячы, гэта было нязручна. А Каця засыпала яго снегам. Тады ён выпрастаў нагу, падсунуўся да Каці бліжэй, абхапіў за плечы. Яна ўсё яшчэ сыпала на яго снегам, яе вочы смяяліся. «Якая яна прыгожая», — падумаў Лёшка. Абараняючыся ад яе рук, ён шчыльней абняў дзяўчыну і, не памятаючы як, пацалаваў. Чуў, як Кацина рука яшчэ раз сыпанула на яго снегам, потым пачала абтрасаць дыяментавую россып з яго пляча.

— Каця, мілая...— шаптаў ён.

Каця прытулілася да яго грудзей, маўчала.



## IV

Будзільнік звінеў так моцна, што прачнулася маці, а Лёшка спаў і нічога не чуў. На стале гарэла настольная лямпа-«грыбок», вакол валялася папера, чарцяжы, раскрытыя кнігі. Лёшка спаў і нечаму ўсміхаўся аднымі толькі вуснамі. Маці так-сяк расштурхала яго.

— Апошнюю ноч дазваляю сядзець так позна. Які ж, міленькі ты мой, з цябе будзе работнік, — гаварыла яна, пакуль Лёшка абуваўся.

— Нічога, мама, яшчэ як папрацую. А што недаспаў — не бяда. Затое такое вынайшаў... — Ён пабег у сенцы, выліў на галаву паўцэбра вады.

— Што ты там вынайшаў?

— Станок новы сёння запускаем. Работы падкінулі — страх. Мне стакан далі апрацоўваць. Не шклянку, а стакан, такую дэталь, з мноствам ступеняў і разьбой унутры. Вельмі складаная рэч, — гаварыў Лёшка, спяшаючыся так, што маці ледзь разумела яго. — На такую дэталь па заводскай тэхналогіі патрэбна сорак шэсць хвілін, а я думаю за дваццаць шэсць апрацаваць. Глядзі.



Лёшка тыцнуў пальцам у чарцяжы, што ляжалі на стале. Маці паглядзела ў іх, але, нічога не зразумеўшы, спыталася:

— Думаеш толькі, ці зробіш ужо?

— Канешне, зраблю. Усё да драбніц разлічыў.— Лёшка гаварыў, збіраў чарцяжы і еў адначасова, стараючыся не спазніцца на завод.

Ён знарок пабег на завод паўз той інтэрнат, дзе жыла Каця. Хацелася расказаць ёй пра свае разлікі, падзяліцца радасцю, якая проста ірвалася з грудзей. Каля інтэрната прыцішыў крок, ішоў памалу, як на шпацыры. Каці не было відаць. Ён хацеў пайсці, але дзяўчаты, якія выбеглі з пад'езда, сказалі, што Каця яшчэ дома. Яна выйшла хві-

лін праз тры, заўважыўшы Лёшку, падалася да яго, шчыра ўсміхаючыся. Лёшка расказаў ёй пра разлікі, якія зрабіў ноччу.

— Нават вельмі цікава, Лёша. Які ты разумны, — пахваліла яна. — А з Сеньчуком раіўся?

— Не.

— Абавязкова парайся. Ён жа наш настаўнік. Усе мы ў яго вучыліся. Няёмка выйдзе. Яшчэ пакрыўдзіцца.

Лёшка і сам разумеў, што трэба параіцца. Сяньчук не мала для яго зрабіў. Успомнілася, як ён трымаў яго за рукі ў першы дзень самастойнай работы, і Лёшка яшчэ і цяпер нібы чуў яго голас: «Метал ты адчуваеш». Так, ён адчувае метал.

Ледзь прыкметна накульгваючы, Лёшка падышоў да Сеньчука, падаў скрутак паперы.

— Што гэта?— здзівіўся той.

— Новая тэхналогія стакана.

Сяньчук разгарнуў ліст. Яго вялізныя пукатыя вочы хутка пачалі бегаць па радках.

— Здарава! Сам дадумаўся? Як гэта мне ў галаву не цюкнула. Малайчына, — і тут жа запытаўся:— Нікому не паказваў? Добра. Схавай, брат, да часу. Пасля дваццатага новыя нормы ўвядуць. Вось калі мы пакажам... Папацеюць хлопцы, а мы — джыг, на першае месца. Ясна? Вось дык Лёшка!

— Дык жа да дваццатага яшчэ шаснаццаць дзён, — панура сказаў Лёшка. Сяньчук нічога не зразумеў. Тады Лёшка растлумачыў: — За гэтыя дні столькі можна было зрабіць.

— Вунь яно што,— нарэшце зразумеў Сяньчук. — Ну, гэта ўжо не твая справа. Ды і не так усё проста, як ты думаеш. Тваю тэхналогію яшчэ трэба зацвердзіць...

— Дык павінны ж зацвердзіць. Вартая справа. А што, калі паказаць начальніку цэха?

Сяньчук зазлаваў. На яго шыі пачалі набухаць жылкі. Лёшка зразумеў, што цяпер лепш памаўчаць.

Увесь дзень ён пакутліва думаў, што рабіць. Яго сумленне не магло пагадзіцца з прапановай Сеньчука чакаць, але было няёмка не слухаць чалавека, які вывеў яго ў людзі, навучыў працаваць. У абедзенны перапынак Лёшка падзяліўся сваімі думкамі з двума — трыма членамі брыгады. Тыя спачатку параілі схадзіць да начальніка цэха, а потым, калі Лёшка расказаў пра Сеньчукову параду пачакаць да дваццатага, таксама пачалі ўгаворваць яго нікуды не хадзіць.

— І сапраўды пачакай, Лёшка. За гэтыя дні ты асаблівага не даможашся, а нам напсуеш,— сказаў адзін з іх.

Другі растлумачыў:

— Ды каб яшчэ толькі нам напсаваў. Другая брыгада, калі па тваіх разліках нормы зацвердзяць, ніколі плана не выканае. Сам разумееш, знізяцца ў хлопцаў заробкі, на цябе ж злаваць будуць.

Лёшка хацеў адказаць, што токары з брыгады Якімука маглі б вучыцца так, як вучыўся ён, і дасягнуць яшчэ лепшых поспехаў, але ўбачыў, што спрачацца бескарысна. Уся брыгада неяк слепа верыла ў Сеньчукову праваты.

Мінуў яшчэ адзін дзень. Пасля работы Лёшка пайшоў да начальніка цэха. У яго пакойчыку было людна, Цімафей Пятровіч, відаць, толькі што перад гэтым паспрачаўся з чарнавалосым чалавекам, які цяпер супакойваў яго.

— Не кіпяціся, а выслухай. Рэзервы, безумоўна, ёсць, іх трэба шукаць. Пагавары з наватарамі, перадавымі рабочымі — яны падкажуць.

Начальнік цэха ўбачыў Лёшку, не хаваючы сваёй незадаволенасці, спытаўся:

— Табе што трэба?

— Хацеў, каб вы паглядзелі... Вось тут усё сказана...

— Заходзь заўтра, бачыш — заняты я,— адмахнуўся начальнік.

Чарнявы, які стаяў непадалёк ад Лёшкі, узяў у хлопца скрутак, разгарнуў яго, з хвіліну чытаў. Потым сарваўся з месца, падбег да стала.

— Ты глядзі, Цімафей Пятровіч, што ён прыдумаў. Проста і разумна. А ты кажаш, дзе тыя рэзервы? Вось яны. Людзей мы не ведаем.

Начальнік, схіліўшыся над сталом, ужо вывучаў Лёшкавы разлікі.

Назаўтра ў цэх Лёшка прышоў апошнім, перад самым гудком. Першым, каго ён убачыў, была Каця. Яна спачатку па прывычцы ўсміхнулася яму, але тут жа схавала ўсмешку пад маскай незадаволенасці. А калі Лёшка праходзіў каля яе, прыцішым голасам сказала:

— І навошта ты так зрабіў, Лёша? Цябе ж прасілі...

У Лёшкі балюча заныла ў грудзях. І тут ён убачыў, што да яго паволі ідзе Сяньчук. Ён глыбока засунуў у кішэні рукі і, як здалося Лёшку, сціснуў іх там у кулакі. З хвіліну яны стаялі адзін перад другім. Лёшка глядзеў на брыгадзіраву шыю, здаровую, з напружанымі ад злосці жыламі. Але ён чамусьці не баяўся яго і не саромеўся за свой учынак.

— Славы маёй захацелася, га?— нарэшце выдыхнуў Сяньчук. — Выскачка!.. Пра сябе толькі думаеш, на другіх табе напляваць. Ну што ж, павесяць твой партрэт на дошку, і ўсе будуць ведаць, якога нахабніка я сабе на сорам вывучыў!..

Сяньчук крута павярнуўся і пайшоў да станка. Лёшка, разгублены, стаяў, пазіраючы на брыгадзіраву шырокую спіну. «Хлусня ўсё гэта»,— хацелася крыкнуць яму, але ў роце перасохла і не было слоў. На імгненне ён убачыў Кацfolіны вочы, якія з незатоеным жалем глядзелі на яго, потым перад вачыма праплылі нахмураныя твары таварышаў. Лёшка ўхапіўся за станок. Халодная сталь нібы апякла яго. Лёшка страсянуў чубам, уключыў станок.

Работа крыху развеяла непрыемныя думкі. Але ў абедзенны перапынак непрыемнасці набягалі адна на другую, як крыгі ў час ледаходу, і неспакойныя думкі зноў авалодалі хлопцам.

Лёшку нібы не заўважалі, а калі ён спрабаваў завесці размову, дык адкрыта выказвалі яму сваю незадаволенасць. Ён ведаў, што хлопцы адыходзяць ад яго, таму што баяцца. Сяньчук усё расказаў ім у іншым святле, запалохаў, быццам яны стануць цяпер атрымліваць меней грошай. І ўсё ж ён не мог даваць таварышам, асабліва Каці. Ён першы падышоў да яе, каб шчыра расказаць пра ўсё, што здарылася. Але Каця знарок гучна, каб чуў Сяньчук, апякла яго несправядлівымі, крыўднымі словамі:

— Не люблю выскачак...

Лёшка, пакрыўджаны да глыбіні душы, пайшоў да начальніка цэха. А назаўтра адбыўся агульны сход. Лёшка сядзеў адзін, быццам на сходзе збіраліся абмяркоўваць нейкі дрэнны яго ўчынак і таму ён цураўся ўсіх. Цімафей Пятровіч пастукаў кронцыркулем па графіну, усе змоўклі.

— Вось тут у большасці сядзіць моладзь, спартсмены, — пачаў ён.— Усе таму, напэўна, ведаюць пра эстафету. Што важна ў эстафетным бегу?

— Каб каманда перамагла,— крыкнуў яму нехта з заўзятых спартсменаў.

— Правільна. Каб перамог калектыў. Гэта важна і ў нашай рабоце. Уявіце сабе, трэнер раптам бы пачаў лаяць спартсмена, які ў эстафеце на сваім этапе абагнаў усіх. Ды такога ж трэнера засмяялі б. Усе ведаюць, што Сяньчук навучыў Лёшу Калінкіна такарнай справе. Ды можа без дапамогі Сеньчука Лёша не хутка дадумаўся б да новай тэхналогіі вырабу стакана. Чаго ж тады крыўдзіцца на хлопца? Радавацца трэба. Тут гаворка пра славу ішла. А слава розная бывае. Я за рабочую нашу, агульную славу стаю. Сёння Лёша Калінкін падлічыў, што зможа абтачыць дэталь за дваццаць шэсць хвілін. А заўтра хто-небудзь другі возьмецца тую ж дэталь зрабіць за дваццаць чатыры хвіліны.

— За дваццаць дзве можна, — крыкнуў з месца Сяньчук.

Усе засмяяліся. А Сяньчук падняўся з месца і рашуча накіраваўся да стала. Праходзячы ля Лёшкі, ён ляпнуў яго па плячы, усміхнуўся нейкай вінаватай усмешкай.

— Падужаемся, Лёша. Дасюль па сіле нікога такога не было. Ясна?

Ён пайшоў, шыракаплечы, мажны і нейкі нялоўкі ад сваёй былой неправаты. А затуманеныя вочы Лёшкі сустрэліся з вачыма Каці, якія зноў ззялі весялосцю.

Якуб Сідаравіч Ермаловіч нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Вяшэўка Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і селяніна. У 1931 годзе скончыў на базе сямігодкі Мсціслаўскія двухгадовыя педагагічныя курсы, пасля якіх працаваў настаўнікам у вёсцы Усушак Чавускага раёна. З 1933 года займаўся тры гады ў Мінскім Вышэйшым педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце.

З 1944 года працуе настаўнікам мовы і літаратуры ў Пагосцкай сярэдняй школе.

Друкавацца пачаў з 1929 года. Вершы і апавяданні Ермаловіча змяшчаліся ў газетах «Звязда», «Беларуская вёска» і «Калгаснік Беларусі», «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі», «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Чырвоная Беларусь» і «Беларусь калгасная», «Маладосць», «Беларусь».

Зараз Якуб Ермаловіч падрыхтаваў зборнік апавяданняў «Над Бярозай».



**Якуб ЕРМАЛОВІЧ**

# ДВА АПАВЯДАННІ

## 1. ЕВА

Мал. В. Ягорава.

Ева... Хто не ведае Евы!.. Запытайце не толькі ў Лагах, а і ў суседніх вёсках, і вам адкажуць.

— А чаму?.. Ведаем. Гэта Саўкі-крыкуна, які вартаўніком у калгасе.

Пад уласным прозвішчам Саўка выступае толькі ў папяровых справах, у дакументах, а так ён Саўка-крыкун. Саўка не з тых вартаўнікоў, якія самі цягнуць і другім патураюць. Не. Іначай бы стаж яго вартавой работы перарваўся і ніколі не аднавіўся б, як у многіх людзей ягонай прафесіі.

Нешта бацькава было і ў характары Евы.

Быў час, калі старшыня сельсавета, упаўнаважаны — і не патыкайся!.. Так схопіцца, так зрэжацца, аж шмацце ляціць. І каб яе верх быў.

З Якіма, каваля, чалавека з залатымі рукамі, але ціхага, які паправіў нешта нават у самалёце, што быў апусціўся на нашым полі, яна проста здзекавалася.

— Ці гэтая твая жыва ці памёрла ўжо? Як яе: Прося ці Хоўра? — пачынала Ева пра пятую жонку Якіма, гэткую ж недалужную, як і першыя, што паўміралі.— Чаму ты яе на работу не пускаеш? Ці праўда гэта, кажуць, што яна ў цябе цэлы дзень у полазе ляжыць, а ноччу ты яе на расу выганяеш? Можа яна ў цябе ведзьма якая? Ты глядзі, калі яна начаруе ды згарыць сяголета мой лён, не будзе і цябе, і тваёй кузні.

Ева была звеннявой па ільну і мела на ўвазе калгасны лён. А ад гэтых яе жартаў Якім дрыжачымі жоўтымі рукамі рабіў цыгарку, недакурваў яе, кідаў і пачынаў зноў рабіць, новую.

Было б і старшыні калгаса Валовіку, каб не сакратар райкома, які перад пасылкай Валовіка ў калгас, сказаў яму:

— Ведай, што ты едзеш у калгас... Я кажу «едзеш». Дасюль ты ехаў, а тут пойдзеш ужо. Тут ужо недалёка. Так, у калгас, дзе ёсць Ева.

Валовік усміхнуўся. Ён, сын калесніка, які гнуў у любых напрамках дуб, потым рабочы-суднарамонтнік, потым камандзір палка ў самую цяжкую вайну — вайну з фашыстамі, потым раб з нумарам-нашыўкай у гітлераўскім пекле для ваеннапалонных і ўсіх яго ворагаў, потым партызан у Балканскіх гарах, ён павінен думаць, і не толькі думаць, а і лічыцца з тым, што недзе ёсць нейкая Ева. Ёсць — хай і будзе. Ці мала дзе на свеце розных вар'ятаў.

— Вот ты дарма смяешся,— сказаў сакратар райкома.— Ева, Ева... Што Ева? Былі разумчыкі, якія гаварылі мне: «Эх, Нікадзім Іванавіч, у лялькі гуляем. Аформіць справу і ў суд. У турме ёй месца, а не ў нашай працоўнай сям'і». Не, брат, я думаў над гэтым. Ева выступае наперад, а дарогу хто ёй дае? Чаму яе не пераб'е ніхто, як яна гаворыць? Людзей няма? Я ж не маленькі, бачу, што ёй давяраюць. Бо чалавек гаворыць праўду, тое, што ўсім баліць. Так што, голымі рукамі ты, брат, Еву не бяры. Сёння ж і пойдзеш з Галузам пасля абеду. Тут не так далёка: кіламетраў пятнаццаць. Машына то ў мяне ёсць, я мог бы цябе і падкінуць. Але нашаму брату, каб разгледзецца лепш, карысна пешкам. Я цяпер сам шмат хаджу. Ды і работнікі мае зусім без сердавання сталі. Я табе скажу, я заўважыў: калі чалавек прывык толькі ездзіць, ды яшчэ на машыне, дык ён усё сярдуе, усё сярдуе, усё яму не так, усё не па-яго здаецца. А калі чалавек ходзіць, не адзін дзень, а заўсёды, у яго ні задышкі, у яго ні поту, добра яму так сабе. Тут табе і пейзаж, і кожны камень агледзіш, поле пабачыш, зямлі ў рукі возьмеш, паштурхаеш, якая яна, кароў на пашы пабачыш, з пастухом пагаворыш, і што трактарысты каля трактара робяць, калі трактар стаіць. Пакуль дойдзеш да месца, і пазнаёмішся. Хадзем ка мне, паабедаем і пасля абеду пойдзеце з Галузам. Сяўбу мы правялі сёлета добра, можна сказаць, без адзінай нарады. Праўда, злавіў быў свайго агітпропа, але калі-небудзь у другі раз раскажу. Затрымаў каля клуба калону машын з усяго сельсавета, людзей сотні паўтары запёр чуць не на замок, ну і сярод белага дня, у пагоду, калі трэба сеяць, каб аж капыцце лескацела, закатвае там свае прамовы, трасучы кулаком удаль. Закрыў я гэтую нараду пад агульны рогат усіх яе ўдзельнікаў.

Так гаварыў Валовіку сакратар райкома гады два таму назад, калі ён ехаў старшынёй калгаса ў Лагі.

...Быў той добры восеньскі дзень, якія нярэдка бываюць у нас, у Беларусі. Я быў у Сібіры, за Уралам. Якая там восень?.. Няма там восені. Лета, спякота, а потым неяк раптам сцюдзёны вецер, мароз і снег. А ў нас не, брат, у нас бывае восень. Як ні кажы, а бадай лепшай восені, як у нас, і не знойдзеш. Хіба яшчэ ў якой Малдавіі. Поўдзень усё-такі. Але я там не быў і сцвярджаць таго, аб чым не ведаю, не буду.

Даўно ўжо не толькі пажалі і памалацілі, але і бульбу пакапалі. Толькі ўсё ходзяць каля капцоў, нешта поркаюцца каля іх, быццам не хочацца расставацца з тым, што накапалі.

А па ўсяму полю, неяк зусім нетурботна, як бы пабраўшыся ўбокі, стаялі тоўстыя стагі аўсянай, жытняй, ячменнай і пшанічнай саломы, і не хапала ім толькі чорных цыгарак і капелюшоў.

Зелянела рунь. Ды якое зелянела!.. Рунь зялёнай здаецца толькі ў хмарны дзень. А гэта было неба чыстае, усюды было сонечна, і рунь была лапушыстай і жаўтаватай, як пышны ячмень вясной.

Даўно праляцелі ўжо выраі, якія ўсялялі ў людзей незразумелую трывогу, мусіць, за напамін аб надыходзе зімы. Далёка яны, і трывога з імі далёка. І сейбітаў, буйнаватых птушак, якія пачынаюць восень, як май змаіў, — зніклі.



Лён вылежаўся, паднялі і амаль увесь змялі, хаця яшчэ тарахціць на водшыбе вёскі салярны маторчык, круцячы ільнамялку.

Гарыць на ўзлессі чырвоная рабіна. Ліст дробны, пакруціўся, амаль высах, але колькі ягад сёлета на ёй! Каб яны былі салодкія, вось было б спажывы дзецям! Нездарма старыя людзі яшчэ ўлетку гаварылі: «Восень будзе сухая, доўгая, багатая, бач, рабіны колькі».

Асіна ўся барвовая, жывая, у сваім адзенні, пахарошваецца і не трапечацца. Братцы, калі гэта было, каб асіна не баялася, не выказвала сваёй трывогі? Гляньце вы на яе: колькі ў ёй упэўненасці, спакою, характва. Я ніколі нічога падобнага не бачыў на малюнку. «Дрэва чуе, калі свой ліст не скідае, што зіма няскора», — казаў мой бацька.

Гарбузоў тых на дахах, вялікіх, тоўстых, як паабдзімала іх, каўбялёў такіх... Ці елі вы кашу з гарбуза, калі дабавіць туды крыху пшана? Дзеці аб'ядаюцца такой кашай, гэткая яна салодкая, смачная.

Ад галінкі да галінкі, ад іржэўніны да іржэўніны — павучынне. Дзе ім лік і канец, гэтым правадам? А павучкі ў паветры ляцяць і ляцяць, цягнуць і цягнуць гэтую павучынную сувязь, і блішчыць яна, зіхаціць і пераліваецца вясёлкамі — вокам не схапіць, гэтак далёка.

Высока над зямлёй, зусім адзін, кружыць каршун. Яго аднастайнае «кіў»,— мусіць, яго плач.

Не верыцца, што ўсё ўжо зрабілі, а яшчэ ў запасе гэткі час да зімы, гэткі прастор.

Такім восеньскім днём, прыгожым надвячоркам, Кузьма выключыў матор, і ціха стала на «камбінаце».

Камбінатам калгаснікі назвалі не так даўно пабудаваны на водшыбе будынак-сушню і пры ім вялікую павець, пад якой паставілі маторчык-салярчык, што круціў ільнамялку, і дзе вось ужо каторую восень мялі лён.

— Усё,— сказала грубаватым голасам Ева і глянула на сонца. Твар у яе быў буры, смуглявы яшчэ ад летняга загару, круглы, не зусім сыты, але поўны, малады, добры, і вочы цёмныя, нібы трошкі макраватыя, цяпер зусім ласкавыя.

— У-у, бабачкі, як яшчэ рана,— гаварыла яна.— А восень якая сяголета! І мы так управіліся. А табе, Кузьма, за матор — пяць. Будзем гуляць — цябе на кут. І першую чарку за цябе вып'ем.

Кузьма неяк машынальна правёў кончыкамі пальцаў па барадзе, быццам пераконваючыся, ці ёсць што на ёй, хаця на твары ў яго ніколі нічога не расло, і засумяціўся.

— Не мацай. Бабы няголеных лепш любяць, — пажартавала адна жанчына.

— Кузёмка мой. Які ты добранькі, мякенькі. Пажалей мяне, бедную ўдаву,— гаварыла Ева, абняўшы Кузьму і ўсё бліжэй тулячы сваю шчаку да яго шчакі.

Тут Ева міргнула бабам, адна з іх быццам Еву з Кузьмою штурхнула, а ў гэты час Ева так ёмка крутнулася з сухаватым Кузьмою, што ён, як пярынка, матнуў у паветры сваімі худымі лыткамі і бухнуўся ў мяккую падушку намятага лёну.

Кузьма ўстаў увесь у ільняным пуху, сумеўся і не ведаў, што рабіць. Шчокі яго, якія ніколі не бачылі брытвы, сапраўды былі дужа мяккія, без мужчынскай краскі, а цяпер зусім як воск.

— Што скажа твая Мархва? Чысціся, Кузёмка.



Пакуль парадкавалі памяты лён, аглядаліся, каб чаго не забыцца і не пакінуць недаробленым, хапіла часу згаварыцца, што вечар яны, ільнянікі, згуляюць свой на другі дзень. Перад святам будзе ўрачыстая частка, потым, пакуль раздадуць прэміі, пакуль прапусцяць спектакль ды выслухаюць усіх дэкламатараў, салістаў і яшчэ шмат чаго, што рыхтавалася ўсёй сямігодкай і загадчыкам клуба на працягу двух месяцаў, не будзе калі ні піць, ні есці, тым больш весяліцца. На першы дзень людзі будуць пазней спаць, а на другі дзень і часу больш будзе і сілы збяруцца за святочныя дні, каб сапраўды, ад душы тупнуць.

Сабраліся ў Марылі. Хата ў іх была без перарубу, прасторная, новая, пабудаваная пасля ўжо вайны.

— Хай аднавокі чорт ведае,— гаварыў на Гітлера Мікіта, муж Марылі, седзячы на вугле, калі будаваў, як бы помсцячы гэтым вялікім зрубам за тую хату, што была спалена ў вайну.

Сама Марыля, не маладая, але жывая, таму і працавала ў звяне ільнянікаў, кампаніі не старанілася. Што датычыцца Мікіты, які быў кашаварам яшчэ ў грамадзянскую вайну, дык ён кашлянуў грудным басам, разы два, спрабуючы, ці ёсць яшчэ ў лёгкіх сілы, і ахвотна згадзіўся нават дапамагаць бабам ва ўсім, праўда, угаварыўшы перад гэтым свайго напарніка конюха Малахіма, каб той перапасвіў гэтую ноч на начлезе коней адзін, за што паабяцаў яму ад жанчын паўлітроўку ў кішэню і даверыў нават сваю двухстволку-цэнтралку.

Вы не былі на вечары, які сабіраюць самі жанчыны, на свой лад і на свой густ? Чаго не наставіла жаночая руплівасць! На белых абрусах,ператыканых і вышываных, на некалькіх сталах, ссунутых у кучу,—рознай формы і рознага колеру міскі, талеркі, сподачкі, гладышыкі, і ва ўсім гэтым такі шырокі выбар закускі, што страшна сказаць, каб чаго не прапусціць. Ды яно і не будзеш, прышоўшы на вечар, нікаць у кожную такую пасудзіну, калі ты чалавек. Аднак маё не вельмі вострае вока адным міргам па сталах заўважыла там: сала печанае, сала скваркамі сырымі; мяса варанае, парэзанае ладнымі цюпкамі; селядцы, рыбу падсмажаную; яечню голую і яечню ў грыбку; пшанічныя аладкі ў смятане і ў туку; салёныя гуркі, кіслую капусту і вінегрэт; яблыкі летнія, чырвоныя, якія бог ведае якім чынам і дзе зберагліся, і антонаўкі; торт, тоўсты салодкі, з карыцай і рознымі там прысмакамі, той торт, што абышоў паўвёскі жанчын, спытваўся раней, чым папасці на гэты стол. А што было яшчэ там паміж місак, тазоў і талерак, — а застаўлены былі, трэба сказаць, усе сталы, — я толькі пацісnуў плячыма. У пітве іхнім я разабраўся пазней, нават не ў канцы вечара, а на другі дзень, прачнуўшыся, як пасля цяжкага бою. Было яно ўсё чырвонае і чорнае. Нават у тых пляшках, на якіх



былі белыя наклейкі і дзе, як усе ведаюць, павінна была быць тая самая «водка», гэта значыць, белая, як вада, і там было нешта чырвонае, не будзем ужо гаварыць аб пузатых графінах, аб пляшках з назвамі розных він і лікёраў.

Я бываў там-сям на вечарах. Аднак не было, як на гэтым вечары, каб так хутка ўсе селі за стол. Ніхто не ўпіраўся, ніхто не чакаў у парозе, нікога тут не ўзвышалі, ды і некалі было, калі б хто і хацеў пакрыўдзіцца. Бачу я: старшыня на куце; каля яго Кузьма-матарыст; Мархва, жонка яго,— баба-печ, як на яе казалі,— на другім канцы сталоў. І наогул усе мужчыны аддзелены ад сваіх жонак, а жонкі ад сваіх мужыкоў.

Калі Мархва нешта была і забубнела сабе пад нос, быццам яна незадаволена, што Кузьма яе не з ёй,— хаця часамі які вясёлы жартаўнік і намякаў Кузьму, што тыя двое хлопчыкаў, якія былі ў яго, не па бацьку, мусіць па радні пайшлі,— але ўдовы загаварылі, закрычалі, каб жонкі з мужыкамі дома заляцаліся, а тут вечар, і ўсім павінна быць весела.

— Старшыня Валовік, пачынай. Ты ж у нас тут самы старшы,— пачуўся жаночы голас, калі сталі пасавацца, каму першаму паднімаць чарку.

Валовік усміхнуўся, зморшчыўшы свае худыя шчокі, нешта ўглядзеўся ў борт свайго святочнага пінжака, быццам там было нешта на ім, і, не ўстаючы, сказаў:

— Я ў вас тут, таварышы, не старшы, а толькі госць. Вы тут самі з вусамі. Уносіць вам тут свае парадкі я і не думаю. Рабіце, як што вам трэба.

— Не поп — не ўбірайся ў рызы. Чаго сеў на кут? — гаварыла Ева, пазіраючы з-за Кузьмы на старшыню.

— Ева, не марудзь.

— Няма чаго валынку цягнуць, як ката за хвост.

— Добра, бабкі, будзем пачынаць... Праўда, тут і мужчын трошкі ёсць...

— Мужчыны к бабам, — заўважыў нехта.

— К бабам,— паўтарыла Ева. — І вусоў у нас няма. Адкуль ты ўзяў, што мы з вусамі?— жартавала Ева. —Не дай бог, калі ў бабы ды вусы.

— Во гэтак.

— Хай хаця растуць, у каго трэба, — чутны былі галасы.

Ева стаяла з паднятым у руцэ стаканам. Яна была ў чорным пераліўчатым шаўковым плацці, якое ёмка аблягала яе поўныя грудзі. Пад самым каўняром на грудзях прыгожа блішчэла ладная залатая брошка. А на точанай яе шыі з добрым бурым летнім загарам, з такім загарам, які быў і на прыгожым круглым твары, на точанай яе шыі вісеў круг вялікіх янтарна-жоўтых маністаў.

— ...Каб лён наш быў яшчэ лепшы, — і яна, стоячы, выпіла ўвесь стакан і паставіла на стол дном угару.

Прыклад быў добры, таму першы заход на гарэлку быў шчырым і дружным і елі ўсе з вялікім смакам.

Нехта прапанаваў выпіць за старшыню. Налілі.

— Устань,— гукнула Ева.— Хай усе паглядзяць, які ты сягоння. Прыбраўся, бабкі, і хвост завязаў,— пажартавала яна з гальштука.

— З-за цябе, старшыня, мы сталі лянок сеяць і радзіць ён стаў у нас добра? З-за цябе.

— З-за цябе мы глянулі на свет божы.

— Бабачкі,— схамянулася Ева.— Я ж казала, што за Кузьму вып'ем. Покаў жа ў яго маторчык дзень і ноч. Каб які матарыст...

— Дык мялі б вы свой лянок да каляд, а то і да святога вялічка.

— Як гэта ты, дзядзька Мікіта, кажаш: да святога вялічка?

— А во так. Матор бы ў яго, гэта значыць, стаяў, — Мікіта налёг на слова «стаяў», — і лён бы ваш не мяўся.

Марыля, якая з паўслова разумела, куды гне яе стары, шыкнула на яго, сціснуўшы кулак. І Мікіта змоўк.

— Добра, старшыня, вось вы кажаце, што вы тут ні пры чым, што калгаснікі самі ўсё зрабілі. Ты ж матор дастаў? І мы цяпер не возімся на ільнозавод, здаючы там сваю трасту абы-якім нумарам, каб толькі з рук вон. Вунь суседзі нашы, камінтэрнаўцы, і па сённяшні дзень гаруюць, кідаючы на вецер вялікія грошы. Што значыць здаць лён мяты і нямяты? От яно тут і цягне.

— Ды як цягне.

— Цягне, кажаш?

— Аняго ж.

— Дык давайце і мы тады зацягнем,— і голас — высокі альт — прыгожа запеў «Якім ты быў...»

І тады выкраўся аднекуль гармонік і павёў за сабой вялікую чараду людзей па ўсёй нашай прасторнай зямлі, з стэпамі, гарамі і ветрам. А там ужо было кожнаму сваё, хто знаходзіў радасць і веру, а хто слёзы.

— Гарэлка плача, цётка Наста.

Калі ўжо змарыліся, калі ўжо зацягалі мужчын у лявонісе, у другіх танцах гуртам, тады выйшла на круг Ева, уся смуглая, у чорным шаўковым плацці.

— Міша, сербіянку,— сказала яна неяк дужа ціха, як пад сакрэтам, з нейкай маленькай трывогай у голасе, быццам танец гэты быў забыты.

Міша шчыра схіліў галаву на гармонік, бо выконваў заказ, люба намацаў на чароўных гузіках акорд і з нейкім зыбаннем ва ўсёй сваёй істоце, нібы ў моцным жаданні адарвацца ад зямлі, узляцець, спачатку шчыгульна, а потым вальней і вальней і, нарэшце, з усёй шырынёй сваёй натуры чухнуў мора святла і сонца. Цяжка было ўстаяць на яго хвалях. Хаця скакала Ева адна, але гойдала яно ўсіх, і людзі адказвалі яму за гэтае прыемнае гойданне кіўком галавы, пляскам у далоні, рухам пляча, бляскам сваіх гарачых вачэй.

А Ева скакала. Як яна цудоўна скакала! Рукі то гібка выгіналіся, то ўзляталі. Плечы то звужаліся, то выпрасталіся ў мужчынскую дужасць. Каса, тоўстая, чорная, то спакойна ляжала на ёмкім стане, зліваючыся з фонам шаўковага плацця, то чорнай маланкай мільгала ў паветры, нібы хто хацеў яе ўхапіць. І ва ўсім гэтым уздыме свята і радасці чуцен быў нямоцны звон маністаў.

— Халерная, як цыганка!.. — зайздросна сказаў нехта з жанчын.

— Цыганка... Ух...

І тады людзі не вытрымалі, запляскалі, запелі, затупалі, і ўсё закружылася і паплыло ў вялікім вясковым танцы.

Хутка Ева апусцілася на лаўку за стол, насупраць Валовіка. Каля



яе села Тэкля, суседка, таксама ўдава, курносая, але з вынослівым станам, гібкая, як маладая рыбіна.

Валовік нешта засумаваў, і бабы адразу ўлічылі яго ў гэтым.

— Чаго ты нос павесіў?— гаварыла Ева.— Я во ўжо пятнаццаць год адна. Праўда, цяпер ужо сын падрос ды лягчэй стала. Ты не хворы? — Ева прылажыла сваю руку к ілбу Валовіка. — Чаму тут быць гарачаму, адзін чэрап. Ты, мусіць, век не быў гарачы,— смяялася яна.

— Дзе яна мацае: лоб. Ты мацай сэрца, вось дзе, — сказала Тэкля.

— Сэрца ва ўсіх аднолькавае. Яно не бывае ні гарачае, ні халоднае.

— Што? Што ты сказаў? Нешта я не разабрала. Ты гаварыць нездалееш? — перапытала Ева.

— Я гавару, што тэмпература сэрца ва ўсіх і заўсёды бывае аднолькавая, —ужо чуць не крычаў Валовік.

— Гэта ты чуў ад каго ці сам выдумаў?

— Што значыць: чуў ці выдумаў?.. Не чуў і не выдумаў, а навука так гаворыць.

— Ха-ха-ха!.. — засмяялася Ева, — навука...

— Чаго ты рагочаш? Можа і праўда,— каб змякчыць тон, сказала Тэкля.

— Не, тут без паўлітра не разбярэш. Раз у цябе ў галаве навука яшчэ сядзіць... — Ева паднялася, пачала паднімаць і глядзець у бутэлькі з гарэлкай.



Яна выбрала дзве, паставіла тры шклянкі, наліла іх, тры, паспела пераблытаць і дала адну Валовіку.

— Штраф табе за навукі. І мы з-за цябе з Тэкляй павінны во...

Яны ўсе ўтраіх стукнуліся шклянкамі, і Ева сказала «ну», пазіраючы на Валовіка.

Ён глынуў раз, папярхнуўся, але Ева пераняла яго шклянку, і Валовік вымушан быў выпіць да дна.

— Закусвай мясам.

Ева падсунула талерку з засмажаным начыненым пеўнем, парэзаным на добрыя порцыі, і яны ўсе ўтраіх сталі есці.

— Перцу не мнагавата?

— Не, добра,— адказала Тэкля.

— А я думала, будзе мнагавата.

— Добрая закуска,— пацвердзіў Валовік.

— Можна б замуж браць?

— Каго?

— Гаспадыню, што гэтую закуску прыгатавала?

— Чаму не, — згадзіўся Валовік.

— Дык во яна, — хлопала па плячы Еву Тэкля.

— Што вы мне далі такое? — запытаў Валовік, увесь чырвоны, і вочы якога адразу неяк паказеліліся.

— Бярэ? — смяялася Ева. — Любісніку далі. Каб ты ўлюбіўся ў нас. Хоць пад'еш во ў ахвоту. Думаеш, ён пад'есць у той тумарніцы? — гаварыла Ева, маючы на ўвазе Буліцкіх, у якіх старшыня быў на кватэры і адначасова харчаваўся. — Гэта ж тумарнікі, а не людзі. Вечна так і труцца па цёмных кутках. Калі яны бяруць кватаранта, дык, думаеш, ад душы? Гізунты з чалавека выцягнуць. Не казалі табе яшчэ, каб ты ім чаго з калгаса, хлеба ці сена?

— Цяпер ужо маўчаць.

— А з коньмі як было?

— Гэта пакуль я ўведаў. А першыя дні дык усё каня ды каня, кожны дзень.

— Не толькі сабе, ён дачцы сваёй з Лукі навазіў на паўвека дроў,— паясніла Ева. — А пра жонку тваю, хай во Тэкля скажа, я і тады гаварыла, як цябе выбіралі. Не звядзе, кажу, ён з ёй канцы з канцамі. Каб я з гэтага месца не сышла, што не звядзе. Помніш, у цябе спыталі, дзе будзе жонка: у калгас пойдзе ці ў горадзе будзе сядзець? А ты ёй будзеш дастаўляць усё? Дык ты чуць трошкі пачырванеў. Можа людзі і не бачылі, але трошачкі цябе неяк спаланула. Я і кажу: хопіць, бабачкі, не трэба мучыць чалавека. Жулік ніколі не пачырванее. А гэта, бачу, пачырванеў. Цяпер толькі прызнаюся, во пры Тэклі, шкада мне неяк цябе стала. Ах ты, думаю! Што з цябе за агонь там такі. Аж кажуць, вясной — старшыніха прыехала. Іду я каля Буліцкіх, а яна тыц якраз з двара. Здарова, кажу. Яна неяк чмых у нос. Але я нічога. Узяла за пуплік яе шапкі. А то не шапка, а так абячэечка нейкая. Яна глядзіць мне ў вочы. Ідзі, скідай, кажу, гэта ўсё з сябе ды пойдзем лён палоць. Чэснае слова, Валовік, я ёй нічога не казала. Жартам усё гэтак во. А яна як чмыхне, як пабяжыць... Чую, назаўтра, кажуць, старшыніха паехала... Ты, Валовік, не сердзіся і нічога не думай. Я без усякай злосці.



Валовік усміхнуўся.

— Сердзіцца? За што? За праўду ніколі нельга наракаць. Чорнага не зробіш белым. Вы скажыце ж, як яно гэта супадае! І зяця ж сабе такога падабрала. А я зрабіў проста: паехаў улетку, кватэру сваю здаў і галінку туды заламаў. Хай скача, калі хоча. Яны якраз у гэты час былі недзе ў зяцевага бацькі на дачы. Праўда, я яго не ведаю, можа ён і добры, нашто казаць. Ну, а сын акурат у пару маёй жонцы. Чысцюлька з чысцюлек. Пакой у яго ёсць і немалы. Але яна сама хай паспрабуе пажыць у зяця. Дачкі шкада, няма чаго таіцца. Толькі мне здаецца, каб яна не прыехала да мяне ў калгас цялятніцай. Характар у яе мой...

— А ў вас толькі адна дачка? І не было болей? — запытала Ева.

— Адна.

— Як гэта вы нешта?

— Дзеці, казала жонка, камфорту не ствараюць. Не магу, гаворыць, з-за дзяцей свет сабе завязваць. Што я, дзяціводка якая, кажа, ці што? Хай не глядзяць на нас, як на бяздзетных, і хопіць.

— Куды гэта адно дзіця, як вочка!.. — уставіла Тэкля.

— Праўда. Нас было дзесяцера,— з нейкай радасцю сказала Ева.

— А нас трынаццацера. Мама мая казала «трынаццаць», — паправіў Валовік.

— Во гэта дзеці. Тут, можна сказаць, сям'я, — заключыла Тэкля.

— Ёй ужо каля дзевяноста гадоў, а вы паглядзелі б на яе!

— Мацеры вашай?

— Ды і стары не ўступіць ёй.

— Ты б сюды іх забраў. Што яны, старыя, гаруюць там адны,— сказала Ева.

— Ты кажаш, «гаруюць». Яны на мяне кажуць, што я на свеце гарую. «Хопіць, сынок, блытацца па людзях. Ты ж у нас самы меншы, табе ўсё наша», — казала маці. А бацька арганізаваў у калгасе цэлы камбінат. Там і парня, там і калесня, там і сталярка, там і бандарня. А вы гаворыце «забяры». Скажы што-небудзь, ён табе, прабачце, вочы заплюе. Ён уеўся ў гэтую сваю парню, як шашаль у дрэва. Ды і сваіх паўсяла, амаль уся вёска Валовікаў. Там, брат, у нас цэлае кодла. Маці казала тады мне, як я толькі ажаніўся і прыехаў дамоў паказаць, значыцца, сваю жонку: «Не паслухаў мяне, сынок, цяпер, як хочаш. Нейкая яна, жонка твая, дужа белая, свіціцца на ёй усё, дакрануцца да яе страшна. Гэта ж карціна і ўсё. А каб узяў Ганну, не каяўся б, памінаў бы мацеру. Бацькоў вядомых, добрых, сама работніца».

Крыху памаўчаўшы, Валовік паставіў локаць левай рукі на стол, падпёр ёй галаву і, пазіраючы на Еву зусім добрымі вачмі, запытаў у яе:

— Гэта ты нямецкага капітана, гаўптмана, украла?

— Адкуль ты ведаеш? — нібы замяшалася Ева і прагаварыла гэтыя словы скоранька.

— Ты гаворыш, усёроўна, як я тут першы дзень. Адкуль я ведаю? Усе ведаюць.

— Ну, калі ты ведаеш, дык і ведай, што яго не было чаго красці. Дурань, сам у рукі прышоў. Праўда, Тэкля? — нібы шукаючы падтрымкі, звярнулася да яе Ева.

— Чаму к гэткай «Эве» не пайсці,— жартавала Тэкля.

— Гэта ж ён мяне гэтак зваў: Эва,— растлумачыла Валовіку Ева.

— Сам то сам, але ж і ў яго, мусіць, галава была,— выказаў сваю думку Валовік.

— Галава, — пазірала Ева на Валовіка, зняверліва ківаючы сваёй галавой. — Ці была яна калі ў вас, галава гэтая самая? Не губляў сваёй?

— Што мне хваліцца? Хай людзі пра мяне скажуць,— не стаў лезці на ражон Валовік.

— Дык і маўчы,— заключыла Ева.— А гаўптман гэты нямецкі, як ты яго называў, дужа нешта спадабаўся нашым хлопцам-партызанам. Ляжаць яны раз у кустах і кажуць: «От каб нам гэтага даўгалыгага. Жывым». А ён і праўда быў, як страла ў калодзежы, і нос з вагон. Прышла я дамоў, а ён усё ў мяне ў галаве стаіць. Можа тры дні гэтак стаіць і стаіць. Не, думаю, нешта трэба рабіць. Ці ён мяне, ці я яго. Каб не кідалася ў вочы, хадзіла я ў рыззі. Абы-што на сябе начапляю, нацягну, насуну, сажай шчаку наўмысля вымажу або нос умурзаю. Яны ж крэпасць былі зрабілі ў сяле ў нас. Верыць ім, кадукам? Дастала я ўсё сваё добрае — блузку шаўковую белую надзела, сарафан бліскучы, валасы накруціла, шчокі намасоліла ружовым крэмам, бровы падчарніла. Падмашчу, як ён дзе будзе ісці, і паўз яго, жых-жых яму сваімі вачамі і ўсміхнуся, а потым яшчэ аглянуся. «Эва», — скажа ён і паложа на сэрца сваю руку, белую, як у кашчэя. А ён трохі кумэкаў па-нашаму. Пятае цераз дзесятае і гаварыць умеў. «Сягоння, кажу, пан, уночы... Толькі каб адзін». І палец яму паказала. А хата мая была недалёка ад крэпасці, цераз дарогу к лесу. І хлопцам сказала, каб падышлі. Толькі ён у сенцы, а хлопцы — шах яму шляю нейкую сырычную на шыю і зашмаргнулі. Ён і захроп. Але як застукае нагамі сваімі, нямецкімі падковамі. Яны яго скруцілі, звязалі, у рот нешта ўтапталі і папёрлі гуртам перад сабою. Я трохі пасядзела, падумала, выйшла на двор. А жабы ў выгарах каля алешніку аж зямлю дзяруць. Як узяў мяне нейкі страх, дык я за Лёню (яму быў толькі другі год, я маладая замуж ішла) і кумельгам сабе ўслед за хлопцамі. А хату маю, і стопку, і пуню — на цельпушкі ўсё кароценькія парэзалі, пакалолі на дробныя шчэпачкі і забралі ў крэпасць. Трасца іх ведае, ці яны чаго шукалі, ці кухню тапіць сабе.

К сталу, расчырванелая, пад'ехала Мархва, Кузьміха.

— Старшыня.... ух-ух....— з пачуццём размахвала яна рукамі, прытупваючы.

Наляцелі іншыя жанчыны, падхапілі Валовіка, Еву і Тэклю, і мне здавалася, што плыве кудысьці вялікі карабель, увесь заліты сонцам і гукамі маёй любімай лявоніхі.

Далей што было, я не ведаю. Вінавата ў гэтым чырвоная бабская гарэлка, на якой я спакусіўся і якая змарыла мяне дачасна. А назаўтра ўдзень, калі праспаўся, я павінен быў ужо ехаць на месца работы, і мне было не да вечара, каб распытваць, як там і чым скончылася. Наступны мой водпуск будзе ўвосень, зноў, як летась, як кожны год. Сустракаў землякоў, казалі, што Ева распачала рубіць вясной вялікі дом, восем на дзесяць, каб улажыць усе тыя лішнія грошы, якія яна атрымала сяголета за лён.

А ўвосень я сам буду дома і ўсё ўведаю і ўбачу сам.

Люблю восень, як ні гаварыце: самая багатая пара года. Ды і цікавая, трэба сказаць.



# 2. ДЗЯДЗЬКА МІКІТА

Прышоў да мяне брыгадзір Гоман Іван і кажа:

— З'ездзі сягоння, дзядзька Антон, па гаручае.

Толькі я хацеў яму нешта сказаць ці запытаць, а ён зразумеў ужо ўсё і наперад паспеў забегчы.

— Праўду кажаце, дзядзька Антон. Ламаніна гэта для вас. Калі ведае чалавек сваю работу, яго і падганяць не трэба. І лёгкай яна яму здаецца. Але што рабіць? Вунь сягоння ўранні толькі прываложся. Такога храпака задае, хоць з гарматы над ім страляй.

— Ды яно ў яго гэтак, — уставіў я пра Аўласа нашага, які два дні быў на кірмашы, а цяпер бог ведае колькі будзе адсыпацца ды пахмяляцца.

— Хай бы ўжо сабралі ўсе гэтыя кірмашы на адзін дзень. Або скасавалі к чортавай матары, каб іх і паху не было. Ці ж гэта парадак: як пачнецца восень, дык кірмашы і кірмашы. Што ні дзень, дык дзенебудзь ды кірмаш. І на першую прачыстую, і на другую, і на пакровы. Ён бога таго, другі, даўно забыў як завуць, а на пачастунак ідзе. Яму абы напіцца.

Я засмяяўся.

— Ты, Іванчык, маўчы. Хай людзі гуляюць. Бач, ёсць з чым, дык і гуляюць. Каб не было, як той казаў, дык не гулялі б.

— Я ведаю, дзядзька, што хай гуляюць. Але ж адной атавы ў нас яшчэ колькі можна накасіць. Навошта яна будзе чарнець?

— Ты брыгадзір, дык табе і муліцца яно ўсё.

— Брыгадзір? — паставіў Гоман на мяне вялікія свае сінія гоманаўскія вочы, і я здагадаўся, што ён зараз можа плюнуць і сказаць, што я магу сабе забраць гэтае брыгадзірства, а ён і без яго пражыве не горш за любога з нас.

— Не сердзіся, Іванчык. Не сердзіся, родны. Бачу я, што ты па сваіх пайшоў, па Гаманах. Гаспадар, рупіць табе ўсё. А іначай, думаеш, выбралі б цябе брыгадзірам? А пра кірмашы праўду ты сказаў. П'яніцам адным яны толькі і патрэбны, нерабатням. Ты малады, не помніш. Мой бацька ўжо як працаваў! Бывала, два вуллі возьме на колік, канцамі ў дзіркі, на плячо, як бабы ваду носяць на каромысле, і панёс цераз Вялікае балота па кладках. На кані ўлетку там не праедзеш. А адзін вулей браць няма як, не прыступіцца. Штаны закасае вышэй кален, босы. Рабіў не дай божа! Конь другі раз таго не сцягне. І п'яным, казаў, ніколі не быў. Не было за што, родны. Во як людзі, Іванчык,

жылі. Пра свята, гаварыў, каб нічога не рабіць, дык і чуць не чуў. Конь на выгане ці на канюшні?

— Рабочыя коні ўранні, ўсе на канюшні. Скажаце Стахвану, што па гаручае. Ён ведае, якога каня даваць. Там і хамут, і калёсы якія, пакажа.

Запрэгчыся мне памог Стахван, конюх. На калёсах ужо была жалезная бочка, каністр, банка нейкая. Гэта, кажа, на газу, гэта на бензін, а гэта, банка, на масла.

Выехаў я з двара — добра. Гнедзенькі конь не вялікі, але шустры, у целе. Хамут на ім, бачу, добры, з цыратавым нахрыбетнікам. Падгузы з белай сырыцы. Лейцы ў мяне ў руках нейкія спецыяльныя, фабрычныя, і дуга зялёная, з банькай уверсе. Во, сабе думаю, сяджу на кароўніках ды цялятніках, будую ўсё ды будую, цясляру тым часам, а не бачу, як той казаў, якая збруя ў коней. А тут калёсы яшчэ лясь-лясь-лясь, жалезны ход, утулкі тыя, як у шпулі, вузкія, аж мазь цячэ з іх. Цмокнуў я ад радасці, ад нейкага добрага настрою, на гнедзенькага, і пакаціў ён мяне па гладкай дарозе, прымятай коламі машын. Нацягнуў я лейцы толькі таму, што глушыў мяне з непрывычкі гром і гул бляшанай тары, якая была на калёсах.

Чаму, думаю, не ездзіць на такім кані, у такой вупражы? Бабу пасадзі, і тая будзе ехаць, як паненка.

Не паспеў я добра паглядзець абапал дарогі на рунь, якая ўбіралася ў сілу, як уехаў у сасоннік. І тут добра. У вачах ясна неяк стала, свежа дыхаць. Дзяцел зачыкаў і, нібы дражнячыся са мной, пераляцеў, рабы, на другую сасну.

Во гэтак во ў МТС і ўпёрся.

Хурманкі ўжо там былі. Выцягнуў я галаву і разглядаю, дзе лепш сабе тут прымайстравацца.

— Сюды станавіся, — выйшаў з-за сваіх калёс дзед і паказаў мне для майго каня месца.

— А ці чарга якая? — запытаў я, акідаючы поглядам хурманкі.

— Чарга не чарга, але парадак нейкі павінны людзі мець,— сказаў дзед ціха, не прыцягваючы да сябе ўвагі.

Я ўглядзеўся ў яго. Ён быў не проста сівы, а белы, як голуб. Валасы на яго барадзе, відаць, пасекліся ўжо і не мелі ніякай пышнасці, нагадвалі паклычаны сівец, якога каса кранаць і не думала. Адно вочы яго былі не па гадах сінія, як пралескі, уважлівыя і шчырыя, быццам у дзіцяці, і не было на іх ні жаўцізны, ні крывяных жылак, як часта сустракаецца ў старых людзей.

— Ты не з Залужжа будзеш? — запытаў ён, набліжаючыся ка мне і не зводзячы з мяне сваіх уважлівых, шчырых вачэй.

— З Залужжа,— адказаў я, пазіраючы на яго.

— Не Пятроў?

— Пятроў.

— Ну, дык я Мікіта, з Карабоў, дзядзька твой, калі ведаеш,— і ён працягнуў мне сваю руку, без усякага старання, з шурпатымі пальцамі, быццам гаворачы: хочаш — прызнавай, а не хочаш — не прызнавай, а я твой дзядзька і па ўсіх законах нашай немаладой радні павінен з табой павітацца.

— Дзядзька Мікіта!..— неяк сумеўся і ў той жа час абрадаваўся я.— Не думаў, што вас тут сустрэну. Цяпер толькі трохі ўгадваю.



Дзядзька адразу да мяне прыгарнуўся, стаў бокам побач са мной.

— Што гэта вы нешта, дзядзька, прыехалі? Ці ў вас маладзейшых нікога няма? — запытаў я.

Дзядзька глянуў на мяне, быццам не зразумеўшы таго, што я яму сказаў, потым ступіў адной нагой на трубку каляса і штурхануўся ўгору, сеўшы на біла маёй драбінкі.

— Падкінь каню сена. Што ён будзе газету чытаць? — па-свойму пажартаваў ён.— Ты кажаш, ці няма маладзейшых? Як я буду жыць без работы? Мне і Васіль, сын, гэтак во, як ты, кажа. Насяджуся і налякуся яшчэ. Хопіць гэтага шчасця. Хваліся, як маецеся?

— Хваліцца дужа няма чым, але маемся,— кажу.

— Маці памёрла?

— Памёрла. Залетась яшчэ,— гавару.— Хто з вас, дзядзька, старэйшы: вы ці яна?

— Я. Марына меншая за мяне. Гады на тры.

— Дык колькі вам?

— Не дужа і стары. Каб мацерыных гадоў дажыць... Не тваёй мацеры, а маёй.

— Праўда: гэта ж баба толькі летась памёрла,—успомніў я.

— Летась. Яшчэ нічога сабе была. Бяда толькі, што не бачыла. Завязаўся, кажа, свет, хоць грудзі сабе раздзяры. Сіла ёсць, хочацца ісці, рабіць што, а тут не бачыць.

— Колькі ёй, дзядзька, было?

— Не ўрокам кажучы, другі дзесятак на другую сотню. Каб па ёй, дык дзесяткі са два мне б яшчэ пажыць. Але мужчыны болей за баб жывуць, — на праўду ці ў жарт заключыў дзядзька.

— А дзед колькі жыў?

— Го, бацька, дзед твой, не сваёй смерцю памёр. Яго палякі забілі, во тут недалёка за Бярозай стаялі ў тую вайну. Не па сабе ён памёр. Прыедуць, бывала, у вёску і давай, як тыя ваўкі, рваць у каго што. Свіней калоць, авечак браць, адзежу з кублоў выварочваць. А бацька толькі новы кажух пашыў. Дужа ласыя на кажухі яны былі. Паны, здаецца, а кажухі ім падабаліся. Толькі нехта гэтак во кажа: «Палякі едуць». Бацька жах кажух на плечы і на гарод, каб у лес ускочыць. Лес жа ў нас побач. Там у ім сам чорт галаву зломіць. А ён, нячыстая сіла, адкуль ні вазьміся, хап яго за рукаў. Бацька круць ды бац яму, сцерве, наадварот. Ён і зарыў з усіх чатырох рылам сваім. Адкуль трасца нагнала другога. Бачыць, што тут не выкрутка, дык ён з калена злажыўся і ціў ужо ў канцы гарода ў бацьку. З амерыканскай вінтоўкі. Людзі былі ў лесе і ўсё чысценька бачылі. У нашай жа затвор зверху соўгаецца, а то знізу нейкая застаўка зачынялася. Акурат у плечы ўгадзіў. А кажух з нежывога садраў. Там воўна, воўна была. Усе аўчыны з нястрыжак. А мне дык у гэтую вайну чуць не было. Васіль жа мой і Цімох, сыны, былі ў партызанах. І жонкі іх і дзеці таксама дома не сядзелі. Наглядаў я так з большага, стары, за гаспадаркай. Гаспадаркі яно, калі гаварыць праўду, і не было. Але будынкі стаялі. Наказалі нам з Лосеўкі, што немцы едуць на наш партызанскі раён. Я якраз быў у дачкі, у Ганны, што замужам у Барсуках. Дамоў ужо, праўда, ішоў. Думаю, заскочу ў хату, вазьму тапор, сухароў там у мяне ў торбачцы на ўсякі выпадак у запечку было, і падамся сабе ў лес. Толькі я ў вёску, яшчэ і да хаты сваёй не дайшоў,— як у мяне ў сярэдзіне і адсела, здаецца, усё. Едуць. Іду ўжо сабе. Накульгваю трохі. Будзь што будзе,

рашыў сабе. Некуды ўжо мне тут. Пасаскоквалі з коней, апанавалі з усіх бакоў мяне, ражны панаводзілі. «Гэр-гэр» — крыкнуў нейкі іх старшы. Раз — падбягае другі: «Хто ты? Куды ідзеш? Дзе быў?» Знаю, што канец тут маёй душы. Паплыло ўсё ў мяне перад вачыма: сяло, садок і хата, туман пайшоў паўз лес. Іду, кажу, солі шукаць, паночкі. Паміраем на прэсным, друзой усё ў сярэдзіне пабралася. Потым нехта мне калі чухне нечым паміж лапатак. Чуў толькі, як горача стала і быццам п'ю, п'ю поўным ротам ваду, а яна цёплая, як улетку ў рацэ, і ніяк не напіцца. Чаму яны ў мяне не стрэлілі, не ведаю. Як я пасля раздумаўся, дык, мусіць, не хацелі голасу аб сабе падаваць. Ачнуўся я пад вечар. Снег каля майго роту растаў і ямка чырвоная. Кроў ішла. Жывучы чалавек. Кот, кажуць, жывучы, а мне здаецца над чалавекам няма. Хай іх ліха, мой родненькі, я ўсю зіму кроўю кашляў. Улетку раздзену сарочку, як стану грэць плечы, дык і чую, што лягчэй становіцца. Сонца ўсё выцягнула. Але, дзякаваць богу, не ўрокам кажучы, і яны не вярнуліся. Упёрлі іх хлопцы ў Клічаўскія лясы, там ім і хаўтуры былі. Усяк на вяку здараецца. Дзе гэта цяпер ваш Рыгор? — стаў распытваць дзядзька пра нашу сям'ю.

— Рыгор? У Горкім. У дваццаць трэцім годзе паступіў на завод. Ужо на пенсіі. Кватэру добрую мае. На галоўнай вуліцы. Казённая. Дом вялікі, і ўсё ў доме: і вада, і памыцца можна, як у лазні.

— Бачыш, — задаволены быў дзядзька.

Потым мы яшчэ пагаварылі пра самую старэйшую маю сястру, Хіму, якая была замужам дома, у сваёй вёсцы; потым пра Вулляну і Мар'ю, якія жылі са сваімі мужыкамі недзе на свеце, як і Рыгор, большы па мужчынскай лініі. Успомнілі Максіма і Яўмена, што загінулі ў грамадзянскую вайну, на фронце і ў той жа час каля самага дому.

— А каторая гэта ваша з салдатам паехала? — запытаў дзядзька, калі мы спусціліся да тых далёкіх часоў, да грамадзянскай вайны.

— Гэта вы пра Тацяну пытаеце?

— Во, праўда, уздумаў: Тацяна. Яна жывая дзе?

З Тацянай у нас быў выпадак. Я тады яшчэ бегаў у доўгай зрэбнай сарочцы без штаноў. Штаны ў той час у нас пачыналі шыць хлапцам гадоў з дзесяці, з дванаццаці. Як трэба было ўжо ў поле адпраўляць, скаціну пасвіць. Наехала вясной салдатаў к нам. Ясна было: палякам у нашай мясцовасці не быць. Хоць і былі яны па той бок Бярозы, але апякліся горш ад горкай рэдзькі. Пакуль другія сілы падыдуць, у нас стаяў эскадрон. У суседа нашага двор быў ладны, жыў чалавек ніштавата, паўвалокі зямлі меў, і стаў у яго камандзір усяго гэтага эскадрона. У нас проста два салдаты было. Як цяпер помню, у аднаго гамашы і чорныя абмоткі. Абматае іх, дык ногі здаваліся крывыя, як клешчы. А ў другога быў адзін нейкі бот, а другі чаравік, і галіфэ вузенькія-вузенькія, чуць не трэскаліся на ім. Мне тады, малому, думалася, што і бот і чаравік былі яму дужа цяжкімі. А ў камандзіра быў пасыльны яго, «адзютант», салдаты казалі. Стаў ён да нашых салдатаў учашчаць. Прыдзе і прыдзе. Шпоры ў яго, боты блішчаць. Ліворвер пры боку. Каб галайстра, дык не, спакойны хлопец, просты такі. Даўгалічанькі з віду, носік трошкі тупы. А бегаў ён, аказваецца, да яе, да Тацяны. Ужо апошні дзень перад наступленнем колькі разоў, можа, прыбягаў. І Тацяна, бачым, нешта перамянілася, неяк у сябе ўся ўвайшла. Увечары прынёс нешта ў газеціне і аддаў ёй. Маці не бачыла, а я бачыў. Бяроза ад нас блізка, і ўсю ноч было чуць, як вухкалі з гармат і трашчалі кулямёты. Маці сядзела каля акна





і малілася богу. Сястра ўсё бегала на двор, не спалася ёй, а мы з братам Сяргеем, ён быў трошкі старэйшы за мяне, ляжалі пад дзяругай і баяліся не толькі шаптаць, але і паварухнуцца. Уранні прыехаў ганец верхам і перадаў у рудым салдацкім мяшку нейкія там яго пажыткі. Можа камандзір паслаў, хто яго ведае. Бач, сказаў, мусіць, перад боем таварышам, што ў яго тут інтарэс ёсць. Ну, і назаўтра братоў нашлі абодвух забітых, Максіма і Яўмена, на гэтым жа лузе, дзе і яго забілі. Іх полк падышоў неяк збоку. І ўночы адразу ў бой, нават дамоў не паспелі заскочыць. Я іх добра не памятаю, малы быў. Казала маці, што старэйшы, Максім, быў па ёй, нос вастраваты, а меншы, Яўмен, — па бацьку, нос бульбінай, во як у мяне.

— Пастой, — перабіў мяне дзядзька, — дык жа і бацька ваш неяк, здаецца, тады памёр?

— Бацька за год перад гэтым. Пры тых немцах, што былі перад палякамі. Увосень ужо была груда, у адзін дзень уз'юшыліся адступаць. Давай хапаць хурманкі. Бацька на каня і ў лес. У страха вочы вялікія. Сядзіць там ноч, сядзіць дзень. Ці ў яго сярнічак не было, ці можа баяў-

ся агонь налажыць? Дым, то ён далёка відаць. Думалася, можа па лесе будуць шукаць? Пахварэў зусім мала. Нават не схварэў. Маці галосіць, а я думаю: «Чаго яна?» Прыгожы, чырвоны ляжыць бацька. Нос круглы, як цяпер бачу. А яго запаліла ўсяго, і нават мову адняло.

— Анучку сцюдзёную на лоб клалі? — схамянуўся дзядзька, быццам бацька яшчэ быў жывы і справу можна было паправіць. — Мусіць, ад памору няма дактору, — думаў ён пасля сумна, шкадуючы, што бацька памёр маладым і нечакана, знячэўку, ад нейкага неразумнага выпадку.

— Потым у Тацяны нарадзіўся сын, — вярнуўся я к Тацяне, гаворку пра якую мы пачалі. — І прыехалі яго бацькі.

— Бацькі, кажаш, яго прыехалі? — здзівіўся дзядзька.

— Бацькі, дзядзька. Яго бацькі. Бацька і маці, разам удваіх.

— Як гэта яны ўведалі?

— Уведалі, дзядзька. У пісьмах, мусіць, ім пісаў. Што так і так, а ў выпадку чаго... І Тацяна ім пасля напісала.

— Салдат-салдат, а наперад, бач, думаў. Здалёку яны самі?

— З Курска. Чулі можа?

— Чуць то чуў, але ці далёка, ці блізка, не ведаю. Далёка, мусіць. Не чуць, каб хто каля нас адтуль быў.

— Маці яго, свякруха Тацяніна, як глянула на дзіця, дык нямым голасам загаласіла. «А сыночак мой, а родненькі...» Не выпускала з рук, казала, увесь як ён, сын яе, быў маленькі. Сама рука за пазуху лезе, быццам трэба грудзі яму даваць.

— Я табе скажу, хай сабе кажуць, але чалавечае сэрца кроў сваю чуе. Чаму мне дзяцей Васілёвых, унукаў, шкода? І так шкода, што і сказаць табе нельга як. Здаецца, вось руку за каторага сячы, вокам не міргну.

— І што вы думаеце, дзядзька? Паехала яна з імі туды. Угаварылі. Ці ўпрасілі, гавары як хочаш. Але паехала. Яго тут забілі, а яна паехала туды, на чужую старану.

— Ого, а як жа, — так выказаў дзядзька сваю думку аб тым, што яна павінна была ехаць, раз была звязана з ім той вялікай праўдай, якая дзеліць і лёс і смерць — усё напалам.

— Гэта было даўно. Але ўжо ў гэтую вайну, дзядзька, якая была праява. Толькі ўночы выбілі з вёскі немцаў, як уранні прыехала невялічкая кучачка салдат. Маладыя ўсе, вёрткія, як жэўжыкі. «Дзе тут жыве Альховік Хіма або Альховік Антон?» — пытаюць. Стаяць каля самай Хімінай хаты і вось гэтак пытаюць. «Во яна», — кажуць. І Хіма сама выйшла з хворткі, стаіць. Аж гэта сын Тацянін. Паставілі на Хіміным двары сваю антэну, драты панацягвалі. Радысты, аказваецца. Адзін хто-небудзь ад апарата нікуды не адыходзіў. Сабраліся мы к Хіме, свае. Што рабіць? Свой, бачым. Выліты бацька. Хіма — дык тая пазірае на яго і плача. Тацяну ўспомнілі.

— Усёроўна як хто павёў яго той самай дарогай, за бацькам, — сказаў дзядзька і стаў вадзіць вачамі па небе, на якім хмар не было, але зусім відаць стаў ключ жураваў, выразна чутна іх курлыканне, нейкае рэдкае, асцярожнае.

— Прышоў дзядзька. Гляджу я і ўсёроўна як сон перад сабою бачу. Але ведаеце што? Каб жа пастаялі яны ў нас многа. А ў Хімінай дачкі ды дачка была. К Хіме прыбяжыць. Скок-верць, туды-сюды. Чарнабровенькая, вочкі тыя, як гузічкі, наверсе, вострыя такія, не змігрне. Да вайны гады са два на дакторку ў інстытуце вучылася. А тады ў партызанах была. Рызыкоўная дзяўчына, слоў няма, якая рызыкоўная. Дайшла да каменданта, паказала яму нейкія паперкі і, пакуль тое ды сёе, капнула ў яго ваду, ці там што ў яго на стале стаяла, атруты і ў той жа дзень абадзьмула яго, як якую гару, і лопнуў. Упадабаў яе Тацянін сын і... жаніцца. Як жаніцца? Вайна, фронт пайшоў, і яму ж трэба назаўтра за ім ехаць. А тут і, як ні кажы, радня, у трэцім калене. Не ў першым, праўда, а ў другім калене пляменніца яна яму. І што б вы сказалі, дзядзька? Скончылася вайна, прыехаў і паехалі разам з ёй! У Маскве давучыліся, яна за дакторку, а ён за інжынера, і зараз недзе аж у Іркуцкай вобласці. Там будуюць нешта дужа вялікае, ён чуць не галоўным над усёй гэтай будоўляй, а яна людзей лечыць. Там жа, казалі, свет народу. Тацяна летась прыязджала. Мы гаманілі з ёй, пыталі, чаму ён гэтак зрабіў. «Радня мы ўжо далёкая, мама, а мне з ёй, як дома»,— сказаў. Што маці зробіць?



— А Тацяна як жыве? — запытаў дзядзька.

— Адна, — адказаў я. — Старыя памерлі, а ёй знаходзіўся і адзін чалавек, і другі, і нядрэнныя, казала, але не хоча. Як успомню, кажа, яго, як ён у той вечар ехаў, як стане ён у мяне ў вачах, і здаецца, во бачу: з каня падае, — закамянее ўсё ў грудзях, зашкрабе, тады хапаюся за што, каб не паваліцца. А так, казала, усяго хапае. Калгас добры, багаты. А зараз і сын калі з нявесткай капейку прышлюць. А на Бярозе, дзядзька, што ў нас было ў вайну...

— Ты кажаш, — мацнуў мяне за плячо дзядзька. Вочы яго засвяціліся. Абрадаваўся, мусіць, што ўспомніў пра самае галоўнае. — Ты паслухай. Майго ж Васіля сын акадэмію салдацкую скончыў. Пасля вайны во тут, у Лосеўцы, у дзесяцігодцы вучыўся, а потым з салдатаў у акадэмію падаўся. Я казаў яму: «Дурны ты, унучак, навошта табе мазгі свае сушыць? Хіба ты так не пражывеш?» А ён ужо быў у пагонах. Шапка такая дзябёлая, з кукардай. Афіцэр. «Не, — кажа, — дзед. Пражыць то я пражыву. Але як скончу акадэмію, дык генералам магу стаць». Бачыў, куды высока пазірае. Яно чаму б? Ды нешта я не дужа веру. Хлапец то ён нішто сабе. Бывала, калі ўкляпіцца ў вошта, то не адступіць. Дома каля троіцы быў. З жонкай. Дачка генерала. Бачыў ты гэта? Я смяяўся: «Генералам будзеш ці не, а ў радню генеральскую ўжо ўлез». «Думаеш, дзед, наўмысля? Так выйшла», — кажа. Казаў, брат, не ведаў, хто бацька, пакуль і запісаўся. Яна была настаўніцай у адной вёсцы. А іх часць ездзіла ў лагеры ўлетку. Запісаліся мы, кажа, дзед, у жніво яму далі водпуск на два тыдні, і паехалі туды, к яе бацьку. Быў аслупянеў, казаў, як убачыў, што к генералу папаў. А потым прывык. Я чаму табе пра Васілёвага сына, Валодзю, расказаў? У акадэміі пра нашу рэчку Бярозу гаварылі. Баі якія тут калі былі разбіралі. «Наша, — кажа, — дзед, рэчка гістарычная». У гісторыю ўвайшла. У кнігах пра яе пішуць. Напалеён тут загінуў? Загінуў. Армію сваё палажыў». «Ведаю, чуў, каб іх пранцы, гэтых французаў, расказваў мне бацька пра іх, як яны тут і варон, і катоў, і сабак, і ўсякую немач елі», — гавару. «Ну дык тут яны добра пакупаліся, у нашай рацэ. У сцюдзёненькай, з лядком». «Хай не гоніць іх хвароба за свет», — адказваю. «Немцы, — кажа, — у восемнаццатым годзе зусім мала пастаялі на гэты бок Бярозы». Я помню, як яны беглі ў сваю германшчыну. Аж капыццё ляскацела. «А белыя палякі, дзед, зусім пабаяліся Бярозу пераходзіць. Дайшлі толькі да Бярозы, а пужалі, што да Старога Дуба пойдуць». Я не ўцерпеў і засмяяўся. «Чаго ты,

дзеду, смяешся? Няпраўду кажу?» Праўда, гавару, унучак. Чаму ж няпраўда? Толькі, можа, і вучоны твой таго не ведае, што я сваімі вачамі бачыў. І нагайкі іхняй. Во гэткай чорнай, як гадзюка, калі плітане табе цераз галаву, аж іскры пасыпяцца. «Гувры, псякрэў, дзе свінні!» Легіянеры ўсё, пазнанцы, радзівілаўцы ды патоцкія. Што ж яны: пагублялі свае маёнткі, ды глядзець на нас будуць? Тады яны азвярэлі. Ім чалавека бачыць страшна. Клыкамі б яго рвалі: у чалавека страляць, каб кажух з яго зняць? Недавярак, кажу, гад. Дом у яго, у гэтага самага Патоцкага, быў мураваны, у два рады вокны, вышэй і ніжэй. І ён сам угары, за нейкай драбінай з апрэнтаў ходзіць. Тут у яго ліпамі кругом абсаджана, і нейкія елкі не нашы. І музыка з тых белых пакояў плыве. А кругом, як вока хапае, луг, брат, такі, лес яго. Ды які лес—за нас ажно вунь ішоў, у самую Біскупку. То ён будзе жалець нас, гэты чалавек? За Бярозу яны, брат, не пайшлі. Перайдзі, а калі што... Гэта ж Бяроза, шырыня. Праўда, як стала рака, дык яны і давай на гэты бок ездзіць. Не, думаем, нічога не будзе. Калі ўнадзіцца свіння ў агарод, дык або дзірку забі, або свінню забі, іначай ўсёроўна будзе цягнуцца. Паехалі мы ў Затоку да сваіх. Там эскадрон іх стаяў. Так і так — кажам. Тады яны к нам прыехалі. Сабраўся народ, пагаварылі, памеркавалі. Трохі яны вінтовак далі, трохі свайго ламачча насабіралі. За рэчку крадком схадзілі. Адтуль нам наказалі, калі яны будуць у нас. А мы нашым праз ноч далі ведаць. Я, можна сказаць, век за ружжо не браўся, а пайшоў. Нейкую далі мне вінтоўку іржавую-іржавую, затвор ужо ў ёй ні туды ні сюды, прыкарэў, але з штыхам. Аўстрыйская, казалі, ці што. «Ты тады, дзядзька, калі на цябе наскочыць, сапані яму штыхам», — жартавалі хлопцы. Зрабілі мы засаду яшчэ з цёмным і чакаем. Сам камандзір расставіў нас. Адна палавіна адсюль, другая адтуль. І ўпусцілі іх, як у пастку, каб было ні ўзад, ні ўперад. Чуем, едуць, скрыпяць палоззем. Яны, значыцца. Мы і не дыхаем. Толькі яны нас праехалі, ім і сыпанулі насупраць. Яны назад, а тут, брат, ім з «максіма». Мароз быў, у лесе так ясна, калі загуло, калі затрашчала кругом. Мяне самога такая нейкая злосць узяла, смеласць. Скажу толькі адно: смецце яны, а не ваякі. Цяпер, як падумаю, дык смех і годзе. Я стаяў глыбока ў лесе. Навёў свой штых у бок дарогі і слухаю, што там такое робіцца. А ён прама на мяне прэцца ў сваёй трохвуголцы. Малады такі. Я быццам цэлюся, цэлюся. Што яно будзе, думаю? А ён бразь сваю вінтоўку і рукі ўгору падняў. Я паказаў яму, каб павярнуўся задам да мяне, і пагнаў яго перад сабой у гурт. Пасля да самай гэтай вайны мужчыны забыцца не маглі. «Раскажы-тка Мікіта, як аўстрыйскай вінтоўкай пана ў плен узяў?» — жартавалі. Добра зрабілі, дужа добра. Не паехалі яны больш на гэты бок. І галінку заламалі. Кажу яму, унуку: ты кажаш, у акадэміі вам пра Бярозу гаварылі. А няго ж не будуць гаварыць. Бяроза, брат, рака вялікая.

— І ведаюць, што вялікая, — адказвае ўнук.

— Адкуль яны ведаюць, што вялікая? — пытаю. — Бачылі яе? Сена паўз яе на лузе касілі? Плыты па ёй ганялі?

— Мой цесць у вайну сам на ёй быў.

Гэта яго жонкі бацька, генерал. «Быў, ты яму і паверыў», — гавару. «Быў, — кажа, — дзед. Ордэн далі і гадзіннік залаты разам. А на гадзінніку выразана прозвішча і за што — за бой на рацэ Бярозе».

— Праўда, дзядзька. Ні адзін фашыст у гэтую вайну не перайшоў на той бок Бярозы. Якія былі тут, тут і засталіся. Шаша гэтая во самая, дарогі ўсе туды аж пад Міхевічы — усё было завалена і запруджана розным ламаччам. Тут былі іх і фуры, і кухні, і машыны, і танкі — якой толькі трасцы не валаклі. Можа колькі тыдняў шашу не маглі расчысціць. Я потым, як прышлі нашы, паваяваў трохі, дзядзька. Усю Польшчу прайшоў. Але кажу табе, дзядзька, як свайму: дадушы, нідзе не бачыў, каб гэтак было ўсяго навалена. Што-што, а Бярозу, здаецца, ён будзе помніць.



— А як жа, — неяк трохі скасіўшыся на мяне, згадзіўся дзядзька.

Потым палажыў мне на калена руку (мы ўдваіх сядзелі на біле драбінкі маіх калёс) і, быццам па сакрэту, сказаў:

— Мы вазілі даўней бочкі ў Воршу. Вунь, як бачыш гэты зялёны сасоннік, была смалярня. І цяпер завуць гэты лес Смалярняй, але ніякай смалярні тут няма. А тады была. Карчы капалі ў лесе. Бывала, добра, калі накапаеш за дзень удваіх шурку, то заробіш капеек па пятнаццаць на брата. А вунь там былі ўмураваны катлы, і гналі смалу. Гэта цяпер дык і добрае і марнае — усё на машынах возяць. А тады ж на конях. Вазілі мы гэтыя бочкі, смалу, у Воршу. Тыдзень, можа, у адзін бок едзеш. Дык бачылі там Днепар. Думаеш, шырокі? Эт, во нагой пераступіць. Можа ніжэй і шырэйшы. А тут не.

Прышоў кладаўшчык бензіннай базы і перабіў нашу з дзядзькам гаворку. Ён адамкнуў высокую браму і паклікаў заязджаць. Дзве фурманкі заехалі, а яшчэ цераз адну была і наша радоўка.

— Вы, дзядзька, у лапцях? — чамусьці толькі цяпер мне кінулася ў вочы, што дзядзька ў лапцях. У лыкавых лапцях.

— Боты ёсць. І чаравікі ўнук прывёз. Але неяк цяжка. І нага, па праўдзе сказаць, прэе. У лапцях лягчэй. Нявестка кажа:ануч табе не набрацца. У боты абы-што можна абвярцець, а ў лапці добрая трэба ануча. І не прыгожа, калі якая не белая, рабая ці чорная. Дык я ўжо нявестку і не чапаю. Збегаў к дачцэ, к Ганне, у Барсукі, яна мне добрую полку разадрала. Паглядзі.

Дзядзька паставіў на трубку каляса нагу, паказваючы мне, якія ў яго анучы.

— Сама ж яна, нявестка, Васілёва жонка, не прадзе. Добра ім цяпер жыць, бабам. Бывала, увечары шпулю накруціць, пакуль спаць лажыцца, і ўранні ўстане ад якіх пеўняў і смыча тую кудзелю, пакуль у печы тапіць. Сліны ўжо ў роце няма, дык помачкі паставяць — міскі з вадой і туды пальцы макаюць. Адной смолі на комінак было не набрацца. А цяпер усё крамнае носяць, са свечкай чалавека не знойдзеш, каб у сваім быў, у даматканым.

Дзядзька тут жа звярнуў маю ўвагу на тую адзежу, што была на ім: штаны чорныя, целагрэйку, картовую сарочку, паказаў нават ражок белых ніжніх нагавіц.

— А ў лапцях гэта я так. Я ўжо табе казаў. І боты, і чаравікі ёсць. Ды і лык стала ў лесе, хоць ты іх усе разам падзяры. Паперад дык ляснік панскі не даваў рэзаць, а лыкі прывозілі аднекуль барлінай па рацэ. Дорага былі. А тады ўжо, як паноў не стала, выразалі ўсе, пакуль ахвоту сагналі, засталіся былі адны мышыныя хвосцікі. А гэта пайшоў я надоечы ў лес. Такое луццё выцыбалася. Рэзаў я, рэзаў, драў я, драў. Тады ўжо не панесці мне. Ледзь прынёс дамоў. Зноў, як напаў на мяне сын, Васіль. А унук, Валодзя, што з жонкай дома тады быў, смяецца:

— Не крычы, тата, на яго, — кажа.

Пайшоў са мною па тыя лыкі. Стрэльбу ён узяў, і павёў я яго. У Васіля аж дзве: адна, што пістоны на цыліндэрак надзяваюць, а другая новая,

патроны ў яе закладаюцца, цэнтралка. Толькі перайшлі кладкі ў лузе, а яна рыецца ў купіне, і парасят з пяцёра каля яе, шэрыя такія. Валодзя за стрэльбу і к плячу. А я, як на тую хваробу,— апчхі! Яны ўсе пырск куды каторае.

— Дармо, унучак, — кажу я яму. — Можа яно і добра, што мне чыхнулася. Яны за лета падрастуць, а Васіль і без цябе ўзімку заб'е.

— Заб'е, кажаце, Васіль?

— Забіў летась аднаго. Ладны такі япрук. На кані ездзіў па яго. Тук дужа тонкі, як гусіны, наскрозь прабівае блін. І крыпліна драбнейшая, чым у нашых свіней. Казу таксама прыносіў. Я сварыўся на яго. Навошта ты біў, гавару. Воўк, гаворыць, адабраў ад яго. Можа і праўда, хто яго ведае. Каза то быстрэйшая за яго, але бывае, што і яна пападзецца ваўку ў лапы. З казы мяса худое, але дужа пахне. Уставяць на дзень, дык гэткі смачны дух з печы. Шкурку пасцяліў ля ложка на масту. Як уставаць, дык нагамі босымі адразу на яе. Шэрая, мяккая, хоць у вуха кладзі.

— Вы ўжо ў новай хаце? — запытаў я ў дзядзькі, бо ведаў, што Васіль будаваў новы дом.

— А як жа. Яшчэ перад спасам улазіны былі. Каб ты бачыў там толькі...

— Казаў Васіль, што шыферам думае крыць.

— Накрыў, — усур'ёз сказаў дзядзька. — Гармонічкам лісты такія. Ні дождж, ні агонь не пройме.

На запрашэнне дзядзькі пабыць у іх у гасцях я згадзіўся, бо дужа даўно не быў у той мясцовасці, адкуль родам была мая маці. Толькі — калі? Кірмашоў, гулянак такіх, што бываюць на аджыўшых святах, я не любіў і ніколі нікуды, калі сказаць праўду, на іх не хадзіў.

— Слухай, — успомніў дзядзька, — кірмаша ў нас цяпер ужо няма. Другі год будзе, як няма.

Я здзівіўся, куды ён мог дзецца? На гэты дзень сцякаліся з усіх вакольных і нават далёкіх вёсак тыя, хто любіў вострае пітво і гэткія ж гульні.

— Перанеслі, — паясніў дзядзька.

— Як гэта перанеслі?

— На Кастрычнік перанеслі. Быў сход, пагаварылі і рашылі скасаваць. А калі хто хоча ў госці, хай на Кастрычнік прыязджае. Летась ужо не было, а сяголета і па гатоваму.

Я, прызнацца, тут трошкі быў абескуражаны. Вёска Карабы лічылася куды супраць нашай, глуш, можна сказаць. А тут яны ўзялі ды вунь куды сіганулі. У нас улетку толькі яшчэ гаварылі пра гэта, а яны ўжо зрабілі.

— Чаму я дагэтуль нічога не чуў пра гэта? — падумаў я ўслых.

— Не чуў, кажаш? А ты пра кірмашы, здаецца, ніколі і не праслухоўваў. І бацька твой такі самы быў.

— Ведаеце, дзядзька...

— Ведаю, — перабіў мяне дзядзька. — Вазьмі сяголета і прыедзь. Толькі ж не ўздумай на Галешнік ехаць, наклад вялікі будзе. Цяпер мы ўжо наўпрасткі ездзім, цераз балота. Такую, брат, дарогу паднялі, жарсцвяком высыпалі, шаша другая таго не дакажа. А пасярэдзіне трубу цымянтовую палажылі, тоўстую, як кадзь. Ад гэтай трубы ў адзін бок прааралі трактарам канаву далёка ў балота і ў другі бок прааралі, каб вада цягнула.



Пры гэтым дзядзька паказаў рукой у адзін бок, потым павярнуўся і паказаў у працілеглую старану.

Як напоўнілі бочкі гаручым і выехалі з базы, дзядзька звярнуў з дарогі і спыніўся. Накінуўшы пятлёй лейцы на слупок агарожы, ён пераматаў вяроўкай драбінку ззаду, потым паўз другі канец бочкі, паправіў пад краямі бочкі паленцы-чацверычкі, каб і ў гэтым напрамку нікуды яна не падалася.

Ужо седзячы на возе, на сядзенні-дошчачцы, дзядзька сказаў:

— Дык казаць Васілю? Ён рыбы наловіць.

— Можа на веласіпедзе прыеду, — адказаў я.

— Чаму на лісапеце? Ты з Тэкляй, удваіх. Няўжо ў вас такі старшыня, што каня не дасць?

Мы паехалі ў розныя бакі. Бочка мая і банкі ўжо не грымелі, конь ішоў павольна і мякка.

Раздумаўся я сам сабе. «Праўда, чаму мне не запрэгчы каня, не сесці ўдваіх з жонкай і не з'ездзіць да радні ў госці?»

Толькі я гэтак думаю, а тут Іван Гоман, брыгадзір, тыц з лесу.

— Няма чаго,— кажа,— заязджаць на калгасны двор, а паедзем вобрабам адразу к трактару.

Мы звярнулі на вобраб і паехалі паўз лес. Нейкім вялікім спакоем дыхаў ён, то ў жоўтым лісці, то ў зялёнай ігліцы асенні лес.

— Цяпер то ты мне на Кастрычніка каня дасі. Загадзя дагаварваюся. Паеду ў Карабы ў госці.

І я расказаў Гоману пра сустрэчу з дзядзькам з Карабоў і пра тое, што яны зрабілі ў сваёй вёсцы з кірмашом.

— Хай бы ў газетах напісалі аб гэтым?! — абураўся ён, быццам сердзячыся на мяне.



Васіль КЛІМЯНКОЎ

# САЛДАЦКАЯ ДАРОГА



Камбат выводзіць
На заняткі строй,
Пад ботамі ад ветру пыл клубіцца.
Слупок іртутны
У засені густой
Ужо даўно пераваліў за трыццаць.

Пот выступае
Соллю на грудзях,
У твар, як з печкі, дыхае паветрам.
Уперадзе далёкі,
Цяжкі шлях —
Насустрач сонцу, жнівеньскаму ветру.

Я ўсё пазнаў:
Паходы паміж скал,
І жорсткі «бой», і маршы, і трывогі...
У воіна цярністыя дарогі,
А лёгкіх я
Ніколі не шукаў!

Расце і развіваецца маладая літаратура Народнай Рэспублікі Балгарыі. Верная слаўным традыцыям такіх пісьменнікаў-барацьбітоў за шчасце працоўных, як Хрысто Боцеў і Іван Вазаў, Хрысто Смірненскі і Нікола Вапцараў, сучасная балгарская літаратура ідзе па шляху няўхільнага служэння свайму народу — будаўніку сацыялізма. Паэты, вершы якіх мы прапануем увазе чытача, належаць да таго літаратурнага пакалення, якое распачало сваю творчую дзейнасць пасля звяржэння фашысцкага рэжыму (верасень 1944 г.), ужо ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта — песняры новай Балгарыі. Іх творы шырока вядомы балгарскаму чытачу і карыстаюцца заслужанай папулярнасцю.

У верасні адбудзецца дэкада балгарскай літаратуры ў Беларусі і беларускай у Балгарыі. Яшчэ больш умацуюцца сувязі паміж беларускім і балгарскім народамі.

Ліяна ДАСКАЛАВА

# ПЕСНЯ МІРУ І ЛЮБВІ



Прачнулася ноччу, скаваная жахам уся я,
І крык мой захраснуў у горле, як гук у трубе,
І хочацца ноч раскалоць мне... І, нібы сляпая,
Дрыжачымі пальцамі ў цемры шукаю цябе.

О, шчасце! Усё гэта ў сне было, любы мой, родны!
Ты — побач, я чую дыханне тваё ў цішыні,
Яно ласкавей, чым вятрыска, чым рытмы мелодый,
Што ў сэрцы раслі для цябе ў незабыўныя дні.

Як страшна ў сне гэта нават — адчуць хоць на момант,
Што ты не са мною, цябе не знайду між жывых,
Што мне ўжо не прыдзецца больш ні ў дарозе, ні дома
Плячом да пляча прытуліцца, да грудзяў тваіх...

Ну, што мне тады гэта яснае сонца ў блакіце?
Ну, што мне тады у цясніне пявучы ручэй?
Што кветкі у лузе? Што чыстыя росы у жыце?
Ні слыху няма у мяне без цябе, ні вачэй.

Быў жудасны сон мой! Вайну я прысніла сягоння.
На фронт адпраўляліся тысячы брацця, сыноў,
І ты, памахаўшы хусцінкаю, знік у вагоне.
А я, анямеўшы, маўчала: ці ўбачымся зноў?..

Сон страшны! Такога я знаць у жыцці не жадаю!
Мой любы! Так хораша, радасна жыць мне з табой!
Зноў хутка да нас завітае вясна маладая,
Цвітучыя ружы сплятуцца павеццю густой.

Яшчэ і яшчэ раз хачу я схадзіць у іх засень,
Яшчэ і яшчэ раз пачуць хачу трэль салаўя,
Пасля працавітага дня, што праведзен у класе,
Памарыць у цішы вячэрняй яшчэ і яшчэ хачу я.

Спраў слаўных у нас на вякі, у нас працы бясконца,
Жыццё ж чалавека здаецца кароткім такім.
Калі б я магла, я зрабіла б, каб яркае сонца
І ноччу свяціла, як днём, па-над краем маім.

Але майго часу і так дастаткова, здаецца,
Для ўсіх — для цябе, для дзяцей, і для новых паэм,
Для сходаў шумлівых, і для падарожжаў па свеце,
І на'т для вазонаў, для мілых маіх хрызантэм.

Не, я не жадаю рукамі, што лашчыць умеюць,
Бінты на скрываўлены лоб юнака накладаць.
Я бачу: на схілах густыя лясы зелянеюць,
І людзі працуюць, і плён іх багаты відаць.

І нават маленькае зерне, зарытае ў глебу,
Ірвецца да сонца, бясстрашна свідруе зямлю.
Ты будзеш са мною! Апора твая мне так трэба!
Ніякай я сіле цябе не аддам. Я люблю!

**Георгі ДЖАГАРАЎ**

## КЛЯТВА



Балгарыя! Жыву адной табою.
Ты маці любая ў маім жыцці.
Дай на зямлі тваёй мне прарасці,
Закаласіцца збажынай густою!

Дай мне ўзысці тваім пагодным днём,
Начамі цёмнымі дай ахінуцца,
Ў твае азёры, рэкі абярнуцца,
Узняцца ветрам, прашумець дажджом!

Дай прад табою шляхам разаслацца,
Каб кожны раз трывожнаю парой
Ці на крутой гары, ці пад гарой —
На кожны крок твой мог я адазвацца!

Дай мне пабыць дымком, што растае
У сіняве празрыстага бяздоння,



Абмыцца сонцам, заспяваць з раздолля,
Дай пераліцца ў словы у твае!

І калі твой прастор мне стане цесным
І клятву гэтую парушу я —
Забі мяне! — і груганоў сям'я
Зляціцца ў полі скончыць маю песню!

**Ліляна СТЭФАНАВА**

## АДНАМУ СЯРОД НАС



Аб ім казаў мне хтосьці з захапленнем:
Таленавіты, смелы чалавек,
Хлусні не здольны прымірыць з сумленнем
І не шануе догмы ўвесь свой век.

І я яго спаткала.
Пільным вокам
Сачыла ўважна, каб пазнаць да дна.
Як быццам бы зайшла ў пакой без вокан,
Дзе — што ні ступіш — плесня, цвіль адна.

Нібы пачвара,
Што гатова й сонца
Абвінавацiць у сваёй бядзе,
Зласловіць ён усюды і бясконца,
І брудны след паганы скрозь кладзе.

Я думала:
Пабачу ўзлёт натхнення,
Пабачу высь нябёсаў, шыр палёў...
А тут здалося: у дзвярах скляпення
Павук вялізны павуціну сплёў.

І сумна стала...
Я сказала:

Годзе!
Свабоды сцягам, значыць, развяваў,
Як непакорны, храбры,
А выходзіць —
Сам сваё сэрца ў путы закаваў.

Што ж,
З крыкам роспачы
У водах мутных
Адзін насіцца будзеш,
Калі мы
Атрадам маналітным і магутным
Стрымаем хвалі,
Спынім іх грудзьмі.

Ты ўжо вясло ў руках сціскаеш слаба,
Ты, як сляпы,
Якому ноч і днём.
Адно яшчэ цябе і цешыць: слава,
Што быў і ты нядаўна змагаром.

Без ценю злосці, без крупінкі бруду —
Відаць, зусім чужыя для цябе —
Парывы чыстыя,
Што вечна будуць
Нас акрыляць у працы й барацьбе.

Іван **ДАВІДКАЎ**

## РАДЗІМА!



Хацеў бы ястрабам у неба ўзвіцца,
Палюбавацца велічнай красой,
Вясновай свежасці тваёй напіцца,
Каб мог падаць у песні вобраз твой:
Адлюстраваць і сонца ў небе сінім,
І гор хрыбты, і нівы, і лясы —
Калі не так, як возера ў даліне,
Дык хоць бы так, як кропелька расы...

З балгарскай мовы пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

# МУЗЫКА НАРОДНАЙ БАЛГАРЫІ

**(Да дэкады балгарскай культуры)**

Пасля разгрому гітлераўскіх войск Савецкай Арміяй і ўстанаўлення ў Балгарыі ўлады народа пачаўся небывалы росквіт усёй культуры балгарскага народа. Камуністычная партыя і ўрад Народнай Рэспублікі стварылі ўсе ўмовы для развіцця музычнага мастацтва. Дзеячы музычнай культуры Народнай Балгарыі цяпер пішуць для народа і аб народзе, які многа вякоў вёў барацьбу за сваё вызваленне. Сваё натхненне кампазітары і музычныя дзеячы чэрпаюць у тым небывалым уздыме, які пануе ў рэспубліцы, а таксама ў народнай творчасці, у класічнай музычнай спадчыне рускага народа і ў творчасці савецкіх кампазітараў.

Балгарская народная песня гучыць над маляўнічымі раўнінамі краіны многія стагоддзі. З старажытных часоў дайшлі да нас песні так званыя «аўчарскі», «жатварскі», «седэнкарскі», «на копан» і іншыя. Гэтыя песні пастухоў, жней, песні, якія выконваюцца ў час ворыва і на вячорках, вельмі блізкія нашай беларускай і ўкраінскай народнай музычнай творчасці. Яны вызначаюцца аптымізмам, багаццем мелодый, цікавымі рытмічнымі малюнкамі.

Не меншае значэнне ў развіцці народнай музычнай культуры Балгарыі маюць песні, якія створаны народам у часы пяцісотгадовага прыгнёту турэцкіх прыгнятальнікаў-асімілятараў. У гэтых песнях адлюстравана імкненне народа да волі, любоў да радзімы, вера ў перамогу. Прыкладам такіх балгарскіх народных песень з'яўляюцца «Лес зялёны», «Сялянская калыханка» і іншыя.

Узорамі лепшай творчасці балгарскіх кампазітараў мінулых часоў могуць быць песні Добры Чынтулава, Панайота Піпкава, цудоўныя хоры Добры Хрыстава, першыя нацыянальныя оперы «Бяднячка» Эмануіла Манолава і «Гергана» Георгія Атанасава.

Выключная маляўнічасць балгарскіх народных песенных і танцавальных мелодый, іх яркая вобразнасць, высокая ідэйнасць дапамаглі кампазітарам Народнай Балгарыі стварыць не толькі цікавыя апрацоўкі ўзораў народнай творчасці, але і напісаць на іх аснове арыгінальныя песенныя творы. Лепшымі з іх з'яўляюцца «Шуміце, лясы і горы», «Гімн балгарскіх паўстанцаў» Л. Піпкава, «Бі ворага» С. Абрацэнава, «Песня працы» А. Крастаянава,

«Брыгадзіры» Г. Дзімітрава, «Веснавая сяўба» П. Хаджыева, «Песня дружбы» Л. Піпкава, многія песні М. Галемінава, П. Стайнава, Ф. Куцева і іншых.

Да ліку буйнейшых сімфанічных твораў сучаснай балгарскай музыкі належыць рапсодыя «Вардар» кампазітара Уладзігерава.

Панчо Уладзігераў — выдатны кампазітар, піяніст і дырыжор — творча выхоўваўся пад уплывам рускай кампазітарскай школы. Ён — вучань Паула Юона, што выхаваў геніяльнага рускага кампазітара Сяргея Танеева. Для творчасці Уладзігерава характэрны подых народнай песеннасці, вялікая эмацыянальнасць, выразнасць музычнай мовы, маляўнічасць аркестроўкі, яснасць аўтарскай задумы, — тыя якасці, якімі вызначаюцца творы кампазітараў так званай «Магутнай кучкі», і перш за ўсё, Рымскага-Корсакава і Барадзіна.

Не менш цікавым творам, чым рапсодыя, з'яўляецца яго балгарская сюіта пад назвай «Песня». Як і ў рапсодыі, кампазітар тут таксама распрацоўвае народныя тэмы.

Выдатны ўклад у сімфанічную музыку ўнеслі такія творы балгарскіх кампазітараў, як «Майская сімфонія» і «Гераічная ўверцюра» П. Уладзігерава, «Другая сімфонія» П. Стайнава, «Маладзёжная сімфонія» Ф. Куцева, прысвечаная Дзімітраўскаму Саюзу моладзі, як сімфанічная паэма «Крывавая песня» В. Стаянава, прысвечаная паўстанню супраць туркаў у 1876 годзе, як сімфанічная паэма «Легенда Лапянскай гары» Г. Іванава — аб партызанскім руху ў час вайны супраць фашызма, як «Зямля без межаў» Б. Іканомава — аб новым жыцці балгарскага народа.

З лепшых вакальна-сімфанічных твораў у балгарскай музыцы звяртаюць на сябе ўвагу кантата «Дзевятае верасня» (дзень вызвалення ад фашызма) Ф. Куцева, «Верасень 1923 года» (вядомае паўстанне супраць балгарскага цара) Г. Злацева-Чэркіна, «Той не паміраe» А. Райчава, араторыя «Партызаны» С. Абрацэнава. Усе гэтыя творы, звязаныя па сваёй тэматыцы з рэвалюцыйнымі падзеямі ў жыцці балгарскага народа, са стварэннем Балгарскай Народнай Рэспублікі, глыбока народныя па сваёй музычнай аснове і вызначаюцца вялікай эмацыянальнасцю.

Творча выкарыстоўваючы народную музыку, кампазітары Балгарыі ствараюць не толькі буйныя сімфанічныя творы, але і камерныя інструментальныя. Тут лепшыя дасягненні належаць кампазітарам М. Галемінаву, Л. Піпкаву, Б. Іканомаву, якія стварылі вельмі яркія струнныя квартэты і п'есы для розных інструментаў.

Сярод дасягненняў музычнага мастацтва Народнай Балгарыі неабходна адзначыць оперу «Момчыў» Л. Піпкава і балет «Хайдуцкая песня» А. Райчава.

Опера «Момчыў», як лепшы твор сучаснага балгарскага мастацтва, адзначана Дзяржаўнай прэміяй імя Георгія Дзімітрава. Падзеі ў творы адбываюцца ў XIV стагоддзі. Для шырокіх мас балгарскага народа гэтыя гады былі выключна цяжкімі. Сялянства было прыгнечана не толькі турэцкімі захопнікамі, але і балгарскімі феадаламі. Вольналюбівы народ не хацеў быць рабом. Вось чаму тысячы сялян уцякалі ў Радопскія горы, каб весці барацьбу супраць прыгнятальнікаў.

Адным з такіх барацьбітоў за народнае шчасце быў прыгонны селянін Момчыў, які здолеў аб'яднаць у вялікую сілу асобныя сялянскія ўзброеныя атрады.

У оперы «Момчыў» добра адчуваецца блізкасць кампазітара



Любаміра Піпкава да традыцый рускай класікі, у прыватнасці да творчасці Мусаргскага. Музыка ў оперы народная, поўная пачуцця вялікай чалавечнасці, ясная і глыбокая.

Балет «Хайдуцкая песня» таксама апавядае аб барацьбе супраць турэцкіх прыгнятальнікаў, але ўжо ў XIX стагоддзі. Тут паказана, як рускія воіны дапамаглі балгарскаму народу вызваліцца ад нацыянальнага прыгнёту.

Шырокай папулярнасцю карыстаюцца ў Балгарыі таксама музычныя камедыі «Айка», «Жылі-былі» П. Хаджыева і «Маладосць маэстра» А. Райчава.

У гады пасля стварэння Народнай Рэспублікі музычнае жыццё ў краіне б'е крыніцай. Працуюць 14 сімфанічных аркестраў, многа оперных тэатраў, філарманій, музычных навучальных устаноў, тысячы мастацкіх самадзейных калектываў. Балгарская Камуністычная партыя і народны ўрад робяць усё, каб весці да новых вышынь нацыянальную па форме, сацыялістычную па зместу музыку сваёй свабоднай краіны.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Павел КАВАЛЁЎ

# ЧАЛАВЕК ЦУДОЎНАЙ ДУШЫ

## (Нататкі пра сустрэчы і перапіску з Я. Коласам)

### I

Да вайны, асабліва ў гады 1936—1940, мне вельмі часта даводзілася сустракацца з Якубам Коласам. Працаваў я тады ў рэдакцыі газеты «Звязда», у аддзеле культуры, які адначасова займаўся пытаннямі навукі, літаратуры, мастацтва, работы школ і многімі іншымі пытаннямі культурнага жыцця рэспублікі.

Вядома, што такое шырокае кола інтарэсаў аддзела стварала пэўныя цяжкасці ў нашай штодзённай працы. (Разам са мною ў аддзеле тады працавалі Т. Хадкевіч, М. Вішнеўскі і Ю. Таран.) І вось, бачачы гэткае становішча, некаторыя літаратары, каб хутчэй надрукавацца, неслі часам свае новыя творы да сакратара рэдакцыі, ці да намесніка рэдактара, ці нават да самога рэдактара. Былі такія выпадкі, што прыходзілі мы раніцою на працу і, разгарнуўшы «Звязду», замест здадзенага па аддзелу ў нумар, скажам, фельетона, апавядання ці рэцэнзіі на спектакль, чыталі нарыс ці верш, якіх мы ў аддзеле і не бачылі. Калі гэтыя рэчы былі добрыя — усё было ціха. Калі ж слабыя, тады на так званых лятучках пападала ўсёроўна нам, работнікам аддзела.

Якуб Колас заўсёды прыносіў у рэдакцыю свае новыя вершы сам і, як правіла, непасрэдна ў аддзел.

У доме па Савецкай вуліцы, на трэцім, здаецца, паверсе, быў невялікі наш пакойчык з трыма сталамі і трыма крэсламі. Як толькі заходзіў Якуб Колас, мы ўсе ўставалі са сваіх крэслаў і запрашалі яго сесці.

— Сядайце, калі ласка, дзядзька Якуб...

Усе мы звалі Коласа толькі дзядзькам, і відаць было, што гэта яму падабалася.

Дзядзька Якуб садзіўся насупраць аднаго з нас і, дастаючы з партфеліка, амаль заўсёды танклявага, рукапіс, клаў яго на стол. Рукапіс яго заўсёды быў чыста напісаны ад рукі і на добрай паперы.

— Вось пачытайце... — казаў ён.



Мы чыталі, дзякавалі і, як належыць, запэўнялі, што ў хуткім часе надрукуем яго твор. Калі толькі былі магчымасці — тут жа аддавалі яго ў набор і рабілі заяўку ў сакратарыят, каб твор Я. Коласа быў змешчаны ў чарговым, заўтрашнім нумары газеты.

У «Звяздзе» да Якуба Коласа адносіліся з пачуццём вялікай павагі, да голасу яго заўсёды прыслухоўваліся.

Скончыўшы справу з рукапісам, які прыносіў Колас, мы пачыналі гаворку пра справы літаратуры і наогул культуры. Якуб Колас заўсёды ахвотна ішоў на такую размову і выказваў многа цікавых думак.

Помніцца, як ён шчыра выказваўся пра матэрыялы аб рабоце школ у самых аддаленых раёнах рэспублікі. Таго, хто быў аўтарам гэтых матэрыялаў, ён доўга распытваў аб усім бачаным, чутым там, нават аб тым, як ён дабіраўся да тых, скажам, нараўлянскіх Махаедаў. А дабірацца да іх, сапраўды, тады можна было толькі шасцю відамі транспарту.

— Не забывайцеся, хлопчыкі, пра ўскраіны рэспублікі, — гаварыў нам дзядзька Якуб. — А то як разгорнеш газету — дык усё пра блізкія ды адны і тыя ж раёны...

У планах працы свайго аддзела мы адразу ж рабілі пэўныя змены і многія запланаваныя тэмы вырашалі ўзнімаць на матэрыяле самых далёкіх раёнаў БССР. Аб гэтым добра і зараз помняць асабліва Тарас Хадкевіч і Мікола Вішнеўскі, якім дзе толькі, у якім толькі кутку рэспублікі не давялося пабываць.

Часта мы прасілі Якуба Коласа параіць нам, аб якіх творах надрукаваць у «Звяздзе» рэцэнзіі, з якіх даць урыўкі ці поўныя раздзелы. Хоць і не вельмі ахвотна, але пра тыя рэчы, якія сам Канстанцін Міхайлавіч прачытаў, ён даваў парады. Пра астатняе ж часта коратка адказваў:

— Глядзіце ўжо самі...

Помніцца, як высока ацэньваў Якуб Колас новыя раманы Кузьмы Чорнага «Люба Лук'янская» і «Трэцяе пакаленне». Ён раіў нам даваць урыўкі з гэтых раманаў, паведамленні пра іх змест і нават тое, што яны выходзяць асобнымі выданнямі.

Неяк, седзячы ў нас у аддзеле, Колас прачытаў падрыхтаваную намі да набору інфармацыю аб прэм'еры спектакля «Салавей» па аповесці Змітрака Бядулі ў тэатры імя Я. Купалы. Быў у гэтай інфармацыі такі звычайны радок: «Спектакль прайшоў з вялікім поспехам».

— Люблю я, хлопцы, «Салаўя», — сказаў дзядзька Колас. — Дайце пра гэты спектакль харошы водгук, хай больш людзей ведаюць яго...

Праз дзень ці два мы надрукавалі ў «Звяздзе» падрабязную і станоўчую (бо гэтага спектакль заслугоўваў) рэцэнзію.

Чула адносіўся Якуб Колас да працы сваіх калег — літаратараў; клапаціўся аб тым, каб друк заўсёды правільна арыентаваў і знаёміў чытачоў з іхняй творчасцю.

Добра помню такі выпадак. На чацвёртай старонцы ў «Звяздзе» быў надрукаваны мой артыкул пра вядомы зборнік вершаў Янкі Купалы «Ад сэрца». Звычайная, папулярызатарская рэцэнзія, памерам у дзве калонкі да падвала. Колас сустрэў мяне і абурыўся:

— Як гэта ты, Паўлюк, рэцэнзію пра такую кнігу вынес на задворкі...

Вядома, даводзілася тлумачыць, што тут маёй віны мала, што гэта тэхнічны недагляд. Але Канстанцін Міхайлавіч і слухаць не хацеў. Абурэнне яго было вельмі моцнае, бо ён быў упэўнены, што зроблена гэта неразумна.

Праз нейкі час, пры новай сустрэчы, Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся да размовы аб маёй рэцэнзіі на чацвёртай старонцы «Звязды» і дадаў:

— Скажы ты яму (гэта значыць — сакратару рэдакцыі), каб ён больш так не рабіў...

Заўвагі Я. Коласа аб нашай працы, працы аддзела, а значыць і аб рабоце ўсёй газеты, мы даводзілі да ведама кіраўніцтва рэдакцыі, улічвалі іх у далейшым.

Я. Купала і Я. Колас былі частымі гасцямі ў нашым калектыве. Яны сустракаліся ў самым вялікім рэдакцыйным пакоі з усімі супрацоўнікамі, чыталі свае новыя творы, адказвалі на пытанні, цікавіліся працай «Звязды». У мяне захавалася фатаграфія, на якой народныя паэты, а таксама З. Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, М. Клімковіч і І. Шапавалаў сфатаграфаваны з творчымі супрацоўнікамі «Звязды» незадоўга да Вялікай Айчыннай вайны.

А цяпер аб сустрэчах і перапісцы з дзядзькам Якубам у суровыя, цяжкія гады расстання з Мінскам, усім родным краем у гады Вялікай Айчыннай вайны.

## II

Цяжкімі ваеннымі дарогамі ішоў наш шлях ад Мінска да Магілёва, Віцебска, а пасля па ўсходняй ускраіне рэспублікі — да Гомеля. Быў 1941 год.

Паменшаным фарматам і тыражом, але ўсё ж выходзілі ў паходзе газеты «Звязда» і «Советская Белоруссия». Калектывы нашы таксама былі цяпер невялікія, але працавітыя, зладжаныя, у адным подыху моцна з'яднаныя на вялікую справу барацьбы з фашысцкімі акупантамі. Газеты ішлі да насельніцтва яшчэ не занятых ворагам раёнаў, а таксама ў варожы тыл, у часова акупіраваныя гарады і вёскі.

Пасля месячнага прабывання ў Гомелі — горадзе, які быў апошнім нашым журналісцкім прыстанішчам у Беларусі, бо ён апошнім быў заняты ворагам, наша дарога ішла па землях братняй Украіны — па Чарнігаўскай вобласці, а затым па рускай зямлі праз Льгоў, Рыльск, Курск, Арол, Болхаў, Мцэнск, Тулу, Серпухаў...

У пачатку кастрычніка 1941 года абедзве нашы газеты, «Звязда» і «Советская Белоруссия», былі аб'яднаны ў адну газету на беларускай мове «Савецкая Беларусь», задачай якой было — дапамагаць беларускаму народу, яго Камуністычнай партыі разгортваць усенародны партызанскі рух на акупіраванай зямлі Беларусі.

Янка Купала і Якуб Колас, не зважаючы на тое, што рэдакцыя наша знаходзілася ўвесь час у руху, у паходных умовах, былі цесна звязаны з «Савецкай Беларуссю» — па сутнасці адзінай тады трыбунай беларускага слова.

Ужо ў трэцім нумары газеты быў надрукаваны верш Я. Коласа пад назвай «На восі Рым—Берлін», у якім паэт выкрываў бандыцкія намеры фашыстаў. Потым сістэматычна друкаваліся яго і Янкі Купалы вершы, публіцыстычныя артыкулы, заклікі да народа. 11 студзеня 1942 года Янка Купала выступіў на старонках «Савецкай Беларусі» з палымяным зваротам «Кліч да беларускага народа», у якім заклікаў шырэй распальваць полымя нянавісці да акупантаў, узнімацца на партызанскую барацьбу.

А крышачку пазней рэдакцыя атрымала такі ж палымяны зварот да народа ад Якуба Коласа. Колас у той час знаходзіўся ў Ташкенце. «Беларусь, родная савецкая зямля», — гэтымі словамі пачынаўся зварот, якому





Якуб Колас сярод беларускіх і ленінградскіх пісьменнікаў у Ленінградзе.

ў друку мы далі назву па аднаму з заклікаў з тэкста гэтага пісьма: «Да зброі, беларускі народ!». Пазней гэты дакумент, як і «Кліч да беларускага народа» Купалы, былі выдадзены асобнымі лістоўкамі і разышліся ў тысячах тысяч экземпляраў па ўсёй часова акупіраванай Беларусі.

Колас быў самым актыўным карэспандэнтам «Савецкай Беларусі». Першае пісьмо, якое ў мяне захавалася, датавана 4 чэрвеня 1942 года.

«Сёння атрымаў Вашу тэлеграму. Заўтра ў Маскву выязджае тав. Клімаў. Праз яго пасылаю карэспандэнцыю. Пісьмы атрымаў ад Лынькова і Броўкі. Болей ніхто не піша. Жыць тут цяжка — гарачыня, адарванасць ад свайго народа. ... Пачаў пісаць аповесць, першы раздзел якой пасылаю Вам...

Калі што напішу, буду высылаць. Прывітанне землякам. Усяго лепшага. Якуб Колас».

У тым жа чэрвені месяцы атрымаў я ад дзядзькі Якуба яшчэ адно пісьмо, а з ім два вершы, якія былі адразу ж надрукаваны ў «Савецкай Беларусі». Адзін з іх — «Песня пілота» — прысвечаны байцам-узбекам. У пісьме, датаваным 23 чэрвеня 1942 г., Канстанцін Міхайлавіч пісаў:

«Пасылаю Вам два вершы. Калі згодзяцца, дык друкуйце. Ніхто мне з Масквы не піша, апроч маіх т.т. паэтаў і пісьменнікаў, якія таксама змоўклі... Пісьмо атрымаў ад аднаго толькі Гарбунова... Юбілей згодзен святкаваць толькі на беларускай зямлі. Па-за межамі яе ладзіць яго не варта.

... Прывітанне ўсім таварышам. Дзе цяпер Янка?..

Усяго найлепшага. Пішыце.

P. S. Мы тут дабіліся трох выступленняў па радыё ў месяц на беларускай мове. Якуб Колас».

Вядома, што, нягледзячы на цяжкасці ваеннага часу, 60-годдзе Якуба Коласа ўсё ж было пазней вельмі цёпла і сардэчна адзначана ў Ташкенце разам з прадстаўнікамі беларускай грамадскасці і ўрада Беларускай ССР.

Пытаючыся пра Янку Купалу, які ў гэты час быў хворы, Якуб Колас і падумаць не мог, што калі яго пісьмо было яшчэ ў дарозе, сябра яго, дарагога Янкі Купалы, ужо не было на свеце. Балюча перажывалі ўсе мы гэтую цяжкую ўтрату. I я ніколі не забуду Коласаўскага пісьма да мяне ад 13 ліпеня 1942 года, у якім быў такі поўны смутку радок: «Гарую па свайму другу».

У названым пісьме Я. Колас паведамляў:

«Пасылаю Вам свой верш «На разбуранай зямлі». Усё, што пішу, стараюся перасылаць у газету «С. Б.». Пасылаю праз другіх асоб... Думаю, што пасланае пападае ў вашы рукі.

Нядаўна праз ак. Пічэту паслаў верш, прысвечаны Я. Купалу.

Паслаў на імя Крупені *. Ён пісаў, што мяне хочуць выклікаць у Маскву разам з сям'ёю. Але абстаноўка складваецца так, што з выездам прыдзецца пачакаць.

Пішыце падрабязна... Беларусь покі што адсоўваецца ад мяне і ад Вас далей. Усяго лепшага. Ваш Я. Колас».

I вось адбылося так, што верш «На разбуранай зямлі» мы атрымалі ў час пахавання Янкі Купалы і, вядома, не маглі адразу ж надрукаваць яго ў «Савецкай Беларусі». А праз некалькі дзён у рэдакцыю прышоў і вядомы верш «Над магілаю друга», які мы апублікавалі раней — 21 ліпеня, а «На разбуранай зямлі» быў змешчаны пазней — 28 ліпеня 1942 года.

Гэтае пісьмо (ад 13 ліпеня) я ніколі не забуду і яшчэ па адной вельмі характэрнай для Коласа чалавечай, поўнай любві да людзей рысе. У пісьме я раней паведамляў Канстанціну Міхайлавічу аб тым, што Кузьма Чорны працуе ў нас у рэдакцыі «Савецкай Беларусі». I вось, дасылаючы гэтае першае пасля паведамлення аб смерці Купалы пісьмо, у якім ён гараваў па сваім другу, Якуб Колас робіць у самым канцы, але падкрэсленым, выразным почыркам прыпіску: «Цалую Кузьму».

Калі я падаў гэтае пісьмо Кузьме Чорнаму, ён доўга і ўсхвалявана глядзеў на дарагі яму радок, а потым сказаў:

— Захавай, абавязкова захавай гэта, Паўлючок...

У кожным пісьме, якое я атрымліваў ад Якуба Коласа, было выказана вельмі многа, я б сказаў, інтымнага пра самога сябе, пра сваё жыццё. Але жыла ў ім незгасальная вера ў нашу перамогу, упэўненасць, што абавязкова вернемся на сваю родную савецкую Беларусь. У гэтых адносінах вельмі цікавым было пісьмо ад 19 жніўня 1942 года. Вось яно:

«Вельмі дзякую за ўвагу, за прысылку газет... Выбачайце, што пішу на такім мізэрным лістку: прыходзіцца эканоміць паперу. Калі б надарыўся зручны выпадак, дык прышліце мне паперы, канвертаў. Усё ж я пішу многа, пішу артыкулы, вершы. Пачаў аповесць, якую прышлося закінуць. Напісана V раздзелаў. Гэта — друкаваны аркуш. Адзін раздзел выслаў у Маскву даўно, але не бачу яго нідзе, не чую аб ім нічога. Можа яго не атрымалі. Хочацца працаваць, хочацца жыць надзеяй, што, ні на што нягледзячы, завязу свае косці на родную вызваленую зямлю, на шчаслівую зямлю вольнага савецкага народа...»

* I. А. Крупеня быў у той час намеснікам старшыні Саўнаркома БССР.



Пасылаю Вам тры вершы. Магчыма, што два з іх я ўжо ў Маскву пасылаў. Мая канцылярыя гэта — вецер. Ніяк не ўпарадкую яе.

У адным не сумняваюся: верш «Бацьку Мінаю» — новы, не высыланы Вам. Хацеў бы, каб яго прачытаў сам бацька Мінай.

Кузьму цалую заадно. Няхай дае яму бог здароўя. Перадайце паклоны ўсім пісьменнікам, усім таварышам — партыйным і непартыйным.

P. S. Артыкул «Купала і Горкі» напісаў праф. Н. К. Піксанаў. Адзначце гэта. Прафесар сур'ёзны. Цалую Вас. Я. Колас».

Помніцца, што ў той час вершы Коласа друкаваліся ў «Савецкай Беларусі» вельмі часта. Ішлі адзін за адным, — так іх па чарзе і друкавалі: «Да Германіі», «Пахаванне Гейдрыха», «На захад», «Надзей не трачу я...», «Калі спакой...». А верш «Бацьку Мінаю» быў змешчаны толькі 2-га верасня. Аднак, помню, што якраз у гэты час паэт Антон Бялевіч у якасці карэспандэнта «Савецкай Беларусі» пабываў у тылу ворага, у брыгадзе бацькі Міная, і з вершам Коласа ён пазнаёміў праслаўленага камбрыга. Верш Якуба Коласа быў тады адразу ж надрукаваны ў многіх партызанскіх выданнях. Антон Бялевіч, вярнуўшыся з варожага тылу, напісаў не толькі нарысы і карэспандэнцыі аб баявых справах партызан, а і верш « У бацькі Міная», які мы таксама змясцілі 9 верасня.

А раздзел аповесці, аб якім упамінаецца ў пісьме Коласа, відаць, сапраўды дзесьці згубіўся. Бо, наколькі мне помніцца, у рэдакцыі мы яго не атрымоўвалі.

Якуб Колас быў чалавек надзвычай акуратны. Ён не дазваляў сабе затрымку з адказам на пісьмо, ад каго б яно ні было. Але і вельмі абураўся, гневаўся, калі не ў час яму адказвалі.

Амаль у кожным пісьме Якуб Колас пісаў пра сваю сям'ю, асабліва пра жонку. Чуласць і клапатлівасць яго адчуваліся ў кожным радку пісьма, у кожнай драбнюткай дэталі. У сям'і часта былі хворыя, ды і сам Канстанцін Міхайлавіч адчуваў сябе не заўсёды здаровым. Адчуваліся ў сям'і і матэрыяльныя цяжкасці. I нягледзячы на ўсё гэта, народны паэт узмоцнена працаваў і гэтым выконваў свой патрыятычны абавязак перад народам, дапамагаў яму ў барацьбе з ненавісным прышэльцам.

«Зараз працую і вельмі інтэнсіўна над паэмай. Называецца яна «Суд у лесе». Да канца кастрычніка думаю давесці яе да канца. Змест — партызаны. Хацеў нават перасладь Вам некалькі раздзельчыкаў. Кожны раздзельчык — 36 радкоў. Такіх раздзелаў ужо напісана і перапісана 13. Усяго пэўна набярэцца каля 20, а можа і болей. У наступны раз, калі Ваша пісьмо прыдзе да мяне, то паэма бадай будзе скончана. Тады прышлю яе ў Маскву.

Чаму не пішуць мне хлопцы? Падганіце іх... Прывітанне ўсім. Крупені і праз УзТАГ * я паслаў сваё выступленне на мітынгу. Даведайцеся, скажыце пра яго. Ваш Я. Колас».

Тэкст выступлення мы знайшлі. Яно напісана было вельмі прачула і дыхала святой нянавісцю да захопнікаў-фашыстаў, якіх Колас называў цемрашаламі. Яно было апублікавана ў «Савецкай Беларусі» і, як і ўсе публіцыстычныя выступленні народнага паэта, было на ўзбраенні нашых слаўных партызан.

9 снежня 1942 года мы паведамілі чытачам «Савецкай Беларусі» аб новай паэме Я. Коласа «Суд у лесе». Ва ўступе былі дадзены кароткі змест паэмы, а затым ішоў вялікі ўрывак з яе. Пазней «Савецкая Бела-

* Узбекскае тэлеграфнае агенцтва.

русь» зноў давала некалькі ўрыўкаў з гэтага твора паэта, напісанага па жывых слядах партызанскіх падзей на часова акупіраванай зямлі Беларусі.

Нездарма ў дзень 60-годдзя Я. Коласа, якое было шырока адзначана і ў нашай газеце, група партызан на чале з бацькам Мінаем пісала:

«У гэтыя суровыя дні Айчыннай вайны Вашы творы служаць для нас вялікай і вострай зброяй. Яны клічуць да помсты, да барацьбы, уліваюць у сэрцы кожнага партызана і партызанкі нястомную сілу, баявую рашучасць, натхняюць нас на новыя перамогі, на канчатковы разгром нямецка-фашысцкіх прышэльцаў».

У пачатку 1943 года ў Маскве адбыўся сход прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Але на гэты сход (Колас у пісьмах называе яго мітынгам) ён не мог прыехаць. У пісьме ад 9 студзеня ён піша:

«Ваша пісьмо атрымаў. Хацеў напісаць Вам праз нашых работнікаў Акадэміі навук, якія выехалі ў Маскву 7.І. Прыехаць я на мітынг не мог — мала было часу, не даехаў бы. Паслаў артыкул, пісаны да мітынгу. Вы атрымаеце яго ад т. Гарбунова. Надрукуйце. Шкада, што ніяк не мог даслаць к тэрміну... Як з Кузьмою? Як Глебка? Пішыце. Сяджу над рознымі артыкуламі для чырвонаармейскіх газет. Цісну Вашу руку. Чакаю вестак. Я. Колас».

У гэты час Колас працуе натхнёна і многа. «Пасылаю Вам некалькі вершаў. Думаў пад'ехаць у Маскву — мяне выклікалі на пленум Камітэта (усеславянскага). Выклікі, як правіла, пасылаюць, не ўлічваючы часу і труднасці выезду», — пісаў ён нам 26 студзеня 1943 года. А крыху пазней паведамляў:

«Дарагі тав. Павел! Газеты атрымліваю. Мала паслаў для вас матэрыялу. Больш працаваў над новай паэмай, пачатак якой быў надрукаваны... Пасылаў артыкул, здаецца, на імя т. Гарбунова. Жонка мая трэці раз перахварэла на запаленне лёгкіх. Зараз тут такая гарачыня, што ехаць да вас у гэтыя дні не адважваюся. Жара тут даходзіць да 45° у цяню. Сяджу абліты потам. Думаю на некалькі тыдняў падацца ў горы, а ў канцы верасня ці раней буду выбірацца ў Клязьму. Пасылаю верш пра дучу. Можа ў газету ён не падыходзіць — перадайце ў другое месца. Не забывайце. Прывітанне ўсім. Я. Колас».

Пазней Колас сапраўды пераехаў жыць пад Маскву. Але я ў гэты час ужо не працаваў у рэдакцыі «Савецкай Беларусі», часта выязджаў з Масквы, і перапіска наша абарвалася. Мне помніцца, што нябожчык Кузьма Чорны вельмі акуратна перапісваўся з Якубам Коласам. У гэты час, у канцы 1943 года, ён вёў усе літаратурныя справы рэдакцыі. Вось каб апублікаваць іхнюю перапіску! У Коласа з Чорным была маласлоўная, але вялікая дружба і ўзаемная павага.

Кажуць, што біяграфія паэта — у яго вершах. Гэта сапраўды так. Колас — увесь у сваіх вершах, у публіцыстыцы: трыбун, змагар, патрыёт. Такім ён мне ўяўляецца і такім захаваўся ў памяці.

## III

За доўгі час працы ў Саюзе пісьменнікаў БССР мне даводзілася вельмі часта сустракацца, гутарыць з Якубам Коласам, выконваць яго даручэнні. Расказаць пра ўсё гэта проста немагчыма. І мне давядзецца ў гэтых нататках спыніцца толькі на некаторых, найбольш запаўшых у памяць фактах.

Быў жнівень 1947 года. Дэлегацыя пісьменнікаў на чале з Якубам Коласам паехала ў Ленінград. Там наладжваліся вечары беларускай літаратуры. Праходзілі яны вельмі цёпла, сардэчна. Ленінградцы праяўлялі сваю вялікую любоў да беларускага народа.



У складзе нашай брыгады былі, апрача Коласа, П. Броўка, М. Танк, П. Пестрак, М. Клімковіч, П. Панчанка, М. Лужанін і я.

Пасля заканчэння літаратурных вечароў у Ленінградзе Я. Колас выказаў жаданне паехаць у зваротны шлях «Стралою» на Маскву. Запрасіў мяне, каб і я з ім быў. А ў гэты час прышоў спецыяльны службовы вагон для Коласа. Канстанцін Міхайлавіч вырашыў вагон гэты перадаць пісьменніцкай брыгадзе. У мяне захавалася Коласава пісьмо-распараджэнне наконт гэтага:

«Начальніку станцыі Ленінград-Варшаўская. У маё распараджэнне на станцыю Ленінград-Варшаўская прыбыў з Мінска службовы вагон № 2. Гэты вагон прашу прадаставіць дэпутату Вярхоўнага Савета БССР тав. Максіму Танку — Яўгенію Іванавічу Скурко і групе пісьменнікаў, членам беларускай дэлегацыі пісьменнікаў. Я ж еду ў Маскву. Вагон прашу падрыхтаваць па адпаведнаму маршруту 23 жніўня г. г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і БССР К. Міцкевіч — Якуб Колас. 22.VIII-1947 г.»

І толькі тады, як усё ўладзілася з ад'ездам усёй групы пісьменнікаў у Мінск, Канстанцін Міхайлавіч сабраўся да ад'езду ў Маскву. Памятаю, як шчыра і па-сяброўску развітваўся ён з Аляксандрам Андрэевічам Пракоф'евым — добрым другам беларускай літаратуры.

Канстанцін Міхайлавіч сказаў, што ён зрабіў гэтую паездку праз Маскву таму, што справы там ёсць ды, як прызнаўся ён потым, ні разу яшчэ не ездзіў «Стралою».

Купэ было на два месцы. Вагон вельмі спадабаўся Канстанціну Міхайлавічу, і ён доўга аглядаў яго. Потым, зайшоўшы ў купэ, сказаў:

— Папрацавалі мы, здаецца, нядрэнна. Думаю, ленінградцы ў крыўдзе не будуць...

— Па два-тры выступленні ў дзень, — удакладніў я.

— Выступаць перад народам трэба, — дадаў Канстанцін Міхайлавіч.

У гэты час да нас пастукалі. Чыгуначнік паведамляў Коласу, звяртаючыся да яго, як да дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, пра шлях, які праходзіць «Страла», пра вагон, у якім ён едзе, і абслугоўванне ў ім. Потым спытаўся, якія будуць даручэнні.

— Ніякіх, братка, — адказаў яму Якуб Колас. — Вось лепей садзіся з намі ды пагутарым...

Прыехаўшы ў Маскву, мы спыніліся ў гасцініцы «Масква». Вось у той час, калі мы жылі ў Маскве, разам у адным нумары, я яшчэ больш уведаў Якуба Коласа. Ён вельмі клапаціўся аб справах нашай пісьменніцкай арганізацыі: званіў у многія выдавецтвы аб выданні твораў беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову, падказваў некаторым часопісам, каго з беларусаў трэба надрукаваць у першую чаргу, займаўся нават гаспадарчымі справамі.

У адзін з вечароў прышоў да яго Аляксандр Фадзееў. Я прысутнічаў пры шчырай і таварыскай іх размове, якая вялася па розных літаратурных справах. Колас увесь час называў Фадзеева «Саша», а той яго — «Якуб». Вось у час той сустрэчы Якуб Колас расказаў Фадзееву аб тым, што пісьменнікам Мінска цяжка жывецца: няма жылля. Трэба было б дапамагчы Саюзу пабудаваць жылы дом.



Якуб Колас сярод дзяцей.

Пасля таго, як мы вярнуліся ў Мінск, я падрыхтаваў пісьмо на імя Фадзеева аб водпуску ССП БССР сродкаў на будаўніцтва ў Мінску жылога дома для пісьменнікаў. Пісьмо гэтае падпісаў Якуб Колас, як старшыня СП БССР, Пятрусь Броўка быў тады за мяжою.

Пра тое, як Колас клапаціўся аб справах беларускай пісьменніцкай арганізацыі, яшчэ не раз раскажуць многія літаратары. Мне толькі хочацца напомніць, што нават у апошнія гады жыцця, калі вельмі часта хварэў, Канстанцін Міхайлавіч усім цікавіўся, ва ўсё ўнікаў. Якуб Колас быў асабліва чулым да маладых таленавітых людзей.

11 красавіка 1954 года нарочным, бо сам быў хворы, Колас пераслаў мне запіску і пісьмо сакратарыята СП СССР. Ён пісаў:

«Перасылаю Вам пісьмо сакратарыята Саюза Пісьменнікаў СССР.

Вы лепей ведаеце пісьменніцкія кадры. Будзьце ласкавы, напішыце ў сакратарыят або непасрэдна ў прыёмную камісію спісак кандыдатаў, якія падаюць надзеі. З тав. прыв. Якуб Колас».

Гутарка ішла аб кандыдатах для паступлення ў літаратурны інстытут. Хворы Канстанцін Міхайлавіч, баючыся, каб з гэтай справай не спазніцца, у той жа дзень, як толькі атрымаў пісьмо з сакратарыята СП СССР, пераслаў яго мне.

Прыблізна за месяц-паўтара да сваёй смерці Якуб Колас выказаў жаданне прыняць у сваім доме групу журналістаў з краін народнай дэмакратыі, якія знаходзіліся тады ў Мінску. На гэтую стрэчу запрасіў ён і некаторых пісьменнікаў. У ліку іх быў і я. Сустрэча была прызначана на пяць гадзін вечара. Я, ведаючы, як Колас любіць акуратнасць, прышоў на паўгадзіны раней. Колас сядзеў на ўслончыку ля дзвярэй свайго гаража і аб нечым думаў. Я павітаўся з ім, спытаў, як ён сябе адчувае. Ён адказаў:

— От сяджу і ў зямлю гляджу...

І вось 16 жніўня 1956 года... Знаходзячыся на Нарачы, мы пад канец дня пачулі аб смерці Якуба Коласа. Я сказаў Брылю і Лужаніну пра тыя словы, якія сказаў Канстанцін Міхайлавіч тады, перад сустрэчай з журналістамі. Янка Брыль здзівіўся, а Максім Лужанін паказаў нам пісьмо, напісанае яму Коласам за некалькі дзён да смерці. І мне запомнілася на ўсё жыццё апошняя фраза гэтага пісьма:



«Бывайце, мае дарагія. Ваш Я. Колас, — які жыве апошнія дні».

Так закончыў свой жыццёвы шлях вялікі паэт, мудры, сапраўдны народны пісьменнік, чалавек вялікага сэрца і шчырай, усеабдымнай душы.

Ён на ўсё жыццё застаецца ў нашай памяці. Мы не раз будзем звяртацца да яго выказванняў. Яго творчасць, жыццё яго будуць доўга служыць неўміручым прыкладам не толькі для нас, яго сучаснікаў, але і для пакалення будучага.

**Аляксандр ШЧАРБАКОЎ**

# НА СВАІМ МЕСЦЫ

**Нарыс**

Пяскі... пяскі... «Няхай бы яны спрахлі, гэтыя пяскі! — некалі праклiналі сваю зямлю заліпаўскія сяляне.— Ні хлеб на ёй не расце, ні бульба. Добра, каб былі лугі ды паша, а то і іх — за паўдня крокамі перамераеш. Паспрабуй, пражывi».

Так і жылі заліпаўцы раней. Нястача хадзіла за плячамі аж пакуль і не адправішся на той свет.

Людзі абжыліся крыху, аб'яднаўшыся ў калгас. Але тут вайна ўсё закрыла сваім крывава-дымным полагам. Шмат гора перанесла Заліп'е, пакуль дажылі да светлага дня Перамогі.

Пасля вайны сталі станавіцца на ногі, ды не пашанцавала заліпаўцам. Чатыры гады сядзеў у іх старшынёй Макушэнка — чалавек, які далей сваёй кішэні нічога не бачыў. У іншых гаспадарка ўгару ішла, а тут як заселі ў каляіне, дык ні ўзад, ні ўперад. І калгаснікі зразумелі, што з такім старшынёй хлеба мець не будзеш, і развіталіся з ім. Выбралі за старшыню Георгія Баравікова, які дагэтуль працаваў інструктарам у райкоме партыі.

На тым памятным справаздачна-выбарчым сходзе шмат гаварылі, выступалі без запрашэння. Ужо ў канцы сходу слова ўзяў Павел Якаўлевіч Давыдоўскі — калгасны аграном.

— Справы ў нас з кармамі, таварышы, нікудышныя,— пачаў ён, — з году ў год гаруем. Выхад я бачу адзін: вырошчваць кармавыя культуры ў палявых і прыфермскіх севазваротах. У першую чаргу — кукурузу і лубін. З лубінам у нас, праўда, лягчэй — ёсць сваё насенне. А вось з кукурузай цяжэй — трэба падумаць. Так, як рабілі раней, нельга. Звенні стваралі толькі на паперы. Пасылалі на кукурузу, хто пад руку трапіцца. Прапаную ў гэтым годзе папартыйнаму ўзяцца. Без яе нам гараваць ды бедаваць!..

Агранома падтрымалі новы старшыня і большасць калгаснікаў.

На другі дзень размова пра кукурузу працягвалася ў кабінеце ў Баравікова.



— Па-мойму, Георгі Аляксандравіч, нам трэба талковых звеннявых падабраць,— аграном паклаў на старшынёўскі стол лісток паперы.— Я тут вось прыкінуў, каму гэтую справу можна будзе даручыць...

Старшыня працягнуў руку, узяў лісток і, прачытаўшы, паглядзеў на Давыдоўскага.

— А гэтага чаму ўпісаў? Думаеш, пойдзе? Хлопец толькі з арміі вярнуўся. Ці застанецца ён яшчэ ў калгасе!..

Гаворка ішла пра Івана Шыцікава.

... Тры гады салдацкай службы засталіся ў Івана за плячамі. Адслужыўся. Рыпучым зімовым надвячоркам вярнуўся ў матчын дом. Прыехаў не адзін, а з Таісай. У арміі пазнаёміліся, а калі адслужыўся, падалі адно аднаму рукі і парашылі не расставацца. Вось і прыехалі ў Заліп'е.

У першы ж вечар сталі ўтраіх раіцца, як наладзіць маладым жыццё. Маці параіла:

— Пажывіце, дзеткі, прыгледзьцеся, як у калгасе. На мой розум, дык я нікуды адсюль не пайшла б. А зрэшты, рабіце як хочаце.

Іван адпачыў дзень і пайшоў да брыгадзіра, каб даў работу. Дведаўшыся, што яго намецілі звеннявым па кукурузе, Іван сказаў:

— Я салдат. Куды трэба, туды і пасылайце. Звеннявым, дык звеннявым!

У звяно Івану Шыцікаву падабралі дзевяць чалавек — усе дзяўчаты і жанчыны.

— Загінуў наш кучаравец,— жартаваў над хлопцам заліпаўскі перасмешнік дзядзька Бурцаў.— Дзевяць дзевак, адзін я... Са смеху памерці можна. І як гэта ты, Ваня, згадзіўся? Ну, няхай бы яшчэ нежанаты — іншая справа. Ваапчэ, брат, беражыся: захопіць цябе жонка з тваім войскам у кукурузе — пагіблая, ваапчэ, справа!..

Усе смяяліся. Іван таксама стараўся абысціся жартамі. Прыглядаўся сваімі сінімі вачамі да дзяўчат: як, маё войска, да бою гатова?

— Гатова! — адказалі тыя дружна і разам з усімі смяяліся.

Жарты жартамі, а «да бою» рыхтаваліся ўжо тады. Рыхтаваліся настойліва, сур'ёзна.

Неўзабаве ясным зімовым днём аграном паклікаў Івана, Феню Траянаву і Ліду Дабрадзеневу — трох звеннявых брыгады і накіраваўся з імі ў поле. Перад фермамі збочыў управа, і на пагорку спыніліся. Аграном растлумачыў, чаго прыйшлі.

— Тут, па-мойму, — сказаў ён,— самае падыходзячае месца. Бульбянішча. І яшчэ: кукурузу ад холаду, ад вятроў берагчы трэба. Тут якраз добра: з поўначы — лес, з усходу — сад. Праўда, далей нізкавата, але нічога. Гэтую нізінку Шыцікаву ўключым — салдату можна і цяжэй ношку пакласці. Прыкладна будзе на звяно па чатыры гектары.

... Звяно Шыцікава, разбіўшыся на дзве групы, узялося за ўгнаенні. Вазілі гной, торфакрошку. Рабілі кампост. Меркавалі так, каб выпала па 30—40 тон на гектар. Работы хапала на цэлы дзень. А ўвечары Іван садзіўся за кніжкі. У бібліятэцы ўзяў усё, што было з кніг пра кукурузу. Рабіў занатоўкі, іншы раз звяртаўся да агранома: «Растлумачце, Павел Якаўлевіч, як гэта разумець?»

Як ні пазнілася вясна, але зламала ледзяныя завірухі. У сакавіку пацямнелі дарогі, зазвінелі капяжы. У Заліп'і ішла гарачая падрыхтоўка да сяўбы. У канцы сакавіка Івана выклікалі ў Гомель, на злёт маладых кукурузаводаў. Вярнуўся ён са злёту з пухлым

блакнотам, у якім былі занатаваны парады і рэкамендацыі, пачутыя на злёце. Сабраў звяно. Доўга расказваў, як і што. Потым пайшлі на поле, паглядзелі, як трактарысты робяць культывацыю на ўчастку.

— Ты, Іване, дарэмна нас кантралюеш,— жартаваў Атрошчанка. — Нічога не знойдзеш. Калі пасееце так, як мы падрыхтуем глебу, дык кукуруза да неба шугане!

Вышла, аднак, такое, што з сяўбой звяно Івана адстала. Спачатку скончыла сеяць Феня Траянава, потым Ліда Дабрадзенева. Хлопец хадзіў па полі ўзлаваны. Цсрабіў чупрыну, круціў цыгарку за цыгаркай, пазіраў на нізіну, дзе было макравата, і ў думках лаяў сонца, якое нібы знарок не спяшалася падсушыць гэтую лапінку. А тут яшчэ суседкі-саперніцы кпілі.

— Не журыся, Ваня, мы свой участак заканчваем, гэтага і табе жадаем,— заўсёды загарэлы Фенін твар асвятляўся жартаўлівай усмешкай. — Будзем спаборнічаць, ці можа адразу здасцеся?

— Памераемся ўвосень,— хмура кідаў Іван на гэтыя жарты.

Нарэшце і Іванава звяно дачакалася часу. На ўчастак рушылі подбегам — лёгкая, рухавая Ніна Гарунова, няўрымслівая Ліда Странькова, ціхая, сціплая Тоня Гузава, бойкая Клава Гарушкіна. Размаркіравалі поле. У лункі клалі жменю аргана-мінеральнай сумесі і чатыры-пяць зярнят. Іван разам з Паўлам Якаўлевічам сачыў за якасцю, іншы раз паказваў, як трэба, дапамагаў. Рабілі дні два, не разгінаючы спіны, пакуль не скончылі. Праз некалькі дзён праклюнуліся ўсходы. Кволыя, бледна-зялёныя парасткі ўбачылі сонца і, набіраючы сілы, пацягнуліся ўгару. Іх трэба было берагчы, старанна даглядаць, каб не прыхапілі замаразкі, каб не паклявалі гракі...

Трэба было бачыць, як ішоў з поля з матыкай на плячы звеннявы. Хлопцы стрэлі яго ля клуба і пачалі смяяцца. «Эх, мужчына! Узяў бы касу, а то з матыкай, як баба, цягаешся...»

А Сашка Дабрадзенеў пад агульны рогат прапанаваў: трэба Івана адлічыць ад мужчынскай талакі ў жаночую.

Іншы раз Іван, можа, і змоўчаў бы, а тут не стрымаўся і — да брыгадзіра. Яму было з-за чаго сварыцца з брыгадзірам. У самы разгар праполкі той узяў са звяна Клаву Гарушкіну і паслаў да будаўнікоў. Тут кожная хвіліна дарагая, а ён адрывае людзей, ды яшчэ каго — Клаву, якая за дваіх робіць!

Звеннявы прышоў да брыгадзіра і яшчэ з парога гукнуў:

— Перадавай, браток, звяно каму хочаш, а я больш не магу. Людзей адрываеш, ды яшчэ і хлопцы праходу не даюць — не буду звеннявым!..

— Не гарачыся,— перапыніў хлопца брыгадзір. — Сам вінават. Я яшчэ зімою, памятаеш, гаварыў: не лезь у гэтыя звеннявыя, не мужчынская гэта справа. Ідзі, заўтра вырашым.

Раніцою Іван пайшоў да агранома. Расказаў усё пра свой настрой, пра размову з брыгадзірам, а потым рашуча сказаў:

— Не буду звеннявым... Здымайце...

Павел Якаўлевіч паклаў руку хлопцу на плячо, паківаў галавой:

— Эх, салдат, салдат! Як жа ты пакінеш звяно? Праўленне цябе рэкамендавала, райком камсамола ўхваліў... Каму ж, як не нам з табою, кукурузу вырошчваць. Памятаеш, сам зімой гаварыў: куды трэба, туды і пасылайце. А цяпер што, порах скончыўся? Што ж, ідзі да старшыні, скажы яму, а потым у райком з'ездзі, няхай на цябе паглядзяць.

— І паеду...

Іван павярнуўся і пакрочыў у праўленне. Увайшоў у сенцы, спыніўся, зачэрпнуў з вядра вады. Пакуль піў, уяўляў сабе размову са старшынёй. Георгі Аляксандравіч спакваля прыладзіць у папяроснік цыгарэтку, прыпаліць яе і скажа: «Так, хлопча. Ты звяно кінеш, я — калгас, а дзядзька за нас гаспадарку ладзіць будзе? Твая маці ў цяжкі час з фермы, між іншым, не ўцякла. А ты, напэўна, удаўся не ў маці. Значыць, мы памыліліся...»

Іван выйшаў на вуліцу, сеў на веласіпед. Дагнаў агранома, які ішоў у суседнюю брыгаду.

— Якаўлевіч,— вінавата прагаварыў Іван. — Даруй, гэта я пагарачыўся. Не пайду са звяна. Толькі дапамажыце мне брыгадзіра павярнуць да кукурузы...

Аграном з брыгадзірам гаварыў пры ўсіх, па шчырасці.

— Кінь, Трахім, хлопца збіваць. Яму дапамога патрэбна, а не палкі ў калёсы...

На другі дзень Клава вярнулася ў звяно. Першую праполку закончылі ў час. Чыстыя, роўныя пасевы былі не горш, чым на ўчастках дзяўчат. З поля звеннявы прыходзіў вясёлы, задаволены. Пра тое, што хацеў кінуць звяно, ні матцы, ні Таісе не сказаў. Няхай не падумаюць пра яго блага.

... У канцы мая насоўвалася няшчасце. Ушчаліся дажджы, халодныя, аблажныя. Яны не толькі навявалі сум, але і будзілі трывогу за пасевы. Усё можа прапасці — праца, надзеі, пошукі. Невясёлыя думы, цяжкія, неадчэпныя, нібы дажджлівыя хмары. У хаце сядзець не хацелася. Ледзь крыху ўтаймавалася надвор'е, Іван накінуў на плечы пінжак і пашыбаваў за аселіцу, на поле. Глядзі ты! Усю нізіну заліло, раслінкі сямтам пажоўклі, паапускалі лісткі...

Звеннявы стаяў журботна і думаў: што ж рабіць, як адхадзіць расліны? Вярнуўся дадому прамоклы. А калі вецер сагнаў за пералесак стайку брудных, лахматых воблакаў і на вуліцы пасвятлела, ён зноў быў на полі, ужо з усім звяном. Прынеслі рыдлёўкі, зрабілі канаўкі, каб даць сцёк вадзе. Працавалі да вечара, змарыліся, змоклі. Назаўтра прышлі зноў, а нізіна была затоплена — расліны цягнуліся з вады лісцем, нібы прасілі паратунку.

— Гаварыла я, што ніякай кукурузы на гэтай нізіне не будзе,— першай парушыла маўчанне Моця Траянава.

Яе перабіла Каця Назарава:

— Маўчы ты! Нікому твой енк цяпер не патрэбен. Ад яго кукуруза не ўзнімецца. Працаваць трэба!

Каця першай ступіла ў ваду.

Дождж нібы кідаў кукурузаводам выклік, здзекаваўся з іх. Тры дні яны спускалі ваду з нізіны, і тры дні вадою зноў залівала пасевы — працу дзевяці настойлівых чалавек. І настойлівыя людзі перамаглі — адстаялі пасевы.

Калі добра падсохла, зрабілі падкормку, там, дзе расліны вымаклі, падсеялі новыя. Прыпякло сонца, і зазелянела кукуруза, даганяла тую, што на пагорку.

На ўзмежжы сядзяць двое. Адзін пажылы, з цёмным ад сонца тварам, у парусінавай куртцы, у шэрай кепцы. Другі зусім малады. Кучаравяцца над загарэлым ілбом густыя каштанавыя валасы, весела ўсміхаюцца сінія вочы. Паветра напоена моцным пахам кветак і траў. Малады вымае з кішэні махорку, закурвае. Махорачны дым імгненна плавае ў паветры, потым растварaецца ў ім. Вось так жа, як гэты дым, праплылі і зніклі першыя выпрабаванні, што выпалі на

долю маладога салдата, які вярнуўся дадому. Канешне, наперадзе будуць новыя, напэўна, не менш сур'ёзныя і цяжкія, але яны не такія ўжо страшныя. Мацнее калгас, мужнеюць людзі, паляпшаецца жыццё.

Вунь якая на Іванавым полі кукуруза — сцяблы з добрую бярэзінку, а лісце густое, буйнае!

— Як думаеш, Якаўлевіч, па 600 цэнтнераў будзе? — паварочваецца да агранома Іван Шыцікаў.

— Будзе, абавязкова будзе,— шчыра радуецца за свайго выхаванца-звеннявога аграном.

600 цэнтнераў зялёнай кукурузнай масы на гектары — гэта багацце. А калгас жа вырошчвае не толькі кукурузу. Вунь там, за новым жывёлагадоўчым гарадком, жоўтымі хвалямі гойдаецца лубін — таксама багацце! А там сад, гароды, блакітныя разлівы ільну... Дайце час (цяпер ужо невялікі!), і заліпаўцы памераюцца з суседнімі калгасамі імя Сталіна, «Перамога», якія славяцца далёка за межамі раёна. Аб гэтым натхнёна гутарылі на полі ў час перакуркі стары калгасны аграном Павел Якаўлевіч Давыдоўскі і камсамолец Іван Шыцікаў — учарашні салдат, які з яго дапамогай знайшоў сваё месца ў новым страі.

**Калгас імя Калініна, Гомельскі раён.**

---

**Б. ПАЎЛЁНАК**

# ПРЫХОДЗЬЦЕ У „ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМСАМОЛЬСКІ“

Рыхтуючыся пісаць пра мінскі ініцыятыўны клуб моладзі, я вырашыў прагледзець афішы праведзеных вечароў. Думалася, перабяру іх, успомню, што было самае цікавае, яркае...

І вось — налева адкладаю афішы цікавыя, направа — усе астатнія. Адна, дзве, тры... Што гэта? Стус злева ўсё расце і расце, вось і апошні аркуш жаўтаватай паперы з маляўнічым тэкстам лёг з левага боку... Выходзіць, пісаць трэба пра ўсе вечары! Але гэта немагчыма — за паўгода ў клубе праведзена больш 30 сустрэч! I не падымаецца рука, каб нешта запісаць у шэраг непатрэбнага, нецікавага.

На самай справе, чым дрэнны быў вечар выпускнікоў школ «Твой шлях, дзесяцікласнік»? Гаворка ж на ім ішла аб самым галоўным — аб далейшым шляху ў жыцці соцень юнакоў і дзяўчат. Хто з нас не быў на гэтым раздарожжы! Ззаду — дзесяць год вучобы, наперадзе — сотні дарог, што разыходзяцца па савецкай зямлі. Якую з іх выбраць? Куды пайсці — вучыцца, працаваць? Як авалодаць прафесіяй, сапраўды патрэбнай і карыснай народу? Дзе ён, подзвіг, да якога кліча маладая палкая душа? Цяжка знайсці адказ на такія пытанні, калі табе васемнаццаць. Добра, што «Цэнтральны камсамольскі» наладзіў сустрэчу выпускнікоў і запрасіў на яе лепшых рабочых горада, знатных калгаснікаў, інжынераў, настаўнікаў. Гэтыя людзі падкажуць, парадзяць.

А ці спрабавалі вы дастаць білет у Палац культуры Савета прафсаюзаў, калі там збіраліся разам беларускія літаратары і будаўнікі? Гэта было не так проста. П. Глебка, Ул. Корбан, Э. Агняцвет, С. Грахоўскі і іншыя паэты і празаікі, чые творы палюбіліся чытачу, былі жаданымі гасцямі рабочых. Крытык У. Юрэвіч расказаў аб стане беларускай літаратуры, пазнаёміў з творчымі планамі пісьменнікаў. Паэты прачыталі свае вершы аб любві, аб шчасці, аб радасці жыць у краіне Саветаў. П. Глебка падзяліўся ўражаннямі ад паездкі ў ЗША. Мнагалюдна было ля кніжнага базару, дзе кожны хацеў атрымаць кнігу з аўтографам пісьменніка. У файэ, залах, калідорах вялося нямала хвалюючых спрэчак аб паэзіі. Добрымі сябрамі расталіся ўдзельнікі вечара.

Або вось яшчэ адна афіша. «Майстры мастацтва ў майстроў вытворчасці». Здавалася б, што

агульнага паміж рабочымі і артыстамі? Ого, яшчэ колькі агульнага!

На сцэне — вядомыя ўсёй рэспубліцы акцёры Л. Рахленка, Е. Палосін, Т. Ніжнікава і група рабочых хлопцаў. Яны некалькі насцярожана паглядаюць на сваіх славутых суседзяў і адчуваюць сябе неяк няёмка. Да таго ж — стол, накрыты чырвоным абрусам, трыбуна, вялізная зала...

— Часам людзі думаюць, што акцёрам быць проста, — гаворыць Л. Рахленка. — Патрэбен, маўляў, толькі талент, так сказаць, дар божы, а ўсё астатняе прыкладзецца. Няправільна гэта. У сцэнічнай творчасці, як і ва ўсякай справе, перш за ўсё патрэбна праца — настойлівая, карпатлівая праца з дня ў дзень... — І ён расказвае аб сваім шляху ў мастацтве, аб шчасці тварыць для народа, аб высокім абавязку артыстаў перад людзьмі працы. — ...Фільм «Гадзіннік спыніўся а поўначы» давялося здымаць у Калінінградзе, таму што ў Мінску не знайшлося руін. А ўсяго ж нейкіх пятнаццаць год назад горад быў разбіты дашчэнту. Але працоўныя рукі ўсё аднавілі, пабудавалі прыгажунгорад. Ці ж гэта не шчасце — выступаць перад такімі людзьмі?

На трыбуну падымаецца артыст сваёй справы — брыгадзір комплекснай камсамольска-маладзёжнай брыгады будтрэста № 5 А. Грэсь.

— Недалёка адсюль, на праспекце імя Сталіна, стаіць дом, пабудаваны нашай брыгадай, — пачаў ён, але не мог закончыць фразу — голас патануў у апладысментах.

І другі раз апладыравалі Грэсю, калі ён сказаў:

— Мастацтва — гэта праца, а наша праца — гэта таксама мастацтва. Значыць, паміж рабочымі і артыстамі вельмі многа агульнага. Усе мы робім карысную для народа справу. А значыць, і пагаварыць нам ёсць аб чым...

Зніклі афіцыйнасць і нацягнутасць, узнікла пачуцце блізкасці паміж тымі, хто быў на сцэне, і хто сядзеў у зале. Гэтае пачуцце ўмацавалася яшчэ больш, калі ў канцэрце разам з майстрамі мастацтва выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці.

Даўно закончылася афіцыйная частка, а госці і гаспадары не разыходзіліся. І артысты і рабочыя разам фатаграфаваліся, спявалі, танцавалі, прабавалі сваё шчасце ў вясёлай латарэі. І не дзіўна, што моладзь даймала актывістаў клуба пытаннямі, калі будзе чарговы вечар, як і дзе дастаць білеты.

... Словам, спроба выбраць нейкія самыя цікавыя з мерапрыемстваў клуба не ўдалася. А расказаць пра ўсё — немагчыма. Папершае, іх было многа, а па-другое, кожная з сустрэч цікавая пасвойму, у кожнай ёсць нешта асаблівае, непаўторнае, яркае.

Хочацца ўспомніць гісторыю арганізацыі клуба. Хоць яна і кароткая, але ў ёй ёсць што-кольвечы павучальнае і карыснае. «Цэнтральны камсамольскі» нарадзіўся не сам па сабе, з'яўленню гэтага аб'яднання моладзі папярэднічала нямала спрэчак, пошукаў, роздуму.

Два гады назад у Мінску з'явілася адразу больш дзесятка ініцыятыўных клубаў — студэнцкі, старшакласнікаў, творчай моладзі пры газеце «Знамя юности», дзяўчат на аўтамабільным заводзе і г. д. Але ўжо з першых дзён работы выявілася, што ўсе яны вельмі слабыя. Трэба правесці вялікі вечар, і, глядзіш, клубы «блакіруюцца» — адзін шукае дакладчыка, другі камплектуе праграму мастацкай самадзейнасці, трэці клапоціцца, каб запрошаным было весела... А ці не лепш



аб'яднаць свае сілы? Але доўгі час не рашаліся: як гэта — стваралі-стваралі, а цяпер аб'ядноўваць?! І гарком і райкомы камсамола паўтаралі: падбірайце актыў, наладжвайце работу. Але клубы так і заставаліся больш «дырэктыўнымі», чым ініцыятыўнымі. Добрая ідэя, пададзеная «зверху», не ўсюды знаходзіла добрых выканаўцаў. Дапамагла сустрэча кіраўнікоў ініцыятыўных клубаў краіны, скліканая ЦК ВЛКСМ. Там у спрэчках, дэбатах, у працэсе абмену вопытам і вырашылі, што лепш ліквідаваць «ведамаснасць» у дзейнасці клубаў моладзі.

Па гэтаму шляху пайшоў «Цэнтральны камсамольскі». Трэба сказаць — першыя крокі былі нялёгкімі. Перш за ўсё прыйшлося ламаць недавер'е з боку кіраўнікоў некаторых культасветустаноў.

— Што гэта яшчэ за «Цэнтральны камсамольскі»? — бурчэлі яны. — Не пусцім! Нам зала патрэбна для сваіх мерапрыемстваў.

Але потым, убачыўшы, што камсамольцы — народ памяркоўны, згаджаюцца на запрашальных білетах побач са словамі «Цэнтральны камсамольскі» ставіць назву таго клуба, дзе праводзіцца вечар, супакоіліся. Значыць, можна і ў свой актыў лішняе «мерапрыемства» запісаць і ў сваю справаздачу птушачку паставіць.

Не было актыву. Усё даводзілася рабіць невялікай групе завадатараў. А ці лёгка арганізаваць хоць бы просценькі вечар! Тут табе і памяшкання трэба ў некага прасіць, і праграму скласці і, здаецца, чыста тэхнічная справа, а паспрабуй зрабі! — прыдумаць яркі тэкст і надрукаваць афішу, распаўсюдзіць білеты, дастаць «мастацкую частку», наладзіць атракцыёны... І ўсё гэта без грошай, на адным энтузіязме!

Не абышлося, вядома, і без крыкуноў, здольных утапіць у балбатні любую справу. Клуб толькі пачаў разгортваць работу, а група нігілістычна настроеных юнакоў спрабавала закруціць дыскусію аб структуры, арганізацыйных формах, аб пошуках нечага (чаго — ім і самім няясна было!) ультра-новага ў рабоце сярод моладзі. Петыцыя, пададзеная на бюро гаркома камсамола, абвяшчала барацьбу з «казёншчынай, фармалізмам, апекай» і заклікала да стварэння на базе клуба дзесяткаў «дыскусійных студый», якія не маюць пэўных задач і напрамку.

Але жыццё паказала, што «Цэнтральны камсамольскі» выйшаў на правільную дарогу. Цяжкасці першага перыяду паступова адыходзілі прэч. «Ветэраны» клуба — піянерскі работнік Ліля Собалева, бібліятэкар школы Юля Палуказакава, вучань 10-й школы Олік Бяльзацкі, студэнт мастацкага вучылішча Гена Барэйка, камсорг паліграфічнага камбіната Віктар Казлоўскі, супрацоўніца Беларускага тэатральнага таварыства Маша Саевіч, іншыя ініцыятары добрых і карысных спраў цяпер не адзінокія. У іх ёсць больш за 200 памочнікаў, гатовых выканаць любое даручэнне.

У актыве клубных спраў — абмеркаванне п'ес і кінафільмаў, сустрэчы са старымі рэвалюцыянерамі, гасцямі з братніх рэспублік Савецкага Саюза, з калгаснікамі, работнікамі міліцыі, гулянні ў парках, на стадыёне, канцэрты для моладзі.

А ў пачатку ліпеня закладзена яшчэ адна цудоўная традыцыя, пачата яшчэ адна выдатная справа.

... Растаялі ў сінявятай дымцы контуры Мінска. Бяжыць насустрач і кладзецца пад калёсы машыны палявая дарога. Доўгі хвост пылу цягнецца следам і ад ветру

сцелецца па залацістым дыване пшаніцы. Вокны аўтобуса адчынены, але ў машыне ўсёроўна душна. Аднак пасажыры не сумуюць.

Міша Пушкароў час-ад-часу спрабуе, ці не прапаў голас. Бесперапынна праігрывае акорды на баяне Слава Фралоў. Міша Смольскі, нагружаны фотаапаратамі і кінакамерай, абліваючыся потам, падтрымлівае велізарны кантрабас і час-ад-часу просіць:

— Слава, забяры свой кантрабас!..

— А ты не бачыш, што ў мяне рукі занятыя?

— Я не магу трымаць. Ён трэскаецца. Глядзі, шчыліна — адна, другая, трэцяя...

— Калі да сотні далічыш, скажы, — будзем юбілей святкаваць, — адгукаецца Слава, спакойна перабіраючы лады.

Нехта запявае песню, нехта звонка смяецца.

Раптам — стоп! Раве матор, аўтобус трасецца, нібы ў ліхаманцы, але — ні з месца.

— Прыехалі, — незадаволена гаворыць шафёр Анатоль Батура. — Вылазьце, артысты, штурхануць трэба.

Хочаш, не хочаш, а каманду выконваць трэба. З гэтай балоцістай лагчынкі машыне самой не выйсці.

— Раз, два, узялі! Яшчэ ўзялі!

— Пайшоў, пайшоў, пайшоў!..

Аўтобус, цяжка перавальваючыся з боку на бок, выбіраецца з лагчынкі.

— Па конях!

Са смехам і жартамі рассаджваюцца па месцах, гучыць сігнал, можна ехаць далей. І зноў Міша Пушкароў спрабуе голас, зноў скуголіць прыціснуты кантрабасам Міша Смольскі, звонка смяюцца Тамара, Жана і Ларыса. Нічога, што нехта ўлез абедзвюма нагамі ў гразь, нічога, што некага абліло вадою з-пад кола, не бяда, калі каму-небудзь прыціснулі руку. Не сумавацы! На тое і «Вясёлы дэсант»...

Дзесяць дзён па дарогах Міншчыны кружыла аўтамашына, на буферы якой трапятала палотнішча з надпісам «У гонар 40-годдзя ВЛКСМ», а збоку былі напісаны словы «Вясёлы дэсант». Дзесяць дзён правяла агітбрыгада Цэнтральнага камсамольскага клуба г. Мінска ў Дзяржынскім, Узденскім, Пухавіцкім, Рудзенскім раёнах. Калгасы «Перамога», «Беларусь», «Авангард», імя Свярдлова, «Чырвоны Кастрычнік» — не ўспомніш усіх месцаў, дзе былі. Кожны дзень два, а то і тры канцэрты ў клубе, пад адкрытым небам, проста ў полі, дзе полюць, косяць, сіласуюць. А яшчэ гутаркі, расказы аб клубе, сустрэчы з камсамольцамі. Ды і мастаку Валодзю Міхайлоўскаму нямала давялося папрацаваць над афармленнем насценгазет, стэндаў, баявых лісткоў...

Выезд актывістаў камсамольскага клуба ў калгасы — карысны пачын. Гэтая ініцыятыва мінчан вартая шырокай падтрымкі. Малайцы, рабяты! І добра, што першы «дэсант» не стаў для іх апошнім. Цяпер, калі друкуецца гэты нумар часопіса, агітбрыгада Цэнтральнага камсамольскага клуба выехала ў Казахстан. Разам з тысячамі другіх беларусаў «дэсантнікі» працуюць на ўборцы цаліннага ўраджаю, а пасля працоўнага дня выязджаюць абслугоўваць канцэртамі калгасы і саўгасы.

Вось, бадай, і ўсё, аб чым хацелася расказаць. Але крыху аб будучым. У ліку сяброў і актывістаў Цэнтральнага камсамольскага клуба нямала заслужаных і вельмі паважаных людзей. Дзейсны ўдзел у яго рабоце прымаюць народныя артысты БССР



Л. Рахленка, І. Балоцін, Е. Палосін, народны мастак БССР І. Ахрэмчык, пісьменнік І. Шамякін, нашы вядомыя кампазітары Е. Цікоцкі, Г. Пукст, У. Алоўнікаў, шмат старых бальшавікоў, заслужаныя настаўнікі.

Шкада толькі, што клуб не знайшоў яшчэ агульнай мовы з вучонымі, інжынерамі, спецыялістамі народнай гаспадаркі. Ці ж, скажам, супрацоўнікі інстытута хіміі Акадэміі навук БССР адмовіліся б пазнаёміць моладзь са светам рэчаў будучага? І не толькі расказаць аб перспектывах развіцця хіміі, але і паказаць новыя цудоўныя матэрыялы. А ці дрэнна было б наладзіць вечар займальнай тэхнікі? Вядома, правесці толькі даклад — гэта не цікава. Але можна ж падрыхтаваць цікавыя радыё- і электраатракцыёны. Няхай аб гэтым паклапоцяцца камсамольцы радыёзавода.

На базе камсамольскага клуба ёсць усе магчымасці аб'яднаць фота- і кінааматараў, філатэлістаў, тых, хто захапляецца турызмам і рыбнай лоўляй.

Праўда, многае з гэтага ёсць у планах і намётках. Але час ужо ад слоў перайсці да справы! А памочнікі, арганізатары заўсёды знойдуцца. Трэба проста часцей выходзіць за сцены тэатральных залаў і файэ, наладжваць «дэсанты» не толькі ў калгасы, але і на прадпрыемствы горада.

Калі зайшла размова аб тым, чаго чакае моладзь ад свайго клуба, варта выказаць і яшчэ адно пажаданне: весці работу трэба больш мэтанакіравана, смялей уносіць у парадак дня сустрэч пытанні камуністычнага выхавання. Добрым пачынам быў, напрыклад, вечар, прысвечаны рабоце міліцыі. На ім вельмі проста і цікава гаварылі аб тым, якім павінен быць наш юны грамадзянін. Захапляюча прайшлі сустрэчы са старымі бальшавікамі, з першымі камсамольцамі Беларусі. Але гэтага мала! Хто з юнакоў і дзяўчат адмовіўся б пагаварыць, паспрачацца аб тым, што такое сапраўднае каханне, дружба, смеласць? А ці малую карысць можа прынесці дыскусія — добра ці дрэнна быць гордым? Або аб шчасці ўяўным і сапраўдным? Аб мамчыных сынах і дочках, аб цане працоўнага мазаля? Ды пагаварыць аб гэтым не з пазіцый «высокіх матэрый», а канкрэтна, адрасуючыся да тых, хто сядзіць у зале. Калі сказаць праўду, дык у дзейнасці клуба якраз і нехапае вось гэтай вострай барацьбы за камуністычную мараль, баявітасці і, калі хочаце, добрай гарачнасці.

Выступаючы на адным з вечароў клуба, Л. Рахленка гаварыў сваім маладым сябрам:

— Сівая галава — не прыкмета старасці. Бывае так, што галава кучаравая, а сэрца лысае. Дрэнна, калі сэрца без агенька. Але я думаю, што сярод вас няма маладых дзядоў, і вы зможаце добра папрацаваць. Я ўпэўнены: вы знойдзеце многа людзей, якія ахвотна дапамогуць вам...

Добрыя, неспакойныя сэрцы ў актывістаў клуба! І справы добрыя. Трэба толькі памнажаць іх.

*Размова аб майстэрстве*

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

# МАСТАЦКІ ПАРТРЭТ У ТРЫЛОГІІ Я. КОЛАСА „НА РОСТАНЯХ“

Важная і актыўная роля ў раскрыцці чалавечых характараў у мастацкім творы належыць партрэтным замалёўкам. Месца мастацкага партрэта абумоўліваецца тою галоўнаю задачаю, якую ставіць перад сабою пісьменнік: паказаць мастацкія вобразы ва ўсёй іх глыбіні, ва ўсёй разнастайнасці іх індывідуальных асаблівасцей.

«Пісьменнік павінен глядзець на сваіх герояў, — гаварыў А. М. Горкі, — іменна як на жывых людзей, а жывымі яны будуць у яго тады, калі ён у любым з іх знойдзе, адзначыць і падкрэсліць характэрную, арыгінальную асаблівасць мовы, жэста, фігуры, твару, усмешкі, ігры вачэй».

Мастацкая паўната і пераканаўчасць вобразаў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» таксама ў многім абумоўліваецца тым, што пісьменнік змог глыбока пранікнуць у псіхалогію сваіх персанажаў і намаляваць іх запамінальныя, яркія партрэты. Партрэты яго герояў вызначаюцца рэльефнасцю, пластычнасцю і дакладнай рэалістычнай накіраванасцю.

Партрэт цэнтральнага героя трылогіі настаўніка Лабановіча пададзены вельмі сціпла. Увага пісьменніка сканцэнтравана тут галоўным чынам на высвятленні ўнутранай сутнасці, ідэйных і жыццёвых пошуках героя. Але і тыя скупыя і нешматлікія мастацкія дэталі, якімі акрэсліваецца яго знешні выгляд, яго партрэт, нясуць вельмі важкую нагрузку, з'яўляюцца тым сродкам, з дапамогаю якога глыбей раскрываецца псіхалогія маладога настаўніка і яго духоўны воблік.

Партрэтныя рысы Лабановіча знаходзяць сваё праяўленне, як правіла, тады, калі ў душы і свядомасці героя адбываюцца нейкія складаныя псіхалагічныя працэсы.

Шмат разнастайных думак і пачуццяў, вельмі супярэчлівых і невыразных, узнікае ў маладога настаўніка, калі ён атрымоўвае вестку аб смерці свайго сябра Лабузькі: «Таксама будзе, — разважаў Лабановіч, — такі момант, калі і я ступлю апошні крок майго жыцця, апошні момант, а там — смерць, там — канец!.. А далей што? Далей — цёмная і жудасная ноч нябыту. А калі гэта так, то ці варта наогул жыць? Жыць, каб памерці?»

Іменна гэты момант напружанага роздуму над сэнсам чалавечага жыцця і адкладваецца на знешнім вобліку героя. «Лабановіч, — гаворыць аўтар, — апусціў галаву і сядзеў нерухліва... і колькі хвілін пазіраў, не міргаючы вачамі».

Водбліск глыбокага роздуму адзначае пісьменнік у абліччы Лабановіча і тады, калі наш герой знаходзіцца пад уражаннем расказанага старожкай школы Мар'яй неверагоднага апавядання аб тым, як яе муж Міхалка ледзь не памёр калісьці, спалохаўшыся «нячыстай сілы». Другі чалавек тут проста мог бы пасмяяцца з гэтае гісторыі, а Лабановіч пачынае шукаць вытокі і прычыны «непасрэднай і цвёрдай веры людзей у існаванне ўсяго гэтага цёмнага сплячэння нядобрай сілы», імкнецца пранікнуць у таямніцу той ночы, што «закрывае сваім змрокам яшчэ многа пытанняў... чалавечага жыцця». «І падумаць толькі: праз якое глупства можа памерці чалавек! — прамовіў малады настаўнік, хутчэй да сябе самога, і задумаўся. Галава яго крыху схілілася набок, цёмныя вочы, у якіх часта адбівалася нейкая затоеная думка, пазіралі, не міргаючы, у кут пакоіка, але нічога не бачылі: яны як бы пазіралі на тую думку, якая цяпер заварушылася ў яго галаве».

Глыбокая задуменасць, якая знаходзіць свой выразны адбітак на твары і ў вачах настаўніка, адразу ж прыцягвае ўвагу чытача да гэтага героя. Удумлівыя вочы Лабановіча з'яўляюцца першаю прыкметаю таго, што малады настаўнік — натура тонкая і ўражлівая, чалавек сур'ёзны, з чулым сэрцам, дапытлівым розумам і рознабаковымі запатрабаваннямі.

Партрэты селяніна-праўдашукальніка Аксёна Каля, прагрэсіўных настаўнікаў Янкі Тукалы, Алеся Садовіча, Вольгі Віктараўны Андросавай і іншых прадстаўнікоў дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі таксама выпісваюцца аўтарам трылогіі з улікам псіхалогіі, складу характару і жыццёвых намераў гэтых герояў.

Так, партрэтная характарыстыка Аксёна Каля дапаўняе і прыкметна вылучае на пярэдні план якасці валявога, настойлівага і прынцыповага чалавека: «Рысы яго твару строгія, нават халодныя. — Вочы ўдумлівыя, і ўся сухарлявая і моцная постаць выкрывае ў ім чалавека выдатнага. Кароткія чорныя вусы шчыльна туляцца каля самых губ упартымі завіткамі і робяць твар яго прыгожым і энергічным».

«Кім бы ён мог быць, каб яго натура ва ўсю разгарнулася? — думае пра яго Андрэй Лабановіч. — І Аксён Каль вынікае перад ім то строгім пракурорам за грамадскія справы, то ўдалым атаманам разбойніцкай шайкі, бязлітасным помснікам за сялянскую крыўду».

Іншыя рысы заўважаем мы ў знешнім вобліку маральна спустошаных, беспрынцыповых і нікчэмных інтэлігентаў-абывацеляў, якія бавяць свой час у накуранай хаце за карцёжным сталом ці за бутэлькай гарэлкі. Не назіраецца ў іх вачах і на іх тварах ні адбітку жывой адухоўленасці, ні адлюстравання высакародных пачуццяў. Рэдактар рукапіснай правін-

цыяльнай газеты Бухберг бачыць на тварах гэтых заядлых карцёжнікаў адну агульную для ўсіх іх рысу — «трупныя цені». «Я бачу трупныя цені на вашых тварах, — гаворыць ён ім. — Рука прагавітасці кладзе на іх свае пячаці і выводзіць звера з глыбінь вашае істоты. Бяссонныя ночы запісваюць на іх доўг свой, і вы аддасце яго бясчаснаю старасцю і болем змучанага цела...»

Нешта падобнае прыкмячае ў знешнім вобліку абываценяў і Лабановіч. Ён «прыглядаецца да ігракоў. Нялюдскія цяпер у іх твары: драпежніцкія, прагавітыя, закураныя пылам і дымам. Твар у Тамары Аляксееўны асунуўся, яна як бы пастарэла. Лабановіч думае, рысуе ў думках вобраз яе ў старасці... Праціўна».

Партрэтная характарыстыка спустошаных, духоўна мёртвых абываценяў або адданых абаронцаў самадзяржаўнага ладу часам падаецца пісьменнікам у свядома зніжаным, падкрэслена адмоўным, шаржыраваным плане. Напэўна, спецыяльна, з мэтаю паўнейшага развенчвання «прапахлага царкоўнымі канонамі» дзяка Бацяноўскага, Якуб Колас некалькі згушчае мастацкія фарбы і ў партрэтнай замалёўцы гэтага персанажа. Усё ў дзяка з'яўляецца агідным і непрыемным: і твар, і адзенне, і «кратовыя лапы-рукі». Вось яго партрэт:

«Каравы стары чалавек стаяў каля возніка. Угледзеўшы настаўніка, гэтая асоба ў заношаным паліце на гарадскі лад, доўгавалосая, з неахайным хмызам на твары накіравалася ў бок Лабановіча.

— Педагог? — развязна запытаўся незнаёмы чалавек, асвяціўшы свой хмыз усмешкаю, і падаў руку.

— Так, я назначаны сюды настаўнікам, — адказаў Лабановіч, падаючы руку. Далонь і пальцы ў незнаёмага чалавека былі нейк ненатуральна вывернуты і напаміналі лапу вялізнага крата.

— Ну, будзем знаёмы: ваш сусед псаломшчык Бацяноўскі.

Нельга сказаць, каб Лабановіч быў вельмі здаволены такім суседствам: дзяк быў занадта каравы і апушчаны, і ў яго твары было нешта такое, што не гарнула да гэтага чалавека».

Як пацвердзілася потым, дапушчэнні маладога настаўніка не былі памылковымі. Некалькі пазней дзяк Бацяноўскі ўзяў на сябе функцыю дармовага шпіка і даносчыка на Лабановіча.

Праўда, пісьменнік не злоўжывае прыёмам прадузятага зніжэння адмоўных вобразаў. Не пазбаўлены, напрыклад, знешняй прывабнасці такія інтэлектуальна абмежаваныя і маральна спустошаныя мяшчане, як сын фельчара Максім Гарошка, настаўнік Саханюк, дачка пісара Маня і іншыя.

«Максім Гарошка, — гаворыць аўтар, — быў вяртлявы, нізкага росту дзяцюк, з тонкімі чорнымі дугамі-брывамі і жывымі вачамі. Ён быў досыць прыгожы хлопец і сярод паненак лічыўся цікавым кавалерам...» Але гэта прыгажосць не выклікае ў чытача ніякай сімпатыі да гэтага «шалапая і распусніка». Наадварот, яна асэнсоўваецца як зманлівая і фальшывая маска, пад якою схавана духоўнае ўбоства, танненькія і дробязныя жыццёвыя ідэалы разбэшчанага цыніка і лайдака, «шырокая натура» якога знайшла сваё здавальненне ў гарэлцы, картах і іншых забавах.

Такім жа духоўным убоствам і абмежаванасцю жыццёвых запатрабаванняў характарызуецца і даволі прыгожая з твару дачка пісара Маня. Чалавека яна ацэньвае па тым, наколькі многа ведае ён рамансаў і як умее паставіць сябе ў кампаніі дзяўчат. І калі



Лабановіч выказаў свае абыякавыя адносіны да рамансаў і не праявіў здольнасці пасмяшыць і пазабавіць «паненак», Маня спяшаецца зрабіць аб настаўніку катэгарычны вывад: «Зусім неачэсаны: так і відаць, семінарыст, гатовы кашлянуць і зацягнуць: «Благаславі, душэ мая, госпада».

Ужо адсюль можна заўважыць, што знешняя прыгажосць дачкі пісара знаходзіцца ў рэзкім кантрасце з яе ўнутранай годнасцю. Партрэтныя замалёўкі ў такім выпадку з'яўляюцца накшталт фону, экрана, на якім больш яскрава і выразна праяўляецца духоўная пустата нікчэмных людзей-пустацветаў.

Пісьменнік заўсёды, як правіла, нават самую кароценькую і беглую партрэтную замалёўку імкнецца падаць так, каб яна садзейнічала вызначэнню агульнага складу характару героя, і ў першую чаргу яго маральных якасцей. Вельмі часта выразныя і яркія партрэты яшчэ да поўнага раскрыцця мастацкага вобраза адкрываюць перад чытачом большую або меншую магчымасць наперад зрабіць здагадку аб духоўнай годнасці персанажа і ўстанавіць адносіны да яго самога аўтара. Праўда, у такіх здагадках не заўсёды ўзнікае патрэба, таму што пісьменнік часамі і сам дае да партрэтных замалёвак адпаведныя каментарыі. У такім плане паданы, напрыклад, партрэт безымяннага памочніка пісара. «Памочнік пісара, — заўважае аўтар трылогіі, — быў яшчэ зусім малады бязвусы хлапчук з маленькімі шэрымі вочкамі, хітрымі і трохі насмешлівымі. Белая манішка і прылізаныя валасы казалі аб яго зухаватасці, а хітрыя вочкі і жулікаватая ўсмешка сведчылі аб здольнасцях вывуджваць грыўні і саракоўкі з паляшуцкіх кішэняў».

Сустракаюцца ў трылогіі і такія моманты, калі партрэты ў непасрэдна аўтарскай замалёўцы падаюцца эскізна, у агульных абрысах, а дапаўняюцца і канкрэтызуюцца адным або некалькімі героямі твора. І функцыю гэту ў большасці выпадкаў выконвае цэнтральны персанаж твора — настаўнік Лабановіч.

Праз прызму ўспрыймання і ацэнку Лабановіча ў значнай ступені пашыраецца і паглыбляецца, у прыватнасці, партрэт памочніка начальніка раз'езду Сухаварава. Спачатку аўтар аб гэтым персанажы вельмі сціпла зазначае: «За сталом у падлоўчага сядзеў памочнік начальніка раз'езду, пан Сухавараў, нежанаты, яшчэ малады хлопец, адзеты ў парадны мундзір; ён падкручваў свае чорныя вусікі». Партрэт у такой замалёўцы, безумоўна, нельга лічыць закончаным і поўным, бо тут адсутнічаюць тыя адметныя індывідуальныя прыкметы, якія выгадна вылучалі б Сухаварава з агульнага кола іншых персанажаў трылогіі. Ды і чытачу з такой контурнай партрэтнай выпіскі цяжка пакуль што зрабіць нейкую здагадку аб духоўнай сутнасці гэтага чалавека.

Больш яскравым і рэльефным прадстаўляем мы знешняе аблічча Сухаварава пасля адпаведных вывадаў і заключэнняў аб ім Лабановіча. «Хлюст, — назваў яго ў думках настаўнік, уявіўшы сабе яго воблік, яго ласыя вочы, якімі ён аглядаў панну Ядвісю, яго крыху адвіслую губу. — Грош яму цана!» Тут па адной партрэтнай замалёўцы Сухаварава можна ўжо зрабіць пэўныя меркаванні аб тым, што гэта за чалавек.

Прыкметнай асаблівасцю партрэтаў, пададзеных ў трылогіі «На ростанях», з'яўляецца тое, што выпісваюцца яны не ў адным месцы, а паступова, да таго часу,

пакуль герой знаходзіцца ў аб'ектыве аўтарскага адлюстравання і не выпадае з агульнага звяна сюжэтна-кампазіцыйнай канвы твора. І такі прыём лепкі партрэта з'яўляецца найбольш правільным і мастацкі апраўданым. «Нельга пісаць партрэт героя,— гаварыў некалі А. Талстой, — на цэлых дзесяці старонках... Гэта статыка. Партрэт героя павінен праявіцца з самога дзеяння, барацьбы, у сутыкненнях і паводзінах; партрэт узнікае з радкоў, паміж словамі, узнікае паступова, і чытач ужо сам прадстаўляе яго сабе без усякага апісання».

У такім паступовым плане падаецца партрэт панны Ядвісі, казённага ляснічага Бляўскага, абывацеля Максіма Гарошкі і іншых персанажаў трылогіі. Аб Ядвісі пісьменнік спачатку заўважае, што яна была «стройнаю, чарняваю дзяўчынаю, гадоў шаснаццаці, з тонкімі прыгожа абрысаванымі брывамі. Выраз яе цёмных акруглых вачэй часта змяняўся: то ў іх іскрыўся вясёлы смех і нахіл да жартлівасці, то адбівалася нейкае засмучэнне і тая сталасць, што рабіла ўражанне, быццам дзяўчына многа перадумала і перажыла». У другім месцы аўтар пашырае і ўдакладняе партрэтную характарыстыку Ядвісі, адзначаючы ў знешнім вобліку гераіні новыя рысы: «На канапе насупраць яго (Сухаварава. — **В. Ж.**) сядзела панна Ядвіся. Яна была ў прыгожай чырвонай кофтачцы, якая вельмі ішла да яе твару, а чорныя і пышныя валасы яе былі перахвачаны чырвонай стужкай. Панна Ядвіся выглядала вельмі цікаваю і прыгожаю. Цёмныя вочы яе з доўгімі мігаўкамі як бы рассыпалі праменні. Яна была вясёлая і ў добрым настроі».

Пашырэнне і паглыбленне партрэта гераіні назіраецца і ў далейшым. Мы бачым Ядвісю і злёгку ўсерджанай, вясёлай і падзіцячаму дураслівай, сумнай і журботнай, але заўсёды мілай і прывабнай. І гэтыя разнастайныя праяўленні знаходзяць свой выразны адбітак на яе знешнім аблічны. Пры дапамозе іх у значнай ступені пацвярджаецца думка пісьменніка аб тым, што Ядвіся «натура... многалучная, ... жывая, якая яшчэ не выявілася і не сфармавалася ў пэўны характар».

Знешні воблік казённага ляснічага Бляўскага ў час першага знаёмства чытача з гэтым персанажам таксама падаецца вельмі сцісла. Мы толькі і даведваемся, што Іван Пракопавіч Бляўскі «лысы чалавек, гадоў пад сорак» і што ў яго «быстрыя і цёмныя вочкі». Уявіць па такой агульнай партрэтнай замалёўцы вобраз жывога чалавека, безумоўна, нельга. Непараўнальна паўнейшае адлюстраванне знаходзіць партрэт Бляўскага тады, калі казённы ляснічы празмерна абураецца рэвалюцыйнай дзейнасцю «забастоўшчыкаў» і «бунтаўшчыкоў».

«Ясна відаць, — заўважае аўтар, — што казённы ляснічы, не ў гуморы. Не гадзіну, не дзень, нават не тыдзень, а праз цэлыя месяцы жмурыцца яго крутая лабэціна, сярдзіта звісаюць доўгія вусы, а з быстрых вачэй іскры сыплюцца. Нават лаянка яго, звычайная, прыяцельская, прыязная, вясёлая, цяпер звініць сапраўднаю злосцю, рассыпаецца круглымі ядранымі словамі пад парасонамі высозных вязаў і ліп, што стаяць у парку». А калі абурэнне Бляўскага дасягае кульмінацыйнага пункту, казённы ляснічы, паводле заўвагі пісьменніка, «ледзь са скуры не вылазіць. І ўсё ў ім гаворыць: язык, губы, нос, бровы і лоб, вочы і вушы, рукі і ногі, як бы ў нейкім дзікім шаленстве».

Як можна было заўважыць, аўтар падбірае ўдалы момант, калі знешнія рысы ў час найбольшай псіхалагічнай узбуджанасці персанажа знаходзяць сваё яскравае і поўнае праяўленне. І такім чынам дасягаецца канкрэтызацыя, гранічная індывідуалізацыя партрэта.



З мэтаю больш глыбокага раскрыцця псіхалогіі герояў і перадачы асаблівасцей іх характараў Якуб Колас карыстаецца прыёмам паўтарэння адных і тых жа партрэтных дэталей. У прыватнасці ён неаднаразова звяртае ўвагу чытача на тое, што ў маладога настаўніка Лабановіча, чалавека крыштальнай духоўнай чысціні, поўнага энергіі і высакародных, яшчэ не здзейсненых планаў — заўсёды жывы, адухоўлены, адкрыты твар і «добрыя ўдумлівыя вочы».

Аптымізм, жыццерадаснасць і рашучасць Вольгі Віктараўны Андросавай часта падкрэсліваюцца праз такія партрэтныя дэталі, як «бойкія і смелыя вочы», «бодрыя і цвёрдыя крокі» і інш.

Духоўную спустошанасць і нікчэмнасць памочніка начальніка раз'езду Сухаварава таксама ўзмацняюць паўтараемыя знешнія прыкметы: «алавяныя», «ласыя», памаўзлівыя вочы, адвіслыя мокрыя губы з паднятымі ўгару чорнымі вусікамі і «твар самаздаволенага самца».

У апісанні знешняга выгляду герояў трылогіі пісьменнік шырока карыстаецца і такімі мастацкімі сродкамі, як эпітэт і параўнанне. Асабліва часта ўжываюцца пісьменнікам вобразныя і яскравыя параўнанні. Вось некалькі прыкладаў, у якіх паказваецца знешні воблік празмерна тоўстага настаўніка Тараса Іванавіча Шырокага: «Шырокі размашыста рушыўся насустрач гасцям, прычым жывот яго закалыхаўся, як човен на вадзе».

«Ён усхапіўся з месца, дзябёлая фігура яго рэзка калыхнулася, страсянуўшы ганак».

«Шырокі ўстаў, як бы паравоз зрушыўся...»

«Ступіўшы на ганак, Шырокі з шумам сеў на лаўку, адкінуўся, выцягнуў здаравенныя дзябёлыя ногі і пагладзіў свой жывот-ночвы».

Мастацкія параўнанні і эпітэты ў дадзеным выпадку непасрэдна не звязаны з выяўленнем унутранай сутнасці і характару персанажа, але затое пры дапамозе іх ствараецца запамінальны і яркі знешні партрэт. І падобныя прыклады ў творы не з'яўляюцца адзінкавымі. Сустракаюцца яны даволі часта.

Аднак, як правіла, партрэтныя дэталі знаходзяцца ў прамой сувязі з раскрыццём псіхалагічнага складу характараў і ўнутранага вобліку герояў. У гэтым іменна і заключаецца асноўная каштоўнасць высокамастацкіх, пластычных і рэльефных партрэтных замалёвак, пададзеных Якубам Коласам у трылогіі «На ростанях».




# ТУТ ДАСЛЕДУЮЦЬ МІКРАСВЕТ

**Гутарка з дырэктарам Інстытута фізікі і матэматыкі Акадэміі навук БССР Б. І. СЦЯПАНАВЫМ**

З кожным днём усё глыбей і глыбей пранікаюць вучоныя ў шматгранную і бясконцую прыроду. Смелая навуковая думка пазнае самыя складаныя законы Сусвету, раскрывае самыя незвычайныя таямніцы, дапамагае чалавецтву заваёўваць касмічную прастору, пакараць атам.

Над разгадкамі розных з'яў прыроды, над метадамі пранікнення ў яе скарбніцы працуюць тысячы вучоных свету. З кожным годам аб'ём даследаванняў расшыраецца, узнікаюць новыя лабараторыі, навукова-даследчыя інстытуты, акадэміі. Хутка развіваюцца тэхнічныя навукі і ў нашай рэспубліцы. У Акадэміі навук БССР толькі за апошнія гады адкрыта многа новых лабараторый і некалькі інстытутаў.

Тры гады назад з Фізіка-тэхнічнага інстытута выдзеліўся Інстытут фізікі і матэматыкі, які цяпер вырас настолькі, што ў гэтым годзе на Усесаюзнай нарадзе па люмінесцэнцыі адзначалася, што ў Савецкім Саюзе з'явіўся значны цэнтр па вывучэнню буйнейшых праблем фізікі.

Чым жа займаецца інстытут, якія важныя праблемы вырашае, над чым працуюць дзесяткі навуковых супрацоўнікаў, што доўгія гадзіны праседжваюць ля складаных прыбораў і апаратаў?

На гэта пытанне адказаў дырэктар інстытута акадэмік Акадэміі навук БССР, вядомы вучоны Барыс Іванавіч Сцяпанаў.

Не так даўно, тады, калі атам яшчэ лічылі непадзельным, хімікі нават і не думалі, што сустрэнуцца ў сваіх даследаваннях з фізікамі. Яны вывучалі будову рэчыва, розныя хімічныя рэакцыі, а фізікі — законы руху матэрыі. У кожнага было сваё кола пытанняў, і абедзве навукі пры дапамозе сваіх уласных метадаў усё дакладней і глыбей пазнавалі жывую і нежывую прыроду. Але прышоў час, калі фізікі і хімікі раптам выявілі, што яны вывучаюць адну і тую ж з'яву, толькі тлумачаць яе рознымі словамі. Гэта здарылася тады, калі фізікі праніклі ў



мікрасвет — свет электронаў і ядраў, навучыліся даследаваць яго, а хімікі, узброеныя перыядычнай сістэмай Д. І. Мендзелеева, пачалі высвятляць механізм хімічных рэакцый, тлумачыць, чаму атамы моцна звязваюцца ў малекулу.

Метады даследаванняў фізікаў, іх тэорыі пачалі прымяняць для вывучэння будовы рэчываў, хімічных рэакцый. Прычым, фізікам часам удавалася растлумачыць тыя з'явы, якія нельга было даследаваць хімічнымі метадамі.

Гэты новы арыгінальны напрамак фізічнай навукі шырока прадстаўлен у Інстытуце фізікі і матэматыкі. Вялікая група даследчыкаў удакладняе тут хімічныя структуры рэчываў, неабходных народнай гаспадарцы, распрацоўвае спектральныя метады аналізаў сплаваў і арганічных злучэнняў, вывучае аптычныя ўласцівасці складаных малекул, што ў канчатковым выніку неабходна для сінтэзу рэчываў.

Усе гэтыя доследы праводзяцца пры дапамозе спектральных метадаў. Таму, каб зразумець іх сутнасць, неабходна хоць коратка пазнаёміцца са спектральным аналізам.

У 1666 годзе англійскі фізік Н'ютон выявіў цікавую з'яву. Ён паставіў на шляху сонечнага праменьчыка трохгранную шкляную прызму і атрымаў на экране звычайную вясёлку. У гэтым вопыце ён упершыню расклаў на састаўныя часткі святло, атрымаў так званы аптычны спектр Сонца. Выявілася, што святло — неаднароднае. Яно распаўсюджваецца хвалепадобна і складаецца з рознай даўжыні або частаты хваляў, якія маюць пэўны колер і па-рознаму праламляюцца ў шкляной прызме. Але тое, што ўбачыла вока — яркую палоску ад чырвонага да фіялетавага колеру, было маленькай часцінкай спектра. Да чырвоных праменняў на экран ляглі нябачныя інфрачырвоныя, перад апошнімі была вялікая паласа радыёмагнітных хваль. А за фіялетавымі знаходзіліся нябачныя ультрафіялетавыя, потым — рэнтгенаўскія і гама-праменні. Вучоныя адкрылі яшчэ некалькі выдатных уласцівасцей спектра. Яны ўстанавілі, што пры моцным напале кожнае рэчыва дае на экране, у спектры, свае спецыфічныя яркія лініі, па якіх можна дакладна сказаць: тут прысутнічае 80 працэнтаў медзі, 5 — цынку, 10 — волава і г. д. Гэтым адкрыццём вучоных, спектральным метадам аналізу, адразу зацікавіліся металургі, геолагі, батанікі, астраномы. Новы метад аналізу рэчываў аказаўся больш зручным, чым хімічны. Ён быў больш танны, дакладны, вымярэнні пры яго дапамозе адбываліся надзвычай хутка.

Зараз спектральны аналіз усюды ўкараняецца на прамысловых прадпрыемствах, у лабараторыях. У нашай рэспубліцы ім карыстаюцца больш чым 40 заводаў і навукова-даследчых устаноў. Укараняць яго ў вытворчасць дапамагае група спектральнага аналізу лабараторыі атамнай і малекулярнай спектраскапіі. Навуковыя супрацоўнікі Віктар Буракоў і Антон Янкоўскі, наведваючы заводы рэспублікі, удзельнічаюць у абсталяванні лабараторый спецыяльнай апаратурай, вучаць карыстацца ёю, праводзяць семінары, распрацоўваюць і ўкараняюць новыя метады спектральнага аналізу. Апрача гэтага, яны вядуць і тэарэтычныя даследаванні. Яны высвятляюць, чаму іншы раз спектр пэўнага сплаву не зусім дакладна адлюстроўвае яго хімічны склад і якія ёсць заканамернасці ў гэтых адхіленнях.

Даследуючы, як уздзейнічаюць

інфрачырвоныя праменні на малекулы, вучоныя таксама выявілі рад цікавых з'яў. Яны ўстанавілі, што малекула ў рэчыве вагаецца, больш таго, вагаюцца яе асобныя часткі, так званыя структурныя групы — метыльная, метыленавая, карбаксільная і іншыя. Прытым, кожная пэўная малекула, кожная пэўная структурная група мае свае частоты вагання і паглынае такія ж частоты хваль інфрачырвонага святла. Зразумела, калі мы высветлім, якой даўжыні праменні паглынаюцца, дык здолеем і даведацца, якое мы аналізуем рэчыва, якія структурныя групы ўваходзяць у яго малекулы.

Гэты прынцып паклалі ў аснову сваёй работы навуковыя супрацоўнікі лабараторыі інфрачырвонай спектраскапіі, якую ўзначальвае кандыдат фізіка-матэматычных навук Мікалай Аляксандравіч Барысевіч. Навуковая супрацоўніца Нона Макарэвіч распрацоўвае, напрыклад, спектральныя метады аналізу смаляных кіслот і іх вытворных, якія ўжываюцца ў лакафарбавальнай прамысловасці, у электратэхніцы, медыцыне. Па спектру паглынання яна вызначае, якія структурныя групы ўваходзяць у рэчыва, які яго хімічны склад. Цяпер даследуюцца ачышчаныя аднародныя смаляныя кіслоты. У будучым мяркуюць заняцца вывучэннем тых сумесей, у якіх смаляныя кіслоты звычайна сустракаюцца ў прыродзе. Гэты метад дасць чалавеку выдатны сродак аналізу рэчываў.

Пры дапамозе ультрафіялетавых праменняў малекулы вывучаюць у лабараторыі люмінесцэнцыі і фотахіміі. Атамы, іх часцінкі паглынаюць ультрафіялетавае святло прыкладна так, як і інфрачырвонае. Толькі гэты працэс больш складаны. Тут даследуюць не вагальныя рухі структурных груп малекул, а рух электронаў вакол ядраў атамаў.

У лабараторыі цяпер вывучаюць аптычныя ўласцівасці складаных малекул, устанаўліваюць сувязь гэтых уласцівасцей з будовай малекулы. Для даследаванняў тут ужываюць сінтэзавыя рэчывы, блізкія да фарбавальнікаў — фталіміды. Гэтыя работы маюць цяпер чыста навуковую, тэарэтычную цікавасць. Але ў будучым, калі вучоныя вызначаць будову малекулы, яны спатрэбяцца для сінтэзу рэчываў з загадзя зададзенымі ўласцівасцямі, для кіравання хімічнымі рэакцыямі.

Старшы навуковы супрацоўнік гэтай лабараторыі Ігар Ярмоленка распрацаваў арыгінальны метад даследавання будовы полімераў — цэлюлозы. Гэты метад дае магчымасць сачыць за хімічнымі рэакцыямі сінтэзу складаных высокамалекулярных злучэнняў, што вельмі неабходна пры атрыманні новых сінтэтычных валокнаў і матэрыялаў.

У лабараторыі радыёспектраскапіі навуковыя супрацоўнікі ствараюць установку для даследавання ўласцівасцей ядраў атамаў, а таксама полімераў, крышталяў, ходу хімічнай рэакцыі. Доследы тут будуць праводзіцца на аснове выяўленай і вывучанай савецкім вучоным лаўрэатам Ленінскай прэміі Е. К. Завойскім цікавай фізічнай з'явы — прамагнітнага рэзанансу.

Пры дапамозе аптычных метадаў фізікі працуюць і над вырашэннем праблемы фотасінтэзу.

Работы ў галіне фотасінтэзу маюць не меншае, а можа і большае значэнне, чым адкрыцці ў ядзернай фізіцы, якія далі атамную энергію. Так сказаў французскі вучоны Фрэдэрык Жоліо-Кюры. З гэтымі словамі Жоліо-Кюры не могуць не згадзіцца многія вучоныя.



Здаецца, што можа быць грандыёзней пранікнення ў атам, у якім чалавек выявіў шмат найдрабнейшых часцінак? Вучоныя здолелі адарваць ад атама электроны, раскалоць яго ядро. Дзякуючы гэтым вынаходніцтвам, фантастычныя мары алхімікаў, якія ў сваіх тыглях хацелі атрымаць золата і над якімі стагоддзямі смяяліся людзі, раптам ажыццявіліся. Цяпер чалавек з аднаго рэчыва атрымлівае другое. Ён стварыў нават штучны алмаз, які па сваіх тэхнічных якасцях пераўзыходзіць натуральны. Цяпер працуюць атамныя электрастанцыі. Пры ўзрыве вадароднай бомбы ўзнікае тэмпература, якая бывае толькі ў нетрах Сонца...

І пасля ўсяго гэтага Жоліо-Кюры сцвярджае, што работы ў галіне фотасінтэзу больш значныя! І ўсё ж гэта так. Велічныя перспектывы адкрывае перад светам новая навука. Дзякуючы яе дасягненням можна будзе рэзка ўзняць ураджайнасць раслін, дзякуючы ёй можна будзе нават ствараць у вялікіх колькасцях на заводах і фабрыках бялкі, тлушчы, вугляводы, вітаміны непасрэдна з паветра, вады, солей і простых арганічных злучэнняў.

Цяпер жа сінтэз арганічных рэчываў — манаполія прыроды. Зялёнае лісце цягнецца да сонца, і сонца дае ім энергію, неабходную для таго, каб з паветра і вады ўтварыць вуглявод — складанае арганічнае рэчыва, без якога немагчыма існаванне ўсяго расліннага і жывёльнага царства. Гэты працэс, фотасінтэз, адбываецца ў лісту, а яшчэ дакладней, у зялёным пігменце яго — хларафіле. І зразумела, калі мы выпытаем у прыроды яе таямніцы, даведаемся, як хларафіл працуе, мы здолеем падпарадкаваць расліну сваёй волі, здолеем узнавіць штучна тыя ж самыя працэсы. Разгадкай таямніцы зялёнага ліста займаюцца тысячы вучоных свету. Раней гэтай праблемай цікавіліся толькі біёлагі. Але чыста біялагічных ведаў аказалася недастаткова, біёлагі не маглі растлумачыць многага незразумелага. На дапамогу прыйшлі хімікі. На стыку дзвюх навук нарадзілася новая навука — біяхімія. Біяхімікі ўстанавілі хімічную формулу хларафілу, яго вытворных, прасачылі хімічныя працэсы, што адбываюцца пры яго ўтварэнні. Мечаныя атамы далі магутную зброю даследчыкам. Стала дакладна вядаць, як рэчывы, элементы вандруюць са злучэння ў злучэнне. Але і ведаў хімікаў было недастаткова. У вывучэнне праблемы фотасінтэзу ўключыліся фізікі.

У Інстытуце фізікі і матэматыкі ў некалькіх лабараторыях вывучаюць хларафіл і яго вытворныя.

Група малекулярнай спектраскапіі лабараторыі атамнай і малекулярнай спектраскапіі, якую ўзначальвае доктар фізіка-матэматычных навук Б. І. Сцяпанаў, займаецца непасрэдна хларафілам. Цікавыя доследы праводзяць тут навуковыя супрацоўнікі. Біяхімікі дакладна ўказалі, якія рэчывы ўтрымлівае ў сабе хларафіл. Ім цікава атрымаць адказы на тыя пытанні, якія яны не могуць высветліць пры дапамозе сваіх метадаў: ці звязаны ў жывым лісту малекулы хларафілу адна з другой або з рознымі бялковымі рэчывамі, як адбываецца ў хларафіле перамяшчэнне энергіі, якую дае сонца, і г. д. Галоўны інжынер Леў Аляксандравіч Краўцоў, навуковыя супрацоўнікі Раіса Яфрэмава і Мікалай Іваноў і займаюцца ў лабараторыі распрацоўкай гэтых праблем. У сваёй рабоце яны таксама карыстаюцца спектральным метадам даследавання. Праменьчык ультрафіялетавага

святла накіроўваецца на хларафіл. Частку светлавой энергіі рэчыва паглынае і пакідае ў сабе, а частка энергіі можа выпраменьвацца; адбываецца, гаворачы навуковаю моваю, люмінесцэнцыя. Складаныя, вельмі адчувальныя і дакладныя апараты даюць магчымасць у выглядзе крывых ліній запісаць, як хларафіл паглынае і выпраменьвае святло. Выяўлена, што хларафіл у жывым лісту і здабыты з расліны хімічным спосабам ачышчаны, дзе малекулы не звязаны адна з другой, па-рознаму паглынаюць святло, даюць розныя графічныя лініі. Адсюль вучоныя робяць вывад, што хларафіл у расліне знаходзіцца ў пэўных злучэннях. Навуковыя супрацоўнікі, звязваючы адну з другой асобныя малекулы хларафілу, дадаючы ў яго бялковыя рэчывы, сочаць, ці становяцца падобнымі атрыманыя рэчывы на хларафіл, які знаходзіцца ў прыродзе. Даследчыкі прарабілі ўжо шмат доследаў, на аснове якіх можна зрабіць некаторыя цікавыя вывады.

Дадзеныя лабараторый інстытута былі выкарыстаны вучонымі, якія вывелі арыгінальную формулу, неабходную для вывучэння аптычных уласцівасцей рэчываў, у тым ліку і хларафілу. Гэтая формула ўжываецца зараз даследчыкамі лабараторыі атамнай і малекулярнай спектраскапіі пры аналізе.

У другой лабараторыі — люмінесцэнцыі і фотахіміі, якой кіруе акадэмік Акадэміі навук БССР Антон Нікіфаравіч Сеўчанка, група супрацоўнікаў таксама занята хларафілам. Яна вывучае рэчывы, з якіх ён утвараецца, і блізкія да іх злучэнні — парфірыны. Тут даследчыкі ўдакладняюць будову малекулы хларафілу, характар паглынання і выпраменьвання рэчывам святла, высвятляюць, як змяняюцца аптычныя ўласцівасці малекулы са змяненнем тэмпературы і іншых умоў.

Можна толькі дзівіцца, у якія глыбіні Сусвету пранікае чалавек, узброены дакладнейшымі прыборамі! Яшчэ паўстагоддзя назад вучоныя нават і не марылі, што ядро, электрон, малекулу, атам, іх рухі можна будзе вывучаць амаль гэтак жа дакладна, як пад мікраскопам амёбу. А цяпер, напрыклад, у гэтай лабараторыі юнакі і дзяўчаты камсамольскага ўзросту, якія нядаўна скончылі ўніверсітэт, могуць вывучаць уласцівасці электроннага воблака, сачыць за яго змяненнем і на аснове гэтых дадзеных рабіць заключэнне аб зменах, што адбываюцца ў рэчыве.

А ў лабараторыі інфрачырвонай спектраскапіі вам могуць паказаць, якія вагальныя рухі робіць малекула хларафілу, як вагаюцца яе асобныя часткі. Зразумела, вы ўбачыце не самую малекулу і яе рухі, а спецыфічныя паказанні прыбораў, якія адлюстроўваюць працэс. Праўда, гэты раздзел навукі настолькі новы, настолькі нераспрацаваны, настолькі тут многа незвычайнага, што навуковыя супрацоўнікі яшчэ не ставяць перад сабой пэўных даследчых задач, а імкнуцца разабрацца ў паказаннях прыбораў, канстатаваць, як пэўная графічная лінія на паперы, яе пэўны ўчастак адлюстроўвае структуру і хімічны склад хларафілу. Тут яшчэ сапраўды неабсяжнае поле дзейнасці, тут сапраўды прырода захавала многа таямніц, пакінула месца для шматлікіх адкрыццяў.

У адной з лабараторый, якой кіруе кандыдат тэхнічных навук Іван Васільевіч Лебедзеў, ствараюць хуткадзеючую электроннавылічальную машыну. Усе, напэўна, чулі пра гэтыя цудоўныя, амаль казачныя, стварэнні чалавечага генія. Машыны могуць рабіць складаныя вылічэнні, перакладаць з адной мовы на другую, кіраваць работай завода, гуляць у шахматы і г. д. Машына замяняе вялікі штат рахунковых работнікаў. З дапамогай электронна-вылічальнай машыны, якую хутка пачнуць манціраваць у новым лабараторным корпусе Акадэміі навук БССР, будуць вырашаць важныя навуковыя, інжынерныя і народнагаспадарчыя задачы.



Складанасць такой работы стане зразумелай, калі ўлічыць, што ў нашай рэспубліцы не было спецыялістаў па электронна-вылічальных машынах. Навуковым супрацоўнікам і інжынерам давялося адначасова інтэнсіўна вучыцца і працаваць. Тут, у гэтай лабараторыі, таксама можна ўбачыць шмат юнакоў і дзяўчат, якія толькі 3—4 гады назад закончылі фізіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пры стварэнні машыны асабліва вызначыліся інжынер Уладзімір Ладэс, які распрацаваў арыфметычную канструкцыю, інжынеры Васіль Валяўка і Міхаіл Шэлег, навуковыя супрацоўнікі Ніна Якаўлеўна Карачынцава, Ларыса Фёдараўна Ільюшэнка і іншыя.

Акрамя арыгінальнай машыны ўласнай канструкцыі, у новым лабараторным корпусе акадэміі хутка пачнуць збіраць стандартную электронна-вылічальную машыну «Урал».

Мы коратка расказалі пра работу некалькіх лабараторый Інстытута фізікі і матэматыкі, коратка спыніліся на тых праблемах, якія імкнуцца вырашаць навуковыя супрацоўнікі. Як відаць, усюды — непачаты край работы, усюды прырода старанна хавае свае таямніцы. З кожным вялікім і маленькім адкрыццём, з кожным удасканаленнем інструментаў чалавек усё глыбей пранікае ў нязведаны свет, пазнае новыя ўласцівасці матэрыі. А новыя адкрыцці даследчыкаў патрэбна растлумачыць, звязаць з радам іншых з'яў, перавесці ў строгія фізічныя і хімічныя формулы і з дапамогай электронна-вылічальных машын абагуліць здабытае, прадказаць, што можна вынайсці далей, па якому шляху патрэбна рухацца эксперыментатарам.

Цяпер у Інстытуце фізікі і матэматыкі вялікая група тэарэтыкаў, сярод якіх такія буйныя вучоныя, як акадэмікі Акадэміі навук БССР М. А. Ельяшэвіч, У. І. Крылоў, М. П. Яругін, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР Ф. І. Фёдараў, пракладваюць шляхі эксперыментальнай рабоце. Яны вынаходзяць новыя метады разліку, развіваюць новыя фізічныя тэорыі, якія ўсё дакладней і дакладней адлюстроўваюць бясконцы рух матэрыі. Гэтым самым яны даюць моцную зброю даследчыкам, адкрываюць ім далёкія гарызонты.

З кожным годам шырыцца фронт работ інстытута. Там, дзе сёння адкрывае далягляды адзін чалавек, заўтра на праверку эксперыментальных дадзеных, для распрацоўкі новых метадаў работы, для новых даследаванняў, для тэарэтычнага абгрунтавання спатрэбяцца цэлыя інстытуты і акадэміі.

*Па партызанскіх сцежках*

**Яўген КУРТО**

# ТРОЕ З БАРЫСАВА

Стаяла восень 1941 года.

Такой бязрадаснай, трывожнай восені Віктару Пашкевічу перажываць яшчэ не даводзілася. Пра школу не было чаго і думаць. Яе фашысты разбурылі. Пайсці на Беразіну лавіць рыбу ці ў лес па арэхі — таксама нельга. Выходзіць з горада забаронена пад страхам смерці. Нават кніжак няма, каб пачытаць.

Адна ўцеха — пайсці да Алеся Клімковіча, пагаварыць з ім, падзяліцца скупымі навінамі пра падзеі на фронце, якія нейкім чынам пранікалі ў горад. Але і гэта можна было зрабіць толькі ўдзень. Вечарам хадзіць забаронена. Зловіць патруль — расстрэл на месцы.

І так за ўсё — расстрэл, расстрэл, расстрэл...

Эх!.. А як слаўна было да вайны! Куды хочаш, туды ідзі, што хочаш, тое рабі...

І што б гэта такое прыдумаць, каб хутчэй не стала на роднай зямлі фашыстаў?..

Засмучаны, сядзеў Віктар ля акна са сваім нявырашаным пытаннем. На вуліцы ўжо сцямнела. Толькі зрэдку ўспыхвалі белым святлом ракеты, і тады выразна вырысоўваліся сілуэты суседніх дамоў. Час-ад-часу цішыню рвалі стрэлы.

І раптам у акно хтосьці асцярожна пастукаў. Стук паўтарыўся яшчэ і яшчэ.

— Мама, — Віця падышоў да ложка і крануў матку за плячо. — Нехта стукае.

— Чую, сынок. Ідзі адчыні. Відаць, гэта нехта свой.

У хату зайшоў мужчына. Яшчэ з парога ён папрасіў:

— Завесьце вокны і запаліце лямпу.

Калі, нарэшце, усё было зроблена, маці зірнула на незнаёмага і радасна ўсклікнула:

— Андрэй Іванавіч! Жывы, здаровы!

Пазнаў мужчыну і Віктар. Гэта быў дзядзька Андрэй, той самы камандзір Чырвонай Арміі, які перад вайной кватараваў у іх. Праўда, цяпер на ім не было ні вайсковай формы, ні зброі. Апрануты ён быў, як рабочы — у ватнюю куртку і картовыя штаны. Але ні ў твары, ні ў рухах дзядзькі Андрэя нічога не змянілася.



Начны госць стаў распытваць аб становішчы ў горадзе, хацеў падрабязна даведацца, дзе якія часці стаяць, чым яны ўзброены, ці шмат салдат. Потым расказаў пра фронт. У яго голасе адчувалася ўпэўненасць, калі дзядзька Андрэй гаварыў:

— Хутка фашысты пяткі падмажуць. Вялікую сілу збірае Савецкая Армія. І ў тылу ворагу ратунку не будзе. Чулі, можа, пра партызан?

— Чулі!

— Ну, а ты што робіш? — звярнуўся дзядзька Андрэй да Віктара. — Не вучышся, канешне?

— Не. Толькі, каб фашысты і адкрылі школу, я ўсёроўна не пайшоў бы...

— Але трэба нешта рабіць. Не сядзець жа склаўшы рукі, — няпэўна прагаварыў Андрэй Іванавіч.

— Што ж рабіць, дзядзька Андрэй?

На камандзіра глядзелі смелыя, рашучыя хлапчуковыя вочы. У іх было нецярплівае пытанне, нават патрабаванне: «Што ж?»

— Та-а-а-к, работы цяпер многа! — задумліва, нібы сам з сабою, прагаварыў Андрэй Іванавіч. — І рабіць яе будуць толькі тыя, каму свабода Радзімы даражэй за ўсё...

Нейкая ўнутраная сіла падштурхнула Віктара. Хлопчык выцягнуўся ў струнку і з хваляваннем сказаў:

— Я — піянер. Амаль што камсамолец. Вайна перашкодзіла ўступіць. Я даваў урачыстае абяцанне на вернасць Радзіме!

У той дзень у доме Пашкевічаў доўга не спалі. Госць сядзеў з Віктарам і гаварыў. А калі падаў на развітанне руку, хлопец моцна, з усяе сілы паціснуў яе і сказаў:

— Зраблю, таварыш камандзір!

... Віктар старанна рыхтаваўся да свайго першага баявога задання, прадумваў усё да драбніц, некалькі разоў хадзіў у разведку.

Нарэшце, настаў час дзейнічаць. З дому выйшаў прыцемкам і ўзяў кірунак да складу са зброяй, які быў недалёка за гародамі. Рашыў прабірацца разоркамі паўзком. Вось ужо і знаёмы ўзгорачак, зарослы высокай, пажоўклай травою. Адсюль да калючак — рукой падаць. Якраз насупраць, ля самай зямлі, пад дротам — шчыліна. Яна такая, што Віктар свабодна пралезе на той бок.

Але спяшацца няможна. Спачатку трэба прыгледзецца да вартавога. Колькі часу ён ідзе ў адзін бок, на колькі затрымліваецца ў супрацьлеглым баку склада і колькі ідзе назад. Ведаючы гэта, можна выбраць зручны момант, каб падлезці.

Так вучыў хлопца партызанскі камандзір дзядзька Андрэй.

... Калі салдат у трэці раз павольна прайшоў міма склада і завярнуў за дальні вугал, Віктар спрытна праслізнуў пад дротам і імкліва кінуўся да склада. Пад брызентам ляжала цэлая груда новенькіх, густа змазаных маслам вінтовак. Віктар схапіў адну, якая ляжала бліжэй, і папоўз назад. На ўзгорачку, далёка за дротам азірнуўся. Вартавы толькі што павярнуў у гэты бок. Хлопчык выцер з ілба пот і перадыхнуў. Схаваўшы вінтоўку ў загадзя падрыхтаваным тайніку, Віктар пайшоў дадому.

На першы раз хопіць. А заўтра, заўтра ён пастараецца дабыць ужо не адну, а дзве ці нават чатыры вінтоўкі. Па дзве за раз будзе браць. Праўда, цяжкавата будзе цягнуць іх паўзком, але нічога. На фронце людзям яшчэ цяжэй.

Калі праз тыдзень да Пашкевічаў зноў наведаўся дзядзька Андрэй, Віктар з гордасцю адрапартаваў:

— Восем вінтовак і скрынка патронаў!

— Малайчына! Вялікае табе партызанскае дзякуй, — сказаў дзядзька Андрэй. — Толькі глядзі, будзь асцярожным.

— Ёсць быць асцярожным! — паўтарыў Віктар.

І зноў хлопец адпраўляўся ў сваю небяспечную дарогу. Паўзком да склада, паўзком назад, да тайніка. І ўсё гэта пад самым носам у вартавога. Партызанам патрэбна зброя, многа зброі. Дык чаму ж не здабыць яе, калі ёсць такая магчымасць?

Напярэдадні гадавіны Кастрычніка Віктар праз дзядзьку Андрэя пераправіў партызанам 25 вінтовак, тры ручныя кулямёты і 30 гранат. Гэта быў яго піянерскі, а можа і камсамольскі (бо ўжо вырас хлопец) падарунак святу Вялікага Кастрычніка.

Неўзабаве, даючы чарговае заданне, дзядзька Андрэй сказаў:

— Трэба стварыць падпольную групу. Падбяры надзейных хлопцаў, раскажы ім пра партызан, пра становішча на фронце. Увогуле, дай ім зразумець, што падпольная група — гэта не проста твая хлапечая выдумка, а арганізацыя, якая павінна дапамагаць у барацьбе з фашыстамі... Зробіш гэта, і справы ў нас пойдуць яшчэ лепш. Толькі зноў жа, ні на мінуту не забывай пра асцярожнасць. Мы хітрыя, але і вораг не дурны...

Над тым, каму даверыць вялікую тайну, Віктар думаў нядоўга. У яго быў даўні і верны сябар Алесь Клімковіч. Да яго ў першую чаргу і пайшоў ён. Алеся не прыйшлося доўга ўгаворваць. Той адразу загарэўся:

— Пойдзем! Што хочаш, буду рабіць!..

— Спакойна, Алесь, — адказаў Віктар. Ён добра памятаў наказ камандзіра. — Нам трэба быць пільнымі і асцярожнымі і помніць, што заданне тэрміновае і сур'ёзнае. Удваіх мы з табой не справімся. Трэба яшчэ адзін.

Алесь стаў называць прозвішчы іх агульных знаёмых. Але Віктар усё адмоўна круціў галавой. У гэты суровы час трэба асабліва быць уважлівым — давяраць толькі таму, за каго можаш паручыцца, як за сябе.

— Мелік Буцвілоўскі, — выгукнуў, нарэшце, Алесь.

— Гэты падыдзе, — радасна ўсклікнуў Віктар. — Дзіўна, як гэта мы адразу пра яго не ўспомнілі!

Так нарадзілася маленькая група юных партызан-падпольшчыкаў. Утраіх дзейнічаць было куды лягчэй. І зброя, боепрыпасы сталі рэгулярна паступаць у партызанскі атрад.

Аднойчы на склад прыбылі грузавікі, — відаць, і немцам спатрэбілася зброя. Салдаты падышлі да штабелю, прыкрытага брызентам, пацягнулі покрыўку і... вачам сваім не паверылі. Замест вінтовак у першай палавіне штабелю тырчэла пад брызентам некалькі тонкіх палак...

Узнялася трывога. На склад прыкацілі жандары ў чорных мундзірах з чарапамі на рукавах. Пусцілі аўчарку па следу. Яна тыцнулася носам туды-сюды і бездапаможна заскуголіла. Следу не было. Начны лівень змыў усё чыста...

Тады жандары пайшлі па хатах з вобыскам. Заглядвалі ўсюды, пратыкалі зямлю шампаламі, але так нічога і не знайшлі.

Неўзабаве пасля гэтага Віктару Пашкевічу перадалі загад: больш на склад за зброяй не хадзіць. Чакаць указанняў камандавання. Аднак доўга без справы сядзець не прыйшлося.

Аднойчы ў акно Пашкевічаў пастукалі ўмоўным стукам, і ў хату зайшоў знаёмы дзядзька Андрэй. На плячах у яго быў рэчавы мяшок, напакаваны лістоўкамі.



— Вось, Віцёк, падарунак, — ціха сказаў ён. — Заданне адказнае, рызыкоўнае. Ёсць загад: дзейнічаць групай. Адзін расклейвае, двое сочаць на вуліцы. Жадаю ўдачы!

... Нячутна прабіраюцца ўздоўж вуліцы трое хлапчукоў. Кароткі супынак, і на дзвярах дома застаецца маленькі лісток паперы з палымяным заклікам няшчадна біць чужынцаў. Пад ім подпіс: «Падпольны абком Камуністычнай партыі». Яшчэ супынак, і яшчэ адзін лісток прыклееены.

Вось і цэнтр горада. Памяшканне нямецкай жандармерыі. За дзвярыма нечалавечы крык болю і грубая лаянка на нямецкай мове. Тут, у гэтым месцы, трэба быць удвая асцярожнымі. Недзе паблізу патруль. І хлопцы, сагнуўшыся ў тры пагібелі, бясшумна крадуцца далей. Раптам пярэдні спыняецца і шчыльна прыціскаецца да дашчанага паркану. Гэта робяць і двое астатніх. Яны бачаць, як проста на іх, цьмяна пабліскваючы ліхтарыкам, коціць на веласіпедзе даўгалыгі паліцай.

Начальнік гарадской паліцыі! Няўжо заўважыў? Бегчы?

Віктар ужо думае падаць каманду сябрам: бяжым! Але начальнік паліцыі ля самых хлопцаў пакідае веласіпед і, моцна грукаючы абцасамі, паднімаецца па ступеньках ганка ў жандармерыю.

Міма!

Цяпер трэба хутчэй адсюль. Але хвіліначку... Віктар намазвае клеем некалькі лістовак і прыклейвае іх да веласіпеда. Потым кідае некалькі штук на ганак.

Праўда, за гэта дзядзька Андрэй можа палаяць. Але нічога! Хай ведаюць фашысты! Горад Барысаў не спіць, змагаецца. Як быў ён савецкім, так і застаўся савецкім. І ніякая жандармерыя, ніякая паліцыя не зробяць яго фашысцкім.

На наступны дзень у горадзе зноў павальныя вобыскі, зноў фашысты шукаюць «бандытаў-партызан». А Віктар, Алесь і Мелік ходзяць па вуліцах і, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, з нявінным выглядам глядзяць, як паліцаі і жандары ўвіхаюцца, саскрабаючы наклееныя за ноч лістоўкі.

— Саскрабайце, не шкада, — пераміргваюцца хлопцы. — Людзі ўжо ўсёроўна прачыталі. Мы яшчэ здабудзем, свежых!..

Гітлераўцы занепакоіліся не на жарт. Гестапаўцы і жандары не пераставалі шукаць падпольшчыкаў. На ўсіх ваенных аб'ектах падвоілася варта. З кожным днём усё цяжэй станавілася праводзіць дыверсіі.

Хлопцы асабліва адчулі гэта, калі атрымалі заданне ўзарваць фашысцкі склад з гаручым. Ім прыслалі з атрада магнітныя міны, падрабязна праінструктавалі, як дзейнічаць, і ўсё ж доўгі час заданне заставалася нявыкананым.

Справа ў тым, што гэты склад знаходзіўся на адкрытым месцы і абараняўся з чатырох бакоў кулямётамі. Падпаўзці да яго ні днём, ні ноччу не было ніякай магчымасці. Ні канаўкі паблізу, ні кусціка.

Думалі хлопцы, думалі ды так нічога і не маглі прыдумаць.

— Хоць ты катапультай міну запускай, — з прыкрасцю сказаў Мелік, — як тыя грэкі некалі рабілі...

— Чакай, — схапіў яго за плячо Віктар. — Дык гэта ж ідэя. Чэснае слова, ідэя!

Мелік і Алесь паглядзелі на сябра недаверліва.

— Што, ты і на самай справе думаеш катапульту будаваць? — насмешліва запытаў Алесь.

— Ды не, мяч, футбольны мяч! — І Віктар тут жа выклаў хлопцам прыкладны план аперацыі.

... Цёплы асенні дзень. Неба чыстае, яснае. Цішыня. Быццам і няма вайны. Вартавыя, што піль-

нуюць склад, сышліся закурыць, пагутарылі і разышліся кожны на сваё месца. Але не надоўга. Хутка яны ўжо сядзелі ля дзота ўсе чацвёра і запівалі шнапсам мясныя кансервы.

Неўзабаве адзін з іх зацягнуў рускую песню:

— Вольга, Вольга, мутэр Вольга-а-а...

Зацягнуў і абарваў. Непадалёк ад склада, быццам з-пад зямлі, з'явіліся тры расчырванелыя хлапчукі. Яны весела тузаліся, гонячы перад сабой футбольны мяч.

— Насат! Цурюк! — крыкнуў вартавы.

Але хлопцы не пачулі яго, і вясёлая тузаніна не спынялася.

Вось адзін з падлеткаў вырваўся з мячом уперад і так моцна стукнуў па ім, што мяч свечкай узвіўся ўгору і, апісаўшы паўкруг, пляснуўся ля высокай цыстэрны з гаручым.

— Цурюк! — зноў крыкнуў вартавы. На гэты раз падлеткі яго пачулі. Яны спалохана ўтаропіліся на вартавога і сталі павольна адступаць.

— Хальт! — вартавы паманіў хлапчукоў да сябе.

І яны, раззлавана тыкаючы кулакамі адзін другога ў грудзі, пачалі звальваць віну адзін на другога. Моў, гэта не я, а ён вінаваты, што мяч заляцеў за забароненую паласу. Не, ён!..

— Ты бросіль, — вартавы ткнуў пальцам у грудзі белакураму, — ты забраць, а я немножка піх-пах буду, — паказаў на кулямёт.

— Дзядзечка, родненькі, не трэба, — стаў прасіцца бялявы. (Гэта быў Віктар Пашкевіч.) — Дальбог, больш ніколі так не зраблю. Я ж ненаўмысля, — з вачэй яго сыпаліся слёзы. — Толькі мячык аддайце...

Вартавы пераглядзеў на сваіх таварышаў, і яны кіўнулі: няхай, моў, забяруць ды хутчэй ідуць адсюль.

Віктар куляй кінуўся да цыстэрны па мяч. Бег ён так хутка, што перад самай цыстэрнай не ўтрымаўся на нагах і так пляснуўся, што аж цераз галаву перакуліўся. Немцы зарагаталі. А Мелік з Алесем з трывогай падумалі: хаця б паспеў міну паставіць.

Паспеў ці не, яны так і не заўважылі. Бо Віктар як хутка ўпаў, так жа хутка падхапіўся і ўжо бег назад.

— Данке, паны, дзякуй, — бегучы, крыкнуў ён. І ўсе трое кінуліся назад, да бліжэйшых будынкаў.

Немцы зноў зарагаталі. Ім было весела.

А роўна праз трыццаць мінут пасля гэтага над тым месцам, дзе быў фашысцкі склад гаручага, у неба шугануў агромністы слуп чорнага, тлустага дыму. Узарвалася цыстэрна з бензінам. За ёй бухнула другая, трэцяя, чацвёртая...

Гітлераўцы яшчэ з большай злосцю ўзяліся за пошукі падпольшчыкаў. Гестапаўскія сышчыкі шнырылі па ўсіх завулках горада, прабіраліся ў кожную шчыліну. Яны ўжо крыху ўяўлялі сабе, хто ім шкодзіць. Вартавыя склада, што засталіся жывыя, намалявалі ім прыкладныя партрэты трох падлеткаў.

У канцы 1942 года фашыстам удалося напасці на след Віктара Пашкевіча, Алеся Клімковіча і Меліка Буцвілоўскага. Аб гэтым адразу ж даведаліся ў партызанскім атрадзе № 208, па заданнях якога дзейнічалі юныя патрыёты. Камандаванне атрада накіравала ў Барысаў свайго пасланца. І перш чым фашыстам удалося схапіць Віктара, Алеся і Меліка, партызанскі пасланец вывеў іх з горада, і неўзабаве хлопцы апынуліся ў атрадзе.



Але на гэтым іх баявыя дзеянні не скончыліся. Разам з дарослымі юныя падпольшчыкі ўдзельнічалі ў адказных аперацыях атрада, не раз хадзілі ў разведку, мініравалі чыгункі.

У сакавіку 1943 года камандаванне атрада накіравала юных партызан у сталіцу нашай Радзімы — Маскву. Па іх прылятаў спецыяльны самалёт з Вялікай зямлі. У Маскве хлопцы пасля доўгага перапынку зноў селі за парты.

За актыўны ўдзел у змаганні з нямецка-фашысцкімі захопнікамі Віктар Пашкевіч узнагароджан ордэнам Чырвонай Звязды, а Алесь Клімковіч і Мелік Буцвілоўскі — медалямі «Партызану Айчыннай вайны» I ступені.

Зараз былыя падпольшчыкі-партызаны Алесь Клімковіч і Мелік Буцвілоўскі жывуць і працуюць у родным горадзе Барысаве. Віктар Пашкевіч пасля вайсковай службы застаўся на сталае жыхарства ў г. Ужгарадзе.

*Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ*

# ЯЧЭЙКА ДРУЖНЫХ

Камсамольская ячэйка вёскі Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці была створана ў 20-х гадах. Тады яна аб'ядноўвала ўсяго сем чалавек — пяць хлопцаў і дзве дзяўчыны. Яны былі яшчэ зусім маладыя, але, нягледзячы на гэта, браліся за вялікія і адказныя справы.

Былы сакратар ячэйкі Дзмітры Жураўлёў цяпер служыць у флоце. Намеснікам рэдактара Буда-Кашалёўскай раённай газеты «Ленінскі шлях» працуе былы член гэтай ячэйкі Уладзімір Сідорка, Захар Іванчыкаў таксама працуе ў сваім Буда-Кашалёўскім раёне, а Люба Перцына — у адной са школ Гомеля. Сяргей Панкоў і Іван Вярбіцкі загінулі ў баях за Радзіму ў Вялікай Айчыннай вайне.

Ніжэй успамінаюцца некаторыя эпізоды з іх камсамольскай маладосці.

### Першыя даручэнні

Сход ячэйкі быў прызначаны на вечар, але яшчэ завідна ў школу пачалі сыходзіцца камсамольцы. Усе добра ведалі, што сёння адбудзецца важная і сур'ёзная размова — аб стварэнні ў вёсцы калгаса.

Гарачы, парывісты, Дзімка Жураўлёў з павагай і зайздрасцю глядзеў на Захара Іванавіча, першага вясковага камуніста. А Захарава выступленне было нешматслоўным.

— Мы павінны як мае быць падрыхтавацца. Па-першае, зберагчы кармы. Нам вядома, што кулакі збіраюцца спаліць на лузе сена. Гэтага дапусціць нельга. Па-другое, трэба заняцца сіласам. Гэтая справа для нас яшчэ новая, і неабходна ўсё добра прадумаць. Вясною сілас во як патрэбен будзе!..

Потым слова ўзяў Сяргей Панкоў, плячысты, дужы хлопец, новы старшыня сельскага Савета.

— Нам трэба перабудаваць жыццё на новы лад, — сказаў ён. — З такіх, як наш Пракоп ці Гарэлік, варта пачынаць, у іх палоскі, як шнуры, вузкія... Яны першыя пойдуць за намі!..

На гэтым сходзе размеркавалі абавязкі. Уладзіку Сідорыку даручылі арганізаваць закладку сіласу,



а Панкову з Вярбіцкім — правесці ўлік жывёлы.

### Змоўшчыкі выкрыты

Аднойчы раніцай на кватэру да Уладзіка прыбегла настаўніца Люба Перцына.

— Дзе Уладзік? — яшчэ з парога запытала яна.

— Спіць ён. Усю ноч кніжку нейкую чытаў, — паскардзілася маці.

Уладзік прачнуўся.

— Што-небудзь здарылася? — з трывогай спытаў ён, высунуўшы ўзлахмачаную галаву.

— Ты ж ведаеш, у каго я кватарую, — усхвалявана гаварыла Люба. — Дык вось, ноччу да гаспадара сабраліся ўсе хаўруснікі — Мікіта Байкоў, Кашлачоў з сынком Міхасём... Вось. Яны надумалі ў сіласныя ямы газы наліць...

— А яшчэ пра што казалі?

— Дзед Кашлачоў казаў, што сена ў іх усёроўна не хопіць, а сілас падсмажым. Вось зацягнуць, кажа, калгасныя кароўкі песенькy!.. Потым доўга-доўга аб нечым шапталіся паміж сабою, але я нічога не разабрала.

— Та-ак, шкада, — расчаравана прамовіў Уладзік і дзелавіта загадаў: — Глядзі ж, Люба, пра гэта нікому ні слова. Зразумела?

— Вядома. Не маленькая ж, — з крыўдай у голасе адказала Люба і выбегла з кватэры.

«Трэба будзе неадкладна ўстанавіць дзяжурства», — падумаў ён. І аб гэтым дамовіліся на нечарговым сходзе камсамольцы.

### Стрэл уначы

Вечарам Іван Вярбіцкі тупае ля сіласнай траншэі. Ён услухоўваецца, як Навум Нікеенка задуменна перабірае лады старога гармоніка. І міжвольна гэтая музыка кліча яго некуды далёка-далёка. Раптам абрываецца плаўная мелодыя. На момант усё сціхае. Потым гармонік зноў хапае сваімі пераборамі за сэрца. «Хутчэй бы хоць Уладзік прыйшоў, — думае Іван. — Можна б яшчэ паспець на вечарынку...»

Баючыся праспаць сваю змену на дзяжурстве, Уладзік у гэты час ішоў на покліч гармоніка.

«Пагуляю, а калі ўсе разыйдуцца, пайду дзяжурыць», — думае Уладзік. Праходзячы міма дома Кашлачова, Уладзік убачыў, як стары стаяў ля веснічак і энергічна прытупваў нагою ў такт музыкі. Заўважыўшы Уладзіка, ён няёмка пачаў пераступаць з нагі на нагу.

Уладзік усміхнуўся. «Як ні прытупвай, стары корч, а пад нашу музыку ты не танцор»...

... «Бульбу» танцавалі хлопец і дзяўчына. Колькі пачуцця ў гэтым танцы! З дзявочага твару не сыходзіла вясёлая ўсмешка.

Гармонік аж стогне ў руках Навума.

Круг сціскаецца ўсё вузей і вузей. У кожнага мільгае думка: «Хто ж каго пераганцуе?»

Дзяўчына танцавала без упынку. Стомлены хлопец пайшоў на хітрасць. Ён пачаў, не спяшаючыся, хадзіць па кругу. Вакол зарагаталі. Пачуўся нейчы крык: «Мішка пасуе! Люба — брава! Брава, Люба!» — падхапілі ўсе і запляскалі ў ладкі.

Гармонік нечакана змоўк. Навум паставіў яго на лаву, рукавом выцер з твару пот.

— Малайчына, Люба, даказала кулацкаму сынку! — радаваўся Сяргей Панкоў.

... Вечарынка была ў разгары. Да Івана Вярбіцкага ўвесь час даносіліся прыпеўкі. Гармонік заціхае, а голас дзяўчыны звонка выводзіць:

Кашлачову-кулаку
Страшны сон прысніўся;
Быццам ён да бедняка
Ў наймы папрасіўся...

Гармонік паўтараў мелодыю, даючы магчымасць спявачцы перадыхнуць для новага зачыну.

Глыбокай ноччу ўсё сціхла, толькі дзе-ні-дзе ля веснічак перашэпталіся пары. Месяц схаваўся за старымі могілкамі. Стала зусім цёмна.

Неўзабаве пачуліся крокі. Вярбіцкі пазнаў Уладзіка, які ішоў на змену.

— Ну, што? — шэптам запытаў Уладзік.

— Ніякіх здарэнняў не адбылося.

— Ведаеш, Ваня, якая вечарынка была! — усхвалявана прагаварыў Уладзік.

Але раптам грымнуў стрэл. Хлопцы ўпалі на зямлю і адпаўзлі ўбок. Праз некалькі мінут яны ўбачылі два сілуэты непадалёку ад могілак.

— Айда за імі, — шапнуў Уладзік.

— А як варта?

— Тады ты заставайся, а я пабягу.

Уладзік кінуўся да агародаў. Дзе паўзком, а дзе прыціскаючыся да платоў, ён непрыкметна поўз за незнаёмымі і каля дому Кашлачова, нарэшце, нагнаў іх.

— Куды вас нячысцік нясе, проста на двор?! — шыпеў стары Кашлачоў. — Дайце абрэз, а самі марш у правулак!..

Двое прайшлі міма, ледзь не наткнуўшыся на Уладзіка ля плоту. Гэта былі кулацкія сынкі.

Раніцою камсамольцы выклікалі міліцыю.

Кулакам не ўдалося запалохаць моладзь. Па-ранейшаму хлопцы і дзяўчаты дзяжурылі на загумені. І хоць падкулачнікі кпілі: «Не корм, а гніль будзе вясною», моладзь зберагла сілас.

**Невялічкая, але перамога**

Ранняй вясной 1930 года, калі з кармамі для грамадскага статку было асабліва цяжка, сілас аказаўся вельмі дарэчы. Адкрыццё сіласнай ямы праходзіла амаль у святочных абставінах. Сюды сабраліся жыхары ўсёй Патапаўкі. Нават заядлы аднаасобнік Кашлачоў прыплёўся.

Камсамольцы выкінулі некалькі глыб мёрзлай зямлі, знялі верхні слой зялёных галін. Уладзік дастаў жменю сіласу, панюхаў. Не, не пахне газай!

— А ну, дай я паднясу сваёй карове, — сказаў Пракоп Майсеенка і, напоўніўшы вядро, накіраваўся да свайго двара. Людзі падаліся ўслед за ім.

— Есць! Есць, аж аблізваецца! — пачулася некалькі галасоў.

Кашлачоў незадаволена крактануў і хуценька нырнуў з двара.

**В. ШАЦКІ,**
**загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Буда-Кашалёўскага райкома КПБ.**



# ДЗЯЎЧЫНА — ВАЖАК

Вясна таго года, памятаецца, была ранняя. Стаялі ясныя, цёплыя дні. У адзін з такіх дзён мы з Мікалаем Пугачом выправіліся за Добасну. Ішлі тою самаю сцежкаю, якою яшчэ падлеткамі хадзілі па грыбы ў Лясанскі лес. Але цяпер быў не грыбны час, бо якія ў красавіку грыбы! Мы ішлі да партызан. Мікалай не першы раз ішоў на такое спатканне, і я яму шчыра зайздросціў. Мікалай супакойваў:

— От пабачыш, усё абыйдзецца добра. З табою будуць гаварыць, як з роўным...

Па хісткай кладцы перайшлі Добасну, сцежка прывяла на ўзлесак. Трое асядланых коней спакойна стаялі на прывязі. А непадалёку ад іх, ля густога алешніку, сядзела тры чалавекі. Сярод іх — дзяўчына. Мікалай шапнуў:

— Яны... Жалязнякоўцы...

Сядзеўшыя, мабыць, даўно ўжо заўважылі нас і цяпер назіралі, як мы ў нерашучасці спыніліся воддаль.

— Падыходзьце бліжэй, — сказала дзяўчына.

Мы наблізіліся. Партызаны ўсталі.

— Гэта і ёсць той самы хлопец, аб якім гаварылі, — сказаў Мікалай дзяўчыне, якая, вітаючыся, назвала сябе Верай Пятроўнай.

Цяжка было адвесці позірк ад гэтых траіх узброеных людзей. Гэта былі сапраўдныя партызаны, і двое з іх — Вера Пятроўна і Сяргей Каваленка — прышлі сюды, у Беларусь, з-за фронта, з Вялікай зямлі. Вера Пятроўна — сакратар падпольнага райкома камсамола. Сяргей, здаецца, узначальваў тады групу партызанскіх дыверсантаў-падрыўнікоў (пазней ён быў камандзірам разведкі ў атрадзе). Значыцца, тут, на паланёнай ворагамі зямлі, ёсць камуністы, камсамольцы, значыцца, ёсць сіла, якая смела ўзнімае зброю супраць акупантаў. Няцяжка зразумець наша хваляванне.



Вера Махнач.

Гутарыла з намі больш Вера Пятроўна. Яна аб усім распытвала і час-ад-часу нешта запісвала сабе ў блакнот.

Мы папрасіліся ў атрад.

— З табою, Мікалай, — звярнулася Вера Пятроўна да майго напарніка, — ужо гаварылі нашы таварышы на гэтую тэму... Нам

патрэбны людзі ў горадзе для наладжвання глыбокай разведкі і восць яшчэ для чаго...

Яна дастала з палявой сумкі пакунак нашых (маскоўскіх) газет і лістовак і сказала:

— Праз надзейных людзей хай ідуць газеты з рук у рукі. Лістоўкі трэба расклейваць у горадзе. Людзі будуць ведаць праўду, а гэта вельмі важна...

Яна яшчэ казала аб залішняй гарачнасці, што рызыкаваць трэба, але з розумам, каб не трапіць у лапы ворагу.

— І працы не кідайце, каб не выклікаць падазрэння, — гаварыла Вера Пятроўна.

Цяжка цяпер прыгадаць усе дробязі тае гутаркі. Але адно нельга забыць — гэта тое, што кожнае слова сакратара райкома дапамагала лепш зразумець, што і як трэба рабіць, як змагацца. Нібы праясняўся і святлеў той далягляд, куды скіраваны былі твае думкі.

Вельмі хацелася папрасіць якога-небудзь «сапраўднага задання», бо што, думалася, гэта за работа — расклейваць лістоўкі! А Вера Пятроўна нібы адгадала такую думку і папярэджвала:

— Прыглядайцеся да сваіх таварышаў, знаходзьце сярод іх найбольш вытрыманых. А пазней і больш сур'ёзныя справы разгорнем...

З тым мы, развітаўшыся, і вярталіся ў Жлобін. Бралася на вечар, наваколле ахутвалася празрыстай сіняватай смугой.

Мікалай Пугач у хуткім часе быў у партызанскім атрадзе, бо так скламіся абставіны. А ў мяне, вядома, з'явіліся новыя сябры, з якімі мы рабілі тое, што падказваў райком. Неўзабаве пачаліся трывожныя дні. Акупанты блакіравалі лясы. Некалькі дзён падрад да горада даносіліся грымоты — гэта фашысцкія ваякі бамбілі і абстрэльвалі з гарматаў лес. Яны трубілі на ўсе лады, што «чырвоным бандытам» прышоў канец. Вядома, мы хваляваліся і ўсёй душой былі разам з сябрамі.

Але правалілася фашысцкая брахня. Зноў працягнулася трывалая нітка сувязі ад партызан, ад нашага райкома камсамола. Зноў убачылі мы свайго баявога сакратара, гэтую няўрымслівую светлавалосую дзяўчыну з Вялікай зямлі. Яна была такая, як і месяц таму назад. Апранута ў вайсковую гімнасцёрку, дзявочы стан перахвачан шырокай салдацкай папругай, на папрузе — кабура з пісталетам, у руках — палявая сумка. Як і тады — спакойная, яна сустракала нас заўсёды з усмешкай, распытвала, давала заданні. Звычайна пасля сустрэчы з ёю ў Жлобіне паяўляліся свежыя савецкія газеты, лістоўкі. Усё часцей грымелі выбухі ад партызанскіх мін.

Пазней і мне давялося пайсці ў партызанскі атрад, стаць поплеч са сваім камсамольскім важаком Верай Пятроўнай Махнач. Я часта бачыў яе сярод моладзі і сярод пажылых людзей — тады, як яна чытала ім зводкі савецкага Інфармбюро, расказвала аб тым, што дзеецца на Вялікай зямлі... Колькі было ў гэтай сціплай і простай дзяўчыны душэўнай сілы! Я ведаю, як яна любіла сумленных людзей і як ненавідзела баязліўцаў і здраднікаў. Простымі, звычайнымі словамі ўмела яна акрыляць людзей!

... Скончылася вайна. Гады два Вера Пятроўна працавала ў Жлобіне сакратаром райкома камсамола. Яна заўсёды была баявым важаком моладзі, шчырым таварышам, сумленным камуністам. Цяпер Вера Пятроўна разам са сваім мужам Сяргеем Каваленкам жыве на Украіне.

**М. МАРУШКЕВІЧ.**

## Спорт

# У БЛАКІЦЕ — БЕЛЫЯ ПЯЛЁСТКІ

Паветра! Той, хто хоць аднойчы адчуў сілу яго пругкіх струменяў, змог абаперціся на іх, спазнаў шчасце свабоднага палёту, той назаўсёды палюбіць парашутызм — спорт моцных духам, вынослівых, смелых.

Так было дваццаць два гады назад з Барысам Антонавічам Бандарэнкам. У тыя далёкія гады ён, стройны малады хлопец, працаваў фрэзероўшчыкам на Сімферопальскім машынабудаўнічым заводзе імя Куйбышава. Аднойчы давялося яму ўбачыць парашутыстаў-аэраклубаўцаў, і з гэтага часу ён сам загарэўся марай стаць парашутыстам. І стаў ім. Без адрыву ад вытворчасці Барыс Бандарэнка скончыў курсы і пасля гэтага зрабіў той самы першы прыжок, які назаўсёды застаўся ў яго памяці. А цяпер на Барысавым рахунку — больш за 1250 прыжкоў, многія з іх ён зрабіў у гады Вялікай Айчыннай вайны з пасадкай у тылу ворага.

Таксама «раптоўна» палюбіў парашутызм старшы тэхнік-лейтэнант Алакаеў усяго два—тры гады назад. З самалёта, які ён абслугоўваў, рабілі прыжкі... «Няўжо ў мяне не хопіць смеласці прыгнуць з парашутам?» — падумаў ён аднойчы і папрасіў камандзіра дазволіць яму зрабіць хоць бы адзін прыжок. Пасля падрыхтоўкі і медыцынскага агляду Алакаеў прыгнуў і таксама, як Бандарэнка, вельмі палюбіў парашутызм.

Могуць сказаць, што любоў да прыжкоў адразу ж знікае, як толькі чалавек адчуе нягоды гэтага віду спорту. Не заўсёды так бывае. Сапраўднага парашутыста не палохаюць непрыемнасці.

Аднойчы Іван Папоў зрабіў прыжок з кабіны стралка-радыста самалёта-бамбардыроўшчыка і сустрэчнай плынню паветра быў кінуты на стабілізатар. Ад моцнага ўдару аб стабілізатар у яго раскрыўся асноўны парашут. Атрымалася так, што сам Папоў аказаўся зверху стабілізатара, а стропы парашута прайшлі ніжэй яго. Купал парашута, які напоўніўся паветрам, «перацягнуў» Папова на свой бок, але пры гэтым і сам парваўся. Метраў пяцьсот Папоў спускаўся з няспраўным парашутам, а потым знайшоў у сабе сілы раскрыць запасны парашут і шчасліва прызямліўся.

Гэты кур'ёзны прыжок не спалохаў парашутыста. Зараз на рахунку старшыні звыштэрміновай



Спартсмены-парашутысты, члены Беларускага Цэнтральнага аэраклуба **ДТСААФ** Васіль Налівайка, Міхаіл Шаіпаў, Юры Вячора і Георгі Паддубоцкі ўстанавілі ў чэрвені гэтага года новы сусветны рэкорд у групавым прыжку з вышыні 1500 метраў на дакладнасць прызямлення.

Спартсмены-парашутысты перад палётам.

Фота А. Дзітлава.



Зіна Партнова — Герой Савецкага Саюза, праслаўленая камсамолка-падпольшчыца Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі.



Карціна ленінградскага мастака Е. Майсеенкі «Першая конная» ўваскрашае незабыўныя дні гераічнага паходу Першай коннай арміі супраць белагвардзейскіх полчышчаў. Гарніст трубіць сігнал і суровыя, пракураныя парахавым дымам байцы выстрайваюцца для апошняга бою з контррэвалюцыяй. Карціна поўная дынамікі, а кантраст цёмнага неба і залітай сонцам зямлі добра перадаюць абстаноўку тых трывожных, гераічных дзён.



Т. Салахаў — малады мастак. Нядаўна ён закончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава. Карціна «З вахты», рэпрадукцыю якой мы змяшчаем, — дыпломная работа Т. Салахава. Малады мастак адлюстраваў на ёй гераічныя будні бакінскіх нафтавікоў. Мастак ўдала перадаў каларыт нафтавых промыслаў, а ў вобразах рабочых — гераічных, самаадданых будаўнікоў камунізма.

службы Івана Папова — больш 600 прыжкоў.

У Н-скім падраздзяленні нямала лётчыкаў і авіяспецыялістаў-парашутыстаў. Лепшыя з іх — майстар парашутнага спорту Бандарэнка, першаразраднік Папоў і спартсмены параўнальна маладога пакалення Алакаеў і Макаў якраз і ўдзельнічалі ў спаборніцтвах парашутыстаў.

Парашутысты астатніх каманд былі прыблізна такога ж складу і ўзроўню падрыхтоўкі. Побач з майстрамі спорту, якія маюць на рахунку многія сотні прыжкоў, на спаборніцтвах выступіла спартыўная моладзь.

І трэба сказаць, што прадстаўнікі абодвух пакаленняў праявілі нямала намаганняў для заваявання каманднага і асабістага першынства. Жорсткая барацьба разгарэлася з першага ж практыкавання: прыжка на дасканаласць прызямлення з вышыні 1 000 м у круг дыяметрам 300 м.

Прыжок ад прыжка адрозніваецца. Нявопытны парашутыст ляціць па волі ветру і прызямляецца там, куды «вынесе». Умелы ж актыўна ўздзейнічае на хуткасць і напрамак прызямлення і сам вызначае, дзе яму сесці. Дакладнасць прызямлення ў адзначаным раней месцы і вызначае майстэрства парашутыста.

І вось удзельнікі спаборніцтваў садзяцца ў самалёт, які неўзабаве падымаецца ў паветра. Набрана зададзеная вышыня. Самалёт на баявым курсе. Да абрэза люка падыходзяць парашутысты.

Яны па ўласных разліках часу і месца парамі прыгаюць у паветраны акіян. Потым самалёт бярэ новую партыю парашутыстаў, і зноў яны выскакваюць у раней разлічаным месцы з адной мэтай — прызямліцца бліжэй да цэнтра круга.

Пры выкананні першага практыкавання найбольшага поспеху дабіўся першаразраднік Ушакоў. Ён прызямліўся першы раз у 13,13 м ад цэнтра круга, а другі — яшчэ бліжэй, у шасці. Некалькі ачкоў праігрывае яму першаразраднік Дарафееў. Яго паказчыкі — 23,30 і 6,85 м. Затым ідуць майстар спорту Бандарэнка і другаразраднік Будгер. Усе

Перад пасадкай у самалёт.

Фота А. Мураўёва.





яны, зрабіўшы правільны папярэдні разлік і пакінуўшы самалёт у разлічаным пункце, умела карэктыравалі ў часе зніжэння свой аднос, уносілі ў яго адпаведныя папраўкі. Гэта патрабавала ад іх вялікага фізічнага напружання для падцягвання строп. І гэтае напружанне яны вытрымалі.

Зусім іншае становішча было ў майстра спорту Літвіна і першаразрадніка Харчанкі, якія мелі меншую фізічную загартоўку. Яны прызямліліся далёка ад цэнтра круга.

Так практыкаванне за практыкаваннем выконвалі парашутысты і з кожным разам усё выразней выяўляліся пераможцы.

Вось ад самалёта аддзялілася маленькая кропка, потым другая. Цяпер у суддзяў у руках секундамеры. З іх дапамогай фіксуецца час аддзялення і раскрыцця парашута. Праходзяць 10-я, 15-я, 20-я секунды, і вось раскрываецца купалам парашута белы шоўк. У блакіце неба — белыя пялёсткі. Хранометры фіксуюць час свабоднага падзення. Ён вагаецца ў межах 20 секунд. Спартыўныя суддзі, якія наглядаюць за прыжкамі ў бінокль, ацэньваюць тэхніку падзення. Але і гэта не ўсё. Пачаўшы штурм «круга дакладнасці» ў першым практыкаванні, парашутысты працягваюць яго атаку і на гэты раз. Як толькі раскрываецца парашут, яны пачынаюць выконваць другую палову практыкавання — прызямляюцца ў азначаны на полі заліковы круг.

У чым зарука поспеху прыжка на дасканаласць прызямлення? Перш за ўсё ў правільнасці папярэдняга разліку. Але як бы добра ні быў разлічаны прыжок на зямлі, загадзя ўсё прадугледзець немагчыма, бо ніколі пэўна нельга ведаць, у якіх умовах мо- жаш аказацца ў паветры. Не бывае двух аднолькавых прыжкоў, і, аддзяліўшыся ад самалёта, парашутыст заўсёды аказваецца ў новым становішчы. У кожным прыжку ён пастаянна павінен шукаць і імгненна знаходзіць новыя рашэнні. Таму, акрамя ўмення разлічваць прыжок, парашутыст павінен дасканала валодаць майстэрствам кіравання купалам. А гэта — тонкае майстэрства.

У гэтым практыкаванні першае месца заваяваў спартсмен, які ўпершыню ўдзельнічаў у спаборніцтвах, другаразраднік радавы Гаравы. Ён набірае 569,6 ачка з 700 магчымых. На другое месца зноў выходзіць першаразраднік Дарафееў. Потым — Будгер, Грынцоў, Пятроў.

Афіцэр Дарафееў на трэцім практыкаванні выходзіць на першае месца, а радавы Гаравы — на другое, майстар спорту Сямёнаў — на трэцяе.

Бадай самымі складанымі былі чацвёртае і пятае практыкаванні — прыжкі з вышынь 2 200 і 2 800 м з затрымкай раскрыцця парашута адпаведна 30 і 40 секунд.

Гэтыя практыкаванні садзейнічаюць выхаванню ў воінаў такіх неабходных якасцей, як мужнасць, воля, асцярожнасць у паветры. Вядома, што сучасныя самалёты лятаюць на вялікіх вышынях. Таму лётчыку, а таксама спартсмену неабходна ведаць, як трэба пакідаць самалёт, які ляціць на вялікай вышыні. Калі, пакінуўшы самалёт на вялікай вышыні, адразу адкрыць парашут, дык прызямленне зойме вельмі многа часу і парашутыста аднясе далёка ўбок — часам за 50—70 кіламетраў. Пры групавым скачку парашутысты могуць рассеяцца на вялікія адлегласці адзін ад другога. Да таго ж у баявых абставінах пры ранні́м раскрыц-



Уладзімір Карызна-Мірскі.

ці парашута лётчык можа быць расстраляны праціўнікам у паветры.

Вось чаму важна ўмець рабіць працяглыя зацяжныя прыжкі. А гэта не так лёгка і проста. Парашутысту, які падае, часам пяць секунд здаюцца за дваццаць, між тым важна раскрыць парашут у здадзены час. І тут на дапамогу спартсменам прыходзяць вытрымка, самавалоданне, сіла волі. Яны сочаць за часам падзення па секундамеру, устаноўленым на руцэ або на запасным парашуце. Чацвёртае і пятае практыкаванні ўскладняліся яшчэ тым, што, паводле ўмоў спаборніцтваў, парашутыст, пакінуўшы самалёт, павінен быў адразу ж заняць гарызантальную паставу тварам уніз у напрамку галавой на цэнтр мішэні і да раскрыцця парашута захоўваць устойлівае кіруемае падзенне.

Свабодны палёт! Што можа параўнацца з ім! Чалавек, выкінуўшы наперад злёгку сагнутыя ў локцях рукі і расставіўшы ногі, ляціць, нібы птушка. Ён свабодна арыентуецца ў паветры, наглядае за зямлёю, робіць неабходныя развароты.

Высокі клас па гэтых практыкаваннях паказалі першаразраднікі Карызна-Мірскі і Папоў, майстар спорту Бандарэнка, другаразраднік Макаў. Жартуючы, парашутысты гаварылі ў адрас старшага лейтэнанта Карызна-Мірскага, што чацвёртае і пятае практыкаванні — гэта яго каронныя нумары. Ён манапалізаваў рэкорды па гэтых практыкаваннях. Значыць, высокая падрыхтоўка ў спартсмена, бо добра прыгае той, хто паказвае прыкладна аднолькавыя вынікі ва ўсіх прыжках. Такім спартсменам і з'яўляецца Карызна-Мірскі, які заняў асабістае першае месца ў спаборніцтвах і стаў чэмпіёнам. На другое месца выйшаў афіцэр Дарафееў, на трэцяе — старшыня звыштэрміновай службы Папоў.

З каманд найбольш падрыхтаванай аказалася каманда майстра спорту Бандарэнкі, якая заваявала першынство. Каманда авіятара Ушакова выйшла на другое месца, афіцэра Дарафеева — на трэцяе.

Савецкія ваенныя спартсмены-парашутысты моцныя целам і духам. Разам з усімі нашымі воінамі яны пільна ахоўваюць наша мірнае неба.

**М. ВІНАГОРАЎ.**



# МАТЧЫ ДРУЖБЫ

Каманда польскіх барцоў прыехала ў Мінск. Але не для спартыўнай сустрэчы (матч паміж ёю і барцамі Беларусі адбыўся раней у Варшаве), а для падрыхтоўкі да першынства свету. Чаму ў Мінск? Ці ў Варшаве няма залы для трэніровак?

Калі барцы Беларусі гасцявалі ў Варшаве, мясцовыя знаўцы класічнай барацьбы высока ацанілі майстэрства мінчан. Тэхніка Алега Караваева, Івана Каршунова, Мікалая Чучалава, Васіля Секунова і іншых уразіла варшавян. Яны такой барацьбы яшчэ не бачылі. «Гэта тэхніка экстра-класа»,— сказалі ў адзін голас польскія спецыялісты. І яны не памыліліся. Класічная барацьба ў Беларусі мае вялікую і слаўную гісторыю. Цяпер беларускія барцы — адны з мацнейшых у Савецкім Саюзе, а калі ўлічыць, што савецкія барцы — мацнейшыя ў свеце, дык стане зразумелым, чаму майстэрства беларусаў так спадабалася ў польскай сталіцы.

У Польшчы барацьба — некалькі адсталы ад спорту. Атрымаўшы паражэнне ад каманды Мінска, барцы Польшчы пераканаліся ў сваёй тэхнічнай і тактычнай слабасці. А за некалькі дзён знаходжання мінчан у Варшаве барцы абедзвюх каманд моцна пасябравалі. І вось узнікла ідэя: правесці сумесныя трэніроўкі. Беларусы з ахвотай узяліся падзяліцца вопытам, дапамагчы польскім сябрам лепш падрыхтавацца да першынства свету.

Вось чаму польскія барцы прыехалі ў сталіцу Беларусі. Тут іх вучыў старэйшы беларускі барэц, заслужаны майстар спорту і заслужаны трэнер СССР М. Мірскі, тут ім цярпліва перадавалі «сакрэты» свайго майстэрства лепшыя барцы рэспублікі М. Чучалаў, В. Драздоў, С. Залускі і іншыя.

**Сілавая чацвёрка беларускіх акрабатаў, якая выступала на спаборніцтвах з польскімі спартсменамі.**



Бывала, што і беларускім спартсменам прыходзілася сядзець на вучнёўскай лаўцы перад замежнымі гасцямі. Калі ў ліпені праходзіў матч лёгкаатлетаў Беларусі і Чэхаславакіі, высветлілася, што ў некаторых відах спорту мінчане значна адстаюць ад сваіх гасцей. Алімпійская чэмпіёнка па кіданню кап'я Дана Затопкава, лёгка выйграўшы ў маладых беларускіх саперніц, тут жа каля сектара пасадзіла беларусак Галіну Андрэйчык і Марыю Верамейчык і стала вучыць іх сваёй тэхніцы. Для сяброў сакрэтаў няма!

Узаемную карысць прынёс матч баксёраў Мінска і Варшавы ў сталіцы Польшчы. У абедзвюх камандах выступалі вопытныя байцы рынга. Баксёры Польшчы славяцца на ўвесь свет, і варшавяне былі вельмі здзіўлены, убачыўшы выдатныя, смелыя баі беларусаў. Асабліва спадабаўся ім чэмпіён Беларусі Барыс Прупас. Польскі друк параўнаў яго бой з варшавянінам Раеўскім, як гульню «кошкі з мышкай». Затое павучальнай для мінчан была цудоўная тэхніка польскага баксёра Кліся.

Шмат міжнародных сустрэч правялі ўжо беларускія каманды. Нашы футбалісты сустракаліся з камандамі Бразіліі, Польшчы, Фінляндыі, Швейцарыі, Швецыі, Кітая, Карэі і ГДР. Барцы сустракаліся з фінамі, югаславамі, немцамі, палякамі. Міжнародныя сустрэчы правялі беларускія валейбалісты і баскетбалісты, гімнасты і акрабаты, фехтавальшчыкі і цяжкаатлеты, лёгкаатлеты і шахматысты. Толькі ў 1957 годзе адбылося 12 міжнародных матчаў беларусаў па 7 відах спорту.

Асабліва ўмацаваліся спартыўныя сувязі беларускіх спартсменаў з камандамі Польскай Народнай Рэспублікі ў гэтым годзе.



**Іржы Ланскага віншуюць з новым нацыянальным рэкордам.**

Абмен спартыўнымі дэлегацыямі паміж Беларуссю і Польшчай стаў сістэмай, перарастае ў добрую традыцыю. У Варшаву з Мінска выязджалі штангісты, барцы, акрабаты, баксёры, гімнасты, шахматысты. У Мінск з Варшавы прыязджалі шахматысты, валейбалісты, баскетбалісты, гімнасты, фехтавальшчыкі, юныя баксёры, барцы. Устанавіліся традыцыйныя сустрэчы паміж спартсменамі асобных гарадоў абедзвюх рэспублік. Брэсцкія спартсмены пасябравалі са спартсменамі Любліна. Кожны год яны сустракаюцца, спаборнічаюць паміж сабою па футболу, валейболу, баскетболу, лёгкай атлетыцы. Добрая дружба завязалася паміж спартсменамі Гродна і Беластока.

Усе гэтыя матчы праводзяцца не дзеля чыстага спорту, не дзеля таго, каб атрымаць перамогу або выпрабаваць сваю сілу, а галоўным чынам для ўстанаўлення сяброўскіх сувязей, узаемнага абмену вопытам. Трэнеры расказваюць адзін другому, якімі метадамі вучаць спартсменаў, а спартсмены наглядна, паказам выпраўляюць адзін у другога памылкі, дапамагаюць удасканальваць майстэрства.



Беларускім спартсменам даводзіцца часта выязджаць за мяжу ў складзе зборных каманд СССР. Густой сеткай можна перакрэсліць карту Еўропы, калі паказаць на ёй маршруты паездак чэмпіёна і рэкардсмена СССР мінчаніна Міхаіла Крываносава. Ён двойчы быў у Лондане, выступаў у Стакгольме і Осла, у Рыме і Афінах, у Белградзе і Будапешце, у Бухарэсце і Хельсінках. Крываносаў выступаў і на алімпійскім стадыёне Мельбурна. І ўсюды ён завадзіў дружбу з замежнымі спартсменамі, усюды расказваў пра родную Беларусь, пра яе будаўнікоў і спартсменаў.

Мінчанка Таццяна Аўрамава бяражна захоўвае залаты медаль і дыплом чэмпіёнкі Румыніі ў бегу, якія яна заваявала на адкрытым першынстве Румынскай Народнай Рэспублікі. Таню добра памятаюць у Бухарэсце, аб сваёй паездцы ў сталіцу Румыніі дзяўчына гаворыць, як аб цудоўных днях, праведзеных сярод сапраўдных сяброў.

Тройчы пабывала мінчанка Елізавета Ермалаева ў Парыжы. Яна заваявала там залаты медаль чэмпіёна міжнародных універсітэцкіх гульняў, выйшла пераможцам у кросе «Юманітэ».

Беларускія спартсмены былі і ў іншых краінах: у Галандыі, Швейцарыі, Бельгіі, Балгарыі, Чэхаславакіі, Аргенціне, Кітаі, Індыі. Усе гэтыя паездкі не прайшлі бясследна. Ідэямі дружбы і міру былі прасякнуты ўсе іх сустрэчы. Яны пакінулі аб сабе добрую памяць. У Бельгіі не забудуць брэсцкага весляра Валянціна Наумава, які стаў чэмпіёнам Еўропы. Доўга будуць памятаць у Берне Міхаіла Крываносава, Анатоля Юліна і Марыю Іткіну. У Празе вызначыліся Алег Караваеў і Іван Каршуноў. У Катовіцах славу мацнейшага цяжкавагавіка Еўропы заваяваў штангіст Яўген Новікаў.

Мацнее і расце дружба беларускіх і замежных спартсменаў. Матчаў дружбы будзе ўсё больш і больш. Яны садзейнічаюць узаемаразуменню паміж народамі, аб'ядноўваюць іх у барацьбе за мір.

**І. ЦЫВЕС.**

## На антырэлігійныя тэмы

С. БОБАЎ

# АТАМНАЯ ЭНЕРГІЯ Ў ПРЫРОДЗЕ

Незвычайнай, невымоўна прыгожай, казачнай і ў многім таямнічай — такой заўсёды паўставала перад чалавекам прырода. На працягу многіх тысячагоддзяў дапытлівы чалавечы розум спрабаваў знайсці разгадку яе таямніц.

У старажытныя часы, калі чалавек амаль не ведаў законаў прыроды, рэлігія тлумачыла людзям прыродныя з'явы, як цудадзейнае праяўленне волі боскай. Паводле вучэння царквы, прырода створана богам. Ён стварыў святло, Сонца і ўсе нябесныя свяцілы, а таксама Зямлю і жыццё на ёй.

Навука пастунова знаходзіць правільнае тлумачэнне з'яў прыроды, вырашае самыя складаныя пытанні аб жыцці Сусвету і ўзнікненні жыцця на Зямлі.

Поспехі фізікі XX ст., якая адкрыла таямніцы будовы атамаў і новую крыніцу энергіі, што тоіцца ў ядрах атамаў, намнога пашырылі нашы ўяўленні аб прыродзе і далі больш поўны адказ на шэраг пытанняў, якія доўгі час навука дасканала вытлумачыць не магла.

### Таямніца энергіі Сонца

Адной з важнейшых задач навукі з'яўляецца знаходжанне новых крыніц энергіі. Энергія — гэта жыватворчая сіла ў жыцці грамадства. Без хуткага росту энергетычных магутнасцей немагчыма далейшае развіццё прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, культуры.

Што ж мы называем энергіяй?

У перакладзе з грэчаскай мовы слова «энергія» азначае «работаздольнасць». У навуцы пад энергіяй разумеюць здольнасць усіх цел прыроды рабіць работу. Усё, што існуе ў жывой і нежывой прыродзе, валодае энергіяй, г. зн. можа рабіць работу. Так, чалавек, затрачваючы энергію сваіх мускулаў, сячэ дровы, кіруе машынамі і г. д. Вецер прыводзіць у рух колы ветраных рухавікоў. Вада, падаючы з плаціны, круціць турбіну, выпрацоўвае электраэнергію. Пры згаранні каменнага вугалю, торфу або нафты скрытая хімічная энергія гэтых рэчываў ператвараецца ў неабходную чалавеку энергію святла і цяпла.

Энергія мае адну вельмі важную асаблівасць: яна ніколі ў прыродзе не знікае, а пераходзіць з аднаго віду ў другі. Жыццедзейнасць чалавечага арганізма і ўсёй навакольнай прыроды непарыўна звязана з ператварэннем аднаго віду энергіі ў другі. Так, у час навальніцы электрычная энергія ператвараецца ў атмасферы ў светлавую, цеплавую і гукавую энергію.

Навука, вывучаючы з'явы прыроды, ставіць на службу чалавеку неабходныя яму крыніцы энергіі. Асноўнай крыніцай энергіі для нашай планеты Зямлі трэба лічыць Сонца. Гэтая бліжэйшая да Зямлі велізарная зорка пасылае нам вельмі багата энергіі. Сонцу належыць выключная роля ў жыцці Зямлі. Святло і цяпло, якое дае Сонца, з'яўляюцца неабходнай умовай існавання жыцця на Зямлі. Гэта было зразумела чалавеку яшчэ ў далёкай старажытнасці. Але, не ведаючы прыроды сонечных праменняў, людзі лічылі Сонца богам. Старажытныя грэкі называлі Сонца богам Геліасам, рымляне — прамяністым богам Фебам. Жыхары старажытнага Егіпта хвалебнымі песнямі віталі ўсход Сонца. Нашы продкі славяне ў самы доўгі летні дзень наладжвалі



свята ў гонар Ярылы — бога сонечных праменняў, цяпла і ўрадлівасці.

Зімой, у канцы снежня, у самы кароткі дзень, па народнай пагаворцы, сонца паварочвае на лета. Яно нібы нараджаецца зноў. З кожным днём яно падымаецца ўсё вышэй і канчаткова перамагае злыя сілы зімы ў дзень вясновага раўнадзенства. Старажытныя людзі святкавалі зімой нараджэнне бога Сонца, а вясной — уваскрашэнне замёршай на зіму прыроды. Гэтыя святы дайшлі і да нашага часу ў выглядзе каляд—нараджэння Хрыстовага, і вялікадня — уваскрашэння Хрыстовага.

Паступова развіваліся веды чалавека аб законах развіцця прыроды. Ён ужо дайшоў да разумення таго, што Сонца — адно са шматлікіх нябесных цел.

Сонца ўяўляе сабою велізарнае нябеснае цела, па аб'ёму большае за Зямлю больш чым у мільён разоў. На працягу мільярдаў год Сонца выпраменьвае ў сусветную прастору велізарную колькасць энергіі ў выглядзе цяпла і святла. Вучоныя падлічылі, што за кожную секунду Сонца выпраменьвае энергіі ў шмат разоў больш, чым яе можна атрымаць, спаліўшы ўсе запасы каменнага вугалю, якія маюцца ў нетрах Зямлі.

Навукай устаноўлена, што амаль усе віды энергіі, якая выкарыстоўваецца чалавекам, створаны на Зямлі за кошт цяпла і святла сонечных праменняў. Расліны ператвараюць сонечную энергію ў вугляводы, бялкі і тлушчы. Так з удзелам Сонца ствараецца ежа для чалавека, жывёлы, а таксама запасы драўніны. З адміраючых раслін у нетрах Зямлі паступова ўтвараюцца залежы каменнага і бурага вугалю, нафты і іншых відаў гаручага. Многа мільёнаў год таму назад Зямля была пакрыта папаратнікамі, хвашчамі і іншымі дрэвавіднымі раслінамі, якія хутка растуць. Зараснікі гэтых раслін з цягам часу гінулі, паглыбляліся ў нетры зямлі і там абвугліваліся, сціснутыя слаямі горных парод. Так утварыліся адкладанні каменнага вугалю. І цяпер, спальваючы вугаль, чалавек выкарыстоўвае сонечную энергію, якая ў далёкім мінулым паглыналася раслiннасцю каменнавугольнага перыяду. Як відаць, у прыродзе раслінам належыць важная роля — накапляць скрытыя запасы сонечнай энергіі.

З поўнай падставай можна сцвярджаць, што жыццё чалавека і яго працоўная дзейнасць непарыўна звязаны з ужываннем энергіі Сонца, перапрацаванай раслінамі. На працягу сутак чалавеку неабходна, у залежнасці ад узросту і роду занятку, да 4.000 кілакалорый энергіі. Гэтую энергію ён праз раслінную і жывёльную ежу атрымоўвае ад Сонца.

Але не толькі расліны пераўтвараюць энергію сонечных праменняў. Сонца выпарае з паверхні акіянаў, мораў, рэк і азёр велізарную колькасць вады. З пары вады ў атмасферы ўтвараюцца ападкі, якія потым выпадаюць на зямлю ў выглядзе дажджу і снегу. Дажджавыя і талыя воды ўтвараюць ручаі, якія, злучаючыся, ператвараюцца ў рэкі, што цякуць у моры і акіяны. Пры раставанні ледніков узнікаюць бурныя горныя патокі. Вада ператварае энергію Сонца ў «белы вугаль» — гідраэнергію, якая ў сваю чаргу ператвараецца ў электраэнергію.

У паветраным акіяне Сонца перамяшчае масы паветра, утвараючы магутныя паветраныя патокі — вятры, носьбіты энергіі «блакітнага вугалю».

На працягу цэлага раду стагоддзяў для навукі заставалася таямніцай прырода сонечнай энергіі. Разгадваючы гэтую загадку, вучоныя задавалі сабе пытанне: якое ж «паліва» згарае на Сонцы і на колькі часу хопіць гэтага цудоўнага «паліва». Прайшло нямала стагоддзяў, і толькі навука апошніх дзесяцігоддзяў, у сувязі з выдатнымі поспехамі ядзернай фізікі і касмагоніі (навукі аб паходжанні і развіцці нябесных цел) змагла разгадаць таямніцы магутнага свяціла.

Сонца, як і ўсе зоркі бясконцага Сусвету, утварылася з туманнасцяў — скапленняў халодных газаў, пылавых часцінак матэрыі. Паводле тэорый, створаных савецкімі вучонымі Шмідтам, Фесенкавым, Амбарцумянам і іншымі, міжзоркавая матэрыя скапляецца ў гіганцкія воблакі, якія можна наглядаць нават не ўзброеным вокам: яны маюць выгляд цёмных плям на светлым фоне Млечнага шляху. У апошнія гады акадэмік Фесенкаў выявіў у газава-пылавой матэрыі цэнтры ўтварэння будучых зорак.

Сонца ў пачатку мела гіганцкую велічыню. Потым, у выніку прыцягнення паміж часцінкамі, пачалося яго ўшчыльненне. За кошт работы, якая рабілася сіламі цяжару пры сцісканні Сонца, выдзялялася цяпло, і тэмпература Сонца павысілася да мільёна градусаў.

Сонца ператварылася ў велізарнае касмічнае газападобнае цела. Газ, з якога яно складаецца, мае шэраг незвычайных уласцівасцей. Ён уяўляе сабою сумесь ядзер атамаў і свабодных электронаў; шчыльнасць гэтай

сумесі ў 70—100 разоў вышэй шчыльнасці вады. Больш чым на 50 працэнтаў маса Сонца складаецца з вадароду — самага лёгкага элемента ў прыродзе. Вадарод і аказаўся тым таямнічым «палівам», якое дае такую велізарную энергію.

Сучасная навука сцвярджае, што сонечная энергія ўзнікае пры тэмпературы 13 мільёнаў градусаў у глыбінях Сонца і потым выпраменьваецца з яго паверхні. На Сонцы адбываецца «гарэнне» вадароду, які ператвараецца ў гелій. За кожную секунду ў гелій ператвараецца каля 500 мільёнаў тон вадароду. Чатыры ядры атамаў вадароду, уступаючы ў сувязь, паступова ўтвараюць адно ядро атама гелію. Пры ўтварэнні з вадароду аднаго грама гелію Сонцам выдзяляецца энергія, роўная цеплыні, якая атрымоўваецца пры згаранні 15 тон бензіну. Так як ператварэнне вадароду ў гелій можа адбывацца толькі пры высокіх тэмпературах Сонца, то гэты працэс атрымаў назву тэрмаядзерных рэакцый. Тэрмаядзерныя рэакцыі працякаюць на Сонцы вельмі павольна, утварэнне кожнага атама гелію адбываецца за пяць мільёнаў гадоў.

Энергія, якая выпраменьваецца Сонцам, распаўсюджваецца як найдрабнейшыя часцінкі матэрыі. У выніку выпраменьвання за кожную секунду маса Сонца памяншаецца на 1,3 млн. тон. Здаецца, што Сонца занадта ўжо шчодра растрачвае сваю энергію. Але падлікі вучоных гавораць пра другое. Сонца вельмі беражлівае. Яно надзвычай ашчадна траціць сваю энергію. Кожныя 60 тон агульнай масы Сонца за гадзіну выдзяляюць энергію, дастатковую толькі для таго, каб закіпяціць адзін літр вады.

Такое ашчаднае расходаванне энергіі сведчыць аб тым, што на працягу яшчэ каля ста мільярдаў год Сонца будзе гэтак жа шчодра асвятляць і абаграваць Зямлю, як і цяпер.

### Атамная энергія ў жыцці зорак

Доўгі час панавала метафізічнае ўяўленне аб свеце, як аб нечым нязменным, закасцянелым, створаным некалі адразу. Каля 200 год таму назад у навуку пачалі пранікаць новыя ідэі аб развіцці нябесных цел. У сучасным прыродазнаўстве існуе зусім поўная карціна бясконцага кругавароту матэрыі ў Сусвеце, утварэння новых зорак і згасання старых свяціл.

Вышэй мы гаварылі, што нябесныя целы ўзнікаюць, утвараюцца ў выніку ператварэння міжзоркавых скапленняў газава-пылавой матэрыі ў новыя зоркі. У гэтым працэсе эвалюцыі матэрыі Сусвету вялікая роля належыць атамнай энергіі. У пачатковых стадыях развіцця на зорках адбываюцца ў велізарных маштабах тэрмаядзерныя рэакцыі ўтварэння гелію з вадароду. Такія працэсы звязаны са стратай вешчаства зорак і выдзяленнем энергіі. Зоркі выдзяляюць мноства пратонаў, электронаў і іншых найдрабнейшых часцінак матэрыі. У далейшым развіцці зорак гелій ператвараецца ў вуглярод: тры ядры гелію ствараюць адно ядро вугляроду. Так, у выніку тэрмаядзерных рэакцый прадаўжаецца развіццё зорак з утварэннем хімічных элементаў з атамнай вагою да 60 адзінак. У больш позні перыяды жыцця зорак у іх нетрах пачынаецца ўтварэнне цяжкіх ядзер, што можа выклікаць разбурэнне і гібель зоркі. Усё жыццё зорак — з ранняга перыяду і да іх гібелі — на працягу мільярдаў год непарыўна звязана з ядзернымі пераўтварэннямі, з выдзяленнем велізарных колькасцей атамнай энергіі.

Але развіццё нябесных цел не заўсёды працякае павольна і плаўна. У свеце зорак часта можна наглядаць катастрофы, калі звычайная па бляску зорка раптам у дзесяць тысяч і больш разоў павялічвае сваю яркасць, а потым паступова згасае, вяртаецца ў свой першапачатковы стан. Такія ўспышкі атрымалі назву «новых» і «звышновых» зорак.

Цікавая гісторыя адной з такіх касмічных катастроф. Звыш 900 год назад астраномы Кітая наглядалі незвычайную з'яву: на небе нечакана ўспыхнула новая яркая зорка, а праз некалькі месяцаў яна пагасла. На месцы ўспышкі зоркі было выяўлена скапленне матэрыі, якое за своеасаблівую форму было названа Крабападобнай туманнасцю. Толькі апошнія дзесяцігоддзі прынеслі навуцы разгадку таямніцы зоркі, за якою наглядалі ў старажытным Кітаі. Выявілася, што гэтая зорка існавала і раней, але яна нічым не адрознівалася ад мноства іншых зорак. У выніку ядзерных працэсаў, якія працякалі ў нетрах зоркі, на яе паверхні выдзеліліся велізарныя запасы вызваленай атамнай энергіі. Зорка прышла ў стан катастрофы: яна хутка павялічвалася ў сваіх памерах і скінула з сябе газападобную воблачнасць. Потым сціхлі ядзерныя працэсы, закончылася катастрофа, і зорка зноў ператварылася ў спакойнае свяціла. За кошт матэрыі, якая аддзялілася ад яе, і ўтварылася



Крабападобная туманнасць. Зорка прадаўжае выдзяляць распаленыя газы, а туманнасць, якая яе акружае, прадаўжае расці і цяпер.

### Атамная энергія ў жыцці Зямлі

На паверхні Зямлі ядзерная энергія сонечнага выпраменьвання ператвараецца ў разнастайныя формы энергіі, якая выкарыстоўваецца чалавекам. Аднак Сонца не з'яўляецца адзінай крыніцай энергіі ў жыцці Зямлі. Сучасная навука паставіла на службу чалавеку віды энергіі, паходжанне якіх не звязана з дзейнасцю Сонца. Дасягненні ядзернай фізікі далі магчымасць выкарыстаць запасы энергіі, скрытыя ў атамах вяшчэстваў. Поспехі геалогіі стварылі зусім рэальныя ўмовы для шырокага прымянення велізарных запасаў цеплыні зямных нетраў. У сучаснай геалогіі з'явіўся новы раздзел — геатэрмія, які вывучае цеплавыя працэсы, што адбываюцца ўнутры зямнога шара, і размяркаванне запасаў цяпла на Зямлі. Геатэрмія даказала магчымасць прымусіць працаваць на карысць чалавека новую крыніцу таннай энергіі — цеплыню нагрэтых слаёў зямнога шара. Цеплыню зямных глыбінь можна ператварыць у электраэнергію, накіраваць па трубах для абагравання жылых і вытворчых памяшканняў, у цяпліцы і на палі для вырошчвання ў раннія і больш кароткія тэрміны высокіх ураджаяў гародніны. Разам з нагрэтымі падземнымі водамі і парою з нетраў зямлі можна атрымаць многія хімічныя прадукты, неабходныя чалавеку ў яго вытворчай дзейнасці. Зямныя глыбіні павінны стаць у будучым магутнымі крыніцамі энергіі і хімічнай сыравіны.

Тэмпература паверхні Зямлі і прылягаючага да яе слою атмасферы залежыць толькі ад награвання Сонцам. Але цеплыня сонечных праменняў не пранікае глыбока ў зямную кару, і ўжо на глыбіні 20—30 метраў тэмпература зямлі застаецца пастаяннай на працягу ўсяго года. Пабудова шахт для здабычы карысных выкапняў і глыбокае бурэнне нафтавых шчылін паказалі, што з глыбінёй тэмпература зямлі ўзрастае: з павелічэннем глыбіні на 100 метраў тэмпература павялічваецца ў сярэднім на адзін градус.

Якая ж прырода цеплыні зямных глыбінь? Гэтае пытанне атрымала правільны адказ у працэсе развіцця ведаў чалавека аб унутранай будове і паходжанні Зямлі. Вывяржэнні вулканаў, якія яшчэ ў старажытнасці былі прычынай гібелі вялікіх гарадоў, утварэнне фантанаў гарачай вады і пары — гейзераў, якія б'юць з нетраў зямлі, прывялі да думкі, што Зямля ўнутры павінна быць гарачай. Вучоныя старажытнай Грэцыі лічылі, што зямны шар запоўнен агнём, вадой, паветрам і зямлёй. У сярэдневякоўі, калі навука ператварылася ў «служанку багаслоўя», на змену смелым поглядам грэчаскіх вучоных паявіліся фантастычныя выдумкі манахаў і чарнакніжнікаў. У XVIII ст. геалагічнымі работамі вялікага рускага вучонага Ламаносава і новай гіпотэзай аб паходжанні Зямлі, створанай Кантам і развітай вядомым французскім вучоным Лапласам, даказана, што навука можа растлумачыць утварэнне сонечнай сістэмы, не звяртаючыся за дапамогай да бога і звышнатуральных сіл.

Паводле вучэння Лапласа, Сонца і наша Зямля ўтварыліся з гіганцкай распаленай газападобнай туманнасці. Зямля, як і іншыя планеты, уяўляе сабою згустак часткі туманнасці, якая адарвалася ад Сонца. Гіпотэза Лапласа смела выступала супраць рэлігійна-містычнага разумення аб утварэнні Зямлі і Сусвету і надоўга стала сцягам перадавой навукі. Згодна новай навуковай тэорыі, наша Зямля павінна была прайсці перыяд, калі яна мела вельмі высокую тэмпературу касмічнага полымя. Такім чынам, наша планета разглядалася, як астыўшая зорка, пакрытая попелам — цвёрдай карой.

У XIX ст. узнікла тэорыя сціскання зямнога шара. Утварэнне ўнутранай цеплыні тлумачылі няспынным сціскеннем Зямлі. Узнікла думка аб павольным паміранні нашай планеты, у доказ яе прыводзілася паступовае паніжэнне тэмпературы зямных глыбінь, спыненне дзейнасці вулканаў і працэсу гораўтварэння. Зямлю вобразна параўноўвалі з яблыкам, якое завяла пасля доўгага захоўвання.

Развіццё прыродазнаўства XX ст. абвергла ўсе гэтыя тэорыі. Паходжанне Зямлі па-новаму тлумачыцца сучаснымі касмаганічнымі тэорыямі. Наша планета ніколі не была распаленым целам. Яна, як і ўсе іншыя планеты сонечнай сістэмы, узнікла з халодных часцінак пылападобнай матэрыі і газаў. Спачатку яна была параўнальна халодным целам, тэмпература яе складала 100—200 градусаў ніжэй нуля.

У гэтай стадыі развіцця Зямлі часцінкі вешчаства, якія яе ўтварылі, размяркоўваліся беспарадкава. Але

потым паступова адбывалася іх раздзяленне па масе і шчыльнасці. Гэта прывяло да ўтварэння ў цэнтры планеты цяжкага ядра і ўзнікнення слаістай будовы Зямлі.

Разам з іншымі перамяшчаліся ўнутры Зямлі і часцінкі радыёактыўных вяшчэстваў. Іх размяшчэнне было нераўнамерным: у адных месцах на адзінку аб'ёму іх прыпадае больш, у другіх — значна менш. Энергія, якая выдзялялася пры распадзе атамаў радыёактыўных элементаў урану, торыю, рубідыю, а таксама слабаактыўнага элемента калію, які ёсць у вялікіх колькасцях у горных пародах, — гэтая энергія стала крыніцай унутранай цеплыні, якая паступова разагравала Зямлю. Паводле падлікаў акадэміка В. Г. Хлопіна, па ўсёй масе Зямлі кожную секунду радыёактыўныя вяшчэствы выдзяляюць цеплыню, раўнацэнную спальванню 15 000 тон найлепшага вугалю, а гэта ў многа разоў перавышае страты цеплыні з паверхні Зямлі ў сусветную прастору.

Так навука тлумачыць цеплыню зямных нетраў; яна ў асноўным утвараецца за кошт атамнай энергіі, якая выдзяляецца пры распадзе радыёактыўных вяшчэстваў.

Энергія, якая выдзяляецца радыёактыўнымі атамамі, ідзе на ўнутраныя працэсы — розныя хімічныя рэакцыі і перамяшчэнне велізарных мас горных парод у зямных нетрах. Частка цеплыні ідзе на разаграванне горных парод, утвараючы магму з расплаўленых мінералаў. Магма, перамяшчаючыся ўверх, цвярдзее або, сустракаючы глыбокія шчыліны, вырываецца на паверхню Зямлі, утвараючы вулканы. Часткова цеплыня зямных нетраў выдзяляецца гарачымі фантанамі-гейзерамі.

Правільна растлумачыўшы прыроду ўнутранай цеплыні Зямлі і вызначыўшы яе размяшчэнне і запасы, навука падпарадкавала волі чалавека новыя магутныя сілы прыроды ў выглядзе велізарных запасаў атамнай энергіі зямных нетраў. Гэтая новая крыніца таннай энергіі ўжо атрымоўвае практычнае прымяненне.

Разаграванне Зямлі ў выніку распаду радыёактыўных элементаў стварыла спрыяльныя ўмовы для самых разнастайных хімічных рэакцый, у выніку якіх змаглі ўтварыцца арганічныя вяшчэствы больш складанай будовы. Відавочна, атамнай энергіі належыць зусім пэўная роля і ў працэсе ўзнікнення жыцця на Зямлі.

У нашы дні навуцы вядомы 102 хімічных элементы і каля паўтара тысяч разнавіднасцяў атамаў, якія атрымалі назву ізатопаў. Прыблізна 1100 ізатопаў — няўстойлівыя: яны адвольна могуць ператварацца ў атамы іншых элементаў. У невялікіх колькасцях радыёактыўныя ізатопы ёсць ва ўсёй жывой і нежывой прыродзе — у паветры, вадзе, раслінах, у нашым адзенні і нават у арганізме чалавека.

Радыёактыўныя ізатопы, якія ўваходзяць у склад горных парод, выносяцца з падводнымі водамі на паверхню Зямлі.

Многія радыёактыўныя элементы ў раствораным выглядзе знаходзяцца ў вадзе. Так, сярэдняя колькасць урану ў марской вадзе складае 2 міліграмы на адну тону. У водах зямлі растворана сотні мільёнаў тон урану.

Пры распадзе радыёактыўных атамаў выдзяляецца значная колькасць энергіі ў выглядзе выпраменьвання, пад уплывам якога электранейтральныя малекулы і атамы вешчаства іянізуюцца і ператвараюцца ў зараджаныя часцінкі—іёны. Такая іянізацыя няспынна адбываецца ў паветры ў выніку распаду атамаў радыёактыўных элементаў, якія ўваходзяць у склад зямной кары.

Для нармальнага развіцця жывога арганізма неабходна пэўнае, вельмі малое няспыннае іянізуючае дзеянне радыёактыўных атамаў. Дзеянне ядзернага іянізуючага выпрамянення на жывы арганізм звязана з паскарэннем абмену вяшчэстваў, а ў раслін — і з павышэннем іх прадуктыўнасці. Шматлікія доследы апошніх год паказалі рэальную магчымасць павышэння ўраджайнасці раслін і прадуктыўнасці жывёлы шляхам павышэння колькасці радыёактыўных вяшчэстваў у глебе або дадатковага абпраменьвання насення раслін і жывёлы.

Іянізацыя, створаная ў атмасферы радыёактыўным выпраменьваннем аказвае сур'ёзны ўплыў на асноўныя атмасферныя з'явы, якія вызначаюць стан надвор'я і клімату на Зямлі. Іянізацыя павялічвае праводнасць атмасферы пры электрычных разрадах, садзейнічае ўтварэнню воблачнасці і выпаданню ападкаў — дажджу, туманаў і снегу.

Поспехі ядзернай фізікі даюць магчымасць сучаснай навуцы адказаць на многія пытанні, якія доўгі час заставаліся нявырашанымі, і развіваць далей матэрыялістычную тэорыю эвалюцыі Сусвету, абвяргаючы рэлігійна-містычныя погляды буржуазных вучоных на з'явы прыроды.

## У свеце мастацтва

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# БРЭСЦКІЯ СУСТРЭЧЫ

Нядаўна мне зноў давялося глядзець у Брэсцкім тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі спектакль па п'есе К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць». Гэты спектакль вядомы не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. Аб ім не раз пісалася ў друку. У музеі гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці яму прысвечана некалькі стэндаў. І таму можа не варта было б аб ім яшчэ раз напамінаць. Але для гэтага ёсць сур'ёзныя падставы.

Спектакль «Брэсцкая крэпасць» не толькі пераўжыў усіх сваіх аднагодкаў, але і многія пастаноўкі апошняга часу. За шмат год многія выканаўцы пакінулі тэатр, іх месца на сцэне займалі новыя. Замены, дарэчы, рабіліся без пастаноўшчыка А. Міронскага. Але і сёння ўражанне ад спектакля застаецца добрым. Мімволі сябе пытаеш: чым хвалюе гэты спектакль, чаму ён пераўжыў многія пастаноўкі пазнейшага часу?

Мінчане любяць Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі, хоць, можа, ведаюць яны яго больш з парадняга боку. Бо да гастроляў у сталіцы, звычайна, вядзецца спецыяльная падрыхтоўка, адбіраюцца лепшыя спектаклі, праводзяцца дадатковыя рэпетыцыі, абнаўляецца, а часам і зусім замяняецца афармленне пастановак.

Асабліва многа сяброў і шчырых прыхільнікаў сярод мінчан тэатр знайшоў у час летніх гастроляў 1954 года. Ён быў вельмі не падобны на другія тэатры, меў сваё выразнае творчае аблічча, а з яго праграмнымі спектаклямі часам не маглі спрачацца спектаклі нават нашых масцітых сталічных калектываў. Чэхаўская «Чайка», напрыклад, у Брэсцкім тэатры камсамола была намнога лепшай, цікавейшай, чым пазнейшая пастаноўка гэтай п'есы купалаўцамі. «Брэсцкую крэпасць» ставілі сталічныя тэатры імя Янкі Купалы і імя Горкага, і ўсё ж іх спектаклі не вытрымліваюць параўнання з гэтым спектаклем калектыву Тэатра імя Ленінскага камсамола.

Ды не толькі «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча і «Чайка» А. Чэхава, але «Вей, ветрык!» Я. Райніса, «Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава,— усе гэтыя п'есы, такія розныя і такіх розных аўтараў, вызначалі агульнае творчае аблічча тэатра, адзіны яго кірунак, адзіны стыль. Ён — у гераіка-рамантычным гучанні спектакляў. На сцэне крыніцай струменілі думкі, будзячы, узрушаючы гледачоў. Мізансцэны былі выразнымі, яркімі, кожны эпізод спектакля вызначаўся нейкай асаблівай напоўненасцю. Ансамбль быў на дзіва моцны.

У атмасферы гераікі складваліся традыцыі маладога тэатра, і іменна гераіка напаўняла пастаноўкі маладога тэатра, іменна ёю былі дарагія спектаклі гледачу.

Добра памятаюць мінчане і наступныя гастролі тэатра ў 1956 годзе, калі

сярод сваіх новых работ калектыў паказаў даволі цікавы спектакль «Алека Дундзіч», які дапісваў старонкі яго ранейшых дасягненняў. Але ўжо тады можна было бачыць многа трывожнага. Сталічнаму гледачу паказваліся проста шэрыя, бяскрылыя спектаклі. Адчувалася, што тэатр пачынае здаваць свае раней заваяваныя пазіцыі...

І вось мне давялося зноў сустрэцца з калектывам у Брэсце. Акрамя «Брэсцкай крэпасці», прагледжаны яшчэ чатыры спектаклі: «Людзі, якіх я бачыў» С. Смірнова, «У пошуках радасці» В. Розава, «Адна» А. Алёшына, «Жаніцьба Бальзамінава» А. Астроўскага. Гэта спектаклі, па якіх можна меркаваць аб тэатры ў цэлым, аб яго здабытках і няўдачах.

Хочацца пачаць размову з пастаноўкі гераічнай драмы «Людзі, якіх я бачыў». Дарэчы, гэтую п'есу Сяргея Смірнова калектыў сыграў першы ў краіне.

Драма «Людзі, якіх я бачыў» прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны, апавядае аб адной аперацыі Савецкай Арміі, аб цяжкіх днях вайны, аб падзеях на фронце. І галоўным чынам, не аб саміх падзеях. Пісьменніка больш за ўсё цікавяць людзі, якія падрыхтоўвалі гэтыя падзеі. П'еса дае ўсе магчымасці для стварэння спектакля абагульняючага значэння.

І вельмі добра, што іменна па такому шляху ідзе пастаноўшчык Я. Батурын. Ён імкнуўся стварыць спектакль маштабны, спектакль высокага грамадзянскага гучання.

Гэта адчуваецца з першых сцэн. Кароткі пралог. Прыфрантавы ўчастак. Нізка плывуць, змяшаўшыся з дымам і агнём, воблакі, даносіцца гул канананады. Пільна ўглядаецца кудысьці ўдалеч вартавы. Сцэна раптам зацямняецца, і ў той жа час заслона ўзнімаецца ў другім месцы — ля правай дырэктарскай ложы. Месцазнаходжанне камандуючага фронтам, генерала арміі Русакова. Гледача знаёміць з планамі галоўнакамандуючага, з падзеямі, якія павінны будуць разгарнуцца на фронце.

Апускаецца заслона — і ўспыхвае святло каля левай ложы. Камандуючы нямецкай групіроўкі Крафт абдумвае план нанясення ўдару па часцях Савецкай Арміі, аддае свае загады.

Актыўнае выкарыстанне як правай, так і левай ложаў пастаноўшчыкам Я. Батурыным і мастаком А. Гзыла — не проста тэатральны прыём і робіцца зусім не дзеля лепшага эфекту.

Гэтым удаецца перадаць размах, шырыню, дамагчыся большай маштабнасці. Месца дзеяння, якое адбываецца на сцэне, у даным выпадку ўспрыймаецца толькі як асобны невялікі ўчастак, за якім аб'ёмна адчуваецца неабсяжны фронт, за невялікай кучкай салдат — магутная армія.

Аб'ёмна і дакладна паказаны месцазнаходжанне камандавання як Савецкай Арміі, так і нямецкай групіроўкі, якія цяснейшым чынам звязваюцца з адным — з фронтам.

Акцёры ў спектаклі імкнуцца выявіць характар, унутраны свет герояў. І нельга не адзначыць, што акцёр М. Абрамаў у ролі галоўнакамандуючага фронтам Русакова ў многім дасягае гэтага. За знешняй стрыманасцю адчуваецца вялікая воля чалавека, настойлівасць. Акцёр вельмі скупымі сродкамі здолеў паказаць маральную перавагу савецкага галоўнакамандуючага над ворагам, перадаць унутранае абаянне гэтага чалавека.

З меншым майстэрствам іграюць у спектаклі акцёры ролі немцаў, як, напрыклад, Н. Жылін (галоўнакамандуючы нямецкай групіроўкі Крафт) і асабліва В. Андрэеў (афіцэр разведкі Адлер).

Рэжысёр Я. Батурын сумесна з акцёрамі імкнецца паказаць (і нават на фронце, у час грозных баёў, у час грозных схватак) усю шматграннасць чалавечых характараў. І дасціпны жарт, і вясёлы гумар, і бадзёрая песня, і праяўленне можа з яшчэ большай сілай лірычных пачуццяў — усё гэта не толькі не супрацьпаказана людзям фронта, а і значна ўзбагачае палітру спектакля ў цэлым.

Ёсць у спектаклі вельмі добрыя сцэны, ёсць проста выдатныя карціны.

...Капітан Громаў (арт. Ю. Уласаў) трапляе ў фашысцкі палон. У камеры ён сустракае смяртэльна параненага рускага сапёра, ролю якога з такім душэўным уздымам і драматычнай сілай праводзіў нябожчык П. Маркін. Паміраючы, ён дапамагае арганізаваць уцёкі Громава з няволі.

У надзвычай хуткім, поўным трагічнага напружання тэмпе ідзе сцэна:

Г Р О М А Ў. Адрас хоць дай — каму напісаць пра цябе. Прозвішча як тваё? З якой часці?

С А П Ё Р. Не да гэтага зараз. Бяжы сынок... час не чакае. Гэта і не важна... Скажы там — салдат памёр. Рускі салдат...

І вось ён, сцяўшы ад неймавернага нечалавечага болю зубы, сабраўшы апошнія сілы, падымаецца, стаіць у маўчанні, быццам жывы помнік невядомаму рускаму воіну-герою.



Смірноў нават не дае ў драме прозвішча сапёру. І гэта зусім не выпадкова. У вобразе сапёра паказваецца абагулены вобраз многіх безымянных савецкіх воінаў, слава аб подзвігах якіх будзе заўсёды жыць у памяці пакаленняў. І гэтая думка драматурга вельмі добра перададзена ў спектаклі брэсцкага калектыву.

Гэта, аднак, не значыць, што спектакль аднолькава роўны, што ён пазбаўлены недахопаў.

Калі рэжысёр умее паказаць масу людзей на сцэне, то выдзеліць у народных сцэнах каго-небудзь з гэтай масы, паказаць яго метадам «кадравання», «буйным планам», вось чаго, думаецца мне, нехапае пастаноўшчыку.

Іншы раз яму яўна нестае пачуцця меры, строгага адбору выяўленчых сродкаў. Акцёра Б. Уксусава (кулямётчык Гулай) рэжысёр у асабліва выйгрышных эпізодах выводзіць на прасцэніум, тым самым поўнасцю адрываючы яго ад партнёраў, выключаючы з дзеяння.

Няўдала, з нейкай празмернай чуллівасцю, карацей кажучы, сентыментальна паказаны ўзаемаадносіны стралка Валіева (артыст Л. Раманаў) з тэлефаністкай Людмілай (артыстка Н. Ганчарэнка). Зусім недарэчы і натуралістычны паказ Ю. Уласавым п'янкі капітана Громава.

Усе гэтыя недахопы значна зніжаюць у многім цікавы, добры спектакль, перашкаджаюць стаць яму побач у адну шарэнгу з лепшымі пастаноўкамі мінулых год, стаць такою ж падзеяй, такім жа дасягненнем, як, напрыклад, «Брэсцкая крэпасць».

Нельга хоць у некалькіх словах не спыніцца і на другой рабоце рэжысёра Батурына. Маецца на ўвазе спектакль «Жаніцьба Бальзамінава».

Можна з усёй смеласцю сцвярджаць, што п'еса засталася не прачытанай калектывам тэатра.

І, бадай, найбольш рэзка крытыкаваў пастаноўку сам рэжысёр Я. Батурын, заяўляючы, што тое, што ён убачыў на апошнім прадстаўленні «Жаніцьбы Бальзамінава», — суцэльны фармалізм, што цяпер у спектаклі (ён выпушчаны ў пачатку сезона) засталася толькі форма, але няма ні барацьбы, ні дакладных, выразных сацыяльных узаемаадносін, ні наогул аўтара. З гэтым можна было б пагадзіцца, магчыма, нават і не ўспамінаць. Але ніяк ужо нельга пагадзіцца з рэжысёрскім замыслам, з рэжысёрскім бачаннем п'есы Астроўскага, якое ён выказаў у тым жа выступленні, і што зводзіцца, прыкладна, да наступнага: «Так, бывае, што і дурням у той рэчаіснасці (купецкай Расіі) выпадала шчасце. Аўтар дае сумную замалёўку такой карціны».

Але ў тым і ўся справа, што п'еса «Жаніцьба Бальзамінава» не толькі з'яўляецца сумнай замалёўкай, што яе тэма, яе змест ніяк не вычэрпваюцца падзагалоўкам «За чым пойдзеш, тое і знойдзеш». Астроўскі перш за ўсё — і, думаецца, гэта галоўнае — паказвае, як небяспечна, як страшна, калі дурань атрымае багацце. Не, Бальзамінаў у п'есе не толькі вясёлы, пацешны персанаж, ён страшны і вельмі небяспечны. Нажаль, нічога падобнага ў спектаклі вы не знойдзеце.

Асобныя няўдачы, правалы, памылкі бываюць і ў другіх тэатрах. Але вельмі прыкра і крыўдна, што ў Брэсцкім тэатры яны не асобныя і не адзінкавыя.

Спектакль «Адна» С. Алёшына пастаўлены ў гэтым калектыве рэжысёрам І. Манухінай. Гэта даволі гладкая, прафесіянальная работа. Гледачу ў спектаклі будзе ўсё зразумела, кропкі над «і» тут пастаўлены поўнасцю. Тыя складаныя чалавечыя ўзаемаадносіны, тое, на што наогул пазбягае адказваць драматург, калектывам трактуецца зусім проста і... просталінейна.

Платонаў, галоўны герой драмы, у вельмі салідным узросце пакідае сваю жонку Марыю Міхайлаўну, дачку і ідзе да другой жанчыны Варвары, якая таксама пакідае свайго мужа Няфёдава.

Такія ўчынкі герояў, якія не заўсёды матываваны драматургам, рэжысёр зразумеў па-свайму. На ролю Варвары ён падабраў больш сімпатычную і значна маладзейшую артыстку, чым на ролю Марыі Міхайлаўны. Платонава, які пакідае першую жонку, паказалі непрыгожым і нецікавым.

І як вынік — звычайны пасрэдны спектакль.

Наступная пастаноўка «У пошуках радасці» (рэжысёр Г. Волкаў) — спектакль аб моладзі. Гэта таксама пасрэдная, а ў асобных месцах і наогул няправільная па трактоўцы пастаноўка, выклікае ўжо трывогу за лёс калектыву, за тэатр, які носіць імя Ленінскага камсамола Беларусі.

Ёсць некалькі добрых акцёрскіх работ у спектаклі «У пошуках радасці». Захапляе вялікая душа, чалавечнасць, абаяльнасць у вобразе Клаўдзіі Васільеўны, які стварае артыстка О. Захарава. Нядрэнна праявіў свае здольнасці мінулагодні выпускнік Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута А. Зотаў у ролі Генадзія, хоць герой яго часам здаецца занадта інтэлігентным. Вельмі непасрэдныя і арганічныя Г. Маркіна і Р. Семічава ў ролях Фіры і Веры.

Драматург Розаў у п'есе «У пошуках радасці» прадаўжае распрацоўваць сваю тэму станаўлення маладога чалавека, фарміравання яго характару. Аўтар ставіць перад маладымі гледачамі важныя жыццёвыя праблемы. У п'есе чуецца ўсхваляваны голас самога драматурга. Ён ненавідзіць, выкрывае мяшчанства, у якім бы выглядзе яно ні выступала, усё, што перашкаджае сапраўды светламу жыццю чалавека. Носьбітам мяшчанства ў п'есе з'яўляецца Леначка, для якой дамашняя абстаноўка, рэчы ператварыліся ў мэту жыцця. Зусім юны яшчэ Алег, не вытрымаўшы вялікага засілля рэчаў, глыбока абражаны, хапае бацькаву шаблю і сячэ ўсё, што трапляецца пад рукі.

І таму, што ў спектаклі няма адзінага рэжысёрскага замыслу, і таму, што выканаўца ролі Алега артыст Г. Токараў вельмі непаслядоўна даносіць аўтарскую думку, гэты ўчынак успрымаецца, як звычайная хуліганская выхадка. Ён не падрыхтаваны ў спектаклі, псіхалагічна не апраўданы.

І таму тэма выкрыцця мяшчанства так і не прагучала ў спектаклі. І ці не таму ў час абмеркавання «У пошуках радасці» моладзь горада выказвала абурэнне спектаклем.

Чаму і па сённяшні дзень спектакль «Брэсцкая крэпасць» лічыцца — у тым ліку і самім калектывам — за эталон, за ўзор пакуль што не пераўзыйдзены? Чаму ў апошнія гады не з'явілася на сцэне выдатных пастановак, такіх, як паказаныя мінскаму гледачу ў 1954 годзе?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, зноў трэба звярнуцца да мінулага тэатра.

У свой час калектыў вымушан быў пакінуць галоўны рэжысёр А. Міронскі, пастаноўшчык «Брэсцкай крэпасці». Зусім нядоўга затрымаўся і наступны галоўны рэжысёр І. Папоў, які з такім душэўным строем, з такім сучасным гучаннем паставіў «Чайку» ды і іншыя творы. Усяго толькі адзін год прабыў у калектыве галоўны рэжысёр В. Малчанаў. Гэтую пасаду потым заняла І. Манухіна. Пакінуў тэатр рэжысёр С. Рэйнгольд, які паставіў «Апошнія» з такім узлётам, з такой складанай партытурай. Не працуе больш у калектыве артыстка Т. Канавалава, чый трагедыйны талент узнімаўся ў яе лепшых ролях да сапраўдных вышынь...

Падобных прыкладаў можна прывесці многа. Дастаткова толькі сказаць, што за чатыры гады ў тэатры змянілася каля дзесяці рэжысёраў, і таму іншы раз у калектыве ствараліся цяжкія ўмовы. Міністэрства культуры з лёгкасцю згаджалася на замену рэжысёраў, прымаючы ўсё новых, часта не ведаючы, што яны сабой уяўляюць у творчых адносінах, на што яны здатныя.

У кожнага рэжысёра былі свае адносіны да п'есы, да работы акцёра, у кожнага — уласная манера, кожны імкнуўся карыстацца сваім метадам. А акцёры? Яны ж не могуць прызвычайвацца, прыстасоўвацца да кожнага з іх.

Парушаўся ансамбль, губляўся адзіны почырк, адзіны стыль тэатра, губляліся традыцыі.

Частая змена і замена рэжысёраў прывялі да таго, што некаторыя акцёры сталі наогул адносіцца да іх нігілістычна, перасталі ў іх верыць. Сталі кіравацца пагаворкай: рэжысёры прыходзяць, рэжысёры пакідаюць тэатр, а мы застаемся.

Некаторая частка артыстаў стала прызнаваць толькі тых пастаноўшчыкаў, з якімі лёгка працаваць, якія вельмі мала ад іх патрабуюць. І наадварот — нецярпіма адносіцца да тых, хто прымушаў іх многа працаваць, хто дамагаўся чагосьці новага.

Ні да чаго добрага не прывяла і нестабільнасць акцёрскага складу. За апошнія гады тут таксама змянілася да палавіны артыстаў. Сярод новых у калектыў іншы раз траплялі звычайныя «пералётныя птушкі» або людзі выпадковыя, нездатныя памножыць славу тэатра. І цяпер назбіралася ў тэатры многа такіх артыстаў, якія маглі б прыгадзіцца на іншай рабоце, але не ў Тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі.

Нельга абысці і яшчэ адзін даволі празаічны для калектыву факт. План гадавых збораў тэатра, зацверджаны Міністэрствам культуры некалькі год таму назад, вельмі вялікі і раўняецца прыкладна той суме, якую павінны выручыць тэатры, што працуюць у буйных гарадах Расійскай Федэрацыі. Колькасць жа насельніцтва ў Брэсце, а значыць і гледачоў, у некалькі разоў меншая, чым у гэтых гарадах. І тады, калі тэатр карыстаўся вялікай папулярнасцю, калі ў яго рэпертуары былі яркія, высокамастацкія творы, ён без асаблівых цяжкасцей выконваў свой фінансавы план. Але ж цяпер многае змянілася, цяпер гэты план яўна непасільны для калектыву. Вось і даводзіцца думаць кіраўніцтву тэатра, як можна выйсці з такога становішча. Прымаюцца самыя розныя захады, самыя розныя меры. Рэпетыруюцца паралельна два спектаклі, выпускаюцца частыя прэм'еры. Тэрмін выпуску спектакля, як правіла, — 25 рэпетыцый. А падрыхтаваць за такі час буйны, складаны драматычны твор вельмі цяжка. Арганізоўваюцца вельмі частыя выезды, акцёры перагружаны працай. Прымаюцца ўсялякія меры па заахвочванню і прыцягненню гледачоў, нярэдка ў тэатры пасля прадстаўленняў праводзяцца танцы. І ўсё гэта часта ідзе толькі ў шкоду спектаклям, іх мастацкай вартасці.

У калектыве няма адзінага погляду на тэатральнае мастацтва. Атрымліваецца, жадаюць гэтага ці не жадаюць рэжысёры, што яны фактычна перашкаджаюць адзін аднаму. Акцёры, якія спачатку працавалі з адным рэжысёрам і па яго метаду, прыходзяць на рэпетыцыю наступнага спектакля да другога рэжысёра, і ім трэба ўжо літаральна «перабудоўвацца», падладжвацца пад яго манеру. А такая рэч вельмі няпростая. І як вынік усяго гэтага — разнастыльныя, а то і наогул без ніякага стылю спектаклі, адсутнасць у іх акцёрскай сыгранасці, ансамбля.

... І вось у тэатры вырашылі правесці шырокую, адкрытую дыскусію, якую можна было б выказаць наступнымі словамі: «А якімі шляхамі ісці далей?» Кожны з рэжысёраў выступаў з дакладам, фармуліраваў сваю творчую платформу, свой метад і стыль.

— У нашай краіне вельмі многа тэатраў, і не зможа кожны з іх быць арыгінальным, зусім не падобным на іншыя, — гаварыла галоўны рэжысёр Манухіна. — Але павінен у нас быць тэатр аднадумцаў, павінен быць вялікі ўзаемны давер паміж кожным членам калектыву, адны погляды на тэатр, на мастацтва.

З гэтым поўнасцю трэба згадзіцца, хіба толькі дадаць тое, што Брэсцкі тэатр у свой час мог усё-такі быць не падобным на іншыя тэатры, меў жа тады сваё выразнае творчае аблічча.

Некалькі дзён працягвалася дыскусія, калектыў тэатра прымаў у ёй вельмі актыўны ўдзел, бо кожнага хвалявалі ўзнятыя пытанні і кожны меў магчымасць адкрыта выказаць свае меркаванні. Такую шырокую дыскусію, дарэчы, упершыню ў нас арганізаваную, трэба толькі вітаць.

І як шкада, што яна ўсё-такі не прынесла жаданых вынікаў, што так і не дамовіліся аб адзіным метадзе і стылю работы, аб адзіным падыходзе да п'есы, да спектакля, а галоўны рэжысёр І. Манухіна, якая так горача выступала за тэатр аднадумцаў, пакінула калектыў, і яе месца цяпер заняў Арынянскі.

Можна было б і закончыць на гэтым артыкул, але хочацца паставіць некалькі пытанняў. Няўжо і не зменіцца нічога ў рабоце калектыву? Няўжо ўсё застанецца па-ранейшаму, а Міністэрства культуры так і не скажа па гэтых пытаннях свайго важкага слова? Няўжо будуць выходзіць такія ж сярэдняга ўзроўню спектаклі, якія можа для іншага нашага абласнога тэатра з'явіліся б нават удачай, але не для брэсцкага калектыву. Бо яго патэнцыяльныя магчымасці ўсё ж такі вялікія, бо, нягледзячы на стракатасць калектыву, вядучая, асноўная група артыстаў бадай самая моцная з усіх нашых абласных тэатраў, а брэсцкія майстры сцэны з'явіліся б сапраўднай знаходкай нават для вядучых рэспубліканскіх тэатраў.

І як хочацца верыць, што тэатр, які ты так горача любіш, верне сваю былую славу, што кожны яго творца з усёй адказнасцю зразумее становішча калектыву, што спектаклі брэстчан зноў па-ранейшаму будуць неспакойнымі, будуць будзіць думкі і пачуцці, прымушаць часцей і мацней біцца сэрца.

# Бібліяграфія

## Старонкі жыцця

Часам бывае так: хочаш ахарактарызаваць звычайнага, добрага, сціплага чалавека — і спачатку не знаходзіш слоў. Толькі пасля пэўнай развагі і роздуму пачынаюць ісці яны ад самага сэрца — шчырыя, праўдзівыя, важкія.

У такое, прыкладна, становішча трапляе кожны, хто захоча весці размову аб новай кнізе Алеся Пальчэўскага «Родныя берагі».




Шырокі чытач мала знаёмы з гэтым самабытным своеасаблівым пісьменнікам. Тыя яго творы, што з'яўляліся часад-часу ў друку, ніяк не маглі даць чытачу ўяўленне аб пісьменніку.

I вось нарэшце выйшаў ён на знаёмства з чытачом са зборнікам сваіх апавяданняў.

Перш-на-перш трэба сказаць: не варта шукаць у гэтай кнізе нечага незвычайнага, выключнага, сенсацыйнага. Алесь Пальчэўскі не гоніцца за знешнімі ўпрыгожаннямі, не намагаецца закруціць незвычайны сюжэт, не сіліцца выдумаць таго, чаго не бывае ў жыцці. Ён адносіцца хутчэй да тых пісьменнікаў, якія ўмеюць у звычайным, будзённым, простым адшукаць і паказаць чытачу самае галоўнае, самае істотнае. I аб гэтым гаворыцца сціпла, пранікнёна, з любоўю да жыцця, да чалавека, з верай у яго магчымасці, у яго розум, з жаданнем дапамагчы яму там, дзе ён памыляецца, уславіць яго там, дзе ён таго заслугоўвае — у працы, у высакародных імкненнях, у барацьбе.

Нягледзячы на тое, што ў зборнік увайшлі апавяданні, напісаныя пераважна ў апошнія гады, большасць іх у той ці іншай меры расказвае аб важных падзеях як мінулага, так і сучаснага жыцця нашай радзімы. Менавіта з гэтай прычыны апавяданні хочацца назваць «старонкамі жыцця».

Найбольш удалым у зборніку з'яўляецца апавяданне «Родныя берагі». У ім пісьменнік малюе цудоўны вобраз нашай роднай зямлі.

Трактарыст Сяргей Цярэшка ідзе на фронт бараніць ад фашыстаў радзіму. Адыходзячы, набірае ён у вузельчык жменьку звычайнага жвіру з родных палёў, кладзе вузельчык у паходны рукзак. I дзе б потым ён ні ваяваў, дзе б ні сумаваў па родным краі — усюды гэты святы для яго вузельчык павялічваў яго сілы, сцішаў боль, распальваў гарачую нянавісць да лютых ворагаў, якія спустошылі і абрабавалі яго родны край. I калі салдат Цярэшка ваяваў ужо на варожай тэрыторыі, часам на прывале дастане ён вузельчык са сваёй роднай зямелькай і пачне разглядаць пясчынкі. Дзіва дый годзе! Умомант падсядуць да яго таварышы, а ён яшчэ і падахвочвае: «Можа паглядзім, браткі, на сваю, савецкую зямельку?» I адразу вакол Сяргея збярэцца чародка салдат...

Мы не бачым у гэтым апавяданні партрэта Цярэшкі. Ды ён тут не так ужо і патрэбны, бо ў кожным савецкім воіне мы можам знайсці лепшыя рысы салдата Сяргея Цярэшкі.



Такога следавання праўдзе жыцця нестае апавяданню «Лілея». Карціна, намаляваная ў ім, ілжывая таму, што адзінкавы факт набыў тут па волі пісьменніка тыповасць. Тэма апавядання — жыццё савецкіх людзей, загнаных у фашысцкае рабства. Як жа аўтар паказвае гэта ў сваім апавяданні? Жэня, Ціхан, Анісім і Мікалай разам з другімі савецкімі людзьмі трапілі ў Германію. Яны далі адзін аднаму прысягу заўсёды быць разам. Вось і ўсё. Далей пісьменнік паказвае іх у такім змрочным плане, такімі прымітыўнымі, прыніжанымі і зломленымі духам людзьмі, што яны і сапраўды робяцца падобнымі да рабоў. А ці ж гэтак было? А ці ж стаў савецкі чалавек нямецкім рабом хоць на хвіліну, ці не бунтавала яго кроў супраць гвалтоўніцтва, ці не хапалі яго рукі зброю?

Імення аб гэтым расказаў пісьменнік у апавяданні «Збітыя рогі». Нягледзячы на тое, што яно вельмі расцягнутае, чытаецца ўсё ж з цікавасцю, бо апавядае аб хвалюючых, жыццёвых фактах.

Удалым у зборніку з'яўляецца цыкл апавяданняў аб дзецях. Пісьменнік умее таленавіта перадаць на старонках сваіх твораў унутраны свет дзяцей, раскрыць тонка і пераканаўча іх душу, чысціню пачуццяў, ясны, адкрыты падыход да жыцця, непахісную веру ў дабро. I таму хочацца адзначыць, што апавяданні аб дзецях найлепш удаюцца пісьменніку. Такія апавяданні, як «Ножык», «Кажушок», «У тыя дні», «Засмучаная радасць» — нельга чытаць без хвалявання, без задавальнення, бо пісьменнік трапна падмячае тонкія рысы дзіцячага характару.

Жаданне вучыцца ў Сцёпкі такое вялікае, што яго не перамагае ні голад, ні холад, ні адсутнасць адзення і кніг. Сцёпка ідзе на хітрасць: каб мець магчымасць хадзіць у школу ў зімовы час, ён ашуквае старэйшага брата і, не зважаючы на яго абурэнне і пагрозы, тайна апранае яго латаны кажушок. На якія толькі хітрыкі ні пускаліся браты— адзін, каб схаваць кажушок, а другі, каб схадзіць у ім у школу! Урэшце, старэйшы, Андрэй, прымірыўся — цярпліва, з хваляваннем чакае ён брата з першай змены. I хоць Сцёпка ляцеў са школы з усіх сіл — усё ж Андрэйка не паспяваў і кожны раз пазніўся на ўрокі. Бедныя браты! Цяжка ім было вучыцца ў панскай Польшчы. А вучыцца так хацелася!..

Бясспрэчнай вартасцю зборніка з'яўляецца зварот пісьменніка да сучаснасці, да раскрыцця новых павеваў і плыняў у нашым жыцці. Не ў адным апавяданні праславіў пісьменнік прыгажосць, душэўнае хараство савецкага чалавека, у той жа час выкрываючы абывацельшчыну, мяшчанства. I не дзіўна, калі ў адным і тым жа апавяданні мы знаходзім і ўслаўленне высакароднасці чалавека і выкрыццё агідніка. Да такіх апавяданняў належаць, напрыклад: «Матчына сэрца», «Тэлеграма», «Памылка».

Першае з іх нельга чытаць без глыбокага хвалявання і болю. Пісьменнік удала знайшоў форму для апавядання. Яно нагадвае чымсьці жанр народных апавяданняў, калі расказчык падае падзеі ў яркай, эмацыянальнай форме. I тут нельга не верыць пісьменніку, бо падзеі паказаны праўдзіва, пераканаўча.

Выгадавала, выхавала маці сыноў, і паляцелі яны з роднага гнязда сваё жыццё будаваць, а пра маці і забыліся...

А яна, старэнькая, ад скрухі марнее: хочацца пабачыць ёй сыноў сваіх, але яны не заглядваюць да яе. I няма каму матцы нават бярэмца дроў прынесці.

Рашылі судзіць сыноў. Але як пачула на судзе аб гэтым маці, як усхопіцца:

— Божачка мой! Сыночкаў маіх судзіць? Ды маё ж, матчына сэрца не вытрывае гэтага... Нічога мне ад іх не трэба, няхай жывуць здаровыя. А з мяне хопіць і тае радасці, што ўбачыла за тры гады абодвух разам...

Так! Вялікае сэрца бывае толькі ў маці. Трэба берагчы і шанаваць яго тым, для каго яно б'ецца...

Не ўсе апавяданні, змешчаныя ў зборніку, аднолькава хвалююць чытача. Часам яму даводзіцца пасумаваць, чытаючы, напрыклад, «Шчырасць», абурацца, чытаючы «Лілею», але ўсё ж, урэшце, прыемна ад усведамлення, што пісьменнік дазволіў перагарнуць пэўныя старонкі жыцця. I можа не такая ўжо бяда, што не ўсе яны аказаліся аднолькава цікавымі.

Алесь Пальчэўскі знаходзіцца ў росквіце сваіх творчых сіл. Трэба спадзявацца, што не адну яшчэ цікавую старонку нашага жыцця раскрые ён перад чытачом.

**I. ПАУЛЮКОЎСКІ.**

## Публікацыі

В. БАНДАРЧЫК

# З НЕНАДРУКАВАНЫХ РУКАПІСАЎ Е. Р. РАМАНАВА

Вядомы этнограф, фальклярыст, археолаг і гісторык Еўдакім Раманавіч Раманаў (1855—1922 гг.) займае пачэснае месца ў гісторыі беларускай навукі наогул і ў гісторыі беларускай этнаграфіі ў прыватнасці.

У беларускай этнаграфіі ён выступіў тады, калі яна яшчэ толькі пачала развівацца як навука, а нацыянальная інтэлігенцыя яшчэ толькі складвалася.

Е. Раманаў быў адным з першых прадстаўнікоў дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі, якая выйшла з самай гушчы народа. Справе вывучэння роднага краю ён аддаў усё сваё жыццё.

Круг навуковых інтарэсаў Е. Р. Раманава быў вельмі шырокі. Быт народа, яго культура, мова, фальклор, рамёствы, гісторыя, археалогія — вось тыя пытанні, якія ён вывучаў.

Найбольш важнымі працамі Е. Р. Раманава, якія стварылі яму вядомасць беларускага вучонага, з'яўляюцца «Белорусский сборник» у 10 выпусках (1886—1918 гг.), «Материалы по этнографии Гродненской губернии» ў двух выпусках (1911—1912 гг.), «Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский» (1898), «Могилевская старина» ў трох выпусках (1900—1903 гг.), вялікая колькасць артыкулаў па этнаграфіі і археалогіі Беларусі. Усяго Раманавым было напісана каля 200 прац па беларусазнаўству.

Важнейшае месца ў навуковай дзейнасці Е. Р. Раманава займае этнаграфічнае вывучэнне Беларусі. Акадэмік А. А. Шахматаў назваў Е. Р. Раманава «гордасцю рускай этнаграфіі». Велізарны ўклад, які Е. Раманаў унёс у навуку, яшчэ належным чынам не даследаваны і не ацэнены. Буржуазныя вучоныя не зрабілі гэтага з прычыны ідэйнай накіраванасці навуковай дзейнасці Е. Раманава. У паслярэвалюцыйны час гісторыі этнаграфіі ў Беларусі не надавалася належнай увагі, і таму ацэнка Е. Раманава буржуазнымі вучонымі механічна перайшла ў нашу літаратуру.

Архіўныя матэрыялы аб Раманаве яшчэ нікім не вывучаліся.

У выніку работы ў архівах нам удалося выявіць вялікую колькасць разнастайных матэрыялаў аб навуковай і грамадскай дзейнасці Раманава, а таксама некалькі неапублікаваных яго рукапісаў.

У гэтым артыкуле даецца агляд толькі аднаго з рукапісаў Е. Р. Раманава, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. Ён уяўляе сабою этнаграфічны нарыс аўтабіяграфічнага характару.

Прычынай з'яўлення рукапісу была цяжкая хвароба Е. Р. Раманава, якую



ён перанёс у 1890—1891 гг. Таму і напісанне гэтай працы можна аднесці да 1891 года. Гэтае меркаванне пацвярджаецца як зместам уступу да рукапісу, так і прадмовай да V-га выпуску «Беларускага зборніка».

«На жаль, мне здрадзіла раней часу здароўе, — чытаем мы ў прадмове да V-га выпуску «Беларускага зборніка», — падарванае тымі невядомымі свету пястачамі і ўсялякага роду ахвярамі, з якімі ў нас звязаны падобныя экскурсіі».

У прадмове да рукапісу Е. Р. Раманаў піша: «Мне зараз 35 год. Я сівы і нядужы. Прытупіліся пачуцці, адмаўляе служыць памяць. Па ўсіх адзнаках, лямку цягнуць мне нядоўга».

Страціўшы веру ў магчымасць выздараўлення, але будучы самаадданым вучоным-энтузіястам, Е. Р. Раманаў вырашыў зрабіць апісанне свайго жыцця, каб хоць гэтым папоўніць тыя нешматлікія звесткі аб побыце беларусаў, якія меліся ў літаратуры ў яго час.

«... дзіўнае жыццё маё, — піша Е. Р. Раманаў, — хоць яно і кароткае, прадстаўляе не мала цікавага, калі не само па сабе, дык па тых бытавых з'явах, якія адных заўчасна зводзяць у магілу, другіх жа загартоўваюць для бязлітаснай барацьбы з суровай мачыхай-жыццём.

Быт гэта мала распрацаваны ў нашай літаратуры. Вось чаму я рашыў, пакуль пяро не выпала з маіх рук, падняць заслону з майго мінулага і перадаць, з усёю праўдзівасцю, першыя пакуль, перыяды свайго жыцця.

Пры гэтым я зусім адмаўляюся ад сучаснасці і цалкам паглыбіўшыся ў свет успамінаў, становячыся на пункт гледжання, сучасны падзеям, якія апісваюцца».

Такім чынам, гэты рукапіс з'яўляецца пачаткам задуманай Е. Р. Раманавым вялікай працы, у якой ён хацеў даць апісанне свайго жыцця на фоне быту беларускага народа.

У сувязі з паляпшэннем стану здароўя Е. Раманаў у далейшым закінуў гэтую працу, таму што яго чакала больш тэрміновая навуковая работа. (Адзначым, што пазней Е. Раманавым была напісана аўтабіяграфія, якая загінула пасля яго смерці разам з яго архівам — магчыма ў г. Стаўрапалі, дзе ён памёр 20 студзеня 1922 года).

Разгледжаны ніжэй рукапіс з'яўляецца цікавым з некалькіх бакоў — ён дае нам магчымасць меркаваць аб дзіцячых гадах аўтара і ў той жа час дае многа звестак аб побыце народа і асабліва аб яго вераваннях і забабонах, як выніку цемры і невуцтва, у якім царызм трымаў працоўных.

Рукапіс па зместу складаецца з двух частак. У першай частцы дадзена кароткая гісторыя г. Беліцы, у якім нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады Е. Р. Раманаў, адзначаюцца некаторыя з'явы грамадскага быту мясцовага насельніцтва і, у прыватнасці, яго адносіны да «разбойнікаў», а таксама да існаваўшага ладу. Е. Р. Раманаў падкрэслівае, што сяляне лепш адносіліся да лясных разбойнікаў, чым да царскіх чыноўнікаў. «Трэба між іншым заўважыць, што мясцовых жыхароў разбойнікі амаль не чапалі і рабавалі пераважна купцоў і паноў... Наогул жа насельніцтва жыло мірна з гэтымі грознымі рыцарамі, зразумела, не выдавала іх тагачаснай адміністрацыі, якую яно ненавідзела ўсімі сіламі душы».

Другая частка рукапісу прадстаўляе сабою этнаграфічнае апісанне, у якім характарызуюцца асобныя рысы быту беларуса.

З асаблівай сілай паказаны прыгнечанне і цемра, у якіх жыў народ, яго забабоннасць і вера ў розныя звышнатуральныя сілы.

«Наогул жа, — піша Е. Раманаў, — нячыстая сіла ў той час акружала нас з усіх бакоў і літаральна на кожным кроку старалася нам паскудзіць. Устаеце вы, напрыклад, раніцаю, адно вока ў вас загнаілася і не расплюшчваецца. Зразумела, гэта паскудны чорт нагадзіў уначы вам на вочы за тое, што вы нядбайна прачыталі малітву перад сном, або добра павячэралі, або не пацалавалі рукі ў бацькоў, кладучыся спаць. Усё гэта — грэх. Вы з заплюшчаным вокам ідзеце ўмывацца і па дарозе балюча ўдарыліся нагой аб крэсла. Зноў чорт вінаваты: гэта ён падставіў вам крэсла, каб вы ўдарыліся. Пачынаеце вы ўмывацца з глінянага вісячага ўмывальніка, раптам ён, разгушкаўшыся, б'е вам па галаве, калі вы нагнуліся над лаханкай — усё ён жа. Памыўшыся, вы не знаходзіце ручніка або грабёнкі — так і ведайце, што іх чорт схаваў ад вас, каб вас раззлаваць, каб вы не памаліліся старанна, з глыбокай пашанай. Нарэшце вы становіцеся на малітву. Толькі пачынаеце класці першыя зямныя паклоны, раптам бачыце, што паганец-чорт ужо напляваў на падлогу якраз там, дзе вам трэба пакланіцца. Толькі вы пачалі малітву, як чорт ужо скінуўся мухай або блыхой і з страшэннай на-

дакучлівасцю кусае вас, усяляк адцягваючы ад малітвы. Вы дойдзеце амаль да «Багародзіца, дзево, радуйся», але далей прыставанне чорта становіцца невыносным і вы пачынаеце яго праследаваць. Малітва ўжо нарушана. А гэта грэх. Цяпер будзе кара і ад бога. Малітва, нарэшце, таксяк закончана. Вы жадаеце маці добрай раніцы і просіце снедаць, але пакаранне за нядбайную малітву падрыхтавана ўжо для вас. У хаце вышаў увесь хлеб. Значыць, або чакай, пакуль будзе спечаны свежы, або ідзі.

Ды так цэлы дзень і чакай якойнебудзь брыдоты ад чорта, а потым і пакарання ад бога за ўсякі грэх...»

Далей Е. Раманаў наглядна, на прыкладах з жыцця, паказвае, як ствараліся небыліцы аб розных свавольствах нячыстай сілы. Вельмі часта звычайныя жыццёвыя выпадкі, якія здараліся з тым ці іншым чалавекам, успрымаліся цёмнымі людзьмі, як праяўленне нейкай звышнатуральнай сілы. Так, напрыклад, Е. Раманаў апавядае аб тым, як козы, забраўшыся ў паставаўшае памяшканне былой крамы, былі прыняты хлопцамі, якія вярталіся з позняй гулянкі, за чарцей.

Характарызуючы ўяўленні народа аб «нячыстай сіле», Раманаў абвінавачвае царкву, яе літаратуру і яе služак, якія часта самі не толькі падтрымлівалі гэтыя адсталыя ўяўленні, але і пашыралі іх. «У гэтых адносінах, — адзначае Раманаў, — немалай падмогай для выпрацоўкі падобных уяўленняў служаць ілюстраваныя жыцці «айцоў-падзвіжнікаў, якім, як вядома, прыходзілася часта ваяваць з гэтымі прадстаўнікамі царства цемры».

Цікавая і заключная частка рукапісу, якая характарызуе крытычныя адносіны Раманава да рэлігіі і яе служкаў.

Іранічна заўважае Раманаў адносна царкоўнага перазвону ў Беліцы:

«Перазвон наш быў таксама прыстойны, працяглы. Пад яго, бывала, нізавошта не спяеш грубае і адрывістае:

Блінцы, блінцы — пааляніцы!
Блінцы, блінцы — пааляніцы!

Ён выразна вызвоньваў вось які верш, калі яго вымаўляць рэчытатывам:

Дзылін-дзылін баў!
Саўка прапаў!
Палажылі Саўку
На белую лаўку.
Лавачка трасецца,
Савачка смяецца,
Курачка сакоча,
Савачка рагоча.
Дзылін-дзылін баў!
Саўка прапаў!

Цікавым з'яўляецца паданне аб тым, як мясцовае духавенства, карыстаючыся неадукаванасцю сялян, увяло дадатковы падатак на царкву — так званую «тукаўшчыну».

Падзея гэтая адбылася ў суседняй з Беліцай вёсцы Маркаве. (Магчыма, Раманаў мае на ўвазе в. Маркавічы, якая знаходзіцца ў 35 км ад Н. Беліцы. — **В. Б.)**

«Пабудавалі ў сябе маркаўцы новы храм. Калі ён быў закончаны, натоўп маркаўцаў зайшоў у яго і быў уражаны яго харастовам і асабліва гучнасцю. Адзін кемлівы маркавец тут жа прапанаваў: «А што, братцы: давайце мы тукнем! Ці громка то яно будзя?» Моладзь зараз жа згадзілася на гэта. Але разважлівыя старыя стрымалі іх: «Дурні вы! Ето ж царква! Хіба ж можна ў цэркві тукаць? Ето ж трэба дазволу ў папа папрасіць! Ці дазволя поп, ці не?»

— Ну дак пойдзем к папу!

Пашлі к папу.

— Бацюшка, поп наш, а мы к табе!

— Ну, што скажаце, дзеткі?

— Да вот дужа галосная наша царква. Што калі б нам у ёй тукнуць! Мы так смыслім, што грамчэй грому было б! Дак во мы прышлі к табе за дазваленнем!

Поп разгубіўся было, але хутка схамянуўся.

— А не, дзеткі, нельга, месца святое. Узнае пратапоп, — што будзя! І мяне прагоня, і царкву запячатуя!

Старыя павесілі галовы, моладзь загула!

— Ай, бацюшка, ці ня можна? Ентага ж ніхто не ўвазная, апрыч цябе да нас!

— Да як бе сабою і можна: царква шчэ не пасвечаная, а толькі трэба абракацца на жэртву цэркві!

— Во, дак ета ж можна! Ты ж бы-б так і казаў! Што ж нам жэртвавацьм?

— А што жэртваваць? Хлеба ў вас не родзя, грошай няма, — давайце па паўпуда мёду з двара і па тры фунты воску!

— Ну добра! Сабярэм грамаду і памяркуемся.

Сабралі грамаду. Сталі меркавацца, так і так, такое і такое дзела, слухай сюды: абрачэмся тукаўшчыну даваць на царкву!



Грамада падзялілася. Старыя былі супраць тукаўшчыны, моладзь гарэла жаданнем тукнуць, чаго б гэта ні каштавала. У канцы канцоў маладыя перамаглі, і маркаўцы абавязаліся даваць тукаўшчыну.

Калі аб'явілі аб гэтым папу, ён патрабаваў, каб кожны з грамады тукнуў не больш трох разоў.

Згадзіліся маркаўцы на гэта, многа знеслі мёду і воску папу, накіраваліся ў царкву і пачалі тукаць. Спачатку кожны крычаў «ту» паасобку, а потым крыкнулі ўсёй грамадою.

Выходзіла напэўна вельмі эфектна, таму што потым многія, маркаўцы прызнаваліся па сакрэту, што тукнулі не тры разы, як загадваў поп, а «можа больш, як трыццаць разоў»!

Як бы гэта ні было, а толькі зборы прычтам мёду і воску з прыхажан працягваліся вельмі доўга. Паступова зменшаўся толькі памер тукаўшчыны, пакуль нарэшце, дайшоўшы да кавалачка воску і шклянкі мёду, яна прыняла від дабраахвотнага ахвяравання, а потым і зусім спынілася ўжо ў мой час».

Заканчваецца рукапіс характарыстыкай адносін дзяцей да папа, якога яны пазбягалі і баяліся. «Нам пагражалі, — піша Раманаў, — што поп распаліць скавараду і прымусіць лізаць яе распаленую. Або яшчэ лепш: адрэжа вуха і зашые нам вядомую дзірку... Варта нам было стварыць які-небудзь «грэх», — а мы, як памятае чытач, не маглі не тварыць іх у мностве, заўсёды знаходзячыся пад спакушэннем чорта, — як зноў з'яўляўся на сцэну поп».

Такім чынам, мы бачым, што разгледжаны рукапіс Е. Р. Раманава мае выключную навуковую цікавасць. У ім даецца многа звестак аб побыце і культуры беларусаў другой паловы XIX стагоддзя, а таксама некаторыя аўтабіяграфічныя звесткі.

*Навука і тэхніка*

В. ВАЛЯЎКА, Я. РАЙСКІ

# ШТО ТАКОЕ „КІБЕРНЕТЫКА?“

Аднойчы ў вагоне прыгараднага цягніка нам давялося быць вымушанымі слухачамі размовы, якую вялі паміж сабою два юнакі.

— Слухай, Алесь, — гаворыць адзін. — Вось ты захапляешся кібернетыкай... Растлумач мне толкам, што гэта за навука?

Крыху падумаўшы, Алесь адказаў:

— Гэта навука аб самых складаных лічыльных машынах, апаратах, якія могуць рашаць цяжкія задачы па матэматыцы, перакладаць тэксты з адной мовы на другую, гуляць у шахматы і шашкі і нават кіраваць работай заводаў.

— А чаму яна называецца кібернетыкай? Што гэта за слова?

Адказаць на гэтае пытанне Алесь не змог.

Гэтая выпадкова падслуханая размова штурхнула нас расказаць пра кібернетыку — новую, цікавую і шмат абяцаючую галіну ведаў.

Слова «кібернас», ад якога ўтварылася назва «кібернетыка», запазычана з грэчаскай мовы, у якой яно азначае рулявы, кіруючы рухам. На працягу стагоддзяў яно выкарыстоўвалася ў розных значэннях. Вучоны глыбокай старажытнасці Платон разумеў пад кібернетыкай навуку аб суднаваджэнні, французскі фізік Ампер — навуку, якая вывучае спосабы кіравання грамадствам. Потым слова «кібернетыка» было забыта. У 1948 годзе амерыканскі прафесар матэматыкі Норберт Вінер апублікаваў кнігу пад назвай «Кібернетыка, або кіраванне і сувязь у жывых арганізмах і машынах». Выхад у свет кнігі паклаў пачатак новай навуцы — кібернетыцы. І гэтае слова зноў вярнулася да жыцця.

Узнікла кібернетыка не раптам, не на голым месцы. Яе з'яўленне падрыхтавана дасягненнямі фізікі, матэматыкі, радыётэхнікі, логікі, фізіялогіі, медыцыны і іншых навук.

Кібернетыкай называюць навуку аб агульных законах кіравання і сувязей у жывых арганізмах і машынах-аўтаматах.

Здавалася б, што агульнага можа мецьпаміж сабою жывы арганізм і машына-аўтамат. А гэтае агульнае — у падабенстве паводзін. Біялагічная навука ўстанавіла, што дзеянне жывых арганізмаў заўсёды распадаецца на два этапы. Спачатку жывёла атрымлівае сігнал або ўздзеянне са знешняга асяроддзя. Потым пэўным чынам рэагуе на яго. Кошка грэецца ля печкі. Яна кладзецца там, дзе ёй найбольш прыемна. Калі ж агонь узмацняецца, кошке адчувае, што ёй стала горача, і адыходзіць ад агню. Калі агонь слабее — яна зноў займае найбольш зручнае месца. Падобныя з'явы наглядаюцца і ў машынах-аўтаматах. Тэрмастат, які служыць для падтрымання пастаяннай тэмпературы ў пакоі, дзейнічае аналагічным чынам. Пры паніжэнні тэмпературы ў пакоі біметалічная пласцінка, якая складаецца з двух разнародных металаў і з'яўляецца асноўнай дэталлю тэрмастата, выгінаецца такім чынам, што замыкае ланцуг электранагравальніка і тэмпература пакоя павышаецца. Калі ж у пакоі вельмі горача, дык гэтая пласцінка выгінаецца ў другі бок і разрывае ланцуг электранагравальніка. Тым самым тэмпература ў пакоі зніжаецца да патрэбнага ўзроўню.

Або другі прыклад. Уявіце сабе аўтамат па продажу газіраванай вады. Вы кінулі ў адтуліну манету. Падаючы, яна замкнула электрычны ланцуг. Ток, праходзячы па абмотцы электрамагніта, намагніціў сардэчнік, які прыцягнуў да сябе рычаг, што адкрывае клапан на



час, дастатковы для напаўнення шклянкі вадою. Не цяжка пераканацца ў аналогіі дзеяння чалавека-прадаўца газіраванай вады: ён паварочвае рычаг, што адкрывае клапан, і напаўняе шклянку вадою.

Такім чынам, рэагаванне аўтамата на знешняе раздражненне падобнае да рэагавання жывой істоты. Вывучэннем гэтых пытанняў, агульных як для біялогіі, так і для тэхнікі, і займаецца навука кібернетыка. Яна цікавіцца таксама вынікамі няправільных, ненармальных дзеянняў жывёл і машын-аўтаматаў. Хваробы жывых істот і механізмаў, аказваецца, маюць паміж сабою шмат агульнага. Інжынерам вядомы парушэнні ў дзеяннях механізмаў, вельмі падобныя на тыя, з якімі даводзіцца мець справу ўрачу ў бальніцы. Расстройства аўтаматычнага кіравання руля парахода, якое заключаецца ў ненармальных адхіленнях яго ад курса то направа, то налева, у многім нагадвае расстройства нервовай сістэмы чалавека, калі ён не можа ўзяць шклянку з вадою, працягваючы руку то лявей, то правей.

Цяпер у пацвярджанне падабенства ў дзеяннях жывых арганізмаў і аўтаматаў, створаны кібернетычныя мадэлі жывёл. Прыкладам можа служыць механічная «чарапаха». Такая мадэль у пошуках святла поўзае па падлозе, часда-часу спыняецца, паварочваецца вакол сваёй восі. Ад гучнага голасу або шуму яна замірае, зусім як сапраўдная жывёла, прыкідваецца мёртвай.

Вялікую цікавасць уяўляе кібернетычная мыш. У адной з клетак складанага лабірынта змешчана «сала» — кавалак жалеза. У пошуках гэтай «ежы» механічная мыш дасягае яе не самым кароткім шляхам, а заходзіць ва ўсе шматлікія засекі лабірынта. Але дабраўшыся аднойчы да «сала», мыш у наступны раз кідаецца да яго самым кароткім шляхам, затрачваючы на гэта значна менш часу. Мыш нібы пазнае дарогу да «ежы» і запамінае яе.

Мадэль такой мышы — даволі простая камбінацыя электрамагнітных пераключальнікаў, так званых рэле. Пэўны варыянт гэтай камбінацыі ў выпадку неабходнасці застаецца ўключаным патрэбны час, і такім чынам мыш «запамінае» шлях да мэты.

У буржуазных краінах, у пагоні за сенсацыяй і рэкламай, робяць электрамеханічныя мадэлі чалавека-робата. У мінулым годзе ў Парыжы ўдзельнікаў міжнароднай тэхнічнай канферэнцыі запрасілі на незвычайны прыём, наладжаны рэдакцыямі двух тэхнічных часопісаў. Ля ўваходу гасцей сустракаў не арганізатар прыёму, як звычайна, а робат-аўтамат. Госць уручаў яму свой запрашальны білет і аўтамат гучным голасам аб'яўляў яго імя і прозвішча. У той жа момант камеры тэлевізійных установак, нацэленыя на прышоўшага, перадавалі яго выгляд на некалькіх экранах у зале.

Частавалі на прыёме таксама аўтаматы. Адны з іх падавалі бутэрброды і закускі, другія — напіткі. Аўтаматычным вінапэрпам даводзілася даволі цяжка: ім трэба было мяняць састаў кактэйляў у залежнасці ад таго, хто падыходзіў да іх — мужчына ці жанчына. Аднак механічныя аўтаматы спраўляліся са сваімі абавязкамі нядрэнна.

Вялікую практычную цікавасць уяўляе схема аўтаматычнай тэлефоннай станцыі, макет якой дэманстраваўся на ўсесаюзнай прамысловай выстаўцы ў Маскве. Успомніце, як цяжка дазваніцца ў бюро даведак вакзала. І гэта зразумела: звычайна дзесяткі чалавек адначасова спрабуюць выклікаць бюро даведак. Новая схема надае аўтаматычнай тэлефоннай станцыі ўласцівасць уключаць выклікаючых строга па чарзе. Набраўшы патрэбны нумар, можна будзе спакойна чакаць адказу: аўтамат не парушыць чаргі.

Што ж дае апісаным схемам і мадэлям магчымасць навучыцца выкарыстоўваць папярэдні вопыт, прыстасоўвацца да зменлівых знешніх умоў? Перш за ўсё памяць, і нічога звышнатуральнага ў гэтым няма. Усё тлумачыцца даволі простымі фізічнымі і хімічнымі з'явамі. Прыкладаў тэхнічнай памяці вакол нас вельмі многа: магнітафон «запамінае» гук, фатаграфія «запамінае» ізабражэнне, электралічыльнік—расход энергіі.Спецыяльныя пераключальнікі-рэле дапамагаюць аўтаматам прыстасоўвацца да змен акаляючага асяроддзя, саманастройвацца ў працэсе работы.

Нельга не спыніцца на адным з відаў кібернетычных пабудоў, якія з'яўляюцца вялікім дасягненнем чалавечага розуму,— на хуткадзеючых электронных вылічальных машынах. Гэтыя машыны здольныя з надзвычайнай хуткасцю рашаць разнастайныя складаныя матэматычныя задачы, могуць перакладаць тэксты з адной мовы на другую, гуляць у шахматы і шашкі, аўтаматычна кіраваць цэлымі заводамі, што працуюць без людзей.

Сучасныя хуткадзеючыя электронныя лічыльныя машыны уяўляюць сабою складаныя аўтаматычныя канструкцыі. У іх умантаваны тысячы радыёлямпаў, дзесяткі тысяч супраціўленняў, кандэнсатараў і іншых дэталей. Вялікая электронная лічыльная машына (ВЭЛМ) Акадэміі навук СССР змя-

шчае ў сабе каля 5 тысяч радыёлямпаў. Яна робіць за адну секунду да 8 тысяч арыфметычных дзеянняў і з'яўляецца самай хуткадзеючай у Еўропе. Каб больш яскрава ўявіць сабе, наколькі хутка машына рашае задачы, варта ўспомніць, што вопытны чалавек-вылічальнік, узброены арыфмометрам, за восем гадзін рабочага дня зробіць усяго 2 тысячы арыфметычных дзеянняў.

Па прынцыпу работы электронныя лічыльныя машыны нічым не адрозніваюцца ад звычайных канторскіх лічыльнікаў, толькі там замест костачак, што перасоўваюцца па спіцах, перакідваюцца электрычныя імпульсы—штуршкі току па электрычных правадах. Велізарная хуткасць работы машыны дасягаецца за кошт надзвычайнай хуткасці працэсаў, якія праходзяць у радыёлямпах. Час праходжання электрычнага імпульсу ў лямпе складае дзесяцімільённыя долі секунды.

Лічбы ў машыне падаюцца ў выглядзе паслядоўнасці электрычных імпульсаў.

Усякая электронная лічыльная машына мае ўводнае прыстасаванне, пры дапамозе якога ўводзяцца ў машыну ў выглядзе імпульсаў лічбы і каманды; яны ўказваюць, якія арыфметычныя дзеянні неабходна выканаць над дадзенымі лічбамі. Захоўваюцца гэтыя лічбы і каманды ў запамінальным прыстасаванні. Запамінальнае прыстасаванне, або «памяць», сучасных электронных лічыльных машын здольна захоўваць дзесяткі і сотні тысяч лічбаў і каманд. Усе арыфметычныя дзеянні над лічбамі ў машыне выконваюцца ў спецыяльным арыфметычным прыстасаванні. Атрыманыя вынікі вылічэнняў аўтаматычна друкуюцца ў выглядзе лічбаў на паперы.

Што дае навуцы і тэхніцы прымяненне электронных лічыльных машын? Вельмі важную галіну чалавечай дзейнасці складаюць вылічэнні. Без разлікаў навука і тэхніка не могуць развівацца. Перш чым пабудаваць мост з зададзенай грузапад'ёмнасцю, стварыць рэактыўны самалёт, які лятае са звышгукавай хуткасцю, пабудаваць атамную электрастанцыю, неабходна зрабіць мноства матэматычных разлікаў. *А штучныя спадарожнікі Зямлі!* Запуску першых у свеце штучных спадарожнікаў Зямлі, створаных рукамі савецкіх вучоных і інжынераў, папярэднічалі вельмі складаныя разлікі. Усе гэтыя навуковыя і тэхнічныя разлікі былі б не пад сілу чалавеку без электронных лічыльных машын.

А каму не здаралася, пачуўшы па радыё, што дзень будзе сонечны, пайсці з дому легка апрануўшыся, без парасона і трапіць пад дождж. У такія моманты міжволі прыходзіцца думаць, якая недасканалая яшчэ навука прадказання надвор'я. Аднак гэта не так. Гэтая навука мае беспамылковыя метады прагнозу надвор'я, толькі гэта патрабуе вялікіх і складаных разлікаў. Для дакладнага прагнозу надвор'я на суткі наперад неабходна двухтыднёвая работа вялікага штату вылічальнікаў, узброеных арыфмометрамі. Натуральна, што пры такой хуткасці разлікаў вынікі губляюць усялякую практычную каштоўнасць. Міжволі прыходзіцца рабіць разлікі прыкладныя, што дае не заўсёды дакладны прагноз. Прымяненне ж хуткадзеючых электронных лічыльных машын для рашэння гэтай задачы дазваляе своечасова даць дакладны прагноз надвор'я не толькі на адны суткі, але і на большы тэрмін, таму што задачу прадказання надвор'я гэтыя машыны рашаюць менш чым за дзве гадзіны.

Прымяненне электронных лічыльных машын не вычэрпваецца матэматычнымі разлікамі. Асабліва перспектыўнае прымяненне гэтых машын у галіне аўтаматызацыі вытворчых працэсаў. Ужо цяпер хуткадзеючыя электронныя лічыльныя машыны знайшлі сабе самае шырокае прымяненне. Яны ўголас чытаюць тэксты для сляпых, робяць статыстычны і бухгалтарскі ўлік, складаюць графікі руху чыгуначных цягнікоў, рэгулююць рух на вуліцах. Гэтыя машыны могуць кіраваць усёй супрацьпаветранай абаронай горада, кіраваць палётам самалётаў і ракет, весці ў космас міжпланетныя караблі.

Кібернетычныя канструкцыі, прыкладам якіх служаць хуткадзеючыя электронныя лічыльныя машыны, па праву зоймуць пачэснае месца сярод складанейшай тэхнікі сённяшняга і заўтрашняга дня. Можна з упэўненасцю сказаць, што ў бліжэйшыя гады мы будзем сведкамі пераможнага шэсця гэтых машын у справе шырокай комплекснай аўтаматызацыі вытворчых працэсаў, у справе вызвалення чалавека не толькі ад цяжкай фізічнай, але і ад шаблоннай разумовай працы. Вядучая роля ў гэтым працэсе належыць і будзе належаць новай матэрыялістычнай галіне ведаў — кібернетыцы.

## Разгорнем карту роднага краю

# Старажытны Мінск




Мінск — вельмі старажытны горад. На старонках летапісу ён упамінаецца пад 1067 годам, гэта значыць, на 80 гадоў раней, чым з'явілася першае паведамленне аб Маскве.

З летапісу мы ведаем, што ў XII стагоддзі Мінск (па-стараруску — Менск, Менеск) становіцца цэнтрам удзельнага княства, і яго палітычнае значэнне вельмі ўзрастае. Але які выгляд меў сам горад, якую тэрыторыю ён займаў, які быў колькасны і сацыяльны склад насельніцтва, чым яно займалася і г. д.— аб гэтым летапіс нам нічога не паведамляе. Праўда, вядома, што ў 1067 годзе, у час вайны паміж кіеўскім і полацкім князямі мінчане схаваліся за гарадскімі варотамі. Гэта значыць, што горад, або нейкая яго частка была абнесена крэпаснай сцяной. І гэта амаль усё, што мы ведаем аб знешнім выглядзе старажытнага Мінска з пісьмовых даных. Як бачым, гэтага вельмі мала. Больш таго, першае летапіснае ўпамінанне аб Мінску выклікала паміж вучонымі спрэчкі адносна самога месцазнаходжання горада. Археолагі паклалі канец гэтай спрэчцы.

У 1945 годзе на тэрыторыі так званага мінскага Замчышча, якое знаходзіцца каля ракі Свіслач, у раёне плошчы 8-га Сакавіка, раскопкамі былі выяўлены магутныя напластаванні, адкладзеныя за час жыцця горада. Самыя ніжнія з іх адносяцца да эпохі Старарускай дзяржавы. З таго часу на працягу некалькіх год Інстытут гісторыі АН БССР вядзе раскопкі старажытнага Мінска. Цяпер ужо ўскрыта значная плошча, а ў мінулым годзе былі выяўлены сляды таго вала, за якім схаваліся мінчане ў 1067 г. Стары Мінск складаўся з двух частак— умацаванай (крамля, альбо дзяцінца) і неўмацаванай (пасада). На Замчышчы размяшчаўся гарадскі крэмль, абнесены зямельным валам. Цікава, што ў назвах мінскіх вуліц захаваліся ўспаміны аб існаваўшых тут некалі ўмацаваннях. Так, цяперашняя Замкавая вуліца праходзіць з захаду на ўсход праз увесь крэмль. Яна, як відаць, была яго галоўнай магістраллю. Вуліца Падзамкавая абводзіць умацаваную частку горада з поўначы і захаду. Размешчаная паралельна вуліцы Нова-Мясніцкай, Завальная ўжо сваёй назвай сведчыць аб тым, што тут праходзіла паўднёвая граніца ўмацаванняў. Гэтыя назіранні, а таксама дашоўшыя да нас планы Мінска XVIII ст., на якіх прыкметна бачны сляды старажытнага вала, даюць магчымасць абвесці тэрыторыю мінскага крамля. Яна працягвалася на 250 — 270 метраў к захаду ад ракі Свіслач і мела каля 130 метраў з поўначы на поўдзень.

Павышаная вільготнасць грунту садзейнічае доўгай захаванасці арганічных матэрый. У гэтым сэнсе Мінск прадстаўляе сабой вельмі каштоўны і цікавы археалагічны помнік. Раскопкі выяўляюць добра захаваныя рэшткі драўляных дамоў і вулічных маставых. Нягледзячы на тое, што ў зямлі знаходзяцца толькі ніжнія часткі будынкаў, магчыма аднавіць іх былы знешні выгляд. Гэтаму дапамагаюць як знаходкі асобных дэталей будынкаў, так і параўнальныя этнаграфічныя даныя. Вызначана, што старажытны Мінск меў некалькі вуліц. Як і ў другіх гарадах Русі і Заходняй Еўропы таго часу, яны былі вузкімі і цесна забудаванымі хатамі і рознымі будынкамі гаспадарчага значэння. Самыя вялікія з выяўленых вуліц былі ледзь шырэй 3 метраў.



Так прыблізна выглядаў Мінск у XIII стагоддзі.

На ўсёй сваёй плошчы вуліцы засціlaліся драўляным насцілам. Па меры таго, як маставая прыходзіла ў непрыгоднасць, зверх яе насцілалі новую. Устаноўлена, што за перыяд з XII па XIV стагоддзе вуліцы перасціlaліся не менш чым 7 разоў. Цікава адзначыць, што ў такіх краінах Заходняй Еўропы, як Англія і Германія, вуліцы ў гарадах сталі масціцца значна пазней.

Раскопкі ў Мінску яшчэ раз сведчаць аб тым, што старарускія цесляры дасягнулі ў сваёй справе вялікага майстэрства і вынаходлівасці. Выяўленыя шматлікія драўляныя пабудовы (хаты, канюшні, свіраны, хлявы, маставыя і г. д.) рабіліся без адзінага цвіка, хаця каваныя цвікі, так званыя «кастылі», былі тады вядомы і пры раскопках з'яўляюцца даволі частай знаходкай. Старажытныя цесляры дасканала валодалі сякерай. Усе будынкі зроблены без дастасавання пілы. Нават дошкі, якімі засцілаліся маставыя і падлогі хат, рабіліся сякерай і цяслом. Зразумела, пілу ведалі, але ж яна выкарыстоўвалася, галоўным чынам, у косткарэзнай і ювелірнай справе.

За ўсе гады раскопак у Мінску выяўлена каля трох дзесяткаў зрубаў, якія адносяцца да XI—XV стагоддзяў. За гэты час тэхніка будоўлі змянілася мала. Асноўнай жыллёвай будоўляй была зённая зрубная хата, якая мела звычайна адзін пакой, памерам не звыш 20—25 кв. м. Унутры хаты ў адным з куткоў размяшчалася глінабітная печ, пабудаваная на нізкай драўлянай «платформе». Такія печы не мелі дымаходаў і комінаў і паліліся «па-чорнаму». З унутранага абсталявання пакояў выявіць пакуль нічога не ўдалося. Трэба думаць, яно было вельмі скромным.

К жыллёвай хаце шчыльна прымыкалі гаспадарчыя будоўлі, што ўсё разам складала адзіную сядзібу, адгароджаную ад другіх парканам. Частку такой сядзібы з варотамі, выходзячымі на вуліцу, удалося выявіць у 1957 годзе.

Занадта вялікая скучанасць будынкаў стане зразумелай, калі прыгадаць, што гэтая частка горада была абмежавана ў сваёй плошчы абарончымі ўмацаваннямі.

Цікавым з'яўляецца вызначаны раскопкамі факт выключнай устойлівасці па часу ўнутрыгарадскога планавання. З XI па XV ст. напрамак мінскіх вуліц не мяняўся. Больш таго, збудаваныя замест старых новыя будынкі ставіліся на месцы ранейшых, вельмі часта іх урубалі ў захаваныя вянцы старых. Так, у 1957 годзе на адным месцы былі выяўлены рэшткі 5 рознaчасовых будынкаў.

Мастак С. Мусінскі, выкарыстоўваючы



здабытыя раскопкамі матэрыялы па планаванню Мінска ў XIII стагоддзі, аднавіў прыблізна знешні выгляд даследаванай часткі горада. Зразумела, не ўсё, адлюстраванае на малюнку, у дасканаласці адпавядае рэчаіснасці хаця б па той простай прычыне, што археолагі выявілі толькі ніжнія часткі паказаных на малюнку канструкцый, аднак агульнае планаванне гэтай часткі горада, асноўныя памеры, тыпы і характар збудаванняў перададзены зусім здавальняюча. Для параўнання мы змяшчаем здымак рэшткаў збудаванняў гэтага часу і гэтага ўчастка, захаваўшыхся ў зямлі.

Даследаванні Мінска працягваюцца. Перад вучонымі стаіць яшчэ шмат нявырашаных пытанняў. Раскапаны ўчастак складае вельмі нязначную частку гарадской тэрыторыі. Яшчэ чакае свайго вывучэння рамесны пасад, аб якім мы пакуль што нічога не ведаем. Іменна там было сканцэнтравана гандлёвае і рамесніцкае насельніцтва горада, і тут працякала асноўнае гаспадарчае жыццё. Раскопкі пасада дадуць найцікавейшы



Месца раскопак на мінскім Замчышчы.

матэрыял аб рамястве і гандлі жыхароў старажытнага Мінска.

**Э. ЗАГАРУЛЬСКІ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**




# Кавалеры надзвычайнага медаля

Іх нямнога, іх усяго пяцьдзесят, гэтых не вельмі прыгожых, зробленых вясковым кавалём з сярэбраных манет медаляў. Але якія дарагія яны тым людзям, чые грудзі ўпрыгожваюць!

Што ж гэта за медалі?

...Сярод сасновых бароў і палявых узгоркаў Мядзельшчыны знаходзіцца невялікая вёсачка Канстанцінава. Але, відаць, такая ўжо беларуская зямля, што куды ні пойдзеш, дзе ні апынешся,— усюды табе раскажуць пра выдатныя патрыятычныя подзвігі, праяўленыя ці то ў далёкія часы, ці ў блізкія нам гады, калі беларускі народ заваяваў сабе ганаровую славу народа-партызана. Вось і пра гэтую вёсачку можна расказаць сваю гісторыю, звязаную з тым, што тут была апошняя штаб-кватэра партызанскай брыгады імя Ракасоўскага.

Нарадзіўшыся на Віцебшчыне з камсамольскага атрада Дубняка, які быў створаны маладым настаўнікам Пятром Міронавічам Машэравым, брыгада гэтая прайшла вялікі баявы шлях і пры падтрымцы мясцовага насельніцтва, ва ўзаемадзеянні з латвійскімі і літоўскімі народнымі мсціўцамі, нанесла значныя страты жывой сіле і тэхніцы фашысцкіх захопнікаў. І вось 4 ліпеня 1943 года сабраліся ветэраны народнай вайны ў сваім штабе, каб падвесці вынікі і ўзнагародзіць лепшых байцоў-партызан.

Тут і было вынесена рашэнне аб устанаўленні свайго партызанскага медаля брыгады імя Ракасоўскага. І, як заўсёды ў партызан, рашэнне тут жа было ажыццёлена. Знайшоўся свой чаканшчык, і неўзабаве ва ўрачыстай абстаноўцы пяцьдзесят партызан былі ўдастоены надзвычайнай узнагароды.

Дзе цяпер жывуць і што робяць кавалеры медаля партызанскай брыгады імя Ракасоўскага?

Былы камандзір брыгады А. В. Раманаў працуе старшынёй калгаса імя Янкі






Купалы Радашковіцкага раёна, былы камісар П. М. Машэраў — першым сакратаром Брэсцкага абкома КПБ.

Гэты медаль упрыгожвае грудзі загадчыка кафедры энергетыкі адной з ленінградскіх ВНУ дацэнта Б. Л. Айзенберга, інжынера Дунілавіцкай МТС І. В. Лысава, партыйных работнікаў Г. І. Казарцава, В. Н. Дорменева, Ш. Н. Нігібаева і іншых.

К. СТРЭПЕТАВА.




# Тэатру ў Магілёве—70 год

Ідэя будаўніцтва тэатра ў Магілёве нарадзілася ў жыхароў горада ў палове 70-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ў Расіі грымела слава вялікіх карыфееў рускай сцэны Мачалава, Каратыгіна, Садоўскага, Шчэпкіна і інш.

Першымі 2500 рублёў унеслі магіляўчане С. С. Палякоў і М. А. Андрэеў. Гэтыя грошы ляжалі ў банку 10 год, і сума іх да 1886 года падвоілася.

Царскі ўрад грошай на будаўніцтва не даваў, а жаданне жыхароў горада мець свой тэатр узрастала. Так узнік зварот да ўсіх аматараў сцэнічнага мастацтва аб ахвяраванні сродкаў.

«Адносячыся з жывым спачуваннем да высакароднай думкі аб будаўніцтве ў Магілёве пастаяннага гарадскога тэатра, я вельмі рады прыняць пасільны ўдзел у гэтай грамадскай справе і прыкладаю 100 рублёў да тых сродкаў, што ўжо маюцца», — напісаў урач з Копыся.

Грошы папаўняліся. Ахвяравалі пераважна людзі сярэдняга дастатку. У рапарце аднаго з палкоў гаварылася: «Сума грошай, якую мы прыкладаем, сабрана не толькі сярод афіцэраў, але таксама і сярод ніжніх чыноў».

Да ліпеня 1886 года сабралася 10 тысяч рублёў. Можна было пачынаць будаўніцтва. Вырашылі будаваць на плошчы ля Мураўёўскага саду. Быў створаны будаўнічы камітэт, у яго ўвайшлі губернскі інжынер В. С. Мілякоўскі, інжынер П. Г. Камбураў і іншыя. П. Г. Камбураў склаў праект будынка тэатра.

Прынцып строгай эканоміі не дазваляў пабудаваць тады жалезнай заслоны, сістэмы пажарных лесвіц, шырокай сеткі вадаправода.

Нягледзячы на ўсё гэта, да канца 1886 года будынак у асноўным быў закончаны. Каштаваў ён тады каля 40 тысяч рублёў. «Але справа не ў грашах», як тады пісалі, а ў тым, што «памяшканне тэатра ўяўляе больш галоўнае, што не ацэньваецца грашыма, маральнае задавальненне патрэбы насельніцтва ў забавах сцэнічным мастацтвам».

14 мая 1888 года будынак тэатра быў перададзены гораду, а да восені гэтага года тэатр канчаткова быў гатовы.

З прапановамі аб адкрыцці гастроляў звярнуліся два антрэпрэнёры: член таварыства рускіх драматычных пісьменнікаў П. Валхоўскі з Ялты і жыхар горада Арла Г. Дзеркачоў. Перавага была аддадзена Дзеркачову. 20 сакавіка 1888 года з ім быў заключаны трохгадовы кантракт па 1 200 рублёў у год.

У чаканні гастроляў прафесійнай трупы мясцовыя аматары падрыхтавалі свой спектакль. Яны паставілі п'есу «Сямейныя таямніцы».

Нажаль, з цягам часу гандлярскі душок пачаў губіць магілёўскі тэатр. Стала «вызначацца яўная тэндэнцыя горадаператварыць тэатр у дойную карову... Тэатр ператварыўся ў таго шчадрынскага канягу, на якім усе хацелі ездзіць, але ніхто не хацеў карміць».

У самім тэатры працавалі тры крамы, якія прыносілі даход, каб можна было як-небудзь пагасіць узятую ў свой час пазыку для заканчэння будаўніцтва тэатра.

Гастралёры не клапаціліся аб захаванні памяшкання і тэатральнай маёмасці, і праз некалькі год паявіліся першыя сумныя вынікі безгаспадарчасці: афарбоўка памяшкання пацямнела, атынкоўка пачала асыпацца, знасіліся дэкарацыі...

Цяпер у старым тэатральным памяшканні паспяхова працуе Магілёўскі дзяржаўны драматычны тэатр і рэгулярна праводзяцца паказы лепшых спектакляў іншых беларускіх тэатральных калектываў.

А. АТРОШЧАНКА.






# Аляксандр Блок на Палессі

2 жніўня 1916 года з Парахонска, што каля горада Пінска, Аляксандр Блок паслаў сваёй маці ў Пецярбург пісьмо, у якім паведамляў пра паспяховае прыбыццё да месца службы: «Да масы новых уражанняў і людзей, — пісаў паэт,— я прывык за два дні, як быццам жыву тут месяц... Пішы так: Палескія чыгунак ст. Лунінец, 13-ая інж.-буд. дружына В. З. Г. С., мне».

Да часу прыезду Аляксандра Блока ў беларускае Палессе, ён ужо быў вядомы ў Расіі як выдатны паэт. Яго вершы друкаваліся ў часопісах і газетах Масквы і Пецярбурга. Новае выданне твораў Блока ў 4-х тамах карысталася ў чытача вялікім поспехам. Маскоўскі мастацкі тэатр прыняў да пастаноўкі яго драму «Ружа і крыж».

Што ж прывяло паэта ў незнаёмую яму Піншчыну?

Вайна. Як вядома, яна застала Блока ў Шахматаве, непадалёку ад Масквы. Свабодны ад шавіністычнага чаду, якім былі ахоплены многія тагачасныя пісьменнікі, паэт сустрэў вестку аб вайне вельмі стрымана. У 1916 годзе ён быў прызваны ў армію і адпраўлены табельшчыкам у інжынерна-будаўнічую дружыну Саюза земстваў і гарадоў, размешчаную ў раёне Пінска. Туды ён выехаў у канцы ліпеня і ўжо 27 чысла гэтага месяца пісаў маці з дарогі: «Пад'язджаю да Гомеля».

На Палессі Блок прабыў да сярэдзіны сакавіка 1917 года, гэта значыць, больш 7 месяцаў. Гэты перыяд жыцця паэта асветлены ў літаратуры вельмі слаба. Даследчыкі яго творчасці звычайна абмяжоўваюцца беглым указаннем на тое, што служба ў дружыне адмоўна адбілася на яго літаратурнай дзейнасці. Але гэта не зусім так. Знаходжанне Блока ў прыфрантавой паласе, у раёне Пінска, мела свой станоўчы бок: яно садзейнічала зблізкэнню паэта з народам, дало магчымасць глыбей убачыць тое бяздонне, якое ляжала паміж простымі працаўнікамі і пануючымі класамі, вастрэй усвядоміць неабходнасць хутчэйшых сацыяльных пераўтварэнняў у краіне.

Дружына, у якой паэт выконваў спачатку абавязкі табельшчыка, а потым — загадчыка аддзела, праводзіла ў раёне Пінска дарожныя работы, капала акопы, будавала фартыфікацыйныя ўмацаванні. У час шматлікіх паездак у атрады, размешчаныя за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад асноўнай базы дружыны, паэту прыходзілася спаць з рабочымі ў адным памяшканні, слухаць іх размовы аб жыцці, аб вайне, аб становішчы ў тыле. Трэба думаць, што Блок добра быў знаёмы з настроямі гэтых людзей, іх нянавісцю да самадзяржаўя, жаданнем хутчэй пакончыць з крывапралітнай вайной.

У дружыне Блока было многа беларусаў, якіх у прымусовым парадку заганялі на ваенна-будаўнічыя і іншыя работы. У лістападзе 1915 г. начальнік паліцыі Мінскай губерні, куды ўваходзіла і Піншчына, разаслаў распараджэнне, якое абавязвала насельніцтва ўдзельнічаць у работах па «ўмацаванню пазіцый, разгрузцы станцый, пабудове дарог, мастоў і г. д.». Ненавідзячы царызм і вайну, дружыннікі кідалі работу, уцякалі дадому, хаваліся ад улад. У адным з пісьмаў Блок паведамляе, што рабочы дзень яго пачынаецца з таго, што прыходзіцца высвятляць, хто знаходзіцца «на ўцёках».

Цэнзурныя ўмовы не дазвалялі Блоку падрабязна пісаць пра тое, што рабілася ў дружыне і тым больш — у вайсковых часцях, размешчаных у прыфрантавым Палессі. Але асобныя словы, намёкі, якія сустракаюцца ў яго пісьмах да маці, гавораць пра многае. Так, напрыклад, у пісьме ад 4 лістапада 1916 г. паэт паведамляе, што ў дружыну прысланы «для парадку» казакі. За гэтымі скупымі радкамі хаваюцца тыя падзеі, якія адбываліся ў асяроддзі рабочых у той час: непадпарадкаванне начальству, уцёкі, антываенныя выступленні і г. д.

Забеспячэнне дружыннікаў прадуктамі

было арганізавана надзвычай дрэнна, грошай ім плацілі мала. У пісьме ад 21 лістапада 1916 г. Блок піша, што, скарыстаўшы часовую адсутнасць начальніка дружыны, ён «павысіў плату аднаму рабочаму». Пры самым актыўным удзеле Блока быў раскрыт буйны крадзёж харчавання. Усё гэта здабыло яму давер'е і павагу рабочых, якія лічылі Блока «рэдкім па сваіх добрых якасцях таварышам».

Аляксандру Блоку прыходзілася многа ездзіць па вёсках Палесся. У яго пісьмах і ў дзённіку часта сустракаюцца запісы: «Праехаў вярхом вёрст 20 і ў грузавым аўтамабілі вёрст 80» (7 жніўня 1916 г.), «...без канца ездзілі на конях па снежных лясах і раўнінах» (14 лютага 1917 г.) і г. д. Становішча мірнага беларускага насельніцтва прыфрантавой паласы павінна было яму быць добра знаёма. Вайна давяла палескія вёскі да крайняй ступені жабрацтва. Актыўных ваенных дзеянняў тут у гэты час не вялося, але царскія ўлады частымі рэквізіцыямі, канфіскацыямі харчавання і г. д. давялі гаспадаркі сялян да поўнага разбурэння.

Упершыню прыходзілася Блоку назіраць жыццё, быт беларусаў, прыглядацца да іх звычаяў. І не толькі беларусаў. У дружыне было многа рабочых іншых нацыянальнасцей, прысланых на Піншчыну з розных куткоў Расіі, у тым ліку і з Арменіі, Татарыі.

Зносіны з простымі людзьмі расшыралі сацыяльны гарызонт паэта, узбагачалі яго жыццёвыя назіранні, прымушалі задумвацца над становішчам прыгнечаных царызмам народаў Расіі.

На працягу даволі доўгага часу Блок, разам са сваімі таварышамі па службе, кватараваў у доме аднаго памешчыка-князя. Тут ён мог лішні раз пераканацца ў маральным убостве, гніласці, уяўным патрыятызме прадстаўнікоў пануючага класа. На фронце гінуць людзі, у гарадах і сёлах — голад, а жонка памешчыка «закатвае снеданні, ад якіх можна здохнуць: добры повар, індычкі, нейкія фаршы» (21 лістапада 1916 г.).

«У віхры свецкіх забаў» — знаходзяцца і афіцэры штаба дружыны, якія праяўляюць «нізкія бакі свайго характару». Дысцыпліна настолькі знізілася, што начальнік дружыны заўсёды гаворыць аб «расстрэлах, павешанні, катарзе» (27 жніўня 1916 г.).

Меў сувязі Блок і з ваеннымі. У адным з пісьмаў (28 жніўня 1916 г.) ён паведамляе, што ездзіў з візітам да сапёраў і што там было многа «акопных размоў». Фронт у той час станавіўся кузняй антываенных настрояў. Салдаты праходзілі школу рэвалюцыйнага выхавання. Гэта не магло не закрануць і Блока. Антываенныя настроі салдацкай масы перадаваліся і яму. У перыяд знаходжання ў прыфрантавой паласе на Палессі канчаткова вызначыліся адмоўныя адносіны Аляксандра Блока да імперыялістычнай вайны.

Блок, бясспрэчна, ведаў аб паўстанні 4 000 салдат на размеркавальным пункце ў Гомелі 22 — 26 кастрычніка 1916 г. Паўстанне гэтае з'явілася значнай рэвалюцыйнай падзеяй на Заходнім фронце. Яно было падаўлена, але аб ім доўга гаварылі ў горадзе. 3-га лістапада Блок вяртаўся з водпуску ў дружыну і па дарозе спыніўся ў Гомелі. Тут ён і мог даведацца аб гэтым праяўленні незадавальнення народа вайной, існуючым ў краіне рэжымам.

Знаходзячыся на Палессі, Блок сачыў за падзеямі, якія адбываюцца на фронце і ў краіне. Ён перапісваўся з Леанідам Андрэевым і іншымі рускімі пісьменнікамі і літаратарамі. У сярэдзіне студзеня 1917 г. Блок сустрэўся з прыехаўшым на Палессе пісьменнікам Аляксеем Талстым.

Паэту падабалася прырода Палесся. «Тут добра жыць», — сказаў ён Талстому. «Прырода цудоўная, — піша ён маці 15 снежня 1916 г., — цяпер мяккі і даволі глыбокі снег і месяц». «Тут цудоўнае паветра, пастаянныя перамены ветру» (1 сакавіка 1917 г.). «Прыемна глядзець у акно ва ўсе часы. Поле пакрыта глыбокім снегам, ідзе ўверх, на блізкім гарызонце кучкі дрэў (сосен). Гэта тыя пясчаныя ўзгоркі, з якіх летам часам можна бачыць Пінск» (24 лютага 1917 г.). Пінск Блок параўноўваў з «градам Кіцежам», бо здалёку былі відаць яго белы сабор, чырвоны касцёл, семінарыя (21 жніўня 1916 г.).

19 сакавіка 1917 г. Блок прыехаў у Петраград і больш у дружыну не вярнуўся: ён стаў літаратурным рэдактарам надзвычайнай следчай камісіі, арганізаванай Часовым урадам для разгляду спраў былых царскіх міністраў. Успамінаючы сваю службу на Палессі, паэт запісвае ў «Дзённіку» 4 верасня 1917 г.: «Па вечарах часам (як сёння) на мяне находзяць гэтыя грубыя, моцныя, цяжкія і здаровыя ўспаміны аб дружыне — аб людзях, аб конях, папойках, песнях, рабочых, пышнай восені, лютай зіме, балалайках, гітары... палянках за фальваркам, белым параходзе, які крыштальнай раніцай паўзе скрозь гаю, дубах, соснах, вольхах, Пінску ўдалечыні..., вёсках..., магілках, далях, скачках праз канавы, званіцах, кананадзе, брудным бараку, хаце Лемяшэўскіх, сапёрах.., бабах з капустай, вузкакалейцы, мастах — усё, усё. Добра».

Знаходжанне Блока на Палессі ў той ці іншай меры садзейнічала таму, што паэт у дні рэвалюцыі 1917 года беспаваротна адрокся ад старога свету, глыбей зразумеў неабходнасць «перарабіць усё», знайсці «правільны шлях» для Расіі, стварыць паэму, якая праслаўляла б магутнасць і сілу рэвалюцыйнага народа.

**І. БАС.**






# Докшыцкі лялечнік

З 1909 па 1916 г. я жыў у Докшыцах, глухім у той час мястэчку. Царква, вінная крама і дзесяткі шынкоў—вось што было характэрна для гэтага мястэчка.

Але ў Докшыцах у той час жыў вядомы на ўвесь Барысаўскі павет батлеечнік Патупчык па мянушцы «Клезмер». Мне давялося ўбачыць многія яго прадстаўленні.

Патупчык быў вельмі таленавітым акцёрам-самародкам. Лялечнік, імітатар і музыкант, ён з жонкай і сынам жыў выключна на сродкі сваёй любімай справы. Іншых заробкаў у яго не было. Патупчык па сацыяльнаму становішчу быў селянін. Меў невялікую хатку-хібарку на краі мястэчка і агарод.

Была ў яго скрыпка і тэатр лялек. Яго батлейка—«вяртэп»—гэта простая вялікая двух'ярусная скрыня з двума аддзяленнямі для сцэны. Памеры яе былі прыкладна 1,5×1,5 метра. Скрыня мела дзве заслоны, старанна вышытыя жонкаю Патупчыка і аздобленыя ніткамі караляў. У верхняй частцы скрынкі размяшчаліся два пеўні. Прадстаўленне пачыналася бойкай і спевам пеўняў, і толькі пасля гэтага на сцэну выходзілі дзеючыя асобы.

Пастаноўкі Патупчыка былі галоўным чынам двухактавыя, таму скрыня мела два аддзяленні: верхняе і ніжняе. Наяўнасць двух ярусаў давала магчымасць хутка змяняць месца дзеяння, а па ходу прадстаўлення—дэкарацыі. Дэкарацыі былі празрыстыя, іх малявалі на папяроснай паперы і ставілі па бакавінах скрынкі ўперадзе крыніцы святла.

Лялькамі кіравалі жонка і сын, у асобных выпадках—сам Патупчык. Лялькі ў асноўным былі насаджаны на дрот, а некаторыя з іх, якія па ходу дзеяння рабілі паклоны,—лялькі чараўнікоў, біблейскіх герояў і інш,—надзяваліся на сярэдні палец рукі. Патупчык быў рэжысёрам і пастаноўшчыкам; яму ж даводзілася выконваць і ролю канферансье, а таксама музыкі: ён добра іграў на скрыпцы.

Калі Патупчыка запрашалі ў дамы докшыцкага начальства, а гэта часта бывала ў дні фэстаў, дык ён дэманстраваў рэпертуар на тэмы біблейскіх і евангельскіх падзей. Тут усё зводзілася да цудаў Майсея, які шчасліва вывеў ван-



друючых па Егіпту. Такія спектаклі абыходзіліся без эксцэсаў.

Крыху інакш успрымаліся начальствам пастаноўкі на евангельскія тэмы. Апосталаў і вешчуноў Патупчык ствараў па «вобразу і падабенству» мясцовага духавенства, якое прыязджала на фэст.

Гэта выклікала пярэчанне з боку мясцовых духоўнікаў. Вельмі часта за скажэнне вобразаў біблейскіх і евангельскіх святых Патупчык трапляў у няміласць мясцовага прыстава. Бывалі выпадкі, калі на вачах у публікі ў яго забіралі і ламалі лялькі. Але забараніць прадстаўленні ўлады не адважваліся.

Частага госця вяселляў і вечарынак, Патупчыка вельмі любілі простыя людзі і прагрэсіўная інтэлігенцыя. У дні кірмашу Патупчык у сваіх пастаноўках расказваў народу пра ўсе навіны, добрыя і благія. Батлейка Патупчыка была своеасаблівай газетай не толькі свайго горада. У ёй знаходзілі адлюстраванне і падзеі, якія адбываліся нават за межамі Барысаўскага павету. Патупчык ведаў усе навіны дня, жыццё і побыт амаль кожнага жыхара.

Асабліва падабаліся ўсім два сатырычныя вобразы яго пастановак: гарадавы «Мікіта» і земскі «Арскі».

Мікіта ўдзельнічаў амаль ва ўсіх пастаноўках Патупчыка. Гэта заўсёды п'яны стары з вялізнай кабурой (пісталета не было), у якую яму засоўвалі хабар. Патупчык паказваў гарадавога як чалавека, які за хабар мог зрабіць усё.

Другі сатырычны вобраз—земскага-хамелеона таксама быў узяты непасрэдна з жыцця.

У рэпертуары Патупчыка фігураваў «злодзей», успаміны аб добрых справах якога доўга жылі ў народзе. Пастаноўка гэтая называлася «Як злодзей быкоў у лапці абуў». У ёй расказвалася аб тым, як памешчык Гурыновіч забраў сялянскіх кароў за патраву панскага поля. Сяляне звярнуліся да злодзея з просьбай, каб ён як-небудзь выручыў іх. Той папрасіў іх прынесці дваццаць пар лапцей. І вось пад вясёлыя каментарыі канферансье-Патупчыка злодзей гоніць з панскага хлява абутых у лапці сялянскіх кароў і двух панскіх быкоў.

Народная сутнасць большасці спектакляў, вострая крытыка адмоўных грамадскіх з'яў, абарона простага народа, самабытная творчасць—усё гэта прыцягвала людзей у тэатр Патупчыка. Іменна ў гэтым заключаецца прычына папулярнасці яго батлейкі, чуткі пра якую выйшлі далёка за межы горада, дзе ён жыў і працаваў.

**А. ДЗЕШАВОЙ.**

**На здымку:** лялькі і макет батлейкі, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным Цэнтральным тэатральным музеі імя Бахрушына.

# *Шахматы*

пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА

## ШАХМАТНАЯ ВІКТАРЫНА № 3

**(Заканчэнне)**

У гэтым нумары часопіса мы заканчваем нашу шахматную віктарыну, якая складаецца з 27 пунктаў па розных пытаннях гісторыі, тэорыі і праблемнай кампазіцыі шахматаў. Дзве трэція пытанняў (18) былі ўжо апублікаваны ў папярэдніх двух нумарах нашага часопіса. Змяшчаем апошнюю, здаецца, самую складаную частку пытанняў. Напамінаем, што пераможцам віктарыны будзе прызнаны той, хто набярэ найбольшую суму ачкоў па 27 пытаннях (але не менш 80 ачкоў), кожнае з якіх мае сваю ацэнку ў залежнасці ад цяжкасці задання. (Тэрмін прысылкі рашэнняў — месяц з дня выхаду часопіса з друку.)

**Пытанні:**

19. Хто быў найбольшую колькасць разоў чэмпіёнам Беларусі па шахматах? **(3 ачкі).**

20. Якая партыя называецца «бессмяротнай» і якая называецца «вечназялёнай»? (Указаць партнёраў і дзе іграна.) **(4 ачкі).**

21. Колькі матчаў іграў Чыгорын са Стэйніцам? Вынік (лік) гэтых партый? Умовы і месца правядзення матчаў? **(4 ачкі).**

22. Хто быў найбольшую колькасць год чэмпіёнам свету па шахматах? Хто з чэмпіёнаў свету найбольшую колькасць разоў абараняў сваё званне? **(4 ачкі).**

23. Які пачатак партыі называецца: а) «дэбют Рэці», б) «дэбют Німцовіча»? Укажыце ходы, якія характарызуюць іх. У чым ідэйная сутнасць іх, і якая прынцыповая розніца існуе паміж імі? **(5 ачкоў).**

24. Як называецца пачатак: 1. f4 e5, 2. fe d6 і г. д. Укажыце дакладную назву гэтага пачатку партыі. **(4 ачкі).**

25. Укажыце, хто быў аўтарам першага падручніка па шахматах на рускай мове? У якім годзе выйшаў у свет гэты падручнік? **(4 ачкі).**

26. Рашыце эцюд. Белыя пачынаюць і выйгрываюць. **(5 ачкоў).**



27. Рашыце эцюд. Белыя пачынаюць і робяць нічыю. **(6 ачкоў).**



## ЗМЕСТ



Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»





Забег на 100 метраў чэхаславацкіх і беларускіх спартсменаў у матчы, які адбыўся на Мінскім стадыёне «Дынама».
Фота А. Дзітлава.